# Змест

## ПАЭЗІЯ



## ПРОЗА

**ПЕРАКЛАДЫ**



**КРЫТЫКА ПУБЛІЦЫСТЫКА ЭСЭ**




# Кася Іофе

**паэтка, празаік. Закончыла аддзяленне медыцынскай псіхалогіі БДУ. Аўтар паэтычнага зборніка «Калі дрэвы растуць з галавы». Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску. Жыве ў Кракаве.**

# Адмалю маю Беларусь...

## Беларусь

Коні палеткаў маіх
палёгкі не маюць —
ім бы пабегчы на поплаў,
не трэба стайні.
Ім бы палегчы ад стомы
ў балоце з вадою цёмнай —
багна і дрэвы схаваюць
ад гаспадара.

*2018*

## Маляўнічыя акварэлькі Палесся

Учора завітвае верш пра карціны
ў доме маім замараным, змораным
з маляўнічымі марамі ўначы.
Згадваю там гісторыю:
Купалу на допыце,
«Раскіданае гняздо».
Сёння світанкава плачу
                        па Суціне,
                        па зніклай «Еве».
Мы ўсё гэта так даўно пражылі на вопыце,
што ўжо бязрадасна, без вачэй, навобмацак,
                                        дом здольныя абысці,
навучаныя бездапаможнасці і бязраднасці,
дамо рады «вырыдаться» і
з літасці «выродками» не называць
ані вылюдкаў, ні людзей.
У свеце апошніх падзей
                      асветленыя адзіна
                              партрэт Хаіма Суціна,
                                        крыж Еўфрасінні
і на балоце след палешука —
акварэлькамі журавіны.

*15.06.2020*

## Жывая вада

Паводле прагнозаў — адліга
і зменлівасць хмараў,
і папераменна туман,
туман ярам вялікі.
Імгла і атрута ў паветры
прастылае Ямы,
дзе марна ўздыхаць
і нагрукваць — капеж? — перамены.
Але «Марсэльеза»!
Але «Муры рухнуць»! Мажліва,
Хто любіць — каханы, любімы,
Хто светлы — святы.
Да водаў даверліва — п'ем
Цуд з песні ці з п'есы.
Святлом мігатлівым,
Валошкай у сэрцы кіліму,
Вянок
Заплятае займеннікі ў «мы»
Скрозь гады:
я — ты, ён — яна,
свой — чужы,
вёскі і гарады.
Адна перамога — жыцця.
Плынь жывільнай вады
Па венах Нямігі і ўвысь — па мастах, пад масты,
На нашы сумленні ды іх незагойныя раны.
І вымыты гной і гнілізна за глінаю самай.
І больш не падобныя да дамавінаў дамы.

*18.12.2020*

***

Тут ліхтары сплятаюцца ў сузор'і.
Вачамі ў сне варочаюць вякі.
А вочы ў вочы нам няма ні слова,
Адна рака змяіцца ў берагі,
Змяняюцца то целы, то прасторы,
Прастуе час ад сэрца да звышновы,
Высновы пазбаўляючы тугі,
Вымаючы з-пад запаветаў сорам.

*26.08.2018*

## Зорная песня

Мову Мілавіцы майго сэрца
Міламу ў маўчанні патлумач.
Вуснамі маладзіка ўсміхнецца —
І замкнецца, як пярсцёнак, плач.
Маладых падманліва мінае,
Колам ходзіць незаўважны час:
Праўда незнаёмая, не злая.
Не змінае памяць словы ў вас.
Прамяняцца песні, вершы, зоркі,
Пішуцца свавольныя лісты.
І паволі іх атрамант горкі
Ноч малюе — радасць маладым,
Смутак старым, неспакой сумлення,
Пошук марны Мілавіцы зноў —
І амаль, як мора, сон малее,
Пакідае ночы холст пустым.
Момантамі мацае свядомасць,
Марамі маленькімі, вядома,
Нам, безабаронным і бяздомным
Душам — неба падаецца домам.
Раскіданыя ў сузор'і гнёзды
Птушак змарлых. Вуллямі планет
Кліча космас: людзі, лётаць проста
Птушкам, пчолам, рыбам ува сне
І ў вяртанні да вытокаў волі.
Вам таксама. Мой вірлівы змрок —
Ціша для малітваў Мілавіцы.
Слова «мама» немаўля спатоліць.
Памяць недаверліва здзівіцца —
Ад зямлі ў маўчанні зробіць крок.

*04.12.2020*

## Парадокс самасвядомасці

Чые гады лічыць зязюля над домам маім?
Чый час вымярае гуканнем у цёмным лесе?
Гуляюцца дзеці ў люстэркі.
Люстэркі гуляюцца ў твары.
І хто мае сэрца месціць
сярод шкляных дамавін?

Нуда або прага жыцця на арэлях кніжных —
гайдаецца Бог, што самога сябе згубіў.
Нам шэпчуць да мора рэкі,
што сэнс — гэта выспа мары,
дзе блізкі не стаў залішнім,
дзе любым не стаў любы.

Павінна было застацца святло ў фіранках
няпраных, нямытых кубках, дзе вуснаў след.
Час горкі на смак, як лекі.
«Umuntu ngumuntu ngabantu» —
мне марным здаецца шпаркі
бег Бога — сталець, сталець.

«Umuntu ngumuntu ngabantu», — зязюля кажа.
«Залежыць, залежыць», — смяецца са сценаў цень.
Твой позірк да плачу пекны,
да стогну святла прывабны.
Твой позірк да плачу пекны.
Няма мяне без цябе...

*2018*

## Згуба

*Памяці памерлых сяброў*

Слёзы з вачэй маіх —
твае, мяркую,
хутчэй сохнуць, чым
мне ўласцівыя.
Радзей выступаюць.
Ці са смерцю ідуць баі?
Адолець тугу я
не магу.

Аб чым мары хціўыя?
Што ў жыцці трымае?

Вайна са смерцю — смерць неўзабаве.
Пацеха малая, марны спадзеў.
Спусцелае вецце.
Хай вецер бавіць птушынае рэха,
а гнёздаў няма нідзе.

Залішні кавалак часу.
Залішні кавалак цела.
Пасля тваёй смерці згасла
святло, што я ў сэрцы мела.
І ў простай страфе нялоўкай,
кульгавых, няёмкіх сказах
залішнія я і словы.
Усе. Адразу.

*09.08.2018*

## Мужу, нябозе, якога слухае Бог[1]1

Ноч. Вялікая жоўтая поўня
асвятліла мае павейкі,
і твае птушыныя рысы
сталі толькі яшчэ даражэй.
Памаранчавай поўні роўнядзь
ва ўспамінах скажоных нейкіх,
у люстэрках — твае абрысы,
абразкі. Цеплыня — ніжэй
за аблокі, дажджы і вусны.
І ніжэй за траву і ледзьве
плённай глебы, зямлі самотнай,
дзе не горад — сады скульптур.
Тваё сонца ў грудзях прымуса,
у рабрынах жыццёвай клеці
б'ецца, свеціць і грэе моцна —
можа, спаліць маю бяду.

*30.06.2018*

***

Пчолы мае пяюць мне, што ты адзіны —
Няма ні гадзіны агулам
Без іхняга гулу.
Гуляюцца дзеці ў дарослых,
                                        між ціны
гуляюцца людзі ў русалак і духаў.
Твой твар заімшэлы, як дрэва, — шчацінне медзі

1 שִׁמְעוֹן, Шыман – габрэйскае імя, якое азначае «выслуханы» альбо «той, каго слухае Госпад»

на восеньскіх шатах і мёд вакол вуснаў дзікі,
а ў раны вушэй
пад кару галаўнога мозга
ўспаміны зацягваюць чорныя мурашы.
Гарэхі і птушкі згінаюць слабое вецце,
і вецер разгойдвае струнамі дроту пікі
ды сэрцы мышэй і вавёрак.
Між лесу — драпежны розгалас лёсу,
міцэлій яго імшы:
«Вы тыя, што ацалелі.
Вы той адзін ацалелы.
Вы той, які можа жыць».

*30.07.2018*

***

Пясчаную буру
вядуць бедуіны.
Сярод іх я бачу цябе:
ідзеш па пустэльні —
белая хустка, кучаравыя валасы.
І вочы твае — адзіны лог,
якога так не хапае.
Няма ў вачах тваіх болю.
Няма яго квету ў спакоі мрой.
За табой
брыдуць бедуіны.
Вусны твае перасохлі да слодычы,
але ў мёдзе іх няма ані кроплі вады.
А ўвечары вы разаб'еце шатры.
І, пакуль яны моляцца,
дашлі да мяне пчалу.
Хай вуха маё ўва сне
джаліць каханнем.
Хай кроплі атруты яе
тлумяць галаву.

Хай думкі і сны мае пацякуць,
назбіраюцца ў хмару —
спатоляць цябе,
напояць цябе
дажджом.

*25.07.2018 — 06.04.2021*

## Ніцма

Досвіт і досвед
буяюць абое,
балююць
на небе і на балоце,
блукаем мы.
Чырвань далоні тваёй —
прамяністая памяць,
горыч нягодных ягад дурніц,
сэрца дурнога Данка.
Неспадзявана адданасць
гульні ў хованкі
перарастае ў папараць большага,
у запаветны квет;

у давер дзіцячых «сакрэцікаў»
і дарослых сакрэтаў,
сагрэтых полымем тарфяным таямніц;

у ледзь прыкметнае
пахаванне зязюлі —
нявесты і жаніха —
па ўсіх прыкметах
падчас грамніц,
падчас, калі нічога
не патрабуе радасць.

Ніякай абрадавасці.

*2020*

***

Самалёт, якім ты зляціш ад мяне,
цягнік, якім з'едзеш —
гэта смерць.
Іншага не прызнаю.
Але неўзабаве рэйкі адны
і неба адно,
і рэйсы сумежныя,
і будзе яшчэ спатканне.

*30.06.2018*

## Дзверы

Выламаныя дзверы,
дзверы, выбітыя з нагі.
Адзначаю ў памяці,
здымаю з петляў агі-
ды,
ды
пятляю па сходах,
па гіпакампавай лесвіцы
ўніз.

Дзверы, што мы пакінулі
для суседзяў і мінакоў,
іх адчаю адчыненымі,
чыімі
будуць?
У чый дом вядуць?
У чый сад,
валадарства бязмежнае?
Чыю бяду
хаваюць у прыцемках,
чые кветкі
бароняць ад цемры
на двух нагах,
на сотнях
гумовых ног?

Кажуць, на чорных соднях
пінаюць нашыя сэрцы,
ступаюць на снежнаягаднік,
слухаюць лускат іх.

Кажуць, што там звяры
апрануліся ў людзей,
выйшлі з сябе.

Выйшлі за межы
закона — і чалавечага,
і не.

Бачу, муры растаюць
і растуць
стагоддзямі.

Бачу, знаходзяцца
людзі і дзверы
зламаныя і адкрытыя.

Вочная, не на веру,
нязмерная
розніца паміж імі.

*08.2020*

## Галасы Беларусі

Намалюю карціну з зубрамі,
каб вы знялі свае забралы.
каб толькі не забіралі,
не адымалі
маю маму,
майго сябра,
майго мужа,
майго брата,
майго тату,
маю сястру,
маю дачку хросную,
майго ненароджанага сына,
мае кветкі пажоўклыя,
мае парасткі сноў.
Каб не білі ў спіны.
Адмалюю маю Беларусь,
адмалю яе
словамі, якіх мала
слабому сэрцу,
Магутнаму Богу.
Адмыю яе, быць можа,
ад чорных слядоў,
ад армейскіх ботаў.
Каб набела напісаць: «Беларусь жыве!
Прыгожа, прыгожа, прыгожа
мая Беларусь жыве.

А ты як маешся?» —
і дасылаць паштоўкі ў белых капэртах
з усмешкамі на ўсе адрасы,
і ведаць, што маем годнасць
свае галасы
ўзнімаць, не галосячы
з болю ці гневу,
а для спеваў.

*08.2020*

## Зерне

Бель на крыллі вераб'я
не баяцца, не бая...
Байкі бае: «Цвірк!» — на цвік.

Чалавек тут быў і знік.

Зічка ў небе, не ў баях,
не твая ды не мая.

Зічка ў небе нічыя —
зерне ў дзюбцы вераб'я.

*13.04.2019*

## Тэлеграма Вярхоўнага суда, Вашынгтан-Балцімар, 24 траўня 1844 года[2]

Дар дараваць — бясспрэчна боскі дар,
ды толькі чалавек, разбіты болем,
з аскепаў цвёрда мацаваны да
жыцця сабой. І не баіцца болей.

Заўсёды між малітваў, што стаю, —
бо ў час навукі сорамна маліцца, —
за іншых я прасіла і жадала.

[2] Першае афіцыйнае паведамленне кодам Морзэ было перададзена 24 траўня 1844 года, з памяшкання Вярхоўнага Суда ў Вашынгтоне ў Балтымар была адпраўлена тэлеграма з адной фразы: «What hath God wrought!» з кнігі Лічбаў 23:23 у перакладзе Караля Якава.

І як сабака лапу падаю,
магу кулак, што біў, лізаць, і ніцма
ляжаць. Але таго яшчэ замала.

Solvere mortem — смерць перамагчы, —
Servare — пэўна, бараніць ад жахаў —
Amorem.

— Бог праўдзівы, ты маўчыш?
— Не, я любові код па рэбрах тахкаў.

*25.03.2020 — 06.04.2021*

## Праметэй

Дваццаты год. Дванаццатага лістапада.
Паведамленне ад мамы: «Кладзіся спаць,
не чытай навіны.
Нічога новага там няма. Без кпінаў.
Ніхто не памёр.
Не-не-не.
Не адкрывай вачэй.
Не глядзі ў акно.
Забараняю табе. Хачу цябе збараніць
ад усяго, што ў гэтым годзе было».

Але мама, калі не глядзець,
не слухаць, не чуць,
не выходзіць на вуліцы,
не верыць, не шукаць ісціны,
нам засталося дазволена толькі адно:
няіснасць.
Смерць.

Вірус і вораг
вірують.
Паморак і змора.
Вар'яцтва надзеі.
Змрок адымае зрок.

Чытаю паведамленні: «Ніякіх падзей!
Падумай, куды нам падзецца.

Не будзь наіўнай.
Не пішы нічога. Не перадавай навінаў.
Мы павінны
стаць ля сцяны.
Мы плачам.
Мы чуем, як хрыбусцяць нашы косткі,
як шчоўкаюць іклы сабакаў,
як трашчыць затвор».

Ні суцішэння, ні цішы:
лаецца вораг,
брэша гайня.

Маці піша:
«Кладзіся спаць.
Цемра ахутала нас.
Светлая толькі памяць».

Але
прамень перамен?
Прамень праўды?
Прамень багоў?

Незгасальны агонь
і той незагойны гоман —
у нашых грудзях.

Пра мэты, пра мары,
пра матчын спакой.

Праметэй, пакажы нам шлях.
Напішы мне тое, што маці не можа:
«Выходзь. Я з табой».

*12.11.2020*

***

Мы неслі белы сцяг, белы,
як балігалоў, як бялюткі бэз,
як дзікая ружа і яблыні ў Лошыцкім парку.
Мы неслі белы лён, той, які мелі.
Белы і шэры лён на плячах аблезлых,

белы, як пахавальнае саці, як зімовая парка.
Наперакор дакорлівым позіркам,
дакучлівым поглядам,
дасціпным у несвядомасці,
нецвярозасці наперакор,
На перамір'е!
Зламаныя насы, пальцы,
заламаныя рукі,
слуцкія паясы — зацягнутыя —
дзівакі.
Белы сцяг, белы! Не на вайну,
не на бойку,
не на перамогу!
Непераможны таму.
Хто заплямію яго крывёй?
Хто заплямію яго крывёй?
Хто расквеціў яго? То чыя правіна?
Краіна маўчыць. Маўчыць краіна
не змрочна, збялела.
Краіна гатовая набела пачынаць.
«Нататкі таткі» завершаныя ці не?
Белы?
Чырвоны?
Белы працяг?

*17.07.2020*

## Лісты з-пад ланцуга

Плешча поўная пляшка падступнасці плоскай і поснай
Мелкаводных вачэй, па якіх карабель не плыве.
Беларуская поўня навісла над Віслай запозна —
і да болю няволі напеў воўчыць у галаве.
Кастусі, Каські косткамі леглі ў каханне да казкі:
Там, Марыся мая чарнаброва, не будзе спакус.
У няіснасці вочнай, дзе праўда — апошняя пастка.
Дзе прымроены край мой знікае, мая Беларусь.
Ці пачуеш, Марыська, той верш? Ты бяздомная Плачка.
Не баюся так кулі, што скроні праб'е наскрозь,
Як баюся тут цішы пякельнай і цішы сабачай,
У якой не чуваць ні сумлення, ні прывідных слёз.

*07.12.2019*

## Вольнае гукаперайманне

свабоду гукаюць
і пераймаюцца
ці будзе ўвогуле
яе водгулле
яе водгук
мой сябар сказаў:
толькі лекары ведаюць
як саспявае свабода
і як пяе ў дамах радзільных,
у замкнёных каморках вар'ятняў
ці з рэанімацыі.
але
ніводны паэт,
ніводны празаік,
ніводны надаўца знакаў
яе не напіша,
бо
анаматапея свабоды
занадта падобная
на адчай

*31.03.2021*

## Колер гранату

Стагоддзямі хіжыя пальцы
з усёй сваёй сілы сціскаюць сцены пакояў,
сціскаюць нібы садавіну мой скуты край,
выціскаюць сок і спакой:
словы праўды, правы чалавека,
асаблівых, неверагодных асоб —
кажуць, няма,
прынамсі, тут нельга.

У вочы трапляе сок вершаў,
у вочы трапляе сок спеваў:
лашчыць саспелыя слёзы
і прамывае зрок.

Бачу на бледных вуліцах
колер і квет.

*25.03.21*

## Дзван маттан Торатэйну—
## Час прачытання Торы

Тут птушка прызнаецца паляўнічым —
адкуль? — пра што змаўкае тата мой.
А я хаваю ўсе ўспаміны ў знічкі:
малочны зуб у самы сырадой.
Хаваюся ў азёрныя глыбіні
крынічных казак:
— Яхве, прамаўляй.
На вуснах неба махаон узнікне.
Бог назаве ноч майскую — і май,
Трымай за коску месяца ўсе словы.
Няма ў ліловым небе нават месца
на думкі Яхве.
Марна — травень — марыць,
і марна змрок мятлушкамі звініць.

Я хвастамі травы трымаю гукі,
хвіліны цішыні — на паднябенні.
Божа, за што нямому мясу — вырак?
Чаму прыгаварыў мяне спяваць?

*14.05.2021*



# Ганна Рудак

паэтка. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Друкавалася ў «Верасні». Нарадзілася ў 1989 годзе ў вёсцы Бортнікі на Глыбоччыне. Жыве ў Бараўлянах.

# Як мне жыць без цябе?..

## Мроі

Крыўда, жаданне адпомсціць спачатку...
А потым — нічога няма на душы.
Боль праз слёзы выйдзе з цябе
І народзіць жаданне жыць.

Зноў паверыш, зноў будзеш чакаць,
Несапраўднае ўявіш цудам.
Па-боскаму трэба ж грахі дараваць
Нават самым вялікім Іудам.

Ты імкнешся спазнаць Яго,
Але штосьці перашкаджае.
Менавіта ад гэтага яд
Усё сэрца тваё ахінае.

Вельмі цяжка жыць і крычаць
Аб няміласці мудрага лёсу.
Лягчэй проста гучна маўчаць
І маўчаннем думкі даносіць.

***

Доўгі позірк і... добры-добры,
Патану я ў табе назаўжды...
Не шукайце мае сляды,
Бо я ў вечнасці.
Не дарогі вядуць туды, не шляхі —
Толькі крылы.

Яны — зламаныя, адарваныя, адабраныя.
А тое, што калісьці было мной,
Асобна ад іх,
Скалечанае і скамечанае,
Не можа знайсці Таго,
Да Каго імкнулася,
І Чый позірк бачыла.

Ці не смерць гэта?

***

Як мне жыць без цябе —
Адкажы.
Як у смутку дзён не тужыць —
Падкажы.
Дзе знайсці мне прытулак свой,
родны мой?
Як не марыць быць толькі з табой,
мне, адной?..

***

Было адно крыло —
слабое і цяжкое,
Што нахінялася аж да зямлі халоднай.
Мне яго надрэзалі лязом гарачым —
І я не птушка ўжо,
Бо я — сабака —
Халодны нос, нікчэмнасць і выццё.
Ой! Як сабачку беднаму шкада сябе,
Выццё спыніць не можа,
Крамсае поўсць лапамі
І хоча вырваць нешта,
Што надта ў месцы тым і б'ецца, і баліць,
Не маючы натхнення і спакою.
Яму няўцям ужо, што гэта —
Ёсць сэрца былое птушкі,
Яно рвецца ў неба,
Не можа прызвычаіцца
Да цягі таго сабакі да зямлі.
Пульсуе, вырываецца і плача,
Як толькі можа плакаць сэрца
ў грудзях хворага сабакі...

***

Душа мая бяжыць па калючым белым снезе,
а за ёй — толькі чырвоныя сляды —
цяжка даецца падарунак вечнасці.
Сэнс жыцця, праколаты наскрозь,
выцякае з-пад кантролю і сумлення.

У кветкі шчасця занадта шмат
наркатычных дзідаў,
але мне яе нестае:
лепш жыць з болем,
чым губляць адчуванні...

***

Няўжо сон гэты бязглузды будзе вечным?
Куды падзелася імкненне да святла?
Нашы продкі скарб бясцэнны нам данеслі,
Мы спрабуем яго вынішчыць да тла...

***

Пень, што расце пры дарозе, —
Гэта не бярозу зрэзалі,
Гэта я зараз такою стала.
Гэта я стаю
І нічога не бачу.
Толькі памяццю чую сябе
Былую.
Гэта не пень,
Гэта не дрэва
Простае,
Гэта я —
Не маленькая
І не дарослая
Гэта я зноў
Няшчасная
Адзінокая
І нязносная,
І нязломная,
Быццам бы зрэзаць —
Зрэзалі,
Ды не выкарчавалі,
Не змаглі дакапацца
Да караня.
Ды які ж там корань —
Там проста сэрца
Ўнутры бярозы.
Там маміны слёзы.

Ці зараз толькі, ці зараз.
Белая-белая памяць
Не памятаю, калі гэта ўсё пачалося,
Калі ўсё яшчэ
Не збылося,
Не знікла,
Не з'явілася,
Не загубілася.
Вочы тыя — мае, не мае,
Не твае, не яго.
Дык чые ж тады.
Адкажы толькі
Мне хоць зараз.
Няхай белым і
Радасным будзе яго жыццё.
Няхай сабе нават і не маё.
Мне навошта —
Я памяць бярозы
І сэрца.
Мне нічога ўжо не баліць.
Буду жыць,
Хоць мяне і не бачна.
Буду дыхаць, хоць і няма чым.
Буду ў месцы, дзе нарадзілася.
Я ўчора казала — што гэта мой рай —
Дзе бярозы.

## Рай

Сёння мне захацелася напісаць пра рай.
Адкуль я пра яго ведаю?
А ў мяне там мама.
Мама,
Мама,
Я хачу да цябе ў рай.
Але ты толькі клічаш,
Але рукі мне не працягваеш.
Дзе той рай,
Калі б мне толькі ведаць.
Калі мне так цёмна, што рук не бачна,
Я малюся, каб рай твой быў бачны

Хаця б у снах,
Каб я толькі хаця б крыху
Зразумела яго шляхі
І дарогі.
Мама, я ведаю,
Што азначае,
Калі ты ўбогі.
Мама, мне гэта не страшна.
Калі я сумняваюся,
Ці ёсць Бог у небе,
Я ведаю, што ён ёсць,
Таму што ты яго мне
Падарыла.
І няма болей неба цяжкага,
Толькі рай ёсць,
Ці толькі вырай.
Але я не ведаю,
Дзе мае крылы,
Мама, мне мала крылаў,
Я не ведаю, дзе мае крылы!

Неба — ёсць,
А дзе крылы?

Вырай ці рай?
Не прадаць бы сябе,
Не прайграць.
Не пражыць бы душу сваю.
Горка ад страху гэтага.

У нас зноўку вясна тут, мама.
Мяне кліча вясна ў рай.
Птушкі з выраю ў рай,
З выраю ў рай,
А я тут.
А ля дому — бярозы белыя.
Ля белага дому — бярозы белыя.
Гэта рай, у які я з дзяцінства паверыла.

Чую шэпт іх і бачу іх слёзы.
Што збылося, на тое малюся.

Дзе бярозы белыя — там і рай.
Я з усіх сваіх сіл буду бегчы,
Калі толькі мяне ты паклічаш,
Мама.

***

Пустэча,
Пустэча,
Ні храму, ні свечак
Не бачыш —
Куды ні пайдзі.
Маліся, маліся,
Таму што баішся,
Таму што ты ведаеш,
Ты — гэта ты.
Іначай не зможаш,
І крылы не зложыш,
І рэбры не сціснеш,
І віны не вып'еш.
Віно — быццам слёзы.
Глытаеш іх горлам.
Глытаеш, глытаеш,
Сябе забываеш.
Ды толькі дарэмна,
Бо сэрца — у рэбрах,
Бы птушка — у клетцы,
Бо клетка — на сэрцы.
Чакаеш, чакаеш,
Каго не загубіш,
Каго не параніш,
Каму ты не здрадзіш.
Ранімая рана,
Ранімая кара,
Карэнне у небе,
Няма сілы ў хлебе,
Бо хлеб увесь з'елі...
І чэрці, і мышы,
Прыходзілі ноччу,
Цябе напужалі.
Пакінулі джала.

Маліся, маліся,
Прасіся у высі
Да зор і аблокаў,
Прасіся да Бога...

***

Адчуць усімі клеткамі сваімі
Жыццё
І захацець яго пражыць.
Гэта быццам бы крылы, якія
Ўсё спрабуюць, высільваюцца
Вырасці з тваіх
Прыўзнятых,
Упартых,
Старэнькіх,
Маленькіх
Плячэй і лапатак.
Вось-вось-вось...
Вось чалавек, які ведае, што такое — жыццё,
Толькі зноўку табою ён не становіцца.
Глядзі на яго.
Глядзі, глядзі,
Глядзі,
Адчувай, што ён ёсць —
Да таго часу, пакуль не зразумееш, што ты
Павінен быць — сабой, а не ім.

***

Мама мая маленькая,
Родненькая,
Цёплая, жывая...
Святая.
Мне заўсёды здавалася, што ты — дзяўчынка.

Я заўсёды ведала, што ты —
Самы добры і разумны чалавек.

Ты — мой прыклад, мая надзея на тое,
Што можна жыць сумленна,
Шчыра, аддана,

Што можна быць вернай,
Што можна верыць у тое,
Што ўсё — не дарма.
Ты — мая самая вялікая надзея,
Што ёсць на свеце Бог,
Што свет — створаны Богам.

## Дзякуй табе...

Побач з табой можна было не імкнуцца бачыць цуды,
Бо побач з табою цуда заўсёды было побач са мною.
Я заўсёды, заўсёды,
Мама,
Ганарылася табой, ганаруся табой,
Захаплялася табой, захапляюся табой,
Любіла цябе — больш за ўсё, люблю цябе — больш за ўсё,
Больш за ўсіх,
Больш, чым магла зразумець і сказаць,
Разумееш?
Больш — чым магу зразумець і сказаць...
Навошта мне без цябе гэтыя сухія, счарсцвелыя словы?

Ты ўсё разумееш,
А я — зараз толькі пішу,
І гэта ўсё — для цябе.
Бо калі б не ты — не было б нічога,
Не было б нават Бога
Для мяне.
Я малюся за тое, каб ён быў.
Самая вялікая малітва — маліцца за тое,
Каб Ён толькі быў.
Тады будзе ўсё.

***

Як мне знайсці твае сляды
І твае рукі,
І твае плечы
Сапраўдныя.
Ты — мая самая прыгожая,
Самая доўгая,

Самая шчырая,
Самая добрая лінія жыцця.
Самая ранімая лінія жыцця.
Няхай бы ўсё маё шчасце перайшло на твае далоні.
Я не ведаю, што
Мне з такімі прыгожымі
Лініямі жыцця
І думаць.
Калі табе цяжка — я магу пражыць тваё жыццё.
Калі табе балюча — то я магу не баяцца больш болю.
Калі табе горача і пякуча —
То далоні мае халодныя.
Калі табе халодна — то ў мяне ёсць на небе сонца,
І на далонях — сонца.
У нас разам з табой — такая доўгая-доўгая лінія жыцця.
Ты — мая лінія жыцця.
Ты — маё сэрца.
Ты ціхенька б'ешся ўва мне,
Але не з'яўляешся.
Як мне цябе вярнуць,
Адшукаць, знайсці,
Палюбіць,
Не аддаць,
Залячыць,
Як падарыць табе самы доўгі і
Самы радасны дзень?..

## Чалавек, даражэйшы за чыстае золата...

Чалавек, даражэйшы за чыстае золата, — гэта ты.
Гэта сам ты.
Гэта той ты, якім ты хацеў бы быць.
Гэта той ты, якім нарадзіўся.
Гэта той ты, якога мама ў дзяцінстве гладзіла па валасах.
Гэта той ты, хто не баіцца Смерці.
Гэта той ты, хто не баіцца жыцця!
Гэта той ты, хто не баіцца сябе.

*Чалавек, даражэйшы за чыстае золата,*
*прыйдзі да мяне!*
Чалавек, даражэйшы за чыстае золата,

я прашу,
падыдзі да мяне
я схілю галаву да тваіх
надарваных рук
і суцішу твае галасы,
што і ўдзень, і ўночы
не могуць спатоліць тваёй
неспакойнай,
адданай,
збалелай душы
Падыдзі да мяне, калі я
не змагу больш ісці да
нябачнай мэты.



# Кацярына Ваданосава

**паэтка, музыка, дызайнер, лідарка музычнага гурта «Kaciaryna Vadanosava & Fantasy Orchestra». Аўтар паэтычнага зборніка «Міфатворчасць» (2015 г.) і аднайменнага музычнага альбома (2016 г.).Скончыла БДПУ імя Максіма Танка па спецыяльнасці «Гісторыя. Рэлігіязнаўства». Лаўрэатка шматлікіх песенных фестываляў. Нарадзілася ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# За крок да вясны...

***

Ты ведаеш, аднойчы будзе ўсё:
Пяшчотныя ды чыстыя світанні,
Высокі бераг, вымыты расой,
І сонца — сімвал усёдаравання.

Бязважкі вэлюм ветру на плячах
Нас будзе песціць, абдымаць і цешыць,
А мы, як дзеці, распачнем свой шлях
У край жывых, нерасстраляных вершаў.

Павер, што жах міне, і на крыві
Бялюткай ружай вырасце надзея.
Адзінае — жыві. Прашу, жыві.
Няхай душа ніколі не здранцвее.

*08.10.2020*

***

Зараз усё так проста:
Тут зло, а вось тут — дабро.
Няважна, якога ты росту
І колькі табе гадоў.

Няважна: хлопец, мужчына,
Жанчына ці нават дзіця:
Кроўю тваёй Айчына
Сабе вышывае сцяг.

Чуеш: па ўсіх завулках
Цкуюць нас, нібы ваўкоў,
Каб мы не знайшлі прытулку,
Каб сталі слабымі зноў.

Нашыя слёзы — ежа,
А нашыя косткі — гной.
Нас топчуць, гвалтуюць, рэжуць,
Каб мы перарвалі бой.

Падэшвы бястварай цемры
Па нашых ідуць зубах:
Мы голыя дзясны шчэрым,
Выцыркваем з горла страх.

Вы выб'еце нашы вочы —
Мы будземісці на слых,
Ў апошнія хвілі ночы
Мы ўчуем ваш енк і крык.

Вы думалі — мы слабыя,
Што вы нас сатрэце ў прах!..
Глядзіце: мы ўсё жывыя,
Нам смерць саступае шлях!

Мы — глеба на новым полі,
Зярняткаў мільён малых,
Свабода, жыццё і воля
Павырастаюць з іх.

*26.10.2020*

## Раману

Упасці ў чорныя травы,
Забыцца... Вачыма — ў неба...
Такая смерць — быццам мара,
Вышэй ўзнагарод не трэба.

Наяве ж — зусім будзённа,
Без траў, небасхілу, зброі...
Шкада, што не поле бою,
Шкада, што асфальт і ходнік...

А восень у гэтым годзе
Была без барвовых лісцяў:
Ўсе дрэвы ў гнілой знямозе
Галінамі хмары цісnуць...

Крыві не хапіла клёнам —
Ўся чырвань сышла на раны:
Тут кожны цяпер гатовы
Да здзекаў ды катаванняў.

І душы трымцяць пад ветрам,
Як стужкі на агароджы...
Хутчэй да святла. Да свету.
Час выйсці. І я выходжу.
*14.11.2020*

## Паніхіда па Раману

Хто шукае суцяшэння — знойдзе.
Хто шукае праўды — не загіне.
Кожны ўздых — малітва аб свабодзе,
Кожны рух — аб болю напаміны.

Так прыгожа, ціха, урачыста,
Быццам свет стаў новым, незаклятым...
Паглядзі: мы выйшлі. Небам чыстым
Ты плывеш над морам рук узнятых.
*20.11.2020*

## Развітальная песня

Хай завея знадворку гуляе —
Тут полымя жвава гарыць...
Мы ў кубкі віно наліваем,
Каб цэлую ноч гаварыць.

Мы гаворым пра дзікія землі,
Дзе буран ненажэрны не сціх,
Пра світанні ды шэрую цемру —
Мы гатовыя хутка сысці.

Кожны выбраў і долю, і зброю:
Хтосьці — кнігі, а хтосьці — мячы...
Мы клянемся, што вернемся з бою,
Не загінем бясслаўна ўначы.

Застаяліся нашыя коні,
Ў печцы ціха згасае агонь,
Вые вецер за вокнамі дома,
Гэты вечар мінае, як сон.

Перарвецца дыханне марозам,
Зарыпіць спарахнелы парог —

Мы з прытулку старога сыходзім,
Бо нязлічана новых дарог.

Што на свеце больш вабіць, чым воля?
Пыл дарожны, як срэбра, блішчыць...
Мы, напэўна, не ўбачымся болей,
Але дом гэты нам не забыць.

## Вяселле

Я не стану прасіць цябе,
Каб ты мне дарыў спакой:
Твой чарэшневы бляск вачэй —
Пакліканне на доўгі бой.

У кахання падчас вайны
Нязвыклы і даўкі смак...
Як хацелі мы спраўдзіць сны,
Не мець крыві на руках,

Нястомна гаіць святлом
Усе раны зямлі сваёй...
Папялішчам застыў наш дом,
І пахне вясна чумой.

Нам сведкі — агонь і дым,
А госці — вайна і страх.
Мой муж. За табой адным
Іду я ў далёкі шлях.

## Крок да вясны

Мы лавілі далонямі снег і губляліся ў снах,
Мы шукалі адзін аднаго ў лабірынтах зімы,
Тым часам за шэрым акном нас чакала вясна,
Ды як нам пачуць яе песню ў пустой цішыні?..

Хто нам адкажа, ці можна пражыць
Сярод аднастайнай вайны,
Колькі стагоддзяў трэба ісці
Да новай светлай вясны?..

І аднойчы мы збеглі з палону разбітых надзей,
У адвечных снягах на прасцяг мы праклалі шляхі:
Мы шукалі вясну, і мы верылі ў заўтрашні дзень,
Выдумлялі дэвізы, каб імі аздобіць сцягі,

Мы цвёрда ішлі праз завеі ды змрок
Пад небам маўкліва-сівым...
І вось, нам застаўся ўсяго толькі крок —
Адзіны крок да вясны.

Мы з табою стаім на мяжы паміж ноччу і днём,
І няважна, што трэба аддаць за апошні наш крок,
Бо наперадзе — вецер і воля, вясна і святло,
Бо наперадзе — тысячы новых шчаслівых дарог.

Дай мне руку, дай мне веры глыток,
А я зберагу твае сны,
Няхай будзе лёгкім апошні наш крок
Да новай, дзіўнай вясны.



# Ірына Грумандзь

паэтка, літаратуразнаўца, журналіст, краязнаўца. Аўтар кнігі вершаў «Мая душа» (2011 г.). Друкавалася ў часопісе «Верасень», альманаху «Ратуша». Нарадзілася ў 1985 годзе ў Наваполацку. Жыве ў Наваполацку.

# Маўчанне гучней за крык...

## Ты ёсць...

Ты проста ёсць...
Ў сусвеце нашых душаў.
Глядзець у вочы —
Бачыць там пяшчоту.
Законы прыцягнення
Мы парушым,
Каб зоркі цалаваць
Употай.

Ты проста ёсць..
Сярод вятроў Сусвету
Ў любові ўсеабдымнай,
паглынальнай
Трымаць ў далонях
Цэлую планету
Людскога й светлага
Кахання.

Ты проста ёсць...

## Шлях

Бяссрэбны шлях любові...
І слепіць цемра вочы.
Я мала веру ў словы.
Я веру ў дотык ночы...
Я веру ў сілу дзеі,
У час і блізкасць душаў.
І шчэ жывуць надзеі,
Што будзе шчасце дужым.
Бо пасля болю — сонца,
Пасля растанняў — стрэчы.
І дотык вуснаў моцны.
У пацалунках — вечнасць!
Бяссрэбны шлях любові,
Бясконцы шлях пяшчоты...
Адчуй мяне ў штослове,
народжаным з самоты.

***

Кроплямі па снезе
Плакала вясна.
Стала жалезнай лэдзі
значна пазней яна.
Ёй бы дарыць пяшчоту,
кветкамі красаваць,
А не маркоты слоту
Вуснамі цалаваць.

Кроплямі па снезе
Таяла зіма,
І летуценны вецер
Гнаў яе са двара.
Сонейкам развіднее
Заўтра нанова дзень,
Абы любіць мы ўмелі
квецені летуцень...

***

П'ю стоячы
за ўсё, што страчана!
І бласлаўляю ўсё,
што дадзена.
Цвікі у сэрцы —
І кроў запеклася гарачая.
Гарыць,
Трымціць —
І рукі накрыж
складзены.

## Памры!..

Але чакаюць многія
твайго святла,
якое ў споднім
стаіць
і грэе шчэ
таго, ў каго зняверана,
бы скрадзена, душа...

***

Калі хочаш маўчаць — маўчы.
Калі хочаш крычаць — пішы.
Бо маўчанне і крык — з душы,
Калі побач Хрыстос і ты.

Калі хочаш маўчаць — маўчы.
Цішынёй прамаўляе Бог...
Бо маўчанне гучней за крык,
чым вятры на крыжы дарог.

Што развеюць тваю душу,
Што завяжуць табе язык...
Бо да праўды Хрыста, на жаль, —
Чалавек яшчэ не прывык...

## Яго малітва

І толькі ён маліўся за яе,
І больш ніхто.
Усе чакалі цудаў.
Каханне вечнае, калі жыве
І не разменьваецца
На пошасць блуду.
І толькі ён яе кахаў,
Маўчаннем высіліся словы.
І ён маўчаў, маліўся і маўчаў
І жыў малітваю яе любові.

## Пакліканне

Вернасцю у Хрысце
І залатой свабодай,
Шчасцем свяціць табе,
Радасцю і любоўю.

Вочы расцалаваць
Тым, хто любіць стаміўся,
Слёзамі асвячаць
срэбра жывых крыніцаў.

Колькі гаючых рэк,
Столькі разбітых сэрцаў...
Ад нелюбові — грэх,
А у любові — вернасць.

Радасцю у Хрысце
І пачуццём свабоды
Шчасце дарыць табе,
Веры душою поўнай.

## Чаканне

Як адпусціш усё,
Вось тады і прыходзь.
Ну а я ізноў пачакаю...
Парасон для таго,
Каб і ў дождж
Абдымаць
Нашу светлую мару.

## Жнівеньская малітва

Штандар з крывёю Хрыста
Зайшоў над Беларуссю...
Каб вера ажыла,
І звон ажыў, —
Малюся.
А побач чуцен крык,
Адчайны і пякельны,
Бо д'ябал не прывык
Да шчырага малення...



# Людміла Сіманёнак

**паэтка. Аўтар паэтычных кніг: «У люстэрку» (1996 г.), «Разгорнуты сусвет» (1999 г.), «Незабыты шлях» (2011 г.). Нарадзілася ў 1975 годзе ў г.п. Обаль на Віцебшчыне. Жыве ў Віцебску.**

# Прыватны рай

***

Вясна злупіла лахманы са смецця
Вадою змыла рэшту цішыні.
Твайго Парыжа не было на свеце,
Твая Масква згарэла у вагні.

Прышпілены, як фотаздымак раю,
Часопіса шматочак да сцяны.
Бясконцая дарога абяцае
Збаўленне ад пакуты і віны.

Ісці яе няма патрэбы пільнай —
Да мэты нават песня не ляціць:
Не вые воўк у лесе каля Вільні
І гейналіст у Кракаве маўчыць.

Прызнайся і павер сабе нарэшце,
Бо ведаў ты і ў маладыя дні:
Твайго Парыжа не было на свеце,
Твая Масква згарэла у вагні.

***

У жаху або з палёгкай,
Хто верыць і хто не верыць,
Ці разам ці паасобку
Адчынім угору дзверы,

Дзе птушкі скідаюць пёркі,
Запэцканыя у брудзе.
Клады — прыступкі да зоркі,
Дзе будзе... Або не будзе?..

***

Покуль верылі ў прышласць расчулена
Ды пялёскалі Бога па лужынах,
Мова матчына стала бабулінай,
Потым кніжнай, халодна-адчужанай.

У чыстцы да пустэчы гарнулася,
Укаханая толькі вар'ятамі,
Ды ізноў праз плячо азірнулася,
Быццам марыць прыйсці за адплатаю.

Праз вуголле сваё фільтраваная,
Пасміхаецца з высілкаў марнасці,
Ды міргае скрозь вокны прывабнаю
Незнаёмкаю з іншай рэальнасці.

***

*Алесю Пушкіну*

Асфальт гудзе будзённасцю машын,
Хмялеюць дрэвы у чаканні лісця.
Мастак малюе Віцебск-успамін
І Віцебск — той, што збудзецца калісьці.

Жанчына, трасянуўшы з веек туш,
Міргне на кругавой жыццёвай трасе.
Угледзеўшы фацэтны капялюш,
Гадзіннікі заблытаюцца ў часе.

Штурхне кружэлку красавіцкі рэй:
Расчараванні, жарсці, боль і славу.
...За слепатой зачыненых дзвярэй
Разгорнецца прастора для выставы.

***

*Памяці Анатоля Канапелькі*

На браме ўласнага дому
Збівалі чужынскі заклён.
А было іх — дзясятак вядомых
Ды сотня такіх, як ён.

І тысяча, што ўтрапёна чакала
Ранішні звон ключоў.
І рэшта, якая рахмана маўчала
І будзе маўчаць ізноў.

Здавалася, можна паверыць
У родны агмень. Аднак

Выплыў з дрыгвы — на дзверы —
Брыдкай пячаткі знак.

Зноў трэба тысяча — марыць.
Ды ўпарта вузлы вязаць.
І трэба сотня — ударыць,
І дзесяць — каб узарваць.

Што ж, калі заўтра горай за ўчора —
Кулямі па траве...
Нават пад саванам трыкалору
Памятайце: Жыве!

***

Нацягнеш красоўкі, каб выйсці у вечар
На непрызначаную сустрэчу,
Дзе могуць завабіць у недарэчнасць ,
А могуць балюча пабіць.

І як адагнаць ад сябе недарэку,
Якому яшчэ ад савецкага веку
Патрэбна паўлітра на чалавека,
Для «толькі пагаманіць»?

Захочаш ускочыць нагой на арэлі,
Ды будзеш туляцца, як Марка па пекле,
То бітаю, то пераможнай кегляй,
Або у свінушніку гусь.

Ты зносіш красоўкі, і зносіш боты,
І усвядоміш зусім без ахвоты,
Што трэба прайсці не адно балота,
Каб трапіць у Беларусь.

Цынічна Вандэя іклы ашчэрыць,
І ты непазбежна хіснешся у веры.
Пакліча абрыдліва нудная шэрасць,
Як месца ў прыватным раю.

І толькі спаліўшы ўсе планы і жарсці,
Шукаючы месца, дзе цела пакласці,

Ты зразумееш, што шлях той быў шчасцем,
Большым за мару тваю.

***

Чорнай крыўды й роспачы ключы —
Горкі дар абражанага ўлоння —
На парозе зорнае начы
Нараджае хмарнае сутонне.

На ўзбярэжжы млечнае ракі
Болем абнадзееныя чары
Скальпель промня рэжа на шматкі,
Ды шматкі спаўзаюцца у хмары.

***

Спасланае пракляцце: добра знаць,
Якім балючым будзе крок да волі.
Калі ж заўсёды пошасць выбіраць,
Не вылекуеш пошасці ніколі.

Ды так яно, відаць, табе і мне
З вышынь наканавана — не парадзіш:
Шукаць пустыню, што сляды глыне,
Як той прытулак у эдэмскім садзе.

***

Я жыву ў зачыненым куфэрку,
Блізу занядбанага кутка,
Між аскепкаў бітага люстэрка
Й пацярухі шлюбнага вянка.

У чаканні прывіднага шанцу,
Смагай аздабляючы спакой,
Я лічыла пацеркі ружанца,
Як размовы шчырыя з табой.

А цяпер душа ўсур'ёз баіцца,
Колькі яе казкамі не цеш:
Раптам ключ ты знойдзеш на паліцы
І вязніцу здуру адамкнеш?..

***

У аўчарні ціха.
У аўчарні страшна.
У дабра і ліха
Адрас учарашні.

Збілася ад гною
Воўна касмыкамі.
Падзялілі зброю
Пастухі з ваўкамі.

І трымціць кранальна
Рысачка у плане:
Што ўжо на світанні
Выйдзе з той аўчарні?

***

Там, дзе лес пераняў дарогу,
Да якой маладзік дагушкаў,
Я схавала свайго аднарога
І чародку чароўных птушак.

Цэлы лес, колькі мела сілы,
Укрывала замовай дужай,
Каб зіма не кранула крылаў
І прыгожых каленяў сцюжай.

Азіраюся вінавата:
Пакідаючы — не сагрэцца.
У палацы тваім багатым
Ім ніколі не будзе месца.

А калі пражыву знянацку
Я даўжэй за наша каханне,
Стрымгалоў за апошнім шанцам
Прыбягу сюды на змярканні.

І ўпаду з раптоўнай знямогі,
Не сказаўшы ні слова дакору,
Той, што песціць бакі аднарога
І збірае для птушак зоры.

## Старая чмяліха

Б'ю неба драным крыллем
На скруце галавы.
Гняздо маё спалілі
Для свежае травы.

Падбел шурпатым донцам
Расінку песціць мне
Ды падпявае сонцу:
— Узрадуйся вясне.

***

Прасі сабе пакоры і спакою,
Бо мы не больш валодаем зямлёю,
Чым мурашы — тым борам у нізіне,
Што ад іскрынкі дробнае загіне.

***

Я — кропля у ценькім яшчэ раўчуку.
Кім стану, узяўшы цябе за руку:
Вадою, што вуснам дазволіць напіцца,
Крывёю, што сэрца прымусіць спыніцца?

Адна ж — разгарнуся эфірам нябачным
Чакаць небяспекі, як новай удачы,
І шанцу імкнуцца праз ноч нацянькі
Да мройных абрысаў жаданай рукі.

***

Напішы мне пісьмо на бусловым крыле,
І прасі, каб ад выраю рушыў смялей.
Хай вясну прынясе, і крылом трасяне —
Можа слоўца адно даляціць да мяне.

Ліст кляновы увосень вазьму на далонь,
Пакручу, пашапчу ды укіну ў агонь.
Ты пачуеш — нядоўга чакаць да зімы,
Дзе у квецені сада сустрэнемся мы.

***

Кранальна, цікаўна і крышачку смешна —
На выспе Самоты даволі уцешна.
Тут неба глядзіцца ў ваду праз трысцінку,
І сонца скрозь сетку цалуе дзяўчынку.

Рамантыку фарс абдымае прымхліва,
Пастэльны акорд палягае шчасліва.
На выспе Самоты някепска бывае,
Калі цябе хтосьці на мосце чакае.

***

Праз немагчымасць кінутых гадоў,
Якіх зязюля нам ужо не злічыць,
Калі жыццё пахіліцца далоў —
Цераз мяжу апошні раз паклічу.

Прайграны пачынаючы двубой,
Дазволю сэрцу горкую уцеху.
А не пачуеш — то і Бог з табой.
Мне з берагу твайго даволі й рэха.

***

З бяздоння вільгаці і цемры
Іскрынка пачынае шлях,
Каб кропляю наіўнай веры
Адбіцца ў здзіўленых вачах.

Не знаць спярша: кахання зорка
Якой дарогай павядзе.
Заззяе роўна і высока,
Ці знічкай долу упадзе?

***

Залом рукі ля набалелай скроні.
І пачуццё то грэе, то пячэ.
Я — толькі рысачка на стомленай далоні,
Што нечакана лёс перасячэ.

Атрута ці гаючая вадзіца,
Таемнасць ці пустая каламуць —
Усё адно змагу табе прысніцца
І пацалункам вусны адамкнуць.

***

У небе, на зямлі і пад вадою
Я адшукаю востры промень твой.
Ці пахілюся ніцай галавою,
Ці пралячу імкліваю стралой,

Ці дажыву да слёзнага світання,
Якое згасіць зорныя сляды
На беразе бязмежнага кахання
Над урвішчам бяздоннае бяды.

***

Паеду ў жыццё далёкае,
За тлумныя гарады,
Дзе цётачкі не галёкаюць
І ў студнях няма вады.

Там сочыва адмысловае
У сподачак налію.
Хай сонца цябе ахоўвае,
Падворак твой, дом, сям'ю...

***

Калі трава зальсніцца на пагорку
І сцежка забялеецца крыху,
Сустрэнемся з табой пад першай зоркай
Бліжэй да неспазнанага граху.

Спяшаюся насустрач баязліва,
Каб не зрабіць ліхое адкрыццё:
Хавае ноч падступную крапіву
І стрыжанае вострае асцё.

***

Хай лісце заўчасна чэзне
У выраі незваротным —
Мы вып'ем з табою песню
Да самай апошняй ноты.

З зярнятка ўзгадуем дрэва
Без гнёздаў, але да неба
З суквеццямі зорных спеваў —
Для тых, каму гэта трэба.



# Яўген Скібскі

паэт, перакладчык. Працуе праграмістам
у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.
Вершы друкаваліся ў часопісах «Маладосць»,
«Гаспадыня», газетах «Літаратура і мастацтва», «Знамя
юности» і іншых выданнях... Нарадзіўся ў 1974 годзе
ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Крэндзель для актрысы

*Юлі Ш.*

**1**

Мы магчыма сустрэліся б
на курорце недзе,
але не курортная гэта восень...
Актрыса і я,
брутальны крэндзель,
і шум курапацкіх сосен...

Ноч.
Не гараць ліхтары,
толькі ад свечак
трапяткое святло.
Крыжы.
І ўсё,
што там гаварылі,
з лісцем над намі нясло.

Гэта не тое
каб проста ноч,
хаця такі
ўвесь наш апошні час.
Прабачце, паэты,
тыя, што крочаць
далей і далей
ад нас.

Прабачце,
што мкнуўшыся сэрцам да вас,
забітых,
са зламанымі крыламі,
паранены быў
не ў час
сгралою кахання
над вашай магілаю.

Ну, што тут зробіш
і што тут скажаш,
калі не ў пару —
у час паніхіды —

у сэрца Амур
бессаромна ўмажа
сваю стралу,
а можа і дзіду.

Актрыса на сцэне,
спявае актрыса,
актрыса сыходзіць,
ідзе скрозь натоўп,
нясе да мяне
прыўкрасныя рысы —
на мяне нясецца
патоп.

Мяне, як травінку,
касою не абміне.
Лёгка ж ты
такога скасіла...
Актрыса спынілася
ля мяне,
натыкнуўшыся
на маё «спасибо».
Там недзе фонам:

чаму «спасибо»?
Мозг спрабуе
вярнуць кантроль.
«Дзякуй» жа...
Якая хіба!
Па нервах сцякае боль,
па пальцах
сцякае свінец,
па твары — кіпень...
Няўмольна
сышла ты,
знікла, канец,
усмешка —
у галаву кантрольны.

Холад.
Холад.
Холад навокал.
Холад навокал сабачы.
Дамоў.

І нават яны,
высокія,
адчуваю — прабачылі.

І толькі дома
ўспамінам наўздагон
(мяне зразумее
любы паэт)
адкаркую
пушчанскага самагону
і памяну паэтаў
як след.

**2**
Восень.
Вершы ляцяць, як лісты
на траву,
што была зялёнай.
Дождж —
кіслотныя слёзы,
а ты,
можа, ходзіш
без парасона.

Вось бы добра,
каб белых кветак дыван,
а не ўзбрыкі шалёных коней.
Каб дадому —
без драпін і ран,
без кулі
і без пагоні.

Груганоў
шалёны апоўзень сышоў —
накрыты гурбаю людзі.
І кожны другі тут
бязглузда вярзе:
што тут было,
што будзе.

Калі ж давядзецца
сказаць услых
аб тым, што мяне разрывае,

гэтыя думкі —
удар пад дых
ці куля
стоячым каля рва.

Таму мой прагноз
лепей табе не знаць.
Лаві імгненні —
шчасцейка крохі.
У прагнозе маім —
не багна без дна,
а чыесьці апошнія крокі.

Няма ў ім сумневу
ў перамозе,
няма пытання «навошта».
Да фіналу
не дойдуць многія —
таму і адчай
ад кошту.

Таму, хто бачыць,
заўжды цяжэй.
І я па сеціве
ды на слупах
шукаю
якуюсьці варажэю,
каб з аптымізмам была...
сляпая,

каб была
вясёлая, добрая вельмі,
каб магла
спакойна, няспешна
сваімі пустымі бельмамі
ўбачыць суцешнае нешта.

А пакуль
нашы вочы залітыя,
бо з усіх тб-шных вакон
пруць
яны
салодка-ванітныя
мярзоты,
растуць, як ком.

І калі ільецца,
нібы з вядра,
такое,
што схавацца б дзесьці, —
ты дазволь мне
скуру з сябе садраць
і над табой
парасонам несці.

Восень
калечыць, б'е і дзяўбе —
як і належыць здрадніцы...
Адзінае,
што яшчэ не сказаў табе:
Каханая,
добрай раніцы!

**3**

Аднойчы настане час,
такі,
што людзі дасведчаныя
скажуць:
«Нарэшце мір,
усцешымся гэтаму міру!»
І вось тады
я запалю святло
замест памінальных свечак,
вазьму
ды накрэмзаю
табе
шчымлівую лірыку

аб тым, што душа мая
да самай апошняй дрыжынкі,
апошняй кроплі
пральецца вішнёвым сочывам
і стане раптоўна
нечым накшталт сцяжынкі, —
і ты па ёй
да самага шчасця дакрочыш.

Аднойчы настане час...
Настане,

настане аднойчы —
і замест трэску
ад злому чарговага дна
пачуем, як лісце
нам шапаціць уночы...
Пачуем.
Потым...
Пакуль — вайна.

**4**

Спытай,
можа, я пра цябе забыў?
Спытай,
можа, у сэрца,
можа, у сны
ўлезлі маркота, сумневы, адчай —
і ў сэрцы, і снах
больш не будзе вясны?

Спытай,
што раблю і хто такі?
Спытай,
калі вып'еш каву
ды зірнеш у люстэрка.
Можа, простае слова
не дасць перасекчы край
і прынясе надзею
насуперак паняверкам.

Спытай,
а ці я гляджу —
спытай —
на фота, дзе ты з усмешкаю,
без?
Можа, дома сяджу
ды проста гладжу ката
і нічога ў душы маёй
не рушыцца без цябе?

Спытай,
што за чырвань у небе?
Спытай,
чаму яна

ўзнімаецца так высока?
Гэта выбухнула ў галаве —
і замест ліста
вершы мае
разлятаюцца па аблоках.

**5**

Да гэтых думак
ішоў я сотняй шляхоў
праз гора і радасці,
гульбішчы і пажары.
Увесь мой досвед
не ліўся струменем слоў,
ён адбіваўся
зморшчынкамі на твары.

Усё, што згубіў,
мне не знайсці нідзе.
Усё, што магу, —
адно выяўляць удзячнасць:
за сівізну,
што ўжо не схаваеш,
у барадзе
ды за чарцей,
што ў рэбрах сядзяць нябачна.

Прабач,
не сорамна мне
за маіх чарцей,
а за маркотнымі строфамі ды радкамі
прасвечвае,
праяўляецца ўсё часцей
дурная звычка —
бег
за апошнімі цягнікамі.

І раз за разам
здараюцца гэтыя жарты —
якім нарадзіўся,
такім і быць да скanaння —
бягу й бягу
нібы дурны і ўпарты

за цягнікамі —
у працы,
жыцці,
каханні.

Жыццё і лёс
ніхто яшчэ не аб'ягорыў,
на ўсіх накірунках
будуць свае калдобіны.
Што ж, я вінаваты,
што гэткіх спазненняў морам
будзе й далей
жыццё паэта аздоблена.

А раптам гляну —
наяве яно ці ў сне,
хутчэй, што ў сне,
бо ўдзень не бывае страху —
ляціць цягнік,
ляціць наўпрост на мяне —
і не схавацца,
не збочыць з ягонага шляху.

Дзяўчына мілая,
ты нічога мне не кажы,
але прабач, калі,
бы бульдозерам чорным,
прайдуся вершам
па палёх вясновай душы —
тваёй душы,
жывой,
жыватворнай.

Дазволь жа толькі
мне любавацца табой,
бо ты ратуеш,
калі накоціць адчай.
Аднак, магчыма, нясу табе
неспакой і боль?
І гэты факт
вельмі мяне засмучае.

Дазволь жа мне,
покуль лёс

не зайграў на трубе,
не кінуў на лаву
есці булачкі з вішнямі,
дазволь адно мне —
проста ўяўляць цябе,
калі ў ложак
кладуся
з іншымі.

*29.10. 2020 — 26.12.2020*

## Эпілог

Чарговы дзень
згасае нібы свяча.
Чарговы крок
блізіць мяне да скону.
А мы збярэмся
твае народзіны адзначаць.
Хто мы?
Я
і пляшачка самагону.

А што наогул
я б мог пажадаць яшчэ
табе,
і так
усім, што трэба, адоранай?
Ну, вось і добра —
як-небудзь хай і цячэ.
Адно — каб лепшае
было ў дзецях паўторана.

Святло памрэ,
ноч накрывае коўдрай.
Жыві ды цешся,
нібы якая малеча.
Налью паўста —
і горкі халодны водар
я закушу
агеньчыкамі ад свечак.

*17.01.2021*



# Васіль Дэбіш

паэт. Аўтар паэтычных кніг: «Белыя птахі» (1993 г.), «Лісты да Марыі» (1996 г.), «Праз дождж» (2012 г.), «Чуйнар» (2015 г.). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка на Гродзеншчыне. Жыве ў Брэсце.

# Убачыць ідэал

***

Давай прысядзем мы каля агню.
Дарослымі даўно ўжо сталі дзеці.
Вачэй тваіх жывую глыбіню,
Успыхнуўшы ярчэй, агонь асвеціць.

Згадаем залатую маладосць:
Світанак золкавы. Заход ліловы.
Хаваеш твар. Удзячны, што ты ёсць.
Яшчэ сады у квецені вясновай.

Вунь, чуеш, за акном птушыны хор.
З-пад пёраў павы па-над соннай хатай
Каханне наша вымкнула да зор,
Ахвярнае, у цішыні крылатай.

## Цмок

Зіма. Сняжок злятае за акном,
Такі свавольна-лёгкі, белы-белы.
Цябе няма. Асірацеў наш дом.
І сад, і двор — усё асірацела.

Марудна гэтак праплываюць дні.
А помніш, Люба, казачнага Цмока.
Я лётаў у нябёсах той гульні,
Была ты недасяжнай і высокай.

Шаптала мне : «Мой рыцар залаты,
З табою не расстанемся да скону.
Я знаю, пераможаш Цмока ты
І вызваліш, няшчасную, з палону».

Не вызваліў...Слядочкаў не відно.
Ты да мяне не вернешся ніколі.
Снег б'ецца аб прамерзлае акно,
І невядомы птах крычыць ад болю.

***

*Любе*

Твае вочы — азёраў пушчанскіх прадонне,
Задуменных такіх і глыбокіх, як ты,
Дзве жарыначкі-зрэнкі ў блакіту палоне
Прыхаваныя ценямі веяў густых.

Па маснічыне йдзеш ад дзвярэй да аконца
На дваіх наліваеш п'янкое віно.
Твар, асветлены сонейкам, сам, нібы сонца,
І валос вар'яцее цяжкое руно.

Позірк ціхі. У ім і цяпло, і лагода.
Толькі прыкрай пакоры няма аніяк.
Як аргана труба, голас сэрца салодзіць.
Тут і ласка, і сіла, і цвёрдасці знак.

Рукі — нібы ў дзіцяці, любоўю сагрэты,
Пахнуць водарам ветру і чэрвеньскіх ніў,
Як і россып радзімінак, цудных планетаў,
Што ласкава паўзмрок прада мной растуліў.

Пазнаваць і ласкаць іх — найлепшае свята.
Хоць пабачыў, прызнацца, усяго на вяку.
Па маснічынах крочыш паходкай крылатай
І так гожа цвіцеш, як лілея ў стаўку.

***

Смяешся ты з мяне і ладзіш жарты.
Гаворыш мне, што я цябе не варты,
Што не юнак і не магу кахаць.

Ах, мілая! Заўваж яшчэ і тое,
Што я мужчына, я — здабытчык, воін
І не пакінуў звычку паланяць.

***

Каб шах незвычайны дыван мне прыслаў,
Расквечаны месяцам, зорак маністай.

Яго б пад нагамі ў цябе разаслаў,
Каб цёпла было ад пяшчоты пушыстай.

Каб меў я такі жыватворны кілім,
Што зыркімі промнямі ў цемрадзі свеціць.
Яго разгарнуў бы над домам тваім,
Каб сцюжа зімы стала сонечным летам.

Але ж я галернік. А мары даўно
Расклаў, разаслаў каля любай узложжа.
Нябачным заззялі яны палатном
З сузор'яў і кветак: ступай асцярожна.

## Мы памыліліся

З табою разам мы. Ды шчасця нестае.
Не звязаны са мной надзеі ўсе твае.
Сядзіш на ложку ты: то плачаш, то маўчыш.
Памылкі горкі плён. Слязу сваю суціш.

Ідзі і не глядзі на шыбіны ў журбе.
Я буду, нібы мніх, маліцца за цябе,
З табою разам мы, ды кожны ўжо адчуў:
Яднае ложак нас, ды холад уваччу.

## Навальніца

Пад сцяной навальніцы незаўважна ты знікла
І пакінула мне згустак чорнага болю
Быццам мы незнаёмы, так жахліва й нязвыкла.
Быццам нас не было, не кахалі ніколі.

Прагне сэрца кахання, збавення не хоча
Ад бяздонных відзежаў, што думкі трывожаць.
Мы згубілі сябе ў кругаверці той ночы,
Шлях зваротны знайсці аніколі не зможам.

## Дзеўчына на кані

Конь капытамі выбівае агонь.
Ранак. Усход сонца. Маліннік.
Зоркамі крэсліць раку абалонь.

А на кані — дзяўчына.
Плыў туман і раптоўна знік.
Цішыня мелодыяй дыхае.
Дзеўчына на кані
Сонейкам-полымем успыхвае.

## Сустрэча

*М.Н.*

Бяссілле ў поціску рукі,
Што моцнаю была.
Шчака прыпала да шчакі,
Ды не адчуў цяпла.

Вітанне стомленых вачэй
Ляцела ў нікуды.
Пайшла крадком, так цень цячэ,
І знікла назаўжды.

Кахання не было нібы
І той, былой, красы.
Зляцелі знічкамі ў нябыт
Мінулага часы.

***

«Кахаю!» — любы голас увушшу.
Ён песціць слых салодкаю маною.
Вуголле ў печы я разварушу
І будзем піць гарбату ўдвух з табою.

Былое жарсці хай не ўваскрашу,
Ды цепліцца ў душы п'янкая мроя.
«Кахаю!» — любы голас увушшу.
Ён песціць слых салодкаю маною.

***

Са мною ты халодная, як лёд,
Завоблачных, сівых вяршыняў свету.
У панцыр сну душа твая адзета
Зімой і летам — многа доўгіх год.

А я, дзівак, пішу табе санеты —
Начэй бяссонных суцяшальны плод.
Са мною ты халодная, як лёд,
Завоблачных, сівых вяршыняў свету.

## Велікан

Хто Веліканам прызнаваўся ўчора,
Вышэйшым, чым зубцы пушчанскіх дрэў,
Хто мог з разгону пераскочыць горы
І за магутнай спінай крылы меў.

Хто без напругі паварочваў рэкі,
Узмахам веяў засяваў палі,
Хто мераў вышыню — трывае здзекі,
Няўклюдна цягне цела па зямлі.

Цяпер ён не скарае небасхілы,
Пазбавіўся ад страхаў у жыцці —
Маленькім стаў, бяздушным і бяскрылым,
Бо звыкся паміж карлікаў ісці.

## Пан Лес

*Анатолю Сысу*

Прачнуся, ў лес пайду — бязладны дом пакіну.
Збудую там жытло — з імхоў, галін і гліны.
Прылягу на траву пад маладой ялінай —
І будзе цешыць слых бяссонны хор птушыны.
Світальным туманом калматы лес сагрэе,
Мой смутак забярэ, падорыць мне надзею.
Устану і пайду, і днём, і зорнай ноччу,
Мне спеўна каб шумеў пан-лес і цешыў вочы.
Там — цішыня, спакой, для роздуму прастора,
Зялёнай хваляй там у сэрцы плешча мора.

***

Вясна. Зацвіў чартапалох.
Туман плыве над лугам — парай.
Світае. А нябесны Бог
Стагуе ў небе купкі хмараў.

З-за лесу выплыў рыжы дзень
Па свеце йдзе хадою шпаркай.
Аб сонца карабок прамень
Зачыркаў вогненнай запалкай.

Ваду на рэчцы запаліў,
Бярэзін маладыя кроны,
І ўсход за рэчкаю заліў
Бы ў горане, агнём чырвоным.

Так радасна на сэрцы мне,
І песні птахаў слых мой цешаць.
А ў любай зырка на акне
Цвіце герань радкамі вершаў.

***

Мы ўсе з зямлі. Зямля нас нарадзіла,
Бо з гліны Богам злеплены былі.
Ну а нябёсы — падарылі крылы,
Каб, як анёлы, лётаць мы маглі.

Так і жыву. Хлеб потам здабываю.
Святло далёкіх зор начамі сню.
Шчадрот зямных жывая плоць шукае,
А дух крылаты — рвецца ў вышыню.

Сплачу даўгі, калі анёлы ў белым
Падкажуць, што жыццё спыняе бег,
Зямліцы, што жывіла маё цела,
Нябёсам, што гукалі да сябе.

***

Стаў заўважаць, што колер свет губляе,
Што выцвіў купал неба нада мной.
Жыццё імкліва ў вырай адплывае —
Вярбой, ялінай, хваляю марской,

Вачэй маёй каханкі ясным блікам,
Над рэчкаю, вясёлкай залатой.
Я быў такім маленькім і... Вялікім.
Аднак, усё спазнаўшы, я — нішто.

Я — гліна, я — пясок. Лягчэй ад пуха.
Мільгне і знікне хмаркай вобраз мой.
Гляджу на неба. Колькі болю, скрухі,
Гасподзь, у кайстры велічы тваёй.

## Востраў

На востраве я спаў, пястун красы і цноты.
Сніў маладых жанчын і марыў пра пяшчоту.
Вачыма лашчыў шоўк, радзімінкі на целе
І грудзі, як плады, што промень сонца спеліць.
Вакол цвіў райскі сад. Дзе ўсё — дастаць рукою,
Дзе любяць назаўжды. І ўсё дзе маладое:
І травы, і кусты, і сонейка над гаем,
Дзе старасці няма, і смерці не бывае.
Было салодка мне ў Марфеевым палоне,
Аж покуль не пачуў: хтось шамкае ля скроні.
— Паэце, годзе спаць. Зірні. Вунь на пагосце
Збуцвелыя ляжаць, тваіх сабратаў косці, —
На вушка мне шаптаў чарвяк гугнявым ротам,
Як быццам выдаваў сакрэт вялікі ўпотай, —
Жыццё для усіх жывых — за мроямі пагоня.
І толькі чарвякі ад мёртвых свет бароняць.
За светлым днём заўжды прыходзіць ноч нязменна,
Хто нарадзіўся, той урэшце стане тленам.

## Сакавік

Машынаў з'езджаныя колы.
Плывуць ільдзінкі па вадзе.
Шпачок-спявак на ліпе голай
Пагодлівы вітае дзень.

З застрэшка вылез кот калматы,
П'е з міскі прагна малако.
Як крук, дзядуля каля хаты
За плот трымаецца рукой.

Вясну прывеціў ён паклонам.
Бо колькі вёснаў — столькі здзіў.
З птушыным гоманам і звонам,
Прамень — пралескаю — зацвіў.

## Усё ад Бога

Царкоў, князькоў на свеце многа —
Гані прадажную гурму.
Калі выходзіш у дарогу, —
Даверся Богу аднаму.

Бог — чыстаплынная крыніца,
Ён наталяе нас штоміг.
Дык не забудзься памаліцца
Ўсявышняму за грэшных ўсіх.

***

Травы празолены першым маразам,
Нудна сабака завыў за сялом.
Параю дыхае конь пры дарозе.
Конскае пырхае ў неба цяпло.

Спелы арэх раскалоўся так гулка, —
Рэха пранеслася ўсцяж па зямлі.
Сцелецца восень па вузкіх завулках,
Сіверам чэша бяроз касмылі.

Аўта дыхціць ў смуродзе гарачым,
Шчэрыцца злосна, хрыпотна раве.
Чорнаю хмараю грай варанячы
Па-над магільнікам зжоўклым плыве.

Што гэта?.. Чую ў слаце ацяжэлай:
Клічуць званы памаліцца ў касцёл.
Знічкамі коціцца з дрэў зледзянелых
Жоўтае лісце на выстылы дол.

## Ледзяны дождж

Падае, падае дождж ледзяны.
Лёдам пакрыліся, змоўклі званы.
Голавы ціха схілілі крыжы.
Чорныя хмары паўзуць, бы смаўжы.
А па-над паркам пустым, як праклён,

Чуецца крык звар'яцелых варон.
Б'юцца аб дрэвы, спыніўшы палёт,
Ператвараюцца крылы — у лёд.
Морак сівы над зямлёю павіс.
Каменем птушкі зрываюцца ўніз.
Лёдам пакрыліся, змоўклі званы.
Падае, падае дождж ледзяны.

## Хто мы?

Ідзе па Брэсце, ў саван захінуты,
Забыты волат грозны і славуты.
З птушынай галавою, незнаёмы
У цемрадзь узіраецца ён — хто мы?.

За крокам крок, з надзеяю, з адчаем
З'яўляецца паўсюдна і знікае.
Нясе з сабой прадвесце крыгалому.
І стогне Буг пад цяжкім лёдам — хто мы?

## Вербніца

Я іду сёння ў храм, каб душой прычасціцца.
Да высокага сэрца сягоння імкне.
На галінках вярбы заспявалі сініцы.
Вуліц велічны гоман бадзёрыць мяне,

Ды падталым лядком усміхаецца рэчка,
Грабянцамі ў прамыінах сіняй вады.
А мяне асвятляцьмуць святочныя свечкі,
І сканае будзённасць нарэшце тады.

Будуць Богу маліцца і каяцца людзі,
І анёльскім харалам звінець галасы.
Ціха скоцяцца слёзы на кволыя грудзі,
Нібы кроплі вясновай гаючай расы.

Здрыганецца душа, што дарэшты загнана
Пугай дробных турбот і сумніўных уцех...
А пад самую раніцу, так нечакана,
Апранецца зямліца ў бялюсенькі снег.

***

Мой сон, супакойся, яе тут няма.
Завея гудзе, ані песень, ні смеху.
На вуліцы — звонам крышталю — зіма.
Няма! За сцяной адазвалася рэха.

Хтось грукнуў у дзверы. Запознены госць!
Суцішыўся вецер і стала так ціха.
Мой сон, супакойся, але яна ёсць:
У кожным агеньчыку, кожным уздыху.

Вунь, бачыш, на шафе яе парасон.
Застыла ў куце пара туфелек белых.
Яна тут паўсюль, супакойся мой сон,
Пакуль б'ецца сэрца і кроў не збялела.

## Сутонне

На небасхіле сонца тоне,
Развейваецца дзённы сквар.
Расою сцелецца сутонне.
Ў квяцістым ціхім змроку яр.

Цікуе поўня конскім вокам.
А зоркі, быццам матылькі,
Махаюць крыльцамі звысоку.
Павевы холаду з ракі...

Заснулі рэчка, бор і гоні.
Мы ж, прытуліўшыся, стаім.
Я грэю змерзлыя далоні
Пад цёплым шалікам тваім.

## Каб зразумець

Дакрануцца да дажджу і рушыць,
Крылаў не шкадуючы і сіл,
Зразумець каб, што не дождж цярушыць —
Гэта поўні ападае пыл.

Дакрануцца да сцяны і ўдарыць
Кулаком, каб зразумець тады,

Гэта не сцяна — заслона з хмараў.
Нашых дум і дзеяў міражы.

І глытнуць з калодзежа вадзіцы
Зразумець каб, што яна даўно
Высахла, як іншыя крыніцы,
І ўсё глыбей бязвер'я дно.

Слова мовіць, што агнём шугае,
Як маланка у начной цішы,
Зразумець каб, што твой крык адчаю
Ні адной не абудзіў душы.



# Станіслаў Суднік

**паэт, перакладчык, публіцыст. Аўтар паэтычных кніг: «Пагоня за мову» (1992 г.), «Мой Грунвальд» (1999 г.), «Лідскія скрыжалі» (2008 г.), «Літва» (2011 г.), «Пілігрымка дадому» (2018 г.). Друкаваўся ў «Полымі», «Маладосці», «Новым замку», «Лідскім летапісцы», «Нашым слове». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сейлавічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Лідзе.**

# Гавэнды

## Судны дзень судаваў

*Судавы — адно з яцвяжскіх плямён.*
*Разам з літвой, дайнавой, нальшанамі*
*былі тым таямнічым балцкім субстратам,*
*які стаў складовай будучага беларускага этнасу.*
*Асаблівасцю менталітэту судаваў ды і іншых*
*яцвягаў было тое, што яны ніколі не здаваліся ў палон.*
*Таму пад ударамі крыжакоў асноўная маса*
*заходніх судаваў была перабіта і толькі*
*невялікая частка адышла на тэрыторыю ВКЛ*
*і была расселена на паўднёва-ўсходніх*
*рубяжах летапіснай Літвы для ўмацавання*
*мяжы са славянамі. Пра мірнае ўз'яднанне*
*са славянскімі землямі тады яшчэ і не марылі.*
*Усходніх судаваў, цяперашняя Сувалкія ў Польшчы,*
*ВКЛ узяло пад абарону. Яны ацалелі,*
*і яны — тыя ж беларусы. Нядаўна Сувалкі былі*
*замовілі на Беласточчыне 100 беларускіх Буквароў.*

Судавы цяжкую прайгралі бітву,
І ў бітве той палеглі воі ўсе
Да аднаго, і да нябёс малітву
За іх ніхто ніколі не ўзнясе.

Палеглі воіны: і хлопцы, і дзяўчаты,
Хто сілу меў і зброю мог трымаць,
Ляглі пад хвояў векавыя шаты,
І не было каму іх нават пахаваць.

А крыжакі вясёлаю гурбою
Балююць тут, ну проста на касцях,
І цяжка сцелецца крываваю смугою
Паміж карчоў ліпучы, клейкі страх.

Паўзе той страх і ўсім апавядае,
Што новы тут з'явіўся гаспадар,
Грыміць жалезам, прагаю пылае
І з чорным крыжам ставіць свой штандар.

Бяжыць выведнік па лясных сцяжынках,
Каб важнай весткай рыцараў падняць,
Тут недалёка за лясной лажбінкай
Судаўскай вёскі буданы стаяць.

А ў вёсцы той — ні аднаго мужчыны,
Ляжаць, напэўна, тут вось, у бары,
У вёсцы — толькі дзеці і жанчыны,
Хоць голымі рукамі іх бяры.

І рыцары сядаюцца на коней,
А кнехтаў пасылаюць у абход
Адрэзаць пушчу і балотаў тоні
І перакрыць на стромай рэчцы брод.

Бывае ж так, што лёгкая здабыча
Сама, здаецца, просіцца: «Вазьмі!»
І пах крыві ім ноздры ўжо казыча,
І аніякага сумнення ў іх — ані.

А вёска што? Няўжо няма спадзеву
Схавацца, уцячы, перачакаць
Наезд крыжацкі, як дажджу залеву,
Няўжо дадуцца лёгка сябе ўзяць?

Вось вынік почт крыжацкі з лесу сховаў,
А перад вёскаю натоўп відаць,
Ды не натоўп там — звыклы шыхт вайсковы,
Жанчыны з дзецьмі ў тым шыхце стаяць.

Народ судаўскі мовіў сваёй мовай,
У мове іхняй не хапала многіх слоў.
«Палон», «няволя», «раб», — не ведалі ніколі,
А «адступіць» ці «здацца» — пагатоў.

Таму стаяў той шыхт нярушнымі радамі,
І страшны, і вялікі шыхт той быў,
Жанкі, бабулі з дзецьмі і мячамі,
Да аднаго ці да адной, хто толькі жыў.

У першым шэрагу стаялі маці
З малымі дзецьмі на руках,

Дзіця — на левай, меч — у правай,
Распушчаныя косы, нібы сцяг.

Дзіця малое тарчаю служыла
І мацерына сэрца берагло,
І кожнае з матуляй мілай
У той апошні, страшны бой ішло.

У шэрагу другім стаялі тыя,
Хто толькі шчэ збіраўся нараджаць,
І ненароджаныя дзеці, як жывыя,
Ішлі з матулямі таксама паміраць.

У трэцім шэрагу ішлі бабулі,
Малых трымаўшы моцна за руку,
Гады нядолі добра іх пагнулі,
І вось апошні дзень іх на вяку.

Малы рукой схапіўся за спадніцу,
Другою камень моцна ўзяў,
І ён ідзе з напасцю біцца,
І ён ужо мужчынам стаў.

Вось стрэлы чорнай хмарай паляцелі,
Дзіцятка ўскрыкне і маўчыць,
Крыжак здаволены — пацэліў
У той жывы маленькі шчыт.

А шыхт ідзе праз боль пякельны,
А крыжакі наперад, як таран,
Сышліся ў звалцы той смяртэльнай
Валькірый сонм і зграя хрысціян.

Мячы і дзіды заблішчалі,
На тарчах — ненавісны крыж,
А тут ваўчыцы коней рвалі,
Арліцамі ўзляталі ўвысь.

Хапалі рыцараў за фалды,
З каня цягнулі, каб на ніз.
І пакідалі кучку падлы,
І кожная была, як рысь.

Зубамі грызлі, кіпцюрамі
Ірвалі ўсё, што рваць маглі,
З вачніцаў вочы выдзіралі
І кроў з парваных гарлякоў пілі...

І паляглі бясстрашныя жанчыны,
Бабулі, дзеткі паляглі,
Не ўзята ў путы ні адзінай,
Жывой ніводнай не знайшлі.

Хто дыхаў ледзь, дабілі р'яна
І рыцараў панеслі адпяваць,
Бо не адзін на той паляне
Навек застаўся быў ляжаць.

І знікла вёска, як ніколі
Яе на свеце не было.
Шчэ тлелі буданы паволі,
І гар над пушчаю нясло.

А там за гацямі — зноў вёска,
А там за бродам — шчэ адна,
Ляцяць над пушчай пагалоскі,
Як змей паўзе да іх вайна.

Чакаць яе не выпадае,
Адбіцца сілаў нестае,
І рада скрушна вырашае,
Пакінуць роднішчы свае.

Сыходзіць у зямлю дайнавы,
І дальш, за вечную раку,
Каб князь вялікі ўзяў ласкава
Іх пад літоўскую руку.

І князь прыняў, не даў пагінуць,
І на мяжу Літвы паслаў,
Ён у нялёгкія часіны
Рубеж дзяржавы мацаваў.

Ён па мяжы, апорай ратнай
Сяліць судаваў загадаў,
Ён імі, нібы моцнай дратвай,
Славянаў землі прышываў.

І ўстаў паўскрай ліцвінскіх гоняў
Судаўскіх селішчаў ланцуг,
І ажылі на Панямонні
І кожны лес, і кожны луг...

Жывуць да сёння іх імёны,
Дзе ў назве вёскі, дзе адно
Ў гаворцы, мове іх штодзённай,
А дзе ў арнаменце відно.

Судобле, Судзілы, Судзішкі,
Судзіконты, Судзігайлы, потым зноў —
Судзімонты, Судзікішкі,
Ну і восем Суднікоў.

Судзілова, Судзінова,
Судавальня, потым зноў —
Судзівінды, Судзікова,
Ну і восем Суднікоў.

Дзе ліпяць, а дзе прапалі,
Дзе ў нябыт даўно сышлі,
Аж нарэшце прычакалі,
Аж нарэшце дажылі,

Каб нашчадак тых судаваў
У нетры памяці пранік
І пра беды, і пра славу
Напісаў вам Стась Суднік.

Мы жывыя ў гэтым свеце,
Будзем жывы пагатоў,
Бо стаяць жа на планеце
Тыя восем Суднікоў.

## Пра Міхайлу Гілігінавіча

*Міхайла Гілігінавіч — ваверскі баярын (Лідскі раён),*
*удзельнік Грунвальдскай бітвы.*
*Адзіны вядомы рыцар Лідскай харугвы,*
*які вярнуўся з-пад Грунвальда жывым.*
*У 1413 годзе заснаваў Ваверскую парафію*
*і пачаў будаваць у Ваверцы касцёл.*

Ціха, мірна ў Лідскім замку,
Ды наўкола грозна,
Сытна, цёпла ў Лідскім замку,
Ды вакол марозна.

Зноў кігічуць пудка чайкі
Над Варажскім морам,
Зноў збіраюцца крыжакі
Ды вялікім зборам.

Не паспела ўскаласіцца
Жыта на абшарах,
Не паспелі загаіцца
Раны на баярах,

Зноў вайна грукоча ў дзверы,
І няма спакою,
Зноў за дзіды і сякеры
Брацца талакою.

Ды краіна ўжо не тая,
І не тыя людзі,
І крыжакаў злая зграя
Болей іх не пудзіць.

Бо стаіць над стольнай Вільняй
Князь Вітаўт скалою,
І ад Жмудзі да Валыні
Грозна ўсталі воі.

Кіеў, Бранск, Смаленск, Чарнігаў —
Пад літоўскім сцягам,

Наўгародцы склалі ціха
Вітаўту прысягу.

Не кігічце ж вы там, чайкі,
Над Варажскім морам,
Не пужайце вы нас, чайкі,
Гібеллю і горам.

Як вам, чайкі, не лятаці
Над Літвы лясамі,
Так нас болей не спужаці
Чорнымі крыжамі.

***

Заклубіўся пыл далінай
Ды пад капытамі,
Што нясуць нам за навіну
Коннікі з мячамі?

Праз Вавёрку вершнік гоніць —
Меч над галавою,
Знак Літоўскае Пагоні
Ён нясе з сабою.

Да баярына Міхайлы
Панабеглі людзі:
— Божа, Божа! Што дзе стала?
— Божа, што дзе будзе?

Гілігінавіч-баярын
Выйшаў за вароты,
На высокі, гонкі явар
Кінуў зрок употай.

А той явар, як каменны, —
Ліст не варухнецца:
— Так і мне трымаць нязменна
За Вітаўта сэрца.

Збор быў рупны, збор быў споры
Почата ў дарогу,

І, з жалеза ўздзеўшы ўборы,
Шыхт трымаўся строга.

Плачуць жонкі, плачуць дзеці,
Плача ўся Вавёрка:
— Вы куды, куды ідзеце?
— Горка нам, ой, горка.

— Мы ідзём у замак Лідскі,
Дзе збіраюць вояў,
А пасля за свет няблізкі
Біцца з немчурою.

— Рана плакаць вам, матулі,
Рана плакаць, дзеці,
Бог магутны нас атуліць
Ад бяды і смерці.

— Мы ўсёй сілаю збяромся,
Каб было не мала,
Мы мячамі адаб'ёмся
Ад ліхой навалы.

***

Замак Лідскі, замак слаўны
Браму адчыняе,
Кашталян там пільна, спраўна
Вояў аглядае.

Пазбіраліся баяры
Ад двароў і весяў,
Грозны воблік грозных твараў
З-пад шаломаў свеціць.

На Гародню воі тыя
Рушылі паходам —
Конна шыхты баявыя,
Слугі на падводах.

І ў Гародні не стаялі,
Каб задоўга вельмі,

Неўзабаве ўжо ступалі
На чужыя землі.

Поле бітвы ля Дуброўны
Выбіралі самі,
Тут да бою кожны роўны,
А пасля — Бог з намі.

Пад харугваю з Пагоняй
Ліда ўся стаяла,
Хутка-хуценька зазвоняць
Тут мячы па сталі.

Бой пачаўся, цэнтр грукоча,
Крыжакі пруць валам,
Адступаць ніхто не хоча,
Толькі сілы мала.

Да баярына Якуба
Мчыць ганец ад князя:
— Цэнтр закрыць, бо будзе згуба,
Перамесяць з граззю!

І рванулі ў бой лідзяне —
Лёс на Божых вагах,
Меч двухвостры — вось твой шанец,
А яшчэ адвага.

Не хіснуліся тэўтоны,
Пруць далей таранам,
А ліцвінскія калоны,
Хто палёг, хто ў ранах.

Ад лідзян няма паловы,
Не хапіла долі,
Леглі буйныя галовы
На Грунвальдскім полі.

Ледзь-наледзьве выйшлі з бою,
Да ляска прастуюць,
Ну а там між рэдкіх хвояў
Зноў рады шыхтуюць.

Вітаўт князь узрос на войнах,
Славу знаў, паразы,
Ды заплаціць ён тэўтонам
За усё адразу.

Вось крыжакі ў табар лезуць,
Шыхту не трымаюць,
А ліцвіны з пералескаў
Поле заступаюць.

І як рынулі ў атаку
Грознымі шыхтамі,
Закруціліся крыжакі
На агні вужамі.

Сам магістр заўважыў гэта,
Рынуў на падмогу,
Ды ліцвін убачыў мэту,
Згледзеў перамогу.

Меў магістр даволі сілы,
А ліцвіны духу,
І глушылі, і валілі,
Церлі ў пацяруху.

Гілігінавіч Міхайла
Цэл, і жыў, і б'ецца,
Крыжакоў сякерай валіць
І мячом сячэцца.

Як з нябёс Святы Міхайла,
Ён тут Божай карай,
І нічога не трымала
Страшных тых udaраў.

Ззяюць вочы грознай іскрай,
Перуном з-пад хмараў,
Вылятае на магістра
Ваверскі баярын.

Што ж магістр магутны ў сечы
І бранёй пакрыты,

А Міхайла гахнуў мечам —
Падае забіты.

Грымнуў цяжка, бразнуў шолам,
Аб камень закрэсіў,
А Міхайла — тарчу з долу
Да сядла прывесіў.

І памчаўся ў бітву далей,
Не сказаўшы імя,
І пра вычын яго зналі
Толькі між сваімі.

Летапісцы ўпішуць хітра
Ў вечныя аналы,
Што забіў таго магістра
Нейкі вой удалы.

І застанецца вякамі,
Рыцар безымянным,
Толькі мы-то знаем з вамі,
Чый той вычын слаўны.

***

Бітва скончана цяжкая.
І вайна — за ёю.
Князь паволі адпускае
Да сядзібаў вояў.

І Міхайла наш прыехаў
У сваю Вавёрку,
Стаў для ўсёй радзіны ўцехай
Той хвілінай горкай,

Бо палегла надта многа
З ваверскай дружыны,
І глядзелі вельмі строга
На яго жанчыны.

Што ж жывым прыйшоў Міхайла
З той вайны цяжкое,

Богу дзякаваў нямала
Ён з нагоды тое.

І сказаў ён у Вавёрцы
Косцел будаваці,
Каб маглі там усе людцы
Бога шанаваці.

Як канец будоўлі бліжаў,
То тады памалу
Белу тарчу з чорным крыжам
Выцягнуў Міхайла.

Над дзвярыма ў тым касцёле
Добрымі цвікамі
Прыбівалі з Божай волі,
Каб яна вякамі

Тут вісела і казала
Злым і добрым людзям,
Што са злыднямі бывала
І што далей будзе.

***

Час сышоў. Няма Міхайлы.
І касцёл з гадамі,
Асядаў у дол памалу,
Абрастаў імхамі.

Крыж на тарчы з'ела сонца,
Тарча бляхай стала
І згубілася ў бясконцых
Войнах і навалах.

Не мінула ж, пэўна, нечых
Клапатлівых рук,
Высек засланку да печы
Ваверскі дзяцюк.

Часам здарыцца, сярдзіта,
Быццам незнарок

Тарча велькага магістра
Бразне аб гаршчок.

Загучыць тады заспалы,
Глухаваты звон,
Ды нікому пра Міхайлу
Не напомніць ён.

## Трыццаць шэсць гадзін

Памёр кароль. Віват кароль!
А нам што з гэтага ўсяго?
Нам кожны дзень — на раны соль
Ад гвалту подлага таго,

Што ў Любліне ўчынілі нам
Паны каронныя былі,
І як Падляшша з Украінай там
Нахабна ў Княства аднялі.

Не толькі землі, а і права
На шмат які дзяржаўны чын,
І мы ўжо — быццам не дзяржава
І быццам з радасці маўчым.

Ды ёсць яшчэ тут канцлер, Рада,
Ды ёсць яшчэ надзея тут,
Нас не схапіла ў кіпці здрада,
І пішам новы мы Статут.

Тут пан Валовіч — знаўца права,
І пан Сапега малады
Той абярэг сваёй дзяржавы
Стваралі многія гады.

Яны грунтоўна напісалі,
Ляглі артыкулы, як мур,
Пра Люблін нават не згадалі —
Далоў накінуты каптур.

«А пісар земскі...», ён павінен
Усё па-нашаму пісаць,

І ў гэтай думцы мы адзіны,
Нам да канца на тым стаяць.

Статут напісаны, і толькі
Павінен падпісаць кароль,
Ды не дапусціць прымас польскі,
Яго ў тым не малая роль.

Ды не дапусціць пан Замойскі
І разам іншыя паны,
Яны дадушаць нас па-свойску,
Бо сілай большыя яны.

Ды раптам вось памёр Баторы.
Палякі новага абраць
Рашылі самі вельмі скора.
На Княства ўвагі не звяртаць

Ужо прывыклі. Аж, панове,
Чакала вас няўвязка тут:
— Мы каралём прызнаем новым,
Хто нам зацвердзіць наш Статут.

Максімільяна падтрымаем,
Хоць Ваза ў Кракаве сядзіць,
Мы вам гульню тут паламаем,
Не будзеце з нас болей кпіць.

І на Сілезію пасольства
Ад Княства едзе, каб сказаць,
Што не пацерпім мы свавольства,
Пад дых каронным можам даць.

А Леў Сапега едзе ў Кракаў,
Віжоў стаўляе ўверх і ўніз,
Ён там злажыўся да атакі,
А герб ён мае з назвай «Ліс».

Максімільян пад Бычну рушыў,
На Польшчу з войскам ён ідзе,

Як Вільню хто чуць падварушыць,
То быць у Кракаве бядзе.

Ды слаба герцаг рыхтаваўся,
Разбіў яго Замойскі ўшчэнт,
Яшчэ і сам на міласць здаўся,
Такі на трон быў прэтэндэнт.

***

Ніхто больш Вазе не пагроза,
Ды ён аб тым не знае балазе,
З-пад Бычны па бітой дарозе
Ганец хвалебную рэляцыю вязе.

А побач жа, каб ведаць гэта,
Няўлоўна нешта мігаціць,
Літоўская там эстафета
На Кракаў бліскаўкай ляціць.

Ляціць пан Грынявіцкі,
Ляціць пан Секерыцкі,
Ляціць пан Шыдлоўскі,
Ляціць пан Гладоўскі,
Ліцвінская шляхта ляціць...

Ляціць пан Сярпінскі,
Ляціць пан Карпінскі,
Ляціць пан Мысліцкі,
Ляціць пан Савіцкі,
Ляціць Рымашэўскі,
Ляціць Мірашэўскі,
Ляціць Петрашэўскі,
Ляціць Фірановіч,
Ляціць Быліновіч,
Ліцвінская шляхта ляціць.

У Кракаў дапалі імкліва
З навінай жалобнай, як смерць,
Што бітва прайшла нешчасліва,
І часу ў запасе — ледзь-ледзь.

Потым стане вядома ўжо гэта,
Тады ж ніхто не мог шчэ знаць,
Як зможа літоўская эстафета
Ганца ад Замойскага перагнаць.

Расказваў пра тое ў той час не адзін,
Легенды ў народзе трывалі,
На трыццаць шэсць цэлых гадзін
Ліцвіны паляка тады абагналі.

Што ж, трыццаць шэсць поўных гадзін,
Сапега рашэнне прымае,
Ён, падканцлер, сягоння адзін
Тут за Княства, за ўсё вырашае.

Ён голаву ніжай схіляе
І вочы спускае на ніз,
На Вавель паволі ўступае,
А герб жа ён меў з назвай «Ліс».

Гаворыць, што Княства б здалося,
Што Жыгімонта маглі б падтрымаць,
Каб толькі нам нейк удалося
Вось гэты Статут падпісаць.

Ні прымас, ні Ваза яшчэ
Не знаюць той бітвы зыход,
Няпэўнасць іх точыць, пячэ,
Вакол неспакойны народ.

Падтрымка Літвы значыць многа,
Бо трон жа занадта шчэ слізкі,
А што іхняя ўжо перамога,
Не знаюць пакуль і ня блізка.

І падпісаў Жыгімонт той Статут,
І падаўся Сапега з палаца,
І спыніцца маглі б мы ўжо тут,
Каб на палякаў маглі спадзявацца.

Ды памятаў на Літве яшчэ кожны,
Як з каронай Вітаўта было,

Што нікому тут верыць не можна,
Каб зноў прахам усё не пайшло.

Пра ўсе хітрыкі гэтага свету
Сапега і ведаў, і знаў,
У літоўскую эстафету
Ён тут жа Статут перадаў.

Блішчыць на цёмным небе поўня,
Ляціць на Вільню пан Галоўня,
На небе зоркі, нібы дзіркі,
Ляціць на Вільню сам пан Цвірка,
Цямнее збоку горны краж,
Ляціць наперад пан Някраш.
Да грывы коніка прынік,
Ляціць імкліва пан Суднік.
Ляціць пан Пяткевіч.
Ляціць пан Станкевіч,
Ляціць пан Зубовіч,
Імчыцца пан Хоміч,
Ліцвінская шляхта ляціць...

Ляціць сам пан Дрозд,
А за ім пан Драздовіч,
Рэйт імкнецца наўпрост,
А за ім пан Пятровіч,
Ляціць пан Ранцэвіч,
Ляціць Баранцэвіч,
Ляціць Ярашэвіч,
Ляціць Тараевіч,
Ляціць Мазалеўскі,
Ляціць Васілеўскі,
Ліцвінская шляхта ляціць...

Ляціць пан Русецкі,
Ляціць і пан Крэпскі —
Ваяка някепскі.
Ляціць пан Ліпніцкі,
Ляціць пан Язвінскі,
Ляціць пан Лазоўскі,

Ляціць пан Лісоўскі,
Ляціць Грыгаровіч,
Ляціць Абрамовіч,
Ліцвінская шляхта ляціць...

А Берасця мінуўшы мур,
Імчыць наперад пан Татур.
На ветры трэплецца жупан,
Ляціць у Вільню пан Гурбан.
У ноч знікае чорнай галкай,
Ляціць праз цемру пан Жыгалка.
Тугі і пруткі, нібы венік,
Імчыцца спрытна пан Пражэнік,
Імчыць пан Матусевіч,
Імчыць пан Кубанкевіч,
Імчыць пан Марцінкевіч,
Ляціць пан Бяганскі,
Цішком па-цыганску
Імчыцца Акінчыц,
За ім Салавей,
Ляціць пан Машчынскі —
Дагнаць іх здалей.
Ліцвінская шляхта ляціць...

Пан Войніч[1] лёт той завяршае,
У Вільню стрыжам залятае
І ў канцылярыю: «Вось тут —
Каралём падпісаны Статут!»

Пасол Замойскага ж у Кракаў
Прыбыў з далёкае дарогі,
І прымас ледзьве не заплакаў
Не з радасці ад перамогі,

А з прыкрасці і лютай злосці,
Што як дзяцей іх правялі,
Што гэтак лоўка Яго Мосці
Статут на подпіс падняслі.

---

[1] У гавэндзе задзейнічаны ўсе прозвішчы, якія ўдалося ўспомніць, шляхты засценка Сейлавічы Нясвіжскага раёна.

Яшчэ б дзянёк, і ўжо ніколі
Яго ніхто б не падпісаў,
Было б ліцвінам тым даволі
Цялячых вольнасцяў і праў.

— Дзе той Статут? — узвіўся прымас, —
Знайсці, злавіць, назад адняць,
Каб з горада ніхто не вынес,
Сапегу тога пераняць.

Мільгаюць цені варты збройнай,
Шукаюць, мусіць, пяты кут...
А ў Вільні слынны пісар Война
Бярэ ад Войніча Статут.

Сядзіць Сапега, не шманае,
Над вежай месячык павіс,
Што зроблена ім, добра знае,
Бо меў жа герб пад назвай «Ліс»...

А нам гісторыю вось гэту
Дзед расказаў даўно адзін,
Пра тых ліцвінаў эстафету,
Пра трыццаць шэсць даўгіх гадзін.

Яно ж дык часта так бывала —
То ні граша, то аж алтын,
І ход гісторыі мянялі
Звычайных трыццаць шэсць гадзін.



# Алеся Чарнавокая

празаік. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Працавала рэдактарам. Адна з аўтараў кнігі «Вандроўкі па гарадах» (2018 г.). Друкавалася ў выданнях: «Маладосць», «ЛіМ», «Дзеяслоў», «Новы час», «Роднае слова» і інш.
Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Мая Беларусь

Мы з сястрой лупілі бульбу і размаўлялі пра стрыечнага брата, які меўся прыехаць заўтра з Растова. Калі мы былі зусім малыя, ён разам з маці некалькі дзён гасцяваў у нашай бабулі. Тады мы ўпершыню пакаштавалі чырвонай ікры і бясконца гулялі ў параход, мы з сястрой былі юнгамі, а Валодзя капітанам. І вось цяпер Валодзя-капітан ехаў да нас будаваць важны прамысловы аб'ект на чале брыгады мантажнікаў. Валодзя збіраўся спыніцца ў нас на пяць дзён, бо арганізацыя не аплочвала жытло, а ён толькі ўзяў крэдыт на новую Ладу. І, карацей, яму вельмі пашчасціла, што ён быў з намі знаёмы дваццаць з гакам гадоў.

Сястра любіла, калі прыязджалі госці, яна дапамагала гатаваць і прыбіраць, рабілася больш рухавай і спрытнай. Але цяпер яна выглядала стомленай і рана пайшла спаць — усё праз сваю дзіўную хваробу.

Раніцай я адна рабіла мачанку, адна сустракала Валодзю — бадзёрага, здаровага, спрытнага хлопца. Ён быў чарнявы, і ў яго цёмных вачах бегалі вясёлыя іскрынкі. Валодзя прывёз цукеркі, вышываны абрус і «Русский чай» у бляшанцы. Размаўляць з ім было проста, мы без праблем паразумеліся — быццам усе гэтыя дваццаць гадоў сапраўды трымаліся побач.

Пакуль госць уладкоўваўся ў сваім пакоі, сястра спала, а я чытала ёй новую кніжку — пераклад рамана з чэшскай мовы пра час Другой сусветнай вайны. Яна пакрысе прачыналася, і вось мы вячэралі ўжо разам, сястра была ў мілай сукенцы, з цікавасцю слухала расповеды Валодзі ды ўзгадвала розныя сямейныя легенды. Валодзева бабуля Вольга была роднай сястрой нашай бабулі Зіны. Абедзве яны нарадзіліся да вайны ў Расіі, і Зіна па размеркаванні прыехала працаваць у саюзную рэспубліку інжынерам. Вольга рана выйшла замуж і засталася ў родным горадзе, а вось яе дзеці раз'ехаліся па неабдымнай Расіі ў пошуках лепшага жыцця. Мы абмеркавалі розныя версіі знікнення прадзеда ў 50-я гады, гісторыю сямейнага дома, поспехі Валодзевых сваякоў і рэцэпт сапраўднага «Напалеона», які выдатна гатавала наша бабуля. Вечар атрымаўся вельмі ўтульны, і ўсе разышліся з добрым настроем.

Але па вачах сястры я бачыла, што наступным разам яна прачнецца не хутка. Ранкам мы з Валодзем збіраліся на працу — ён на будоўлю, я — у бібліятэку. Ён сказаў, што мая малодшая сястра вельмі прыгожая: у яе ільняныя валасы і вочы блакітныя, як азёры. І ледзь заўважны сум. І нейкая таямніца. Так, сястра дзівосная — пагадзілася я. Валодзя, натуральна, ведаў пра нашу праблему, але ў сям'і ніколі не рабілі з гэтага вялікай бяды. Лёс не перайначыш, як Бог дасць, так і будзе. І ўпотай мы спадзяваліся на цуд. Я была старэйшая за сястру на чатыры гады. Спачатку яна была гарэзлівай і бойкай, наша маленства было багатым на прыгоды, а тое, што здарылася пасля, магло нарэшце мінуць.

Калі я вярнулася, сястра спала. Bella addormentata nel bosco — так я называла ейную хваробу. Я ўключыла альбом нашага ўлюбёнага гурта, паспявала крыху бабуліны песні. Не той бабулі Зіны, што з Расіі, а бабы Лены, якая ўсё жыццё жыла ў Старым сяле, вырасціла двух сыноў і адну дачку, а таксама безліч бульбы, морквы, лёну і цукровых буракоў. Ад бабы Лены і дзеда Лявона мы ведалі нашу мову, а яшчэ, галоўныя арыенціры, азначаныя ў традыцыйнай культуры. Сястра дужа любіла бабу Лену і ўсю вясковую радню. Заўтра з Старога сяла павінна была прыехаць наша пляменніца разам з сяброўкай — здаваць сесію ў Інстытуце культуры. Я папярэдзіла пра гэта Валодзю, і ён вельмі нават зацікавіўся.

Наступны вечар таксама атрымаўся выдатны. Люба і Зося расказвалі пра вучобу і працу, частавалі ўсіх вясковымі прысмакамі. Разам з імі прыйшоў наш сябар-дудар, ён граў старыя песні, і Валодзя вельмі здзівіўся, бо ніколі раней не чуў беларускую дуду.

Наступныя дні прайшлі добра. Мы не замінаді адно аднаму, бо ў кватэры былі тры вялікія пакоі. У адным спала сястра, у другім жылі мы з дзяўчатамі, у трэцім — Валодзя. Ён жартаваў з Любай і Зосяй і, здаецца, зусім не стамляўся на працы. Дзяўчаты па чарзе рабілі бліны і пяклі пірагі, раней яны крыху бянтэжыліся, калі сястра засынала, але гэта даўно мінула, і цяпер мы часта збіраліся ў ейным пакоі. Сястра моцна спала — набіралася сіл, — яе далікатны твар быў спакойны, але скрозь сон яна дакладна чула нашу гаворку, і гэта было для яе вельмі важна.

Аднойчы Валодзя спытаўся, колькі дзён можа адпачываць сястра. Здаралася, што больш за тыдзень. Але кепска было не тое, што яна доўга спіць. Калі яна прачыналася, то магла забыцца на ўсё, што было раней. Тады мы пераглядалі сямейныя фотаздымкі, я распавядала нашы гісторыі, нагадвала падзеі з кніг, якія мы чыталі перш, чым сястра заснула. Лепш за ўсё яна пачувалася, калі ў той жа дзень прыходзілі сябры, ці прыязджаў нехта з вёскі. Тады яна хутка ўсё ўспаміналa і на нейкі час вярталася да сапраўднага жыцця.

Мы хадзілі да дзяўчат на спевы, разам выбіралі на рынку прысмакі, а калі ў мяне былі выходныя, то выпраўляліся ў невялікія вандроўкі. Часта гэтыя вандроўкі ладзілі нашы сваякі з Польшчы або Літвы. Сваякі любілі да нас прыязджаць, бо побач з сястрой — зычлівай, усмешлівай, нетаропкай, — заўсёды было добра і лёгка. Яны ўважліва размаўлялі з ёю, клапаціліся, каб ёй было камфортна, і мне здаецца, што гэтыя дні былі для сястры самыя лепшыя. Зрэшты, за час хваробы яна прызвычаілася да клопату і многія рэчы ўспрымала ўжо як належнае.

Але часам здаралася так, што сястра прачыналася, і ёй адымала мову. Яна не ўзгадвала нашы словы і пачынала размаўляць па-іншаму. Пасля яна бясконца хадзіла па крамах, набывала выпадковыя рэчы, глядзела серыялы па тэлебачанні і сядзела ў кафэ з аднакласніцамі, якія раптам знаходзіліся ў сецiве. Гэты перыяд быў вельмі складаны. Мне даводзілася бясконца на-

гадваць, угаворваць яе, як малое дзіця, каб яна не забылася, каб наступным разам прачнулася такой, як звычайна. Пра гэта Валодзю я не распавяла. Але, здаецца, ён не вельмі пераймаўся нашымі справамі, ахвотна дэгуставаў то клёцкі, то дранікі, і нават павесіў на маю просьбу новую паліцу ў пакоі.

Першымі ад'язджалі Люба і Зося, яны вярталіся ў вёску на выходныя, бо там заўсёды было безліч спраў. Валодзя збіраўся ў суботу і ранкам вырашыў сур'ёзна паразмаўляць. Ад гэтай размовы знікла ўсё святло і ўтульнасць, што былі раней. Але пачынаў ён з найлепшымі намерамі. Ён сказаў, што ніхто навокал не турбуецца пра мяне, я прысвячаю жыццё сястры і не думаю пра ўласную будучыню. Бо трэба ствараць сям'ю, набываць нармальную прафесію, сястра можа жыць на вёсцы, ёй там нават лепш (о, каб ён ведаў пра мясцовы ўзровень медычнай дапамогі!), у нас вялікая жылплошча, якую можна здаваць, а можна прадаць, і ён сам гатовы з гэтым дапамагчы.

Вялікая кватэра, якую мы атрымалі ў спадчыну ад бабы Зіны, заўсёды цікавіла сваякоў з Расіі. Бо прадзед, перш чым знікнуць, нібыта дапамог дачцэ займець добрае жытло. Як гэта магло адбыцца ў савецкі час, я ўяўляла вельмі цьмяна, таму ніколі не разумела, што канкрэтна мы вінныя Валодзевым сваякам. Я зрабіла выгляд, што не звярнула ўвагі, але кватэра была той стрэмкай, якая вельмі мяне раззлавала.

Валодзя меркаваў, што ў нас цудоўны этнаграфічны куток, але мы жывем як фрыкі, і трэба выбірацца з гэтага, рабіцца больш практычнымі, зарабляць грошы, і я, разумная дзяўчына, магу гэта зрабіць. Кнігі, спевы ды розныя саламяныя павукі не вельмі і дапамагаюць сястры. Ён нават запрасіў мяне на працу ў сваю фірму, бо там патрэбны адказныя і сумленныя людзі. Я ветліва падзякавала і сказала, што падумаю, але думаць пра гэта, вядома, не збіралася.

— Мой лад жыцця цяпер ёсць адзіным магчымым, — патлумачыла я. — Бо раблю для сястры ўсё, што ў маіх сілах. І гэта патрэбна, каб яна мела шанец на будучыню.

— Але чаму ейная будучыня мае быць менавіта такой, як ты ўяўляеш? — спытаўся Валодзя.

— Яна сама можа выбраць свой шлях, калі ачуняе. Але нельга ісці наперад, калі не памятаеш, што ў цябе за плячыма.

— Па-мойму, не варта абсалютызаваць, — пасміхнуўся брат.

Размова была нібыта спакойная, напрыканцы Валодзя папрасіў прабачэння, што быў, магчыма, крыху рэзкі, і сказаў, што будзе чакаць мяне і без праблем дамовіцца наконт працы. Новыя людзі і добрыя грошы, на яго думку, — гэта было б выдатна.

У падзяку ён пакінуў невялікі канверт і паехаў на вакзал, а я адразу пайшла ў пакой да сястры.

Нашы саматканыя паясы, кнігі, бабуліны рушнікі, старыя абразы — усё гэта для Валодзі было мізэрным і не вартым увагі. Ён так і застаўся для нас чужым,

і яго абыякавы позірк мяне балюча раніў. Але галоўнае — мая сястра. Яна спала, як зачараваная князёўна, ціха дыхала, і на шчацэ лёгка ўздымалася светлая пасма валасоў. Як я магу яе пакінуць дзеля грошай, працы і новых людзей? Як я магу з'ехаць ад яе? Я села на ложак і ўзяла яе цёплую руку. Я ніколі не пакіну цябе. Мы будзем разам, і я ведаю, што аднойчы ты пераможаш сон і назаўсёды вызвалішся з гэтага здранцвення. І кожны новы дзень будзе нашым, і нашым будзе новае жыццё. І не патрэбны нейкія дзіўныя ідэі, бо мы маем усё самае галоўнае.

Шчокі ў сястры крыху паружавелі — а значыць, хутка яна прачнецца, мы будзем сустракаць Любу і Зосю, жартаваць і разам гуляць ля рэчкі. І выдатна абыдземся без чужых заўваг і парадаў. Нам застаецца пачакаць зусім крыху — мая сястра, мая князёўна, мая надзея, маё жыццё...

*Травень 2020*



# Сяргей Блінкоўскі

празаік. Працуе лесарубам у Круговіцкім лясніцтве. Аўтар публікацый у раёнцы «Ганцавіцкі час» і «Краязнаўчай газеце». Узнагароджаны Асацыяцыяй выдаўцоў рэгіянальнай прэсы «Аб'яднаныя масмедыі» дыпломам за першае месца ў намінацыі «Гісторыя і краязнаўства» (2016 г.). Нарадзіўся ў 1983 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы на Ганцаўшчыне. Жыве ў Вялікіх Круговічах.

# Перад прысягай...

Спякотны летні дзень. Перон чыгуначнай станцыі. Сотні featureснага люду снуюць туды-сюды. Хтосьці выходзіць з цягніка, што прыйшоў з Лунінца, а хтосьці наадварот ад'язджае, кіруючыся ў Баранавічы. Для большасці звычайны летні дзень, але не для мяне...

Я хуценька зайшоў у вагон, спрабуючы ўцячы, схавацца ад тых эмоцый, што мяне перапаўняюць. Балюча глядзець на слёзы маці і хроснай, якія праводзяць мяне ў войска. Здаецца, сам вось-вось заплачу, гледзячы на іх, але мне нельга паказваць сваіх эмоцый, я мушу быць моцным. Нават нягледзячы на тое, што самому да горла падступіў камяк нейкай роспачы і безвыходнасці.

Праходжу да сярэдзіны вагона, дзе сядзяць такія ж, як і я, небаракі, з якімі мяне звёў лёс. Саджуся побач з імі. І каб неяк заглушыць, задушыць пачуцці, што гнятуць маю душу, пачынаю размову першым:

— Ну, што, хлопцы, давайце знаёміцца. Мяне клічуць Алесем, — у маім голасе адчуваецца нейкая збянтэжанасць і няўпэўненасць, схаваць якія ў мяне дрэнна атрымліваецца.

— Будем знакомы, а меня зовут Сашей, — першым пацiснуў маю руку хударлявы і смуглявы з твару хлопец.

Пазнаёміліся. Высветлілася, што ўсе чацвёра гарадскія, і толькі я адзін вясковы. Працягваць размову далей няма аніякага жадання, бо душу перапаўняе нясцерпны боль расстання з маімі роднымі і блізкімі. Гэты цягнік нясе мяне ў маю невядомую будучыню, пазбегнуць якой не атрымаецца. Што нас чакае бліжэйшым часам і як з гэтымі новымі ўмовамі звыкнуцца, абжыцца?!

Колы цягніка манатонна грукалі, а нашыя сэрцы ўсё аніяк не маглі прызвычаіцца біцца ў такт іхняму размеранаму няспешнаму бегу. Усё ж нас чакае новае невядомае, і таму не надта спакойнае, жыццё. Усе мы ўжо неаднаразова чулі расповеды бацькоў і старэйшых братоў, што аддалі свой доўг Радзіме, пра дзедаўшчыну, і таму нікому не хацелася ў хуткім часе з гэтым сутыкнуцца асабіста. Прынамсі, я дык дакладна не спяшаўся з усім гэтым знаёміцца, але і выдатна разумеў, што нікуды не ўцячэш, неяк давядзецца даваць усяму гэтаму рады.

Яшчэ менш як год таму я аніяк не прагнуў з усім гэтым сутыкнуцца і, можна сказаць, нават марыў хоць як-небудзь «адкасіць» ад войска. Але дзесьці паўгода таму ўсё кардынальным чынам змянілася. Дакладней, усё змяніла знаёмства з маім стрыечным дзядзькам па кудзелі. Ён быў вайсковым лекарам у Расеі і паспеў паўдзельнічаць у чачэнскай кампаніі. Усё ў адно імгненне перавярнулася дагары нагамі. Мне нават захацелася выканаць свой грамадзянскі абавязак, каб хоць крыху быць падобным да яго. Захацелася стаць сапраўдным мужчынам, прынамсі, так значэнне гэтага слова разумела большасць грамадзян нашай краіны.

Вось толькі цяпер я чамусьці не даваў веры таму, што войска зробіць з мяне мужчыну.

Краявіды за вакном хутка змяняліся, прыспешваючы час нашага прыбыцця ў пункт прызначэння. Вось ужо і Баранавічы! Горад, у якім месціўся вайсковы гарнізон, дзе нам належала служыць наступныя год з паловай. Менавіта тут наш новы дом на гэты час. Разам з набліжэннем да нашага новага дома раслі і ўбіраліся ў сілу мае хваляванні, пачало з'яўляцца непераадольнае жаданне таго, каб усё гэта ўрэшце рэшт хутчэй скончылася. Каб хутчэй скончыліся гэтая нявызначанасць і трывога, бо надалей трываць усе гэтыя эмоцыі не было ўжо аніякіх сілаў.

— Ребята, за мной на выход! Не отстаём! — скамандаваў маёр Нармуратаў, афіцэр, які і суправаджаў нас ад ваенкамата да месца нашай службы. Гэта каржакаваты мужчына неславянскай знешнасці, але які выдатна валодаў расейскай мовай, і наш камандзір на наступныя тры тыдні.

І мы неахвотна папляліся за ім услед. Ад сёння мы ўжо не цывільныя, а вайсковыя людзі, што мусяць падпарадкоўвацца загадам старэйшых па званні. Свабоднае, звычайнае жыццё засталося недзе там сярод звыклых для майго вока краявідаў роднай вёскі, там мае блізкія і родныя, там мой вольны прастор. А тут?..

Ні на прыпынку, ні ў аўтобусе ніхто не звяртаў на нас увагі, ва ўсіх сваё жыццё, свае паўсядзённыя клопаты. А ў нас што?! А ў нас абавязак перад Радзімай, якую мы павінны бараніць. Што праўда, сябе ў ролі абаронцы Айчыны я неяк слаба ўяўляў.

Ну, вось мы амаль і на месцы, яшчэ некалькі сот крокаў!.. А там?! Халера, а што там страшна нават і падумаць. Іду, а ногі нібы ватныя...

Вось і белы бетонны мур, толькі паўзверх яго бракуе калючага дроту, а так вось яно месца майго зняволення! А ў чым мая віна?! Чым я парушыў закон?! Здаецца, нічым. Хіба толькі тым, што нарадзіўся мужчынам. Але нікуды не дзенешся, іду паслухмяна, іду, нібы баран на бойню!

Вось і дзверы КПП адчыніліся перад намі, каб потым зачыніцца і без дазволу за іх ні кроку.

Сэрца нібы ўжо і стамілася біцца ад гэтага шалёнага хвалявання. Яно замерла паціху, перапампоўваючы кроў па артэрыях і венах майго арганізма, і ўсё таму, што іншага выйсця няма, трэба працягваць неяк жыць. Думкі і эмоцыі таксама быццам кудысьці зніклі. А што засталося? Засталося нейкае непрыемнае, прыгнятаючае пачуццё бездапаможнасці.

Ужо перад сталоўкай, куды нас павялі абедаць і атрымаць вайсковае абмундзіраванне, бо якраз насупраць ганка сталоўкі знаходзіліся склады вайсковай амуніцыі, я ўбачыў знаёмы твар. Няўжо! Не можа быць! Вачам сваім не даю веры! Побач з дзвярыма аднаго са складоў стаяў ніхто іншы як мой аднавяскоўец, які год таму пайшоў у войска.

— Дзіма?! Няўжо гэта ты?! — са здзіўленнем і радасцю ў голасе спытаў я, усё яшчэ не даючы веры сваім вачам.

— Да, это я! А я уже думал тебя не дождусь, чтобы встретить! — мы па-сяброўску павіталіся моцным поціскам рук, нібы заўсёды былі сябрамі. — Мать

писала, что тебя призывают в мою часть. Вот я с полигона и постарался вырваться сюда за продуктами, чтобы, если повезёт, и тебя встретить. Вот, как видишь, повезло! Встретились!

Маё сэрца зноў ажыло. Дык значыць, я тут буду не адзін, хоць нехта будзе знаёмы з майго мінулага. Вось добра было б, каб мы яшчэ і ў адной роце разам служылі! Ну, хоць нейкая палёгка. На душы адразу ж палягчэла. Мы літаральна перакінуліся з Дзімам некалькімі словамі, як яго паклікаў прапаршчык.

— Батя, я сейчас! Ну, все, мне пора. Еще встретимся, мы скоро на учения уезжаем! Не робей. Все будет хорошо! До встречи! — Дзіма працягнуў мне руку на развітанне.

І вось ён знік! А я застаўся, каб паволі пераўвасабляцца ў жаўнера і адчуць смак вайсковай кухні. Спачатку нас завялі ў сталоўку. Дзіўна неяк гучыць «завялі», «загадалі» зрабіць тое ці іншае — выглядае так, што мы, нібы неразумныя дзеці ў дзіцячым садку, вымушаныя слухацца дарослых і рабіць так, як нам кажуць, або з намі здарыцца нешта дрэннае. Дзіўна і нязвыкла, калі ты ўжо нічога сам не вырашаеш, і за цябе цяпер вырашаюць іншыя, а твой абавязак паслухмяна выконваць тое, што табе загадваюць, не задаючы пры гэтым лішніх пытанняў. Так будзе лепш для цябе самога.

Сталоўка вялікая, светлая. Столікі стаяць, як жаўнеры ў шыхце, толькі замест кіцеля на іх цырата, зусім як дома на абедзенным стале. А вось замест звыклых крэслаў драўляныя лавы на металічнай аснове, уласна як і самі сталы. Сталоўку ад раздачы аддзяляла шырма. Пах здаецца нішто сабе, мяркуючы па ім і абед павінен быць уежны. Бяром алюмініевыя падносы і такія ж лыжкі на ўскрайку стала раздачы. І ўперад па смакоцце! Суп кухар налівае зноў жа ў алюмініевыя міскі, а кашу накладае ў алюмініевыя талеркі. Вось толькі кубкі з гарбатай пластыкавыя.

Ну, самы час пакаштаваць вайсковыя харчы. Суп нейкі крыху дзіўны. Не ведаю, як яго і ахарактарызаваць: мутная вадкасць з некалькімі бульбінамі і агромністы кавалак сала з выразнай свіной шчацінай. Вадкасць нішто сабе, есці нібыта можна. Вось толькі ці забяспечыць ён мяне неабходнымі для маладога арганізма калорыямі — вялікае пытанне. Сала ж я пакаштаваць не рызыкнуў... На другое — грэцкая каша з тушонкай, я дык з дзяцінства не любіў гэтай кашы, вельмі ж мне недаспадобы ейны пах. Але разумею, трэба неяк яе пастарацца запіхаць сабе ў рот, бо застануся галодным. Які з мяне тады ваяка на галодны страўнік. Як ні дзіўна, але не так ужо і брыдка, есці можна. Запіваю ўсё гарбатай. Ну што, можна крыху паваяваць.

Падсілкаваліся! Цяпер самы час змяніць цывільнае адзенне на вайсковую гімнасцёрку і кірзавыя боты. Здаецца, не так ужо і блага старшына падабраў мой вайсковы гарнітур, проста на «выдатна»! Кіцель як па мне шыты, ды і боты, здаецца, павінны быць у самы раз. Вось толькі замест шкарпэтак анучы! Слаба ўяўляю, як іх можна насіць?! Што праўда, для мяне гэта не дзіва: не раз бачыў, як бацька іх матае на нагу паверх шкарпэтак, каб узімку цяплей было.

Але сам ніколі іх не матаў і не хадзіў у іх. Таму мне належыць высветліць, наколькі гэта зручна насіць іх штодзень. Цяпер кіруемся ў казарму, каб змяніць цывільнае жыццё на вайсковае.

Толькі адчыніліся дзверы казармы, як у нос б'е моцны пах хлоркі. З парога нас вітае голас днявальнага, што стаіць на невялікім узвышэнні побач з нейкаю камодаю:

— Дежурный по роте на выход! — гэта як своеасаблівы сігнал дзяжурнаму, так і іншым жыхарам гэтага дома, што ў казарму зайшоў нехта са сваіх і можна быць спакойным. А вось калі гучыць іншая каманда «смирно» дык час непакоіцца: гэта або прыйшоў гаспадар дома, або звалілася нейкая «шышка» куды большая за мясцовага гаспадара.

З дзвярэй пакоя, што месціўся з левага боку ад увахода, выйшаў дзяжурны па роце сяржант. Праз нейкі час я даведаюся, што ўзвышэнне, на якім стаіць днявальны, называецца тумбачка, а пакой, з якога выйшаў сяржант, называецца Ленінскім пакоем. Або ў прастамоўі «Ленінка»! Менавіта там будуць праходзіць заняткі асабовага складу. Там жа мы будзем пісаць так званыя «лісты з-пад шыбеніцы», або «письма из горящего танка», што даволі часта пісалі хлопцы або сваім сябрам, або каханым дзяўчатам, нават абпальваючы краі паперы запальнічкаю, каб выглядала больш праўдзіва. Я дык пісаў хутчэй «лісты з-пад шыбеніцы», хоць і не ўзгадваў гэтага ў сваіх пасланнях, але па маральным самаадчуванні — гэта было менавіта так. Адзіная розніца — вешаць мяне, здаецца, ніхто пакуль не збіраецца.

Ну што, час пераўвасаблення! Сяржанты вучаць нас намотваць анучы і падшываць каўнерыкі. І тое, і іншае ў мяне атрымліваецца адразу ж, нават самому неяк дзіўна, што ўсё так лёгка даецца. У хлопцаў наадварот: нічога аніяк не атрымліваецца, асабліва намотваць анучы на нагу. Таму сяржант загадвае мне працягнуць навучанне. Я разоў тры ці чатыры паказваў хлопцам на ўласным прыкладзе, як гэта робіцца. Нібыта і ў іх гэтая навука збольшага засвоілася.

З падшываннем каўнерыка таксама ўсё атрымалася, што, праўда, не так гладка, як з анучамі. Іголкай пракалоў палец і на бялюткай падшыве з'явіліся дзве маленькія кроплі крыві — вось і ўсё. І таму сяржант, спраўдзіўшы маю работу, застаецца задаволены вынікам. У маіх землякоў і тут не ўсё атрымліваецца з першага разу, сяржант некалькі разоў аддзіраў падшыву ад каўнерыка і прымушаў паўтарыць работу наноў.

Праўда, быў не дужа прыемны момант: сяржанты забралі ў мяне кавалак белай тканіны, якую я ўзяў з дому на падшыву.

— Она тебе не понадобится, вам молодым выдают готовую, вот ей и пользуйся. А нам старослужащим необходима, — патлумачыў сваё рашэнне сяржант.

Мяне гэтае тлумачэнне сяржанта не надта задаволіла, але што я магу зрабіць — я ж шэраговец, а ён мой непасрэдны камандзір, цар і бог у адной асобе. Таму давялося, сціснуўшы зубы, стрываць гэтую несправядлівасць, а на душы застаўся прыкры асадак. Апроч кавалка тканіны, сяржанты прыватызавалі

і невялікі перакус, які мне сабрала маці ў дарогу — маўляў, невядома, калі вас там карміць будуць, дык з хлопцамі перакусіш. Праўда, рашэнне прыватызаваць маю «сабойку» сяржант нават не палічыў патрэбным неяк патлумачыць, забраў ды і ўсё, няма пра што дыскутаваць. Гэтае ягонае рашэнне я добра зразумеў, яны хатняй ежы даўно не елі, а хочацца ў войску нечага смачнага. Таму гэта мяне не кранула за жывое, чаму б і не падзяліцца, я дык яшчэ сёння еў хатнія прысмакі, а яны, мабыць, нечага такога даўно не бачылі.

Цывільнае адзенне мы здалі старшыне на часовае захаванне, а менавіта — да дня прысягі, калі да нас прыедуць родныя і блізкія, якім мы ўсё гэта потым аддамо.

Не паспелі мы прымерыць вайсковы гарнітур, як сяржанты нас пагналі на пляц вучыцца выконваць правільна некаторыя каманды і хадзіць страявым крокам. Сонца ўжо павярнула на захад і пачало пацiху спускацца долу, першы дзень майго знаходжання ў войску спакваля пачаў набліжацца да свайго завяршэння.

Пасля вячэры, памыўшыся і пачысціўшы зубы, думаў крыху адпачыць ад усяго гэтага вайсковага клопату, тым больш, што перад тым, як выправіцца ва ўмывальнік, я праўдзіў чысціню сваёй падшывы. Здаецца чыстая, аддзіраць і падшываць іншым бокам няма патрэбы. Але якім было маё здзіўленне, калі, вярнуўшыся з умывальніка, я знайшоў сваю падшыву аддзёртую. Вось табе і маеш! Хоць і чыстая, але будзь добрым падшывацца разам з усімі наноў.

Таксама мяне вельмі здзівіла, што нашае войска самае палітызаванае, бо кожны вечар увесь асабовы склад, што не знаходзіцца ў нарадзе, абавязаны глядзець вечаровую перадачу «Панарама». Кожны жаўнер павінен добра разбірацца як у знешнім, так і ва ўнутраным палітычным становішчы краіны!

Што праўда, першыя некалькі дзён у нашай казарме тэлевізара нават не было! Але ж гэта нястрашна — прагляд абавязковы!!! Тое, што няма тэлевізара, — гэта дробязь! Навіны можна паглядзець і на пустой сцяне казармы, перад якой усе, падпарадкуючыся загаду сяржантаў, расселіся на сваіх зэдліках. Мабыць, па сродках усеагульнай тэлепатыі мы мусім правільна і слушна счытаць пасыл нашых дзяржаўных СМІ.

Трыццаць хвілін глядзення ў пустую сцяну вельмі бадзёрыць і напаўняе нас станоўчым зарадам патрыятызму. Бо ў тым, што мы не маем тэлевізара, вінаватыя ворагі нашага народа!!! Ну, а хто яшчэ?! Не сяржанты ж ці афіцэры нашага гарнізона, яны ж тут не прычым. Яны ўсё робяць для таго, каб жаўнеры ведалі, што адбываецца ў свеце і ў нашай любай краіне. Нават ладзяць для нас такія тэлепатычныя сеансы. Не паверыце, падчас такога прагляду навінаў нават у прыбіральню па патрэбе зусім не хочацца. Вось дык сіла беларускай вайсковай тэлепатыі: у порткі можна накласці толькі пры выглядзе ворага, але не пры абавязковым праглядзе навін!

Пасля вельмі пазнавальнага прагляду навін — вечаровы шпацыр, ну, вядома ж, шыхтам і з песняй, словы якой вучым на хаду. Толькі пры такім вучэнні

тэксту забываемся ісці крок у крок, балазе падчас такога шпацыру хоць ногі засталіся цэлыя, адзіная нязручнасць — з'явіліся мазалі!

Так, тут даводзіцца забыцца, што ты самадастатковая асоба, ці проста ЧАЛАВЕК. Табе ў галаву дзень за днём убіваюць, што ты цяпер усяго толькі шрубка, частка цэльнага зладжанага механізму. Ні больш, ні менш. Вось толькі самому вельмі цяжка да ўсяго гэтага прызвычаіцца і забыцца на сябе і свае ўласныя патрэбы. Усе перамяшчэнні па тэрыторыі гарнізона і па-за ёй — выключна шыхтам.

Захмялелыя водарам вечаровага горада, а дакладней, невыносным смуродам, што прыносіў вецер з мясцовага сметніку, вяртаемся ў казарму! Ну вось, нарэшце першы дзень майго вайсковага жыцця завершаны, самы час забыцца маладым сном. Але, трасца, і тут не ўсё так проста!!! За час, пакуль гарыць запалка, трэба паспець раздзецца і правільна скласці рэчы! А інакш зноў адзяемся, але таксама за той жа час, пакуль гарыць запалка! І так некалькі разоў, эмоцыі перапаўняюць — не надта станоўчыя! Мы ўсе шчыра ўдзячныя сяржантам за навуку!!!

Ну, нарэшце доўгачаканая каманда «Адбой!». Усю казарму густа напаўняе пах потных ануч, і ў гэтым п'янкім, задушлівым водары казармы я неўзабаве правальваюся ў бяздонне юнацкага сну.

Здаецца, толькі кагадзе заплюшчыў вочы, як чуецца ўсімі ненавіджоная каманда «Под'ём!». Ускокваем са сваіх ложкаў і пачынаем хуценька адзявацца і прыводзіць сябе і свой ложак у адпаведны выгляд. Але і тут ёсць падводныя камяні: мала правільна заслаць ложак — трэба выраўняць палоскі на коўдры пад нітку, а менавіта ўсе палоскі на ўсіх ложках павінны зліцца ў адну адзіную паласу. Ну, здаецца, з горам папалам неяк справіліся з гэтай задачай! Але зноў жа і тут яшчэ не ўсё: трэба з дапамогаю зэдліка і ўласнага тэпцяадбіць канцікі на коўдры, ды такія, каб аб іх палец ледзь не парэзаць! Вайсковая выпраўка ўва ўсім — гэта перадусім!!! На ўсё гэта змарнавалі дзесьці блізу гадзіны, але гэта ў першы раз, потым на ўсё гэта спатрэбіцца ўсяго хвілін пятнаццаць.

Мне асабіста шэнціць: правесці ўсю гэтую працэдуру на першым ярусе ложка значна прасцей, чымся на другім. Адзіная нязручнасць пры камандзе «Под'ём!» своечасова ўнікаць скачкоў таварышаў з верхняга яруса, або ёсць небяспека быць асядланым!

Пасля сняданку ранішняя паверка — сяржанты спраўджваюць твой знешні выгляд. А менавіта, ці добра падшыты каўнерык, ці да бляску начышчаныя боты, і нарэшце, наяўнасць у цябе на твары шчаціння. Толькі ў войску я падобраму пачаў зайздросціць тым, чый твар да войска не спазнаў ляза! Я дык проста праклінаў штодзённую неабходнасць галення! Таму для сябе цвёрда вырашыў, што пасля гэтай школы мужнасці па вяртанні дамоў абавязкова адпушчу бараду, каб толькі забыцца на гэтую штодзённую экзекуцыю.

Увесь дзень на пляцы або на турніках на летняй спёцы. Ад нязвычкі некаторыя проста пачынаюць страчваць прытомнасць, таму заняткі шыхтавай пад-

рыхтоўкі пераносяць у цень дрэваў. Час ад часу даводзіцца па-новаму намотваць анучы: ад заняткаў страявой яны перыядычна збіваюцца. Некаторыя, каб спрасціць сабе жыццё, запраўляюць анучы ў боты ў выглядзе парашута, але ў выніку расціраюць ногі ў кроў, пасля чаго хадзіць у ботах робіцца папросту немагчыма. Пакуль раны не загояцца, гэтыя хітруны на нейкі час носяць выключна тэпці і ад страявой падрыхтоўкі часова вызваляюцца.

Страявая падрыхтоўка мне не надта даецца, асабліва павароты. Праз гэтую маю няўклюднасць вымушаная пакутаваць цэлая рота. Пакуль сяржант мяне ганяў па намаляваным на асфальце квадраце, мае таварышы былі вымушаныя па загадзе таго ж сяржанта замерці ў страявым кроку з выцягнутаю нагою. Пры гэтым, упікаючы мяне, што праз мяне цэлая рота будзе стаяць так, пакуль я не навучуся хадзіць. А маіх таварышаў тым самым нацкоўваючы на мяне:

— Из-за Алеся вы все будете страдать! Помните, в армии один за всех и все за одного! Только так и никак иначе! — Сяржант пры гэтым нават, здаецца, атрымлівае маральнае задавальненне ад таго, што ў мяне хоць нешта не атрымліваецца.

Пасля такой трэніроўкі па вяртанні ў казарму я быў упэўнены, што таварышы мне адпомсцяць! Але вялікі дзякуй ім, што яны паставіліся да гэтага з зразуменнем і даравалі мне гэтую правіну. Тым самым урок быў вывучаны на «выдатна»: праз маю нядбайнасць, або неабачлівасць могуць пацярпець мае таварышы па зброі! Таму на будучае я стараўся ўсяляк пазбягаць такіх вось сітуацый.

З першага дня перабывання ў так званым каранціне, гэта тры тыдні перад прысягай, нам забаранялася піць звычайную ваду з-пад крана. Пры гэтым тлумачылі гэткую забарону тым, каб не ўзнікла дызентэрыя. Піць жа дазвалялася выключна адвар са святаянніку. Сяржанты ў любы момант маглі запатрабаваць біклажку для таго, каб спраўдзіць, ці сапраўды ў цябе там адвар. Калі ж раптам у каго будзе выяўлена звычайная вада, дык тры нарады па-за чаргой таму гарантаваныя. Вядома ж, некаторым хітрунам пашэнціла атрымаць узнагароду ў выглядзе трох нарадаў. Але ўжо потым, пачысціўшы прыбіральню, яны не прагнулі такіх узнагарод!

А тым часам сярод хлопцаў папаўзлі чуткі, што такім чынам нас пазбаўляюць сэксуальнага жадання, і што, нібыта, у гэты адвар дабаўлены бром, які і аслабляе лібіда мужчын. Так гэта ці не, сказаць дакладна не магу, магчыма, проста на нас так паўплываў стрэс, які кожны адчуў ад рэальнага пазбаўлення волі. Але адзінае магу сказаць дакладна: усялякае жаданне знікла, нават раніцою, калі да прызыву ў войска мой «хлопец» стаяў, як па камандзе «Зважай!», дык цяпер ён увесь час спаў. І такая ж сітуацыя назіралася ўва ўсіх без выключэння. Здавалася, што з нас зрабілі еўнухаў, а не сапраўдных мужчын!

Усё стабілізавалася і вярнулася ў звычайнае рэчышча толькі пасля таго, як мы з каранціну былі размеркаваныя па дывізіёнах, дзе мы пілі ўжо звычайную ваду! Ну, дзякуй богу, што гэтая кастрацыя працягвалася ўсяго толькі месяц! А інакш з'явілася б сапраўдная рызыка па вяртанні да цывільнага жыцця перастаць быць мужыком!

З першых дзён да мяне пачалі пільна прыглядацца не толькі хлопцы, з якімі мне давядзецца служыць, але і сяржанты. Я сказаў бы, асабліва сяржанты, а ўсё праз маю адметнасць. Вы спытаеце, што ж за адметнасць? Ды нічога асаблівага: проста ў паўсядзённым жыцці я карыстаўся выключна беларускай мовай. А беларускае войска, як ні дзіўна гэта гучыць, глядзіць на такіх людзей з падазрэннем. Ці проста з выключнай цікавасцю: што гэта за фрык такі, што ў Беларусі адважваецца размаўляць па-беларуску. Мабыць, у яго з галавою не ўсё ў парадку?! Таму мне спатрэбілася вельмі шмат цярпення і тактоўнасці, каб спакойна адказваць на іхнія пытанні кшталту:

— Почему ты разговариваешь по-белорусски? Почему ты решил начать разговаривать на этом языке? У тебя, наверное, родители учителя белорусского?

І шмат іншых пытанняў, напрыклад, як тое ці іншае слова перакладаецца на беларускую.

Вы проста не ўяўляеце, як гэта быць белай варонай у войску, колькі патрэбна сіл і цярпення, каб вытрымаць усё гэта з годнасцю і стрываць кпіны, а часам і абразы, скіраваныя ў твой адрас.

Таму літаральна з першых дзён у мяне з'явілася мянушка — беларус! Гучыць нават дзіўна — беларус! І гэты самы беларус у беларускім войску не павінен размаўляць па-беларуску, калі не хоча надзвычайнай увагі да сваёй простай асобы. Як правіла, нават простая трасянка тут не вітаецца. А таму ўсе пачынаюць карыстацца ў паўсядзённым жыцці расейскай і не толькі ў размове з афіцэрамі ці прапаршчыкамі, але і міжсобку. А я адзін — недарэчнае выключэнне з гэтага расейскамоўнага войска — упарта не жадаў пераходзіць на гэтую расейскую. Ёю я на дзіва добра валодаў на той час, і ўсё дзякуючы маёй школьнай настаўніцы рускай мовы і літаратуры. Але я не мог пастуліцца дадзеным сабе самому слову дзесьці год таму, што буду камунікаваць у сваім жыцці выключна па-беларуску.

Дзесьці праз тыдзень майго знаходжання ў войску здарыўся даволі дзіўны выпадак, я б сказаў, нават падазроны. Патлумачу чаму.

Па вяртанні ў казарму з чарговых заняткаў страявой літаральна на парозе мяне сустрэў незнаёмы мне жаўнер і спытаў:

— Алесь?

Я адказаў:

— Так.

— Не могли бы мы пройти в «Ленинку» и спокойно поговорить, чтобы нам никто не помешал? — пацікавіўся незнаёмец.

— Так, вядома, хадзем, — здзіўлены такой прапановай, пагадзіўся я.

— Мяне завуць Захарам, — прадставіўся незнаёмец пасля таго, як мы зайшлі ў Ленінскі пакой, на чыстай беларускай мове, што яшчэ больш мяне здзівіла і, вядома ж, зацікавіла.

— Вельмі прыемна пазнаёміцца. Мяне ты ўжо ведаеш, — адказаў я.

Пасля таго, як мы зайшлі ў пакой, неяк інстынктыўна занялі цікавыя месцы ў прасторы — нібы выкладчык і студэнт. Захар сеў на ўскраек стала, што стаяў на своеасаблівым подыуме, а я абапёрся рукою аб стол, што стаяў ля вакна. І адразу ж пачалася даволі дзіўная размова.

— Я цябе бачыў у Менску на плошчы падчас пратэстаў, — рэзюмаваў мой суразмоўца.

— Гэтага не можа быць! — запярэчыў вельмі здзіўлены тэмай распачатай размовы.

— Чаму? Я ўпэўнены, што гэта быў ты! — працягваў настойваць на сваім новы знаёмы.

— Ды таму, што мяне не было там! Ты, мабыць, памыліўся!

— Ды гэта быў ты, у мяне добрая памяць на твары! Ты не бойся, я нікому пра гэта не скажу! — пачаў заспакойваць мяне Захар.

— Ды я не баюся! Проста мяне там не было! — працягваў настойваць на сваім я.

— Ты мне, мабыць, хлусіш? — аніяк не сунімаўся Захар.

— Я не хлушу! Я не ведаю, чаму ты так перакананы ў тым, што я там быў?! Калі мяне там папросту не магло быць! Бо я ў Менску не быў ні разу! — упарта настойваў на сваім я, не разумеючы такой упэўненасці ў сваёй слушнасці майго апанента.

— Можа, ты і маеш рацыю. Але ў любым выпадку я спадзяюся, што гэтая размова застанецца выключна паміж намі? — сказаў крыху збянтэжаны маёй упартасцю новы знаёмы.

— Так, вядома! — адказаў я, усё аніяк не разумеючы, чаму такая таямнічасць, і чаму ён упэўнены, што я ўдзельнічаў у пратэстах у Менску.

— Вось і добра! А цяпер мне трэба ісці! Бывай! — пасля гэтых слоў Захар знік за дзвярыма «Ленінкі».

Цягам усяго дня ў мяне з галавы не выходзіла гэтая дзіўная размова. З'яўляецца абсалютна невядомы мне чалавек і ні з таго, ні з сяго пачынае пераконваць мяне, што ён бачыў мяне на акцыях пратэсту. Але на той час я быў даволі наіўным і даверлівым, яшчэ не разумеў, што ў нашай краіне ўсе беларускамоўныя абавязкова асацыююцца з апазіцыяй, што ўвесь час нечым незадаволеныя і ўздымаюць буру ў шклянцы вады. І аб тым, што мяне могуць правяраць з сакрэтнай часткі гарнізона на так званую нелаяльнасць да ўладаў, нават і падумаць не мог.

Але нягледзячы на ўсю гэтую досыць непрыемную сітуацыю і кпіны з боку сяржантаў, я заставаўся верным свайму слову — ніколі не здраджваць беларускай мове. Ды і з маім становішчам у гэтым войску я паволі зжыўся. Неяк перажыву гэтыя паўтара года ў ролі белай вароны, для мяне ж гэта не ўпершыню. Выстаяў у вучылішчы і нават абзавёўся сябрамі, дык выстаю і тут, хай сабе і ў значна больш жорсткіх умовах!

Але некаторыя нават зайздросцілі маёй вытрымцы, звычайнага вясковага хлопца, які ўвязаўся ў штодзённае супрацьстаянне з гэтай сістэмай. Былі і та-

кія, што гатовыя былі пайсці на што заўгодна толькі б «адкасіць» ад далейшай службы, часам нават на непапраўныя траўмы для свайго арганізму. У суседняй з нашай казармай знайшоўся і такі, што гатовы быў пастуціцца не толькі фізічным здароўем, але і душэўным.

Штодзень ён па вечарах з разбегу біўся галавою ў сцяну, каб прыцягнуць да сябе ўвагу вайсковых лекараў, прыкідваючыся псіхічнахворым. Пры гэтым з першых дзён знаходжання ў гарнізоне ён сказаў хлопцам, з якімі прызваўся, што зробіць усё дзеля таго, каб яго камісавалі яшчэ да прыняцця прысягі. Што праўда, да прысягі ў яго адкасіць не атрымалася, а потым ён з'ехаў не ў шпіталь, а ў чарговы гарнізон, дзе яму належала працягнуць вайсковую службу. Здолеў ён дасягнуць сваёй мэты ці не — мне невядома.

У войску ўсё ўспрымалася зусім па-іншаму. Не так, як у цывільным жыцці. Самыя простыя рэчы пачыналі ўспрымацца як найвялікшая каштоўнасць — той жа водар спелага яблыка, што вісеў на галіне на адлегласці выцягнутай рукі, быў надзвычай адчувальны. Калі ў звычайным жыцці адчуць яго не так проста, нават трымаючы той яблык у сваёй руцэ. Дык тут усё інакш. Твае пачуцці пачынаюць вельмі моцна абвастрацца без нейкіх там асаблівых высілкаў з твайго боку. Ты проста глядзіш на прадмет твае пажады — і ўжо толькі гэтага дастаткова, каб адчуць той духмяны, церпкі водар, ад якога проста слінкі цякуць. Ён вось, працягні руку і сарві, але гэтая адлегласць тут пераўтваралася ў нейкую непераадольную прорву, што аддзяляла цябе ад гэтага крамянага яблыка, як ад ранейшага жыцця.

А пах збажыны, які даносіўся з мелькамбіната, што праз дарогу ад гарнізона — нешта неверагодна шчымлівае і да болю знаёмае з дзяцінства. Гэты пах будзіў успамін пра маё мінулае вясковае жыццё. Удыхаючы на поўныя грудзі гэтае паветра, я нібы ўдыхаў сваё роднае і блізкае, што такім чынам толькі нагадвала пра сябе, пра сваё існаванне і аб тым, што ўсё гэта чакае на маё яшчэ няхуткае вяртанне дадому.

Але не толькі яблыкі ці водар збажыны будзілі ўспамін аб мінулым, але і песні, што на выходныя мы слухалі з магнітафона. Пры гэтым, у памяці ўсплывалі выразныя выявы з майго мінулага, пры якіх абставінах, дзе і з кім я чуў упершыню тую ці іншую песню, што я адчуваў у той момант, пра што думаў тады. Але цяпер усё гэта яшчэ больш вярэдзіла душэўныя раны, не даючы ім магчымасці як мага хутчэй загаіцца.

Часам хацелася, каб усе гэтыя чыннікі і падставы для душэўнага болю зніклі, а разам з імі і знікла і маё нядаўняе мінулае, каб больш не нагадваць аб тым, кім я быў і кім я мушу стаць. Нават хацелася, невыносна хацелася забыцца на сваё мінулае, бо тут яно толькі замінае і змушае ламаць сваю сутнасць, свой характар.

Паступова, але няўхільна я змяняўся, як чалавек і асоба. Ці будуць гэтыя змены мне на карысць — хутчэй пытанне без адказу. На гэты момант магу з дакладнасцю сказаць, што адна з відавочных змен у маім характары — гэта

тое, што я стаў жорсткім у дачыненні да іншых. Становўчая гэта змена? Не ведаю. Часам, магчыма, і ў гэтым ёсць нейкія станоўчыя бакі, такія, як здольнасць супрацьстаяць нападкам іншых. Каб выйсці з гэтых непрыемных варункаў без значных страт для сябе самога, без лішніх нервовых перажыванняў. Пры гэтым выціскаючы з сябе іншыя чалавечыя якасці, такія як спачуванне, дабрыня, міласэрнасць.

Ці раўназначныя ўсе гэтыя за і супраць?! Не ведаю, ці можна ахвяраваць прынцыпамі для свайго маральнага спакою, калі ўсе згрызоты сумлення задушаны. І ці ўдасца потым абудзіць тыя чалавечыя якасці, якія зараз, у гэты самы момант, я схаваў пад тоўстым слоем халоднага жвіру. Ці яны і застануцца пахаваныя там да канца майго жыцця?..

Ужо напрыканцы другога тыдня маёй службы нашу роту павезлі на медагляд у Сноўскі вайсковы шпіталь. Хоць нейкая змена дэкарацый і выхад за межы бетонных муроў гарнізона. Вольнае паветра, прастор! Але гэтая воля абмяжоўвалася загадамі. У гэтай вылазцы ў цывільнае жыццё нас суправаджалі два сяржанты, адзін наш непасрэдны камандзір, другі з вайсковай санчасці. За вакном цягніка плылі новыя, дасюль невядомыя для мяне, краявіды, што абуджалі мяне ад вайсковага забыцця. Быццам бы вяртаючы ў мінулае, прымушаючы, хай сабе і не надоўга, але забыцца аб тым, што я вайсковец.

Ужо ў шпіталі, пры аглядзе маіх ядраў, у мяне выявілася нечаканая праблема, што тычылася майго мужчынскага здароўя. Што дакладна, я не ведаў. Лекар толькі мне паведаміў, што ў мяне варыкацэле. Што гэта за хвароба, і ці хвароба ўвогуле — мне ніхто не патлумачыў. Мой цудоўны настрой кудысьці выветрыўся, не пакінуўшы па сабе і следу. Мяне пачалі наведваць толькі невясёлыя думкі і здагадкі, што гэта за пачвара апанавала мяне, і як ад яе пазбыцца? Ці гэта вырак на ўсё жыццё? Цяжкія думкі, нібы хмары, пачалі апаноўваць мяне, не даючы спакою! Як мне з гэтым жыць? І ці далейшае жыццё вартае? Столькі пытанняў, на якія я аніяк не знаходзіў адказаў.

Калі мы на пероне чакалі прыбыцця цягніка і спажывалі выдадзены нам у дарогу сухпаёк, я ўсё збіраўся з сіламі, каб пацікавіцца ў сяржанта санчасці, што гэта за хвароба. Падмацаваўшыся тушонкаю, я накіраваўся да сяржанта, што стаяў крыху зводдаль ад нас.

— Таварыш сяржант, дазвольце звярнуцца? — перамагаючы сваё хваляванне і разгубленасць, я намагаўся выглядаць спакойным і ўпэўненым у сабе.

— Обращайся, — холадна і абыякава адказаў сяржант.

— Лекар мне сказаў, што ў мяне варыкацэле. Што гэта такое? — хаваючы сваю збянтэжанасць, ледзь выціснуў з сябе я.

— Не беспокойся, стрелять будешь, но только холостыми. А теперь возвращайся к остальным, — коратка адказаў сяржант, абыякава выдыхаючы чарговую порцыю тытунёвага дыму.

Вось табе і маеш! Кахацца зможаш, а вось дзіця хіба што бусел прынясе. Лягчэй ад гэтых слоў мне не стала. Хутчэй нават наадварот: у свае васям-

наццаць я даведваюся, што стэрыльны, як скальпель хірурга, што паласнуў мяне тым скальпелем па адным месцы. Як цяпер жыць? Як пасля службы ў войску будаваць сям'ю? Навошта я каму такі патрэбен? Вяртанне ў гарнізон адбывалася ў змрочным бяспамяцтве, маю свядомасць нібы затуманілі горкім цыгарэтным дымам.

— Не переживай Алесь, это ещё не конец света! Подумаешь, одно яйцо забраковали, так ведь у тебя ещё одно есть! А этого достаточно, чтобы пол-Барановичей обрюхатить! Не робей, прорвемся, где наша не пропадала! — руйнаваў мой песімістычны настрой Саша, з якім мы разам прызываліся. За гэты час мы з ім сталі сапраўднымі сябрамі. Дзяліліся паміж сабою як радасцю, так і напаткаўшымі нас неспадзяванымі выпрабаваннямі.

Пасля гэтых слоў сябра, мой настрой пакрысе пайшоў на ўздым. Чорныя хмары невясёлых дум пачалі прапускаць, хай сабе і нязначныя, кволыя сонечныя промні надзеі на тое, што, магчыма, не ўсё яшчэ страчана. Дасць Бог, і я яшчэ буду песціць уласнае дзіця. Магчыма, і сапраўды — гэта не канчатковы прысуд лёсу, і на ягонае выкананне будзе накладзена вета!

У віры вайсковага жыцця пакрысе гэтая асабістая трагедыя кудысьці знікла. На тое, каб ныць і шкадаваць сябе гаротніка, папросту не было часу. То трэніроўкі страявой, ад якіх перыядычна аж гудзелі ногі, то адцісканні, падцягванні на спартовай пляцоўцы пад усё такім жа спякотным летнім сонцам. Ад усіх гэтых спартовых нагрузак на нашых гімнасцёрках праз нейкі час пачалі з'яўляцца белыя разводы солі — настолькі яны былі набрынялыя юнацкім потам.

Але да гэтых вайсковых нагрузак малады арганізм паступова прызвычайваўся. Адзінае да чаго ўсё аніяк не мог прывыкнуць мой абвостраны слых, гэта да ўсюдыісных мацюкоў! Здавалася, што ні афіцэры, ні прапаршчыкі, ні тыя ж сяржанты проста не ўяўляюць, як можна выказаць свае думкі, эмоцыі, ці проста аддаць загад, без выкарыстання гэтых сакральных слоў рускай мовы. Ці ім здавалася, што іх не так зразумеюць жаўнеры. Не ведаю! Але мяркую, беларускае войска без расійскага мата проста не выстаяла б перад пагрозай з боку НАТА — мабыць, усе жаўнеры разбегліся б хто куды і не выканалі б свой грамадзянскі абавязак. А так радзіму ўратуе трохпавярховы расійскі мат!

Дзесьці за тыдзень да прысягі мы ўрэшце змаглі патрымаць у руках аўтаматы і не проста навучыцца іх разбіраць і чысціць, але і пастраляць на палігоне. Усе мы ў дзяцінстве гулялі ў вайну і, магчыма, марылі стаць героямі, або проста стаць пераможцамі ў гэтых дзіцячых баталіях. І абавязкова ж стралялі з самаробных драўляных аўтаматаў, паражаючы праціўніка словамі: тра-та-та! А тут сапраўдная зброя! У якога хлопца не загарацца вочы і не ўзнікне непераадольнае жаданне з яго пастраляць, ды яшчэ баявымі патронамі!

А тут гэтыя жаданні наваспечаных жаўнераў пераўтвараюцца ў рэчаіснасць! Сэрцы шалёна калоцяцца — хочацца як мага хутчэй націснуць на спускавы кручок, рукі нервова абследуюць гэтую небяспечную цацку, а дыханне займае юнацкі запал.

І вось мы на палігоне. Усе меры бяспекі выкананыя: па перыметры палігона расстаўленыя вартавыя, што маюць сачыць, каб у небяспечную зону не патрапіў выпадковы разявака. Аўтаматы пастаўленыя на засцерагальнікі.

Па трох падыходзім да месца стрэльбаў і займаем пазіцыю лежачы. Побач з кожным стаіць афіцэр з плашч-палаткай, каб ніводная гільза не была выпадкова згублена. Затаіўшы дыханне, прыцэльваемся і нецярпліва чакаем каманды «Пли!», а афіцэры сочаць, ці ўсё намі выканана правільна. І вось яна доўгачаканая каманда — аўтаматы затахкалі адзіночнымі. Кожны ў гэтай гульні хоча быць лепшым, старанна прыцэльваючыся, каб набраць лепшы бал па выніках стрэльбаў.

Апошні стрэл прагучаў, і мы, як ашалелыя, бяжым да сваёй мішэні, каб спраўдзіць вынікі нашых старанняў. Гляджу на кругі на сваёй мішэні і не веру ўласным вачам: усе шэсць дзірачак дакладна прашылі дзясятку. Ну, цяпер аўтсайдарам мне не быць... Таму можна выдыхнуць з палёгкаю і не пераймацца: у пяцёрку лепшых дакладна я ўваходжу.

На наступны дзень вывесілі вынікі ўчарашніх стрэльбаў, і хлопцы рынуліся да сцяны. Я ж цярпліва чакаю ўбаку, пакуль натоўп паціху разбрыдзецца па казарме, звесіўшы насы. Не паспеў я наблізіцца да дошкі з вынікамі, як мяне апярэдзіў задаволены голас Сашы:

— Поздравляю, Алесь, ты лучший! Так держать! Мне до тебя далеко! Мой результат всего девятый! А ты первый, дружище! — ён моцна паціснуў маю руку.

Я глядзеў на белы аркуш паперы з прозвішчамі жаўнераў нашай роты і не верыў таму, што бачыў, з дваццаці маё прозвішча на першым месцы. На такі вынік я аніяк не спадзяваўся. Ці быў задаволены? Хутчэй — не, чым так. Падумаеш, лепш з усёй роты адстраляўся — проста пашэнціла, вось і ўсё!

Неяк не прывучылі мяне бацькі ганарыцца сваімі дасягненнямі. Я заўсёды адчуваў незадаволены позірк бацькі на сабе, быццам не выканаў ускладзеных на мяне спадзяванняў. Малодшым братам ён заўжды ганарыўся і называў яго сваім сынам, а я, што б ні зрабіў, быў дрэнным у ягоных вачах. Мае дасягненні ён называў дзіцячай гульнёй, або ўвогуле аніяк не рэагаваў на мае перамогі. А вось мае промахі і паразы заўсёды яго цешылі, нібы я чарговы раз пацвердзіў ягоныя думкі на мой конт — недарэка! Што тут скажаш?

Таму я заўсёды крытычна ставіўся да ўсіх сваіх дасягненняў — пашанцавала, вось і ўсё. Таму для таго, каб цешыцца, няма аніякіх падстаў!

Тры тыдні нашага перабывання ў каранціне наблізіліся да свайго завяршэння. Ужо заўтра лёсавызначальны дзень, які назаўсёды застанецца ў нашай памяці! Гэта дзень нашай прысягі. Дзень, калі мы ўрачыста будзем прыносіць клятву на вернасць нашай краіне і яе народу, абяцаючы бараніць наш край ад любой вайсковай агрэсіі звонку.

Але перш чым прымаць прысягу нам належыць прывесці сваё абмундзіраванне ў належны выгляд. Бо за гэты час яно вельмі забрудзілася... Карацей, прымаць прысягу ў такім выглядзе было б вельмі сорамна.

Таму трэ было тэрмінова праць гэтае адзенне. Папраць не праблема! Але пытанне, у чым нам хадзіць як па казарме, так і па тэрыторыі гарнізона? Бо зменнага абмундзіравання ў нас папросту не было. Таму выйсце адно — бадзяцца па гарнізоне ў адным споднім і тэпцях на босую нагу.

Мыць даводзілася халоднай вадой з-пад крана, магчыма, каб праз гарнізон працякала якая-небудзь рачулка, дык мылі б у ёй. Усё адно цывілізацыя ў войску практычна адсутнічала і напачатку XXI стагоддзя. Ад студзёнай вады аж зводзіць пальцы на руках сутарга, але нягледзячы на ўсё гэта, мы старанна шмаруем адзенне мылам, змываем і зноўку шмаруем і так некалькі разоў.

Нам пашэнціла, што ў гэты дзень было спякотнае надвор'е, і таму памытае абмундзіраванне развешваем на спартовай пляцоўцы пад гарачымі промнямі сонца. А самі тым часам загараем на траве, чакаючы пакуль усё высахне. На нейкі момант з'яўляецца адчуванне, што мы вольныя і можам на поўныя грудзі ўдыхнуць паветра свабоды. Але гэтае адчуванне вельмі хутка знікае, і мы зноўку вяртаемся ў суворую рэчаіснасць вайсковага жыцця.

Як толькі адзеў вайсковы гарнітур, гучыць каманда днявальнага «Строиться!» — ісці на абед. Чыё адзенне не паспела высахнуць, вымушаны ісці ў сталоўку ў адным споднім. Вось такое вясёлае вайсковае жыццё! Што праўда, нам грэх скардзіцца: хоць з надвор'ем нам сёння пашэнціла, ёсць дзе прасушыць мокрае адзенне. А што было б, калі б ішоў дождж?! Мабыць, сушылі б абмундзіраванне цяплом уласнага цела, або прасам?! Выбар варыянтаў у дадзеных умовах абмежаваны.

Неяк неўпрыкмет і гэты дзень майго вайсковага жыцця наблізіўся да свайго завяршэння — гучыць доўгачаканая каманда днявальнага «Адбой!». За гарнізоннымі мурамі, гэта самая ўлюбёная каманда ўсіх насельнікаў войска. Усе дзённыя клопаты кудысьці знікаюць у адно імгненне, і ты правальваешся ў глыбокі сон. Хто ведае, магчыма, ты апынешся дома, а побач з табою будзе твая каханая або нейкая іншая прыгажуня. Пра гэта марыць ці не кожны жаўнер: хоць у сне вярнуцца ў цудоўнае мінулае цывільнага жыцця.

«Пад'ём!». Ускокваю з ложка, як апараны. Трасца! Я, мабыць,ніколі не прывыкну да гэтага жудаснага слова, якое аж апякае ўсё нутро і гвалтам вяртае да абрыдлай рэчаіснасці. За вакном пахмурнае надвор'е. Адзеўшыся, як непрыкаяны, бадзяюся па казарме спраўляючы ранішні туалет, адчуванне такое, нібы на ногі паставілі, а разбудзіць забыліся. Пакрысе неахвотна вяртаюся да рэчаіснасці.

Сёння дзень маёй прысягі! А значыць, прыедуць бацькі, якіх я не бачыў ужо тры тыдні. Сэрца аж сціскаецца ў грудзях ад доўгачаканай сустрэчы. Прывёўшы сябе і наш новы дом у адпаведны выгляд, маршыруем на сняданак. Сняданак сёння святочны: да грэцкай кашы з тушонкаю, да якой я ўрэшце прызвычаіўся, нам кладуць на талерку па адным вараным яйку! Паснедаўшы, вяртаемся ў казарму ўсё тым жа зладжаным вайсковым крокам — сцёртыя да мазалёў ногі ўжо ў мінулым! Здаецца, за гэты час мы нават дыхаць пачалі ва ўнісон, не тое, што крочыць!

Вярнуўшыся ў казарму, чакаем прызначанай гадзіны прыняцця прысягі. Як раптам за вакном грукат і стрэлы бліскавіц прыносяць цёплую летнюю навальніцу! У душы з'яўляецца трывога, а што калі дождж не суцішыцца і прымаць прысягу давядзецца пад адкрытым небам, маршыруючы па шэрых калюжынах?! Дзесьці праз гадзіну дождж урэшце сціхае, і мы ўсе як адзін, узброіўшыся венікамі, ідзем на пляц! Не, не прымаць прысягу, а размятаць калюжыны, якія з'явіліся пасля дажджу! Пасля паўгадзіны гэтай марнай працы вяртаемся ў казарму, каб атрымаць ужо сапраўдную зброю!

З аўтаматам у руках углядаюся за вакно, спадзеючыся пабачыць бацькоў, але ўсё марна, знаёмых твараў нідзе не відаць. Сэрца трывожна пачынае калаціцца ў грудзях: а што, калі яны не прыедуць і ў гэты дзень я буду ў адзіноце?! Не, прыедуць! Павінны прыехаць! Магчыма, проста затрымліваюцца! Час ідзе, а за вакном з'яўляюцца ўсё новыя і новыя незнаёмыя мне твары родных і блізкіх іншых жаўнераў. Ад чаго трывога толькі нарастае!

Гучыць каманда шыхтавацца. Час ісці на пляц, дзе і адбудзецца ўся ўрачыстасць.

Нават знаходзячыся ў шыхце на пляцы, стараюся распазнаць знаёмыя рысы родных у натоўпе на супрацьлеглым баку пляца, побач з трыбунай, але ўсё дарэмна. Спрабую заспакоіць сябе, што яны проста дзесьці ў апошніх шэрагах, і я іх не бачу, але яны тут! Вось ужо надышла і мая чарга прынесці ўрачыстую клятву на вернасць свайму народу.

Выходжу з шэрагу страявым крокам, а душу і сэрца перапаўняе хваляванне! Бяру ў рукі тэкст прысягі, які напісаны па-руску, і пачынаю прамаўляць. Але не па-руску! З маіх вуснаў гучыць забытая амаль для ўсіх прысутных родная беларуская:

— Я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь ... Знаходзячыся на службе ва ўзброеных сілах Рэспублікі Беларусь, прымаю прысягу і ўрачыста клянуся высока несці гонар і годнасць воіна... Калі ж я парушу гэтую маю ўрачыстую клятву, то няхай мяне спасцігне суровая кара закона і ўсеагульная пагарда народа.

Прамаўляючы гэтыя словы, адчуваю гонар быць тут і цяпер і складаць клятву на вернасць свайму народу. Магчыма, гэта гучыць даволі пафасна, але ў гэтую хвіліну, гледзячы на дзяржаўны сцяг, які развейваўся ад подыху ветру, на шэрае пахмурнае неба, якое ў гэтыя хвіліны прадзіралі дзіды сонечных прамянёў, я даў сабе абяцанне зрабіць усё магчымае і немагчымае, што ад мяне залежыць, каб гэтае неба і надалей заставалася мірным, і каб наша краіна заставалася вольнай і незалежнай.

Так гэтыя тры тыдні зрабілі з мяне, звычайнага простага вясковага хлопца, сапраўднага абаронцу сваёй Айчыны. Я нават быў гатовы аддаць сваё жыццё толькі дзеля таго, каб жыла і квітнела наша Бацькаўшчына, Беларусь.



# Юры Несцярэнка

**празаік, публіцыст, перакладчык, рок-музыка. Аўтар кнігі прозы «Звычайны шоу-бізнес» (2015 г.). Нарадзіўся ў 1965 годзе на Быхаўшчыне. Жыве ў Магілёве.**

# Дзяжурны спецыяліст па захаванні апошняй надзеі

Як бы гэта дзіўна ні прагучала, а нагодай, так бы мовіць, першай іскрай для нараджэння майго вялікага кахання, — стаў закон аб тунеядцах. Ну, вы ведаеце гэтую сітуацыю, калі адна краіна жыла сабе і жыла — гадоў з дваццаць, а потым раптам аказалася, што насельніцтва яе нічым больш не займаецца, як толькі гультайнічае. Нібыта. — Ну, і пры чым тут каханне? — спытаецеся вы. А я толькі павінен нагадаць, што сапраўднае каханне ўзнікае там, дзе яго ніколі не чакаеш.

Карацей, сітуацыя ў тыя часы была сапраўды вельмі складаная і нават не таму, што на працу праблематычна было ўладкавацца. Праблема была значна глыбейшай, чым сама праца. Справа ў тым, што ў той краіне трэба было «выкладацца», «пахаць», «ішачыць», «гарбаціцца», напрыканцы працоўнага дня «быць выціснутым, як лімон», але не трэба было, уласна кажучы, працаваць. Гэта, як бы так больш далікатна заўважыць, было нават не пажадана. А калі сказаць дастаткова рэзка і прама, то і ўвогуле па-сапраўднаму працаваць забаранялася! Аднак, пры ўсім-пры гэтым, пад артыкул закона траплялі ўсе, хто афіцыйна не ўладкаваны!

Дадзеная парадаксальная сітуацыя яшчэ мала вывучана і даследавана. Але думаю, што ў недалёкай будучыні фенамен дасць нагоду для нараджэння вялікага шэрагу кандыдатаў і дактароў навук у галіне сацыялагічных, філасофскіх, культуралагічных, паліталагічных, гістарычных і бог ведае яшчэ якіх навуковых даследванняў (да таго ж, нядоўга засталося, што гісторыю гэту будуць праходзіць у школах і знаходзіць асобным пытаннем ва ўніверсітэцкіх экзаменацыйных білетах).

Прабачце за такое доўгае адступленне — усё няцерпіцца распавесці пра каханне, пра незямное адчуванне мілосці і пяшчоты, пра неверагодны стан, у якім ты знаходзішся днём і ноччу! А вось рэчаіснасць вяртае з нябёсаў на зямлю і даводзіцца, як у той показцы — зноў пра працу. Але ж, без яе, як мы ўсе разумеем (чытай вышэй), не было б і кахання!

Дык вось, у той самай краіне нейкім патаенным чынам адбылося, што ўсім жыхарам неабходна было памалу перастаць працаваць. Як бы гэта патлумачыць больш дакладна? Ім, насамрэч, патрэбна было толькі рабіць выгляд, паказваць, як у тэатральным дзеянні, што яны выконваюць тыя ці іншыя працоўныя абавязкі.

Паняцці «асабістая ініцыятыва», «меркаванне спецыялістаў», «рацыяналізацыя вытворчасці», «самастойнае паляпшэнне вытворчых працэсаў» сталі проста небяспечнымі для жыцця. З той нагоды, што перараблязь, аднаўляць ці ўдасканальваць што-небудзь пры *геніяльнай* схеме арганізацыі існавання грамадства было б замахам на саму *геніяльнасць*.

Яшчэ адна прыкмета эпохі (хто жыў у тыя часы, той зразумее) заключалася ў тым, што на аднаго супрацоўніка было дзесяць кантралёраў. І ўсе рабілі выгляд, што працуюць, а астатнія рабілі выгляд, што кантралююць — усе занятыя, усе пры справе.

Узгадайце яшчэ такі факт, што ў кожнага, хто нібыта працаваў — найгалоўнейшым працоўным момантам была справаздача. Яе стварэнне займала большую частку працоўнага часу. Рабіў ты нешта на працы, ці не рабіў — гэта было ўвогуле не істотна. Галоўнае, калі яно запісана ў справаздачным дакуменце — тады і набывае сэнс!.. А мы ж тады яшчэ выхітраліся і кахаць! Ніяк я не распавяду пра сваё каханне... Эх, бедны я чалавеча! Усё імкнуся пра сваё асабістае — а дзе ж тое асабістае можа быць, калі справы такога маштабу вакол адбываюцца?

Аднак, далей было так. Калі выйшаў закон пра тунеядцаў, то я, як і тысячы іншых простых людзей у краіне, пачаў шукаць, куды звярнуцца па ратаванне. Краіна наша на той час была «чыста аграрная», а сельская гаспадарка — гэта было «наша ўсё»! Я не ведаў, што звяртацца па сваю абарону трэба было ў мясцовую падатковую інспекцыю. І таму памылкова падумаў, што лагічна звярнуцца па справах сацыяльнай аховы менавіта ў службу сацыяльнай аховы. Такія памылкі не здараюцца проста так — відаць, гэта, усё ж такі, лёс! Таму што там яно ўсё і адбылося! У сэнсе, — іскра, полымя жарсці ды ўсё такое. Гэта я ўсё пра каханне.

Я адразу ж патрапіў у кабінет, дзе сядзела высокая прыгожая жанчына са стылёвай фрызурай. Патлумачыў ёй з парога, што, маўляў, музыкант, атрымліваю ганарары за выступленні, плачу падаткі, нічога не парушаю. Спытаўся, ці з'яўляецца мая дзейнасць дастаткова «легальнай», каб не падпадаць пад дзеянне закона аб тунеядстве?

Жанчына на мяне паглядзела як на іншапланетніка. Яе погляд быў чужы і нядобры. Не, вы не падумайце — ні пры якіх умовах яна не магла стаць маім каханнем! Супрацоўніца суха накіравала мяне да дырэктаркі ўстановы.

Дырэктарка выглядала цалкам прыстойна для яе ўзросту. Яна жмурылася, зсоўвала бровы да акуляраў, спрабуючы ўнікнуць у сутнасць праблемы. Я меў неасцярожнасць паведаміць ёй, што ў дадатак да папярэдняга свайго сацыяльнага статуса (музыкант), з'яляюся яшчэ і пісьменнікам, які таксама займаецца такім відам працы, як творчая. Маўляў, уваходжу ў склад сяброў творчага саюза, друкуюся ў перыядычнай прэсе, рыхтую да выдання новыя кнігі.

Карацей, атрымалася так, што зараз я ў два разы болей, чым для папярэдняй супрацоўніцы, выглядаў поўным прышэльцам. Адпаведна, з-за адсутнасці ўзаемаразумення дырэктарка таксама не здолела прэтэндаваць на высокі статус маіх зорных пачуццяў.

У выніку яна накіравала мяне ў самы далёкі кабінет у калідоры, дзе меркавальна знаходзіўся нехта яшчэ з супрацоўнікаў. Падсвядома я ўжо адчуў, што менавіта тут выконваюцца абавязкі па захаванні апошняй надзеі. Відаць, калі зрэдку ў гэтую ўстанову з'яўляліся наведнікі з безнадзейнымі справамі (кшталту мяне — з пытаннем «не як ува ўсіх звычайных людзей»), то прымаў іх менавіта той спецыяліст — за апошнімі дзвярыма.

Зайшоў, павітаўся — маладая жанчына была вельмі занятая працай за кампутарам і папрасіла хвіліначку пачакаць. Без дазволу прысеў і, як толькі яна адарвала позірк ад манітора, я цвёрда і настойліва паведаміў, у чым заключаецца мэта майго візіту. Яна па-дзелавому спыталася: «Вы прадпрымальнік?» Я адказаў адмоўна. «Працуеце на дзяржаўнай працы?» — упарта працягвала яна апытанне ў адпаведнасці з нейкай апытальнай схемай. «Не...». Яна ўважліва паглядзела на мяне і задала рытарычнае пытанне: «Вы ж не інвалід?»

Надышла мая чарга прадэманстраваць майстэрства рыторыкі. Я каротка распавёў пра сувязь са светам сучаснай музыкі і пэўнымі вынікамі такой дзейнасці. Потым датыкнуўся тэмы сучаснага пісьменніцтва і спецыфікі творчай працы. У рэшце рэшт тактоўна падвёў размову да пытанняў: на якім жа я свеце знаходжуся ў сацыяльным плане, і ці не возьмецца хто-небудзь мяне сацыяльна абараніць?

— Вы музыкант? — пасля доўгай паўзы спыталася прыгажуня.

— Так.

— А дзе Вас можна пачуць?

Я адказаў, што бліжэйшыя перадачы па радыё і тэлебачанні будуць па такіх і такіх днях. Яна зачаравана і непрыстойна доўга глядзела на мяне. Потым зноў спыталася:

— Вы і пісьменнік таксама?

— Так, — лаканічна адказаў я.

— І кніжкі ёсць?

— Ёсць.

Яна ў задуменні бессаромна мяне разглядала. У думках я рыхтаваўся падказаць, дзе можна набыць мае кніжкі, і ўзгадваў нумары часопісаў у мястэчковай бібліятэцы, дзе былі надрукаваныя мае апавяданні. Яна ж не спяшалася аб чым-небудзь спытацца, і раптам нечакана, не надта гучна, прамовіла:

— Вось, калі б у Вас была карова...

Мне было зусім не да жартаў. Я ўжо зразумеў, што закахаўся ў мілую асобу, якая знаходзілася перада мной. Я, прышэлец з іншых галактык, які з'явіўся на такую далёкую для мяне аграрную планету, безнадзейна і беспаваротна захапіўся гэтай прадстаўніцай мясцовага насельніцтва!

Можа быць упершыню за ўсю гісторыю ўстановы ў гэтым кабінеце ўзніклі такія незвычайныя пытанні ад наведніка. І мяне вельмі ўразіла спроба маёй суразмоўніцы асэнсаваць пачутае, ды нейкім чынам увязаць са звычайным успрыманнем сялянскай рэчаіснасці.

Можна сказаць, мяне гэта агаломшыла. Шакавала адна толькі думка, што яна змагалася! Яна працавала! Яна сапраўды думала — чым жа мне дапамагчы? Не выкідвала за борт бюракратычнага сапсаванага і недасканалага грузавіка, а спрабавала ўтрымаць апошнюю надзею на абарону ад нечага такога, што нам абодвум асэнсаваць пакуль яшчэ было цяжка.

Адчуўшы маю саркастычную рэакцыю на яе пытанне пра карову, паспяшалася патлумачыць: «Ну, Вы разумееце, пра што я. Калі ва ўладальніка прыватнага дома ёсць хатняя жывёла, то ён не з'яўляецца тунеядцам...»

Я ведаў, што яна за мяне, што яна на маім баку! І яе логіка вельмі хутка пачала мяне зацягваць у свой вір. Так хутка, так актыўна, што я пачаў хвалявацца за вынікі. Нечакана для самога сябе я, цалкам сур'ёзна, пачаў ужо думаць пра набыццё каровы. Зразумела, і пра гаспадыню, што будзе яе даіць. Мне мроілася цяля, якое ў хуткім часе з'явіцца на свет. Маё мастацкае ўяўленне, схільнае да перабольшванняў, малявала дзясяткі бітонаў з малаком, якія прадназначаны для здачы дзяржаве — на калёсах, што ледзь валачэ кволая кабылка, а я размахваю пугай і падганяю бедную жывёліну.

Паматляўшы галавой, скідваючы галюцынацыі, якія паўсталі перад вачыма, я цвёрда вырашыў узяць сябе ў рукі і сканцэнтраваць свае думкі:

— Пачакайце! Як мы можам забяспечыць маю сацыяльную абарону пры ўмовах маёй творчай працы?...

— Вы ведаеце, калі не карова, ну, хаця б козы? — нібыта не пачула мяне прыгажуня. — Вы любіце казінае малако?...

Я зразумеў, што больш не магу супрацьстаяць загадкавай абаяльнасці яе логікі. Яшчэ трохі і я б прама тут, прама ў яе кабінеце, набыў і карову, і коз, і даў бы ёй наталіцца парным малаком...

«Ну, Вы ўжо вырашылі свае пытанні? — раптам, нібыта адкульсці з-за дзвярэй, спудзіў мой шчаслівы момант занадта зацікаўлены голас дырэктаркі.— А то мы зачыняемся ў хуткім часе...»

Я праспяваю табе сваю найлепшую песню! Намалюю карціну, дзе ты будзеш ляжаць на баку, падпіраючы рукой ідэальнай формы свой найпрыгажэйшы твар з загадкавай усмешкай на цудоўных вуснах — у густым аксаміце смарагдавай травы, пасярод майго прыватнага сада — на фоне коз і авечак. А найдасканалы абрыс пляча будзе падкрэсліваць усеагульную гармонію Сусвету. Я напішу аповесць пра каханне, што ўзнікла дзякуючы недасканалым зямным законам, якія і не падазраюць, да чаго яны могуць падштурхнуць! Якія высокія пачуцці і якія незямныя эмоцыі яны здольныя ўскалыхнуць адным фактам свайго абнародвання ў афіцыйнай прэсе!

Я абавязкова прылячу да цябе, маё выпадковае іншапланетнае каханне, — з гэтай кнігай, якая ўсім дырэктарам і дырэктаркам пакажа, што я не лайдак і не абібок, і дзе будуць напісаны самыя кранальныя ў свеце радкі пра цябе...

*2017 г.*

# Эфект слязінкі

*Прагноз надвор'я як мастацкі жанр.*

Тэлевядучая, якая распавядала гледачам пра змены надвор'я, выглядала проста жудасна. Голас гучаў глуха — нос яе быў закладзены, здавалася, што бедная жанчына ўвесь час імкнецца дастаць насоўку і аблегчыць сабе магчымасць дыхаць. Яна неяк безжыццёва прамаўляла фразы. На апухлым твары, не гледзячы на няпростую працу грымёра перад эфірам, пэўна вылучаліся хваравітыя «мяшкі» пад вачыма.

«У Петрапаўлаўску-Камчацкім шквальны вецер. Тэмпература не ніжэй за сярэднюю ў рэгіёне...»

Ад уважлівых гледачоў не магло схавацца, як па шчацэ вядучай пракацілася слязінка. Усе тэлезаўзятары ведалі з памятнай перадачы на мінулым тыдні аб трагічным выпадку ў Петрапаўлаўску-Камчацкім, які меў непасрэднае дачыненне да вядучай. Тая перадача ўяўляла сабой «круглы стол па праблемах прыродных анамаліяў», за якім тэле-спецыялісты абмяркоўвалі і аналізавалі выпадкі прыродных экстрэмальных з'яваў, што апошнім часам мелі месца ў краіне. Нехта з удзельнікаў не з'явіўся ў студыю і вядучую прагнозу надвор'я ў рабочым парадку абавязалі сыграць ролю эксперта-метэаролага.

Некалькі слязінак прама падчас эфіру так, як і зараз, пацяклі тады па яе твары, калі суразмоўцы па круглым стале ўзгадалі цётку вядучай. Жанчына выпадкова загінула не так даўно ў Петрапаўлаўску-Камчацкім.

Рэжысёры не толькі не выразалі кадры са слязінкамі, але наадварот, зрабілі іх ледзь не кульмінацыяй «круглага стала». Што праўда, то праўда — перадача была абсалютна пустой і бязглуздай, займала месца ў прайм-тайме, і кадры са слязінкамі вядучай прагноза надвор'я дадалі незапланаванай дынамікі і эмацыйнасці. Усе жанчыны, хто знаходзіўся ў той момант перад экранамі, нечакана для саміх сябе заплакалі горкімі слязьмі.

«У Барселоне пахаладанне, абвешчана штармавое папярэджанне. Жыхароў сталіцы Каталоніі настойліва просяць не пакідаць сваіх дамоў і не выходзіць на вуліцы...» Голас вядучай стаў больш цвёрды. Не гледзячы на ярка выражаныя сімптомы наймацнейшай прастуды, яна пачала гаварыць разборліва і выразна.

Калі б існаваў адмысловы прыбор для высвятлення пэўных думак у мазгах абывацеляў у асобна ўзяты момант, то ў больш чым паловы тэлегледачоў быў бы зафіксаваны наступны тэзіс: «Правільна! Не хрэн гэтым барселонцам на вуліцы вылазіць! А то глядзі — яшчэ які-небудзь свой Майдан утвораць! Дурны ж прыклад заразны...»

І вось адбылася непрадказальная сітуацыя — магчыма, яе можна было б разглядаць як «няштатную». Уся тэлеаўдыторыя ад Далёкага ўсходу да смаленскага Падняпроўя была ўражана з'яўленнем вядучай прагнозу надвор'я ў ток-шоу пад назвай «Дыскусія на тэму: ці патрэбна Каталонія каталонцам?» (зноў жа, — і гэта быў абсалютна звычайны працоўны момант — не хапіла ўдзельнікаў перадачы).

Але сенсацыйнай тут стала пазіцыя супрацоўніцы службы тэлепрагнозу, якая незаўважна набліжалася да статусу сапраўднай тэлезоркі пасля колішняга «круглага стала па праблемах прыродных анамаліяў». Не выключаецца, што прахіндзеі-тэлепрадзюсары ўжо бачылі ў ёй «медыя-прынаду» і запрасілі на праграму, дзе вядомыя тэлевезійныя палітолагі, сацыёлагі, аналітыкі, журналісты павінны былі разглядаць пэўную праблему. Па сутнасці, іх мэтай было не разглядаць, а разнесці ўшчэнт ідэю аддзялення рэгіёна ад метраполіі.

Каб, не дай божа, яшчэ ва ўласнай імперыі каму не прыйшло ў галаву нешта падобнае.

Гульня, зразумела, была кіслая, ішла «ў адны вароты». Як ні намагаліся акторы-эксперты-аналітыкі зрабіць перадачу «вострай», гэта ім ніяк не ўдавалася.

І вось тады, яшчэ раз трэба паўтарыць — не па сцэнары і абсалютна нечакана для ўсіх — вядучая прагнозу надвор'я выказала сваю шчырую ацэнку сітуацыі. Ацэнка гэта апынулася настолькі здаровай і лагічнай, была пададзена настолькі ўпэўнена і спакойна, што апаненты з іх паказным лямантам, з іх хамскімі паводзінамі, з іх палітычнай псеўдаэрудыцыяй не змаглі даць годны адказ.

Здарыўся чарговы цуд — каб ратаваць перадачу, рэдактары і ў гэты раз не наважыліся выразаць кадры з вядучай прагнозу надвор'я. Хоць яе выступ быў абсалютна «непаліткарэктны».

Палітыка палітыкай, а бізнэс ёсць бізнэс — раз грошы праплочаны, то тэлепраект павінен быць на ўзроўні. Ну, дык вось — атрымайце альтэрнатыўныя меркаванні! Востра? Нечакана? А што ж вы хацелі? У дадзеным выпадку — без хлусні (і гэта адразу адчуваюць гледачы). А шэраговая, здавалася б, супрацоўніца ўжо другі раз запар зрабілася зоркай тэлеэфіру. Заставалася толькі захаваць ідэялагічны кантэкст. Робіцца тое проста — дадаюцца патрэбныя каментары пры мантажы. А ў астатнім — усё выдатна — дыскусія адбылася!

«У Лондане туман. Месцамі дажджы. Тэмпература вышэй за сярэднюю...» Голас вядучай нібыта згасаў. Агеньчык у вачах патух. І зноў у кагосьці магло ўзнікнуць адчуванне, што яна думае толькі пра тое, як бы хутчэй скончыць сваё чытанне. Як і на пачатку сюжэта, яна прамаўляла нягучна і месцамі нават неразборліва. Здавалася, што «мяшкі» пад вачыма павялічыліся, а голас «гундосіў» неяк ужо зусім ненатуральна.

Раптам на ўвесь экран узніклі вялізныя літары назвы медыцынскага прэпарата. Глыбокі барытон дыктара за кадрам даверліва ўпэўніў: «Прымайце менавіта гэтыя лекі і вы назаўсёды забудзецеся на прастуду!» Рэклама абарвалася гэтак жа нечакана, як і ўварвалася ў эфір.

Далей ужо навіны палохалі featureрознабаковымі здольнасцямі прадстаўнікоў чалавечай супольнасці псаваць адно аднаму жыццё. Галасы дыктараў трывожна, але з нейкім дзіўным захапленнем, калі не сказаць — з натхненнем — скорагаворкай паведамлялі пра жудасныя падрабязнасці крывавых разборак: «Сірыйскія баявікі не могуць вырвацца з акружэння...»

Прычына здарэння тлумачылася вельмі проста — маўляў, нашы героі ў кабінах айчынных самалётаў зрабілі для тых баявікоў невыносныя ўмовы. Атрымлівалася, што героі, парушыўшы загад заставацца на месцы і ўзяўшы на сябе адказнасць самастойна ўзняць у неба баявыя машыны, ўратавалі свет.

Тут жа з хуткасцю тэрарыюмнай змейкі бягучы радок перабіваў сірыйскую тэму новай сенсацыяй — абрынуўся шматпавярховік у Тамбове. І новыя ге-

рої — тамбоўскія выратавальнікі — падбівалі рахункі: колькі выратавана хатніх жывёлаў, колькі рыбак з разбітых акварыумаў. Аператыўна — рэпартаж з месца падзей. Людзі — гэта самае балючае. Зразумела, не пра ўсіх. Але гадавалы хлопчык! Суткі трымаўся недзе паміж сценаў! Краіна рыдала перад тэлеэкранамі, забыўшыся на сірыйскіх герояў...

Бягучы радок, толькі пачаўшы інфармаваць пра збор сродкаў для пацярпелых, у нейкі момант разбіўся аб глыбу рэпартажу пра зніклы з радараў самалёт. Але тут жа рэабілітаваўся і ўдарыў па самалёце бандай самарскіх педафілаў. Педафобы тут жа адказалі масавым сыходам у прыбайкальскую тайгу — карэспандэнт па-за радком «навінавай змейкі» патаемна знаходзіўся на небяспечнай для жыцця тэрыторыі новай рэлігійнай секты.

Радок не збіраўся здавацца — тайга пад нагамі ўцекачоў раптам загарэлася ад Байкала да Урала. Па версіі тых, хто набіраў тэкст, прычынай трагедыіі мог стаць недапалак канадскага нелегала-турыста кітайскага паходжання (падазраваўся ў шпіянажы яшчэ падчас адсідкі ў савецкай турме).

Непадрыхтаваны ці выпадковы тэлеглядач адразу мусіў бы атрымаць інфаркт ад гэтай лавіны жахаў. Але большасць тэлеаўдыторыі ад Архангельска да Казахстана, ад Беларусі да Сахаліна спакойна драмала ў сваіх фатэлях, на мяккіх канапах і ў цёплых ложках. Яны былі моцныя. Яны былі загартаваныя і спецпадрыхтаваныя.

Пасля пасадкі НЛА пад Чалябінскам адразу зайграў гімн. Магчыма ўскосна намякаючы на ідэю міжгалактычнага супрацоўніцтва. Гімн абарваўся на перадапошняй ноце, і пайшла рэклама. Рэкламны сюжэт быў стылізаваны пад прагноз надвор'я. У кадры знаходзілася знаёмая ўсім вядучая з тэмпературай, з распухлым носам, з мяшкамі пад вачыма. Чамусьці не сваім, а бадзёрым голасам іншай акторкі, які гучаў не па- сапраўднаму вясёла, вядучая распавяла пра цудадзейныя лекі на фоне вялізнага экрана з надпісамі «Петрапаўлаўск-Камчацкі», «Барселона», «Дамаск», «Іркуцк», «Чалябінск», «Парыж»...

Пазней казалі, што гаспадыня тэлепрагнозу была супраць гэтай рэкламы і не пагадзілася чытаць тэкст. А даведаўшыся, што рэклама ўсё ж выйшла, падала заяву аб звальненні. Але яе пакуль што адправілі ці то на бальнічны, ці то ў адпачынак.

А тэлезаўзятары з тэрыторыі, якая расцягнулася на палову Азіі і на невялікую частку Еўропы, з цікавасцю і з нецярпеннем чакаюць наступнага прагнозу. Па сутнасці, для іх не мае значэння якога. Галоўнае, каб слязінка была буйным планам. Што можа быць прасцей? Шчыры сімвал чагосьці сапраўднага і чалавечнага. Адбітак праўдзівай, непрыхаванай рысы моцнага характару. Адлюстраванне асабістай свабоды на падсвядомым узроўні.

Магчыма, на сённяшні дзень гэта і ёсць самая цікавая інфармацыя, паважаныя тэлегледачы. Да хуткіх сустрэч у эфіры!

*Восень 2019 г.*



# Лявон Валасюк

паэт, празаік, мастак. Аўтар зборнікаў вершаў: «Блики дня» (1999 г.), «Краски души» (2000 г.), «Под знаком Стрельца» (2001 г.), «Леаніды» (2003 г.), «Чырвоная вежа» (2004 г.), «Познія сны» (2006 г.), «Знакі на валуне» (2010 г.); кніжак прозы: «Сцежкі да сядзібы» (2008 г.), «Вяртанне Берасцейскай Стралы» (2012 г.). Лаўрэат Берасцейскай абласной Мядовай літаратурнай прэміі (2008 г.). Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Песцянькі на Кобрыншчыне. Жыве ў Брэсце.

# Раніца ў старым горадзе

Цэнтральная вуліца старажытнага горада. Раніца. Іду дадому ад ракі, што блішчыць у нізіне. Дзень толькі пачынаецца.

Вуліца падымае мяне на пагорак, з якога я апускаюся зноўку ўніз. Такі ён, мой старажытны горад: то пагоркі, то нізіны, а то, раўнютка, бы на далоні — прасторныя скверы, бульвары і плошчы.

Сонца толькі-толькі паказала на ўсходзе край чырвонага дыска. Я іду дадому пасля рамантычнай ночы, якую правёў на беразе ракі ва ўтульным старым доме з каханай жанчынай. Побач з яе домам невялічкая купка такіх жа старых, аднапавярховых, яшчэ даваенных дамкоў. Раней з імі суседнічаў гарадскі рынак, але час пастунова мяняе аблічча не толькі людзей, але і горада. Прайшла чутка, што прырэчанскім жыхарам прапануюць перасяліцца з іх утульнага нажытага месца ў новы раён за ракой. Новыя, сучасныя шматпавярховікі ўжо цяпер перагарадзілі спускі да вады з лавачкамі абапал, на якіх зручна пасядзець і адпачыць у летнюю спёку. Так што тыя надрэчныя пабудовы асуджаны на знос. Ніхто дакладна не ведае, калі гэта адбудзецца, а пакуль што я меў магчымасць насалоджвацца духам старога горада.

Калі я ўжо набліжаўся да цэнтральнай вуліцы, нечакана ў небе з'явіліся агромністыя чорныя крумкачы, якія пікіравалі над брукаванкай у мой бок, як тыя варожыя «мессеры» ў ваеннай хроніцы. З той розніцай, што дзейства адбывалася амаль бязгучна, далятала адно толькі вусцішнае лапатанне крылаў. І ад усяго гэтага нясцерпна хацелася вырвацца да людзей...

Тым часам адзін з крумкачоў, я заўважыў, цэліў акурат у маю галаву. Я паспеў ухіліцца і адмахнуцца, згорнутай у трубку газетай «Народнае слова», што выпадкова апынулася ў кішэні курткі. Гэта быў свежы нумар з матэрыялам вядомага журналіста пра наш старажытны горад, які рыхтаваўся да чарговага юбілею.

Крумкач ужо на другім заходзе зусім нечакана выхапіў газету з маёй рукі, абдаў холадам крылаў і знік разам з іншымі. Я паспеў толькі пабачыць дзікія цёмныя вочы птушкі, якімі яна злосна зыркнула на мяне. Такія вочы я іншым разам назіраю і ў людзей, апошнім часам не так і рэдка. Нічога добрага яны не гавораць, у такіх вачах адно толькі злосць ды невыказная нелюбоў да чалавека. Але ж даводзіцца жыць на роднай зямлі побач і з такімі...

Крумкачы паляцелі ў бок старога квартала, дзе, прыхаваныя ад галоўнай вуліцы новымі пабудовамі, стаялі старыя драўляныя дамы яшчэ «польскага часу», жыхары якіх таксама жылі ў чаканні перасялення. Далей, за імі, меўся стары парахавы склеп, напалову разбураны яшчэ ў Першую сусветную вайну. Тады, кажуць гісторыкі, горад увогуле згарэў амаль дашчэнту, асабліва цэнтр.

Заставалася толькі варажыць, дзе птушкі знаходзяць прытулак. Я вырашыў «разабрацца» з маімі крыўдзіцелямі. Гэта ж трэба, сярод белага дня вырваць у чалавека недачытаную газету. І з якім лютым бляскам у вачах! Хто ведае,

на што яшчэ гатова гэтая зграя. Тым больш, што апошнім часам нешта ўжо і зашмат стала лётаць гэтых птушак у горадзе. Нібыта нейкая навала ці што.

У адным з тых старых дамоў, куды паляцелі крумкачы, жыў мой сябар Стас, з якім я некалі даўно пазнаёміўся ў модным піўным бары ў цэнтры. Крумкачоў у горадзе тады не было, і думалася на той залаты час, калі ўсё было падуладна маладосці, зусім пра іншае. Некалі Стас служыў міліцыянтам, а цяпер працаваў па дамовах на будоўлях горада і ваколіц. Так атрымалася, што апошнім часам мы сталі бачыцца асабліва часта, і сяброўства наша стала яшчэ больш цесным.

Стас доўга жыў адзін, але з некаторай пары ў яго доме я ўсё часцей пачаў заўважаць статную маладую жанчыну. На маё пытанне на гэты конт сябар, не задумваючыся, адказаў: «Лічы, што гэта мая жонка. Калі хочаш пазнаёміцца бліжэй, то паспрабуй...» Я ўсміхнуўся, ацаніў гумар, але потым мы, вядома ж, пазнаёміліся, і я пачаў заходзіць у госці як добры сябра сям'і.

...У двары Стасавага дома было ціха. Толькі недзе далей, за старымі пабудовамі, чуўся птушыны гвалт. Ля ганку я пабачыў падзёўбаную, пакамечаную газету. Нахіліўся, узяў у рукі і вельмі здзівіўся: то было «Народнае слова», менавіта маё! Я адразу пазнаў газету па напісаным зверху нумары тэлефона жанчыны, з якой правёў ноч у старым дамку ля ракі...

Я падышоў да акна Стасавага пакоя і ціха пастукаў у шыбіну. Праз хуткі час дзверы рыпнулі, і на парозе паказаўся мой сябар у спартыўным прыкідзе:

— Адкуль так рана? З міліцыі яшчэ не выпускаюць!.. — падкузьміў ён і дадаў: — Праходзь, рады цябе бачыць...

Было відаць, што Стас падняўся з пасцелі ўжо даўно: на кухні стаяў пах кавы і цыгарэтнага дыму. У кутку вэндзілася мяса, на шнурку над плітой падсыхалі рыбіны. Я даўно ведаў, што сябар заўзяты рыбак і аматар паэксперыментаваць на кухні, таму не здзівіўся, калі той прапанаваў мне паспрабаваць яго далікатэсы. Я не адмовіўся, толькі папрасіў у дадатак кавы.

— Жонка хутка пойдзе на працу, а я нікуды не спяшаюся, — шапнуў Стас як сапраўдны загаворшчык. — То пабудзь у мяне, калі маеш час. Пагаворым: ёсць пра што і пра каго. Я бачу, што ты стаміўся пасля начной змены, то дазволім сабе і па грам сто пяцьдзясят для бадзёрасці.

Я пагадзіўся, бо, уласна кажучы, адмаўляцца не ўваходзіла ў мае планы.

У хуткім часе паявілася Стасава Валянціна. Яна павіталася і прыемна ўсміхнулася, нібыта мы з ёю толькі што абмяняліся кампліментамі.

— Што так рана? — толькі і запытала Валянціна, прыязна, нібыта адорваючы добрым настроем на ўвесь дзень.

— Патрэба ёсць пагаварыць са Стасам. Ды і цябе, такую прыгожую, даўно не бачыў, — паспяшаўся я зрабіць добрае ўражанне. — Таму, калі ласка, прабач за ранні візіт.

Стас ужо ставіў перада мною каву і талерку са сваімі прысмакамі. Я зразумеў: сябар чакае, пакуль за Валянцінай зачыняцца дзверы, каб наліць па чарцы і пагаварыць... А пакуль кава...

Жанчына, міністр інфармацыі, якая прыехала па службовых справах у абласны цэнтр, настойліва прапанавала мясцовым чыноўнікам аптымізаваць мясцовыя СМІ — ліквідаваць дзяржаўную беларускамоўную газету «Народнае слова», адзіную з абласных газет, якая друкавалася на роднай мове. Тыя, бязвольныя, доўга не спрачаліся: раз ёсць загад зверху, то так яно і павінна быць. Той-сёй з журналістаў абурыўся, пачалі было збіраць подпісы ў абарону газеты, ды толькі на гэтым усё і закончылася. «Народнае слова» — для супакаення нязгодных — некалькі месяцаў выходзіла ў якасці дадатку да рускамоўнай газеты, а пасля і зусім знікла, растварылася ў ёй. Між тым «Народнае слова» было самай таннай у вобласці газетай. Яна асабліва падабалася вясковым пенсіянерам, наогул людзям, якія ашчаджалі капейку. На старонках выдання часта друкаваліся мясцовым літаратары. Ды каму патрэбныя тыя пенсіянеры ды пісьменнікі, няхай выпісваюць цэнтральныя газеты і не дураць галаву занятым дарэшты ідэолагам. Газета дажывала апошнія дні, і паколькі губляць не было чаго, друкавала цяпер даволі такі палемічныя матэрыялы.

— Стас, ля твайго дома я падабраў пашматанае «Народнае слова», гэта крумкач выхапіў у мяне з рук газету, калі кіраваўся да цябе. Ты б толькі пабачыў яго вочы ў гэты момант! Страх! Я да цябе мо і не завярнуў бы, вельмі яшчэ рана, але крыкуны паляцелі ў гэты бок. То я, з цікавасці, і вырашыў разведаць у цябе пра іх калонію. Недзе ж непадалёк атабарылася. І не толькі за газету я на іх раззлаваўся, хаця і за яе таксама. Мала, што наша чынавенства вырашыла знішчыць патрэбнае людзям выданне, то яшчэ і гэтыя тут разгаспадарыліся — лятаюць, лякаюць людзей.

— Так ты ўжо і спужаўся, — не паверыў Стас.

— Спужаўся — не спужаўся, але можа здарыцца так, што гэта быў апошні нумар. Нашы ідэолагі эканомяць там, дзе гэта не патрэбна, як кажуць, эканомяць на запалках, і ў мяне складваецца ўражанне, нібыта не за народныя грошы выдаюцца ў нас газеты, а за іх асабістыя. Нядаўна вось наша гарадская бібліятэка пабяднела яшчэ на адзін філіял. Выходзіць, і мы з табой таксама пабяднелі яшчэ на адну газету, яшчэ на адну чытальную залу. Як табе такая сітуацыя? — выказаў я Стасу набалелае.

— Трэба з гэтым нешта рабіць... — глыбакадумна разважыў Стас і напоўніў кілішкі. — За нас. Каб усё склалася!.. Думаю, чытачоў у нашым горадзе праз гэта менш не стане: хто чытаў, той і надалей будзе чытаць. А вось супраціву народным слугам пабольшае, сам ведаеш. Ну і мы з табой збоку не застанемся...

Пасля сяброўскага сняданку Стас прынёс аднекуль тры дымавыя шашкі і паклаў у пакет. «А зараз пойдзем на разборкі з бандытамі. Гэтага хопіць, каб крумкачы памяталі дыслакацыю і не пужалі зранку добрых людзей», — сказаў ён.

За высокай агароджай з нефарбаваных дошак віднеўся стары парахавы склеп, пабудаваны яшчэ напачатку мінулага стагоддзя. Сваім усё яшчэ даволі моцным, але ўжо ў глыбокіх трэшчынах, бетонным верхам ён напамінаў гараджанам, што і трохметровыя мураваныя сцены не вечныя. У паўднёвай част-

цы склепа, напалову разбуранай выбухам яшчэ падчас Першай сусветнай вайны, чарнеў вузкі праход у сярэдзіну, куды ніхто не асмельваўся ўціскацца, акрамя хіба што неразумных падлеткаў, якія наладжвалі тут не зусім бяспечныя гульні ў разведчыкаў альбо піратаў. Гэты праём камунальнікі некалькі разоў замошчвалі драўлянымі шчытамі, хоць гэта не рабілася перашкодай для тых, хто меў вялікую патрэбу кідаць у расколіну ўсялякую непатрэбшчыну ды ўзрыўпакеты. Вось сюды і прывёў мяне Стас, каб здзейсніць акцыю строгага папярэджання крумкачынаму брацтву.

Сябар дастаў з пакета «хатнія загатоўкі», падрыхтаваў іх да бою і шпурнуў па адной у праём, прыкрыўшы з маёй дапамогай шчыліну драўляным шчытом.

— А цяпер бяжым адсюль!

Стас з сур'ёзным выразам твару падштурхнуў мяне наперад, і мы заспяшаліся.

З супрацьлеглага боку парахавога склепа было відаць задраную ўверх бетонную трубу, якая, мабыць, служыла вентыляцыйнай шахтай — яшчэ надзейную, хоць крыху і скасабочаную. Раптоўна з шахты паваліў бела-шэры дым — гэта спрацавалі Стасавы шашкі.

— За такое хуліганства ў цэнтры горада могуць і «на суткі» пасадзіць, — перасцярог я сябра.

— Затое добрую справу зрабілі: крумкачы сюды больш не сунуцца. Глядзі, як яны папёрлі праз комін!.. Крумкачам не месца ў асяродку людзей. Так што надоўга, калі не назаўсёды, можаш пра іх забыць. Чытай свае газеты, нікога не баючыся...

Ачмурэлыя птушкі па адной выбіраліся з дыму, пералякана крычалі, разляталіся спачатку ў розныя бакі, а пасля, ачомаўшыся, збіраліся ў чараду і накіроўваліся на ўсход.

*2020 г.*



*Юлія ДАВЫДАВА. Нацюрморт з гарбузом*



# Павел Ляхновіч

празаік, перакладчык, журналіст. Аўтар кнігі «Пачатак сезона» і шматлікіх публікацый у беларускім друку. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сярэдняя на Міншчыне. Жыве ў Пінску.

# Як «Навігацыя» па свеце вандравала...

Мы стаялі на паліцах і нам было вельмі нудна. Дзіва што — гадоў можа дзесяць да нас ніхто не заглядаў. А мо і болей, не памятаю ўжо. Адзіны раз наведалі хату «чорныя шукальнікі», усё перавярнулі, павыкідалі з шуфлядаў і шафаў рэчы, перагарнулі нашы старонкі — відаць, у пошуках «заначак». А наш змест іх не зацікавіў. Вось і стаім, размаўляем адна з другой, спрачаемся, каб не так сумна было. Але за такі час усё, здаецца, перагаварылі і аб усім перадыскутавалі...

У хаце страшэнны вэрхал. Рэчы пасля тых марадзёраў валяюцца, паўсюль павучынне, пыл, смецце, шыбы без дагляду сталі напаўпразрыстыя, ледзьве дзённае святло прапускаюць, шпалеры мышамі на дробныя шматкі пагрызены. Дзіўна, што грызуны нас не чапаюць. Можа, маюць якую павагу да ведаў? Столькі часу, а ніводную не пашкодзілі. Толькі «прадуктамі жыццядзейнасці» ўсе паверхні запоўнілі. Узімку іх тут з лесу столькі набіваецца, ажно кішыць. Ад холаду хаваюцца ды ад драпежнікаў. Хата нашая — гэта лясны хутар. Кінуты. У якім даўно людзі не жывуць.

Вы, мабыць, зразумелі ўжо, што я — кніга. Клічуць мяне «Навігацыя». Я з дыхтоўнымі, абклеенымі моцнай шэрай тканінай, вокладкамі, між якімі размешчана больш за дзвесце аркушаў. Я добра памятаю, як я нараджалася. Мяне пісалі ажно пяць аўтараў. Усе — ваенныя маракі. Выкарыстоўвалі процьму розных крыніцаў, сярод якіх былі і вельмі старажытныя, бо навігацыя — вельмі даўняя навука, што служыць для падарожжаў па моры. Побач са мной стаіць мая калега, «Мараходная астраномія». Увогуле, на нашай паліцы размясціліся ў асноўным кнігі марской тэматыкі: «Агні і знакі Баранцава мора», «Лоцыя Баранцава і Белага мораў», «Даведнік штурмана», «Правілы афарбоўкі караблёў і суднаў ВМФ» і шмат іншых. Мы ўжо вельмі даўно разам. Так даўно, што лічым сябе сваякамі. Дзе толькі мы не пабывалі! Найперш, зусім маладзенькімі, калі ад нас яшчэ пахла друкарскай фарбай, мы апынуліся ў валізе маладога чалавека, яго клікалі «лейтэнант», і ў той валізе ехалі цягніком. Ехалі даволі доўга — з гарачага паўднёвага горада на паўвыспе Апшэрон ажно ў Арктыку, на паўвыспу Кольскую, дзе ўзімку сонца хаваецца на некалькі месяцаў за даляглядам, а ў небе варушыцца і пераліваецца рознымі колерамі палярнае ззянне. Там мы трапілі ў каюту на падводным крэйсеры. І ў той каюце вандравалі па Баранцавым, Белым, Нарвежскім, Грэнландскім марах, па ўсёй Паўночнай Атлантыцы. Нельга сказаць, каб наш гаспадар зачытваўся намі, але не-не, ды часам гартаў, нешта шукаў. Гэта было надзвычай прыемна — спатрэбіцца яму. Праз нейкі год лейтэнант перавёз нас у кватэру на чацвёртым паверсе чатырохпавярховага дома, і спачатку паклаў стосам на падлогу, дзе мы праляжалі месяцы два, а паз-

ней, — на паліцу кніжнай шафы. З тае шафы мы назіралі за маладой гаспадыняй кватэры, потым за маленькай дзяўчынкай, як яна расла і сталела. Гаспадар з'яўляўся дома рэдка і ненадоўга.

Прайшло колькі гадоў, у нашай шафе з'явілася шмат суседзяў — гаспадыня часта прыносіла і сяліла на паліцах нашай шафы іншыя кніжкі. Найбольш гэта былі прыдуманыя, так званыя «мастацкія». Яны былі зусім новенькія, і ад іх, як і ад нас некалі, пахла друкарскай фарбай. Мы, «марскія», пачуваліся старажыламі, і часам зачыналі з прыдуманых пакепліваць. Урэшце ўся шафа была запоўнена, і для «мастацкіх», якія ўсё прыбывалі, гаспадар у час аднаго «візіту» зрабіў з дошак стэлаж.

Нарэшце прыйшоў час пакінуць Поўнач. Нас ужо было шмат, і мы разам — «марскія» і «мастацкія» — называліся ўжо не проста «кнігі», а «бібліятэка». Упакаванымі ў зялёных скрынках з-пад артылерыйскіх снарадаў, мы з месяц трэсліся ў чыгуначным кантэйнеры разам з іншымі хатнімі рэчамі. І прыехалі ў горад, размешчаны на левым беразе ракі Піны ў месцы, дзе яна сустракаецца з іншай ракой — Прыпяццю, гэта ў рэгіёне, які называецца «Палессе» ў краіне Беларусь.

У тым горадзе першы час нас не распакоўвалі, а толькі перавозілі з месца на месца. Але ўрэшце мы трапілі на паліцы стэлажа, які на цэлую сцяну змайстраваў наш гаспадар. Мяне з «марскімі» каляжанкамі ён размясціў на самай верхняй паліцы. І было крыху крыўдна, што да нас ён звяртаецца даволі рэдка, нашмат радзей, чым да кніжак мастацкіх. Мастацкія сталі задзіраць нос і пры нагодзе заяўлялі, што мы нікому не патрэбныя, што мы баласт і «пылазборнікі». Мы спрабавалі спрачацца, але не было чым крыць — нас сапраўды разгортвалі вельмі рэдка. А аднойчы ў нашага гаспадара гасціў ягоны сябра, і аказалася, што той сябра захапляецца падарожжамі на яхце. У той дзень мы нарэшце атрымалі задавальненне — нас гарталі, лашчылі і намі захапляліся. А ў канцы дня гаспадар падараваў нас, і мы пераехалі жыць у кватэру яхтсмена. Не ўсе, але некаторыя з нас, у тым ліку і я з «...астраноміяй» зноў атрымалі магчымасць вандраваць, бо наш новы гаспадар браў нас на яхту ў марскія падарожжы. Кожны раз, вяртаючыся, мы з гонарам распавядалі ўсёй бібліятэцы пра колер вады ў розных морах, пра дзіўных марскіх птушак і звяроў. Ад нас пахла водарасцямі і экзатычнымі раслінамі далёкіх краін. Мастацкія кнігі прыціхалі, і толькі час ад часу якая-небудзь «Выспа скарбаў» спрабавала насмешліва хмыкнуць — маўляў, ведаем, усё гэта маем на нашых старонках.

Так доўжылася доўга, мы састарэлі, раскудлаціліся і зжаўцелі. Дзе-нідзе старонкі нашы парваліся ад грубых пальцаў гаспадара-яхтсмена, і былі неахайна падклееныя. Разам з намі састарэў і ён. І ўрэшце нас зноў перасталі даставаць з паліцы. А потым усіх нас, усю «марскую» паліцу зноў падаравалі.

У яхтсмена быў сябра-газетчык. Высокі, мажны, з барадой-шатландкай і заўсёднай люлькай у зубах. Апрача журналістыкі не пазбягаў літаратуры. Пісаў літаратуразнаўчыя артыкулы. Атрымаў літаратурную прэмію імя Аляксандра Грына і гэтым вельмі ганарыўся. Найбольш захапляўся рамантычна-вандроўна-прыгодніцкімі творамі. Аднойчы ў доўгай гутарцы з яхтсменам, які часам

здараліся на падлозе (згадзіцеся, што на падлозе, гэта зусім не тое, што за сталом) ягонай кватэры за келіхам-другім віна, узнёсла распавядаў змест твораў Юрыя Казакова, асабліва хваліў «Паўночны дзённік». А напрыканцы сустрэчы даў яхтсмену гэтую кнігу на прачытанне. І здарылася непапраўнае — дома ў яхтсмена гэтую кніжку дашчэнту расшкамутаў сабачка-вельштэр'ер, які жыў там на правах члена сям'і. Галоўнае, ніколі ніводнай гаспадарскай кнігі ён не зачапіў, а тут — ушчэнт! Газетчык страшэнна пакрыўдзіўся, і, нягледзячы на тое, што яхтсмен шчыра «пасыпаў галаву попелам «, гэта значыць, прасіў прабачэння, сяброўства апынулася пад пагрозай. Выратавала наша паліца. Віноўца-яхтсмен у якасці кампенсацыі непапраўнай згубы падараваў нас усіх газетчыку, а той, калі прачытаў на старонках «Лоцыі Белага і Баранцава мораў» знаёмыя па «Паўночным дзённіку» назвы фіёрдаў, затокаў ды мысоў, прыйшоў у захоплена-ўзбуджаны стан, і дараваў сябру яго правіну. Так мы трапілі на лясны хутар, што застаўся газетчыку ў спадчыну ад дзеда і бабулі, і які ён выкарыстоўваў, калі хацеў пабыць у адзіноце. Дзіўна, але з усіх нашых гаспадароў гэты чалавек гартаў нашыя старонкі найчасцей, нягледзячы, што папярэднія праглядалі нашыя старонкі, так бы мовіць, з прафесійнай неабходнасці, а апошні толькі з-за цікаўнасці.

Але прайшло некалькі гадоў нашага спакойнага жыцця, якім мы былі задаволены, і раптам наш гаспадар перастаў нас наведваць. Хата пачала прыходзіць у заняпад, сцежкі да яе зарасталі і станавіліся ледзьве заўважнымі...

...У той час, калі «Навігацыя», што стаяла на паліцы ў закінутай, на лясной паляне, хаце, распавядала вам сваю гісторыю, з шашы ў лес з'ехаў легкавік. Праехаў па лясной дарозе можа з кіламетр, спыніўся, і з яго выйшлі пажылы мужчына і хлопчык-падлетак.

— Усё, унучак, далей не паедзем, бачыш, пасля дажджоў дарога раскісла, баюся засесці. А то замест грыбоў будзе тут у нас выратавальная аперацыя... — сказаў мужчына і дастаў з легкавіка кошыкі. — Ты ж глядзі, далёка ад мяне не адыходзь. І гукай часцей. Бо пагубляемся, не дай Бог. Не заблудзіцца б... Я ў гэтых мясцінах першы раз...

— У мяне на смартфоне навігатар, не заблудзімся! — бадзёра адказаў падлетак. — І табе, дзед, пара завесці. А то як нейкі лох — з кнопачным! Гэта ж сорам пры людзях з кішэні дастаць! Не разумею, мама колькі разоў прапаноўвала падараваць, а ты ўсё адмаўляешся!

— Эх, унучак... — скрушліва прагаварыў дзед. — Малы ты яшчэ... Мабыць, не зразумееш. Калі не зразумееш, то хоць запомні пакуль. Ніколі ты не павінен ацэньваць людзей па тых рэчах, якімі яны карыстаюцца... Ты ж не ведаеш, адкуль у таго ці іншага, да прыкладу, дарагі аўтамабіль, ці шыкоўны палац, ці той жа смартфон... Цалкам можа быць, што ў гонцы за дарагімі ці, як вы зараз кажаце, «крутымі» рэчамі, іх уладальнік craў, разбойнічаў ці проста быў мярзотнікам. Мне б не хацелася, каб ты ў сваім жыцці браў з іх прыклад. А што датычыць твайго навігатара — то, мяркую, ім трэба ўмець карыстацца... Ці ты ўмееш? Так што, будзь ласкавы — часцей гукай, каб мы чулі адзін другога.

— Дзед, а як гэта — «ацэньваць людзей»? — запытаўся ўнук, калі яны з дзедам, абыходзячы лужыны, адышлі крыху ад машыны па лясной дарозе.

— Ну, напрыклад, ты дамовіўся з кімсьці раніцою, яшчэ зацемна, пайсці на рыбалку. Ці як во мы зараз — па грыбы. І павінны сустрэцца на вакзале ў пэўны час, каб разам сесці на электрычку. А сябра своечасова не прыйшоў. Ты пачакаў-пачакаў і вярнуўся дадому. І ваша рыбалка, ці паход у грыбы, сарвалася. Натуральна, маглі быць вельмі важкія прычыны. Але ж сённяшнія сродкі сувязі дазваляюць адразу папярэдзіць: «...так і так, у мяне тое і тое, прабач, я паехаць не магу...» А твой напарнік нічога такога не зрабіў. І ты для сябе павінен зразумець, што на гэтага чалавека ніколі нельга спадзявацца. Не трэба з ім сварыцца, спрабаваць яго выхоўваць — трэба проста зразумець — ён у любы момант можа цябе падвесці. Вось гэта прыклад ацэнкі людзей. І зусім няважна, якой мадэлі ў яго смартфон... Або іншы прыклад. Цябе вырашылі пабіць непрыяцелі. Бывае ж так? Хлопчыкі заўжды б'юцца. Звычайная справа. Але замест высакароднай бойкі адзін на адзін, напалі, дапусцім, утраіх. А гэта ўбачыў яшчэ нехта, і ўлез у бойку на тваім баку, бо яму было невыносна бачыць такую несправядлівасць. І тыя трое наклалі ў каршэнь не толькі табе, але яшчэ і яму. Ён мог проста прайсці міма, ці паназіраць за падзеямі, але, нават не ведаючы за што цябе (можа, ты насамрэч заслужыў лупцоўку), ён адразу прыняў рашэнне выступіць на слабейшым баку. Такіх людзей не тое, каб шмат, але і нямала. І было б добра, каб ты цаніў такіх, хоць гэта бывае цяжка, і часам нявыгадна. І каб умеў забывацца пра сябе, калі чалавеку, што побач з табою, кепска. О! Вунь бачыш — ельнік? У такіх мясцінах часта баравікі растуць. Ну — з Богам!

Дзед з унукам збочылі з лясной дарогі, і, пераклікаючыся, пачалі сваё «ціхае паляванне», так часам называюць збор грыбоў, бо занятак гэты надзвычай захапляльны. Гэткі ж захапляльны, як і сапраўднае паляванне, калі страляюць, —»шумнае».

Праз некалькі гадзінаў яны сышліся, раўніва пазіраючы на кошыкі адзін другога. У абодвух яны былі запоўненыя да верху. У дзеда нават «з коптарам», гэта значыць вышэй краёў. У большасці — баравікі. А ўнукавы трафеі былі больш разнастайныя, і дзед пачаў рэвізію:

— Так, унучак, запамінай. Вось гэтыя, з карычневай шапкай і белай ножкай, гэта баравікі. Самыя важныя грыбы, самыя «крутыя», — дзед вываліў на спружыністую мохавую посцілку грыбы з унукавага кошыка і раскладваў іх у кучкі. — Гэтыя, з чырвонай, а часам з памаранчава-жоўтай шапкай і белай ножкай у чорныя рыскі — падасінавікі. Іх у нас на Палессі называюць яшчэ «чырвонагалоўцы». Яны на зрэзе сінеюць. Вось гэтыя... А гэтыя... А гэтых я не ведаю. Можа, яны і ядомыя, але лепей не рызыкаваць, — дзед адкінуў убок даволі вялікую кучку нейкіх квёлых грыбоў з плёначкай-спаднічкай на ножцы. — Ёсць у мяне добры знаёмец, вялікі знаўца грыбоў! Не паверыш — нават у студзені, тады зіма была цёплая, бясснежная — грыбы збіраў. Я з ім разам быў, таксама набраў пад яго наглядам. Доўга не рашаўся, але ўрэшце згатаваў і з'еў. Не

баравікі, але даволі смачныя! І як бачыш — жывы! — дзед засмяяўся. — А ўвогуле, з грыбамі трэба быць вельмі дасведчаным і асцярожным. Ёсць такія, што калі з'ясі, то ўжо ніхто не адратуе. Няма ніякіх лекаў супраць іхняй атруты.

Пасля «рэвізіі» ўнукаў кошык апаражніўся, можа, на траціну, і ўнук папрасіў:

— Дзед, давай частку тваіх грыбоў у мой кошык пакладзем... Табе лягчэй будзе...

— Добра, унучак, дзякуй, што клапоцішся. Цаню... Калі толькі гэта не дзеля таго, каб пахваліцца перад выпадковай публікай на вуліцы, — хітра прымружыў вочы дзед. — На, перакладвай. Слухай, мяне зараз вось што хвалюе... Я за гэтым заняткам зусім згубіў арыентацыю. Як думаеш, у якім накірунку наша машына? Я спадзяваўся, што мы ўвесь час шум аўтамабіляў на шашы чуць будзем, але, здаецца, занадта далёка адышліся. Прынамсі, я нічога не чую... Паслухай, калі ласка, у цябе вушы маладзейшыя.

Унук доўга прыслухоўваўся, прыстаўляў да вушэй далоні, круціўся ва ўсе бакі, але дарэмна, працу аўтамабільных рухавікоў не пачуў.

— Ой! У мяне ж навігатар! Зараз вызначым, дзе мы, і ў які бок нам рухацца. Тры секунды! — раптам схамянуўся хлопчык. Выцягнуў з кішэні смартфон, уключыў. Паторкаў пальцам у дысплей, пачакаў. І зніякавеў. — Тут мабільнай сеткі няма... Мы без інтэрнэту... Нават патэлефанаваць тату з мамай нельга. Дзядуля, мы заблудзіліся...

— Так... — пасур'ёзнеў дзед. — Усё жыццё збіраюся компасам разжыцца, і ўсё неяк не выпадае... Давай паразважаем. Шаша, па якой мы ехалі, цягнецца з захаду на ўсход. Мы з'ехалі з яе на пятнаццатым кіламетры ад нашага горада ўлева, значыць, на поўнач. І далей рухаліся, можа, недакладна, але таксама на поўнач. Такім чынам, шаша знаходзіцца ад нас на поўдні. Калі мы выйдзем на шашу, то здолеем знайсці месца, дзе з'ехалі. А там па лясной дарозе — да аўто. Зараз трэба толькі вызначыць накірунак на поўдзень.

Я ведаю! — заспяшаўся ўнук. — Я чытаў! Трэба знайсці тоўстае дрэва, у яго з паўночнага бока на стаўбуры расце мох!

Дрэваў, у тым ліку і тоўстых хвояў і елак, навокал расло дастаткова. Але праз некалькі дзясяткаў метраў дзед з унукам заўважылі, што не ўсё так проста. Мох на стаўбурах дрэў рос не аднастайна. То бок, адно дрэва паказвала «поўнач» у адным накірунку, а іншае — зусім у іншым.

Яны хвілін сорак хадзілі, спадзеючыся хоць выпадкова наблізіцца да шашы, каб пачуць шум рухавікоў, і выйшлі на невялічкую паляну, зарослую высокай травой. На краі паляны сярод старых хвояў, за паваленым плотам хавалася прысадзістая хата з прасеўшым шыферным дахам і невялічкі хлеўчык.

— Можа, тут хто жыве? — узрадаваўся ўнук. — Зараз спытаем дарогу!

— Не, здаецца хата даўно кінутая. Бачыш, які бур'ян навокал? Але ж павінна быць нейкая дарога ці хоць сцежка да людзей... — прамармытаў дзед. — Неяк жа сюды дабіраліся... Давай будзем шукаць. Пачнем ад парога. Глянь! Ніякага замка няма... Значыць, можна зайсці, гэта не будзе лічыцца «пранікненнем з узломам».

Усе кніжкі на стэлажах прыціхлі. Ментарскім, гэта значыць такім напышлівым, павучальным тонам, прамаўляла «Філасофія»: — Уся светабудова імкнецца да ўскладнення структураў. Возьмем, да прыкладу, развіццё чалавечай цывілізацыі. Ад першабытна-абшчыннага ладу, калі прыладамі для палявання і збірання ядомых раслінаў служылі простая палка ды камень. Потым нехта здагадаўся прывязаць гэты камень да палкі, атрымалася сякера. Потым палку сагнулі дугою, звязаўшы шнуром з раслінных валокнаў, атрымаўся лук... І гэтак далей, чалавечыя прылады паступова мяняліся, ускладняліся дзякуючы вынаходніцтву таго ці іншага чалавека. І цягам шматлікіх тысячаў гадоў чалавецтва прыйшло да сённяшніх суперскладаных машын, перадачы інфармацыі на адлегласці, да такіх рэчаў, пра якія далёкія прашчуры нават не маглі марыць. Як, дзякуючы чаму гэта здолела адбыцца? — узвысіла голас «Філасофія». — Гэта здолела адбыцца дзякучы Слову!

— Напачатку было Слова... — падтакнула «Філасофіі» «Біблія», — ...і Слова было ў Бога, і Слова было Богам...

— Ёсць такая тэорыя, — раздражнёна адрэагавала «Філасофія». — Але я зараз аб іншым, не пра крыніцу ўзнікнення ўсяго існага, а пра захаванне і перадачу інфармацыі... Не перабівай, калі ласка! Уявім, што ў нейкім старажытным племені нейкаму чалавеку прыйшло ў галаву, як зрабіць з палкі лук, які нашмат далей можа кідаць завостраныя галінкі-стрэлы, і тым падвышае эфектыўнасць палявання. І пасля палявання з лукам, калі было здабыта шмат мяса, ён намаляваў на сцяне пячоры, дзе жыло племя, пэўныя эпізоды таго палявання, вучоныя называюць іх «пятрогліфамі». Праз колькі гадоў у тую пячору засялілася на сталае пражыванне іншае племя, якое не ведала лука. І ўбачыла на сценах тыя пятрогліфы. І ўжо разумнікам таго племені не трэба было прыдумляць лук, яны скарысталіся вынаходніцтвам папярэдніка, а свой розум і энергію яны маглі скарыстаць для ўдасканалення таго лука, або стрэл. Вы разумееце да чаго я хілю? Пятрогліфы на сценах пячоры — яны былі першымі кніжкамі! Слова, гэта значыць карысная інфармацыя, атрымала магчымасць перадавацца наступным пакаленням шляхам пераносу інфармацыі з дапамогаю кніжак. Чым людзі адрозніваюцца ад жывёлаў? Наконт гэтага вяліся і вядуцца бясконцыя спрэчкі. А я скажу так: тым, што жывёлы перадаюць набытыя веды і навыкі толькі ад бацькоў да дзіцянятаў. Напрыклад, ваўкі Йелаўстонскага парку, гэта ў ЗША, навучыліся паляваць на бізонаў. І паспяхова перадаюць гэтае ўменне сваім нашчадкам. Але падселеныя туды ваўкі з іншых рэгіёнаў, дзе ніколі бізонаў не было, паляваць на бізонаў нават не спрабуюць. Іх ніхто не навучыў. Слова, інфармацыю, яны зафіксаваць не ўмеюць. Гэта даступна толькі людзям.

...Пасля пятрогліфаў кніжкі набывалі самы розны выгляд — былі выціснутымі на гліняных чарапках, надрапаны на бярозавай кары, выразаны на драўляных дошчачках, напісаны фарбамі на скрутках пергаменту... І ўрэшце набылі гэтакі выгляд, які маем мы. І параўнальна нядаўна, можна сказаць «на нашых вачах», кнігі сталі электроннымі, у выглядзе файлаў. Здаецца, толькі што тры-

валасць гэтых новамодных кніжак непараўнальная з намі. Куды дзеліся кнігі, запісаныя яшчэ пару дзясяткаў гадоў таму на так званых «дыскетах»? А мы, папяровыя кнігі, пры ахайным захоўванні можам трываць шматлікія сотні гадоў... Шкада толькі, што наш гаспадар гэтак даўно не з'яўляецца, хата наша хутка абрынецца, і ў гэтых умовах мы відавочна вырачаны згінуць...

Прамову «Філасофіі» перарвала рыпенне дзвярэй.

— Фэ, які смурод! — усклікнуў хлопчык. — І які вэрхал! Ніхто тут не жыве, дзед, і распытаць дарогу нам не ўдасца! Пайшлі адсюль...

— Добра, зараз пойдзем, адпачнем крыху, а то я нахадзіўся, ажно ногі гудуць, — сказаў мужчына, аглядаючыся. — Сапраўды, тут шмат гадоў нікога не было... Глянь! Кніжкі! Цікава, што за яны... «Мараходныя табліцы»... «Навігацыйная гідрметэаралогія»... «Марская практыка»... «Навігацыя»... Відаць, гаспадар гэтай хаты быў калісьці мараком. Хоць адкуль у Беларусі маракі... Можа, проста цікавіўся... Мне таксама заўжды было цікава, як арыентавацца, калі навокал толькі вада, да самага далягляду. Мы вось некалькі гадзінаў у лесе — і ўжо не ведаем, у які бок рушыць. Зараз бы нам не зашкодзілі веды па навігацыі...

Дзед узяў з паліцы шэрую патрапаную кніжку, потым, падняўшы воблака пылу, змёў з тапчана смецце, некалькі разоў чхнуў.

— Унучак, адчыні, калі ласка, дзверы насцеж, сапраўды тут дух яшчэ той... Я паляжу крыху, з паўгадзінкі. Потым пойдзем. Куды вочы глядзяць...

Крэкчучы, разлёгся на тапчане, разгарнуў «Навігацыю». Хвілінаў праз дваццаць гукнуў унука:

— Глянь, калі ласка, там сонца відаць?

— Хмарна, але праз хмары прасвечвае... А што? — азваўся хлопчык.

— Ды тут, у гэтай «Навігацыі», я на цікавую інфармацыю натрапіў. Калі малую стрэлку гадзінніка накіраваць на сонца, а потым вугал, утвораны ёю і накірункам на лічбу «1» цыферблата падзяліць напалам, то лінія, якая дзеліць, будзе накіравана на поўдзень. Ура! Мы выратаваныя! Кніга гэтая сур'ёзная, не тое, што звесткі пра мох. І не тое, што гэты твой «гаджат». Хе-хе! Гад-жаты... — пасмакаваў дзед слова, наўмысна вымаўляючы яго па складах. — Слухай, унучак, што ты скажаш на тое, каб выратаваць хоць частку гэтых кніжак? Увогуле браць без дазволу тое, што табе не належыць — гэта злачынства, але яшчэ некалькі гадоў, і гэтая закінутая хата абрынецца, і кніжкі апынуцца пад дажджамі і снягамі. Можа, забярэм іх з сабою? Ну, не як марадзёры, а як выратавальнікі? Дадзім ім шанец на працяг жыцця... Толькі табе прыйдзецца несці кашы з грыбамі. Як — здолееш?

Неўзабаве дзед, абвешаны звязанымі стосамі кніжак, і ўнук з двума паўнюткімі кашамі грыбоў павольна рухаліся лесам. Часта спыняліся, адпачывалі, дзед шукаў вачыма сонца, што бледным дыскам прасвечвала праз шэрыя хмары, маніпуліраваў з гадзіннікам. І — о, цуд! Прайшло зусім няшмат часу, як чуйны слых хлопчыка злавіў у тым баку, куды яны накіроўваліся, шум аўтамабільных рухавікоў.

— Але ж і нацярпеліся мы сёння прыгодаў! — прабурчэў дзед, пакуючы ў багажнік легкавіка стосы кніг і кашы. — Ты, калі ласка, бацькам не кажы, што мы крыху прыблудзілі. Не заклікаю цябе падманваць, проста — прамаўчы. Маўчаць — гэта зусім не тое, што казаць няпраўду.

— Праўду ты казала, — прашапацела «Навігацыя» «Філасофіі»: — Слова, пакінутае на маіх старонках паўстагоддзя таму, сёння вывела на правільны шлях гэтых дваіх людзей. Яна зноў адчувала сябе патрэбнай.

# Мая сястра Альжбэта

Паводле нашай «сямейнай легенды», якую тата і мама ўжо сто разоў распавядалі, калі мяне яшчэ не было на свеце, Альжбэта прасіла іх: «Нарадзіце мне брацiка, або сястрычку... Ці хоць сабачку!». Тата і мама, распавядаючы гэта, заўсёды смяюцца, ажно заходзяцца. А мне зусім не смешна. Альжбэта, гледзячы па ўсім, выпрасіла мяне ў таты з мамай для таго, каб было над кім здзеквацца, каго выкарыстоўваць у якасці прыслугі, або баксёрскага мяшка ці аб'екта для выхавання. Я спрабую не паддавацца, я ж як-ніяк мужчына, і ростам мы амаль аднолькавыя, але ж яна на чатыры гады старэйшая, і дужая, як конь. Дзіва што, два гады на бокс ходзіць. Мама з татам былі супраць яе заняткаў боксам, думалі, што ён зробіць яе «мужыкаватай», а яна аж вішчэла і ўрэшце свайго дабілася. І, калі шчыра, нічога мужчынскага ў яе абліччы я не бачу. Тонкая, гнуткая, спрытная... Толькі страшэнна ўпартая. Калі захоча мяне ад кампутара адагнаць, на якім я гуляю — ёй, разумееце, трэба тэрмінова пошту праглядзець, ці мэйл камусьці паслаць — то як бы я ні супраціўляўся, выцісне. А яшчэ хітрая... Як што, дык такая лісьлівіца становіцца... «Брацік, прынясі тое, аднясі гэта...», або «Тадзік (мяне Тадзікам клічуць), ну будзь сябрам...», і па галаве гладзіць. А я, калі мяне па галаве пагладзіць, такі згаворлівы станаўлюся! Потым ажно сорамна.

Я, калі на Альжбэту злуюся, называю яе «кабыла». Мама з татам адразу на яе абарону становяцца: «Ну як табе не сорамна гэтак сястру абзываць! Якая ж яна кабыла — глянь, якая прыгожая!». А тата яшчэ можа пры гэтым і па карку пляснуць. Не балюча, а так, дзеля абазначэння незадаволенасці. А я тады кажу, што «кабыла» — гэта не абраза. Бо коні, яны вельмі прыгожыя, вытанчаныя і грацыёзныя... Якая ж гэта абраза? Вось калі б я яе сарнай назваў, або газэллю, ці палічылі б яны гэта за абразу? Не? А між іншым, сарна — горная каза. І нічога там асабліва прыгожага няма. Толькі што спрытна па скалах скача... А газэль — рагата-парнакапытнае стварэнне. І карова — рагатая і парнакапытная... Магу яе «каровай» называць... Або «казой». Тут мама пачынае злаваць і называць мяне «дэмагогам», а тата рагоча.

Я злазіў у пашукавік на «Гугле» і знайшоў там, што «дэмагог» — гэта «той, хто ў развагах, спрэчках, выказваннях выкарыстоўвае пустыя, не заснаваныя на фактах фразы.» Глупства, ніякі я не дэмагог! Кабыла — гэта конь? Конь! Прыгожы і дужы? Так! Грацыёзны? Таксама так! А сарна — каза! Так кожны

скажа, хто яе ўбачыць. І газэль — з «сямейства паларогіх», парнакапытная жывёліна! Што тут не заснавана на фактах?

Часам Альжбэта просіць мяне пабыць у яе «спарынг-партнёрам». Гэта значыць, я павінен надзець баксёркія пальчаткі і яе пабіць. Мяне яна абяцае не чапаць. Я не вельмі люблю гэты занятак з ёю, бо гэта так толькі гаворыцца «пабіць». Насамрэч трапіць у яе амаль што немагчыма. Скача па пакоі як звар'яцелы матыль, і ўсе мае спробы дзяўбануць яе павісаюць у паветры або трапляюць па падстаўленых руках. Я пачынаю злавацць і спрабую загнаць яе ў цеснае месца, каб не магла ўхіліцца, і тады, нягледзячы на абяцанне Альжбэты толькі абараняцца, атрымоўваю па носе. Баксёрскай пальчаткай гэта не вельмі балюча, але вельмі крыўдна! І ўрэшце «спарынг» ператвараецца ў сапраўдную бойку. Як «эмэмэй». Мы валяемся па падлозе, але ўрэшце Альжбэта заўсёды апынаецца зверху і ўтрымлівае мяне так, што я не магу паварушыцца. Я ж кажу — кабыла!

Часам я на яе так злуюся, што ажно ў вушшу шуміць. А летась улетку яе на тры тыдні ў летнік спартовы (гм... «летась», «улетку», «у летнік»... прыкольна атрымалася!) «сплавілі», як тата казаў. Я дні два быў вельмі задаволены, што ніхто мяне ад кампа не адганяе, што ніхто кепікамі не дастае, не выхоўвае рознымі заўвагамі... А на трэці нешта зварухнулася ўва мне, і я пачаў сумаваць. А калі Альжбэта ўрэшце вярнулася, дык я ажно з абдымкамі на яе накінуўся. Хоць і засаромеўся потым. А праз гадзіну мы ўжо сварыліся.

У наш клас — я ў другім класе вучуся — з месяц таму навічка прывялі. Выглядае не па-нашаму, чарнявы, кучаравы, з гарбатым носам. І размаўляе так, што адразу і не зразумееш. Нешта гер-гер-гер. Але калі прыслухацца, то зразумела. Тата сказаў, што гэта «акцэнт». «Гугл» на мой запыт адказаў, што «акцэнт» — гэта «своеасаблівае вымаўленне, уласцівае чалавеку, які размаўляе на чужой мове». Клічуць таго хлопчыка Акоп. Для нашых дасціпнікаў нічога лепей нельга было прыдумаць, чым гэтае імя. Як толькі яго не дражнілі — і «Дот», і «Дзот», і «Бліндаж»... Акоп на гэтыя мянушкі рэагаваў спакойна — «я нэ Дот, я Акоп» — і праз якіх пару дзён гэтыя досціпы прыеліся, зніклі.

На пытанне: «Ты хто?», Акоп адказвае: «Армянін». Ёсць у нас кампанія, іх трое, якія амаль кожны перапынак пытаюць Акопа, і ён кажа «армянін», і з яго пачынаюць здзеквацца. Часам даходзіць да штурханіны. Потым, на наступным перапынку, усё паўтараецца. Я ўжо думаў параіць яму адказваць нешта іншае, раз ужо нашым хуліганам так недаспадобы гэтае слова. Напрыклад, «я — беларус», або проста «чалавек». Падзяліўся гэтым з Альжбэтай, а яна сказала, што адракацца ад сваёй нацыянальнасці, гэта як адракацца ад сваякоў, нават яшчэ больш ганебна.

Альжбэта плавае як рыба. Сорамна прызнацца, я плаваць навучыўся зусім нядаўна, у час мінулых летніх канікул. Якраз, калі яна з летніка вярнулася. Тата з мамай мяне на раку пускаюць толькі разам з сабою, або з Альжбэтай. І якраз пасля яе вяртання мы пайшлі на канал. Туды крыху бліжэй, чым да пляжа, і частка людзей там купаецца. Часам рыбу вудзяць. Альжбэта ўзяла вуду, мы размясціліся на беразе ўбаку ад купальшчыкаў, з невысокім, але даволі

крутым схілам, парослым травою. Альжбэта ўтаропілася ў патанак, а я сядзеў побач і разглядаў рознакаляровых матылёў і стракоз. Не ведаю, як гэта атрымалася, але раптам я ўбачыў над сабою бурбалкі. Я павольна пагружаўся, і бачыў, як ад мяне ўверх падымаліся бурбалкі, як варушылася паверхня вады, знізу яна была серабрыстай. Потым — плюх! — і мая галава ўжо над вадою, я ўвесь мокры, і мяне за каўнер трымае Альжбэта. Стаіць ля самага берага на дне, вада даходзіць ёй да грудзей, адной рукой учапілася за лазіну, другой — за мой каўнер. А вочы ў яе... Я нават не знаходжу слоў, каб растлумачыць, якія ў яе былі вочы. «Як ты ў ваду споўз — я не заўважыла... — распавядала потым Альжбэта. — Толькі чую побач ціхі такі гук — «Блюммм», і бачу пад паверхняй твой твар. Саскочыла, працягнула руку, і паспела... Тадзік, вельмі цябе прашу, пра гэта нікому не кажы. Асабліва маме і тату. Ну, ты ж сам не дурань, павінен разумець — калі раскажаш, то ніколі болей са мной цябе на раку не адпусцяць. А я з сённяшняга дня табою займуся. Такі ўжо амаль дарослы, а плаваць не ўмееш... Ведаеш, што казаў Архімед пра чалавека, на яго погляд зусім нявартага? «Ён не ўмее ні плаваць, ні чытаць...».

(Потым дома я «нагугліў» пра Архімеда. Нешта малазразумелае. «Навуковец і інжынер. Зрабіў шмат адкрыццяў у геаметрыі і матаналізе...» Не ведаю, што за «геаметрыя», што за «матаналіз»? Матаналіз... Мабыць, нешта пра кепскія словы, якія мама з татам мне забараняюць вымаўляць...).

А тады мы перайшлі да купальні, распрануліся, развесілі на прыбярэжных хмызах вопратку, і Альжбэта пачала вучыць мяне плаваць. Потым такія заняткі былі яшчэ, а тым разам я зразумеў — вада можа трымаць! Калі зрабіць поўны ўздых, затрымаць дыханне, ды скруціцца ў вадзе, абняўшы рукамі падціснутыя калені — вада трымае! І ты вісіш ля яе паверхні, як патанак, спіною ўверх.

Калі вопратка высахла, мы пачалі збірацца дадому, я заблытаўся нагамі ў вудачцы і зламаў вяршынку вудзільна. Гэта была ўлюбёная татава вуда — я сам чуў, як тата двойчы паўтарыў, каб Альжбэта не дай Бог яе не пашкодзіла. Натуральна, яна разлютавалася, балюча ўрэзала мне па карку, і назвала «дурным слонапатамам». Я адказаў ёй «кабылай». Мы пасварыліся, і ўжо два дні не размаўляем. Дакладней, не размаўляе яна. Робіць выгляд, што мяне не чуе і не бачыць. А віну за паламаную вуду ўзяла на сябе — я прыгразіў, што распавяду пра «выратавальную аперацыю». Натуральна, я ні пры якіх варунках гэтага б не зрабіў, але пагроза падзейнічала.

Нічога, заўтра мы едзем у сталіцу, гэта недалёка ад нашага горада, але мяне аднаго яшчэ не пускаюць, толькі з Альжбэтай. Вось заўтра і паглядзім — як яна будзе прытрымлівацца свайго «байкоту»? Мы едзем у лялечны тэатр. У нашым горадзе ёсць кінатэатры, ёсць «дарослы» драматычны тэатр, а лялечнага няма. Квіткі на спектакль «Цудоўная Галатэя» нам прывезла цётка Гэля, маміна сястра. Я ў нецярпенні, хоць не вельмі ўяўляю, што там будзе за гледзішча...

...Гэта было грандыёзна! Мы з Альжбэтай ішлі з тэатра лялек, спяшаліся на чыгуначны вакзал, і я ўжо не памятаў змест спектакля. Я памятаў толькі, што гэта грандыёзна, што тыя вялізныя лялькі, тыя колеры, уборы, дэкарацыі — я

ж разумеў, што гэта ўсё такая гульня, але быў упэўнены, што гэта якраз і ёсць гульня, у якую толькі і варта гуляць. Я быў агаломшаны! І не разумеў — чаму. Альжбэта даўно забылася, што яна мяне «байкатуе», і пару разоў здзіўлена пыталася, што са мной. Нешта, відаць, ува мне яна ўбачыла незвычайнае...

Мы наўкос пераходзілі сквер, наперадзе ўжо былі відаць прывакзальныя вежы і сам вакзал. Злева стаяла бронзавая дзяўчынка пад дзіравым парасонам. «Глянь...» — сказаў я. Хацеў дадаць: «...вось яшчэ адна кабыла...», бо тая, металічная, была страшэнна падобная да Альжбэты. Але нешта мне не дало вымавіць гэтыя словы. Скульптура здалася мне такой пяшчотнай, такой лёгкай, што даткнуцца да яе грубым словам (а я ж разумею розніцу паміж «кабылай» і «газэллю»), нешта мне не дазволіла. Я ўсё яшчэ быў пад уплывам уражання ад спектакля, і нейкі... мяккі. «Глянь — рыхтык ты...».

Альжбэта недаверліва глянула на мяне, прыцішыла хаду, павольна падышла да дзяўчыны і пачала яе ўважліва разглядаць. Я пастаяў крыху і вярнуўся назад, у цэнтр сквера, дзе хвілінай таму заўважыў іншую скульптуру — кабету ў капелюшы. Яна сядзела на лаве, нібыта адпачывала пасля спектакля, дзе была акторкай, і ад яе веяла такой годнасцю, што мне стала няёмка вось так, нахабна, на яе вылупляцца. Мне хацелася апусціць вочы. Нібыта я баяўся абразіць позіркам. І ў гэты момант з мяне нехта сарваў бейсболку. Новенькую бейсболку з эмблемай «Мазды», якую разам з кветкамі на спектакль падаравала цётка Гэля. Я павярнуўся і ўбачыў падлетка. На паўгалавы вышэйшага за мяне, на паўтулава шырэйшага. Бейсболку ён схаваў за спіну і, нахабна ўсміхаючыся, мяне разглядаў.

«Аддай, — жаласна папрасіў я. Імгненнае «падзенне» з вышынь узнёслых пачуццяў у нечаканыя абставіны сярод дрэў і хмызоў сквера, дзе на вачах бронзавай кабеты, да якой у маім сэрцы расплываецца пяшчота, мяне рабуе нейкі пыхлівы хлопец, я адчуў як страшэннае прыніжэнне, ніжэй якога ўжо быць не можа. — Аддай. Гэта падарунак цёці Гэлі.»

Нічога больш узмацняючага маё прыніжэнне, як гэтая спасылка на «цёцю Гэлю», прыдумаць было нельга. Хлопец зарагатаў і надзеў маю бейсболку сабе на галаву. Як я там перад гэтым сказаў — «...быць не можа?». Можа.

Хлопец ужо павярнуўся, каб ісці, як за ягонай шырокай постаццю нечакана аказалася Альжбэта. У параўнанні з ім яна выглядала, як вадзяная калонка, насупраць воданапорнай вежы. «Цябе аб чым просяць? — Аддай! Не тваё — не чапай! « — голас Альжбэты быў нацягнуты і звінеў.

«Гэта яшчэ што за каза? — вымавіў хлопец у прастору, быццам размаўляў сам з сабою. — Згінь!» І працягнуў руку, каб адсунуць Альжбэту з дарогі. Рука яго працяла паветра, бо Альжбеты ўжо там не было. «Лясь!» — хвастануў па вушах гук. Хлопец схапіўся за твар, зламаўся ў паясніцы і заенчыў.

...Мы ехалі вячэрняй электрычкай. Сядзелі на мулкіх лавах, і я ўзгадваў сённяшні дзень.»Адракацца ад сваякоў... ганебна...» — прыйшлі мне на памяць словы Альжбэты. За вокнамі ў цемры праплывалі агні. Я пяшчотна прыціснуўся да сястры і злавіў яе здзіўлены позірк.




# Вячаслаў Лапцік

празаік, драматург, публіцыст. Аўтар кніг: «Паядынак у ціхай затоцы», «Мой сум, Нарочча...», «Хвалі гамоняць пра легенды», «Ранішняя дарога», «Нарач горка плача». П'есы ставіліся на сцэнах драматычных тэатраў краіны. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Сіманы на Мядзельшчыне. Жыве ў Мінску.

# Чорная ружа

Летам у італьянскім сонечным Рыміні мы з сяброўкай Светай рабілі абход маленькіх шапікаў з рознай сувенірнай драбязой. Гэты сучасны горад перапоўнены вёрткімі крыклівымі гандлярамі і морам наехаўшых турыстаў, частка з якіх выдзялялася занадта светлымі тварамі, затое іншыя занадта ўхапілі сонца і хадзілі чырвоныя, як выцягнутыя з цяпельца ракі. Тут цябе ледзь не ловяць за рукавы і крыкліва сунуць усякую непатрэбшчыну. Прама на ўзбярэжжы амбалістыя чорныя афрыканцы з асляпляюча белымі зубамі, без капелюшоў і з адкрытымі галовамі нават на дзікім сонцапёку, настырна збываюць акуляры і сумкі, каралі і засохшыя марскія ракушкі. Праўда, іхні тавар надта дарагі для нас, прыезджых з горада-героя Мінска. Тут, побач са мной, з выглядам мажнай еўратурысткі агляд рабіла і Света, з плямамі аблезлай скуры на плечыках. На ейным твары выдзяляліся круглыя вачніцы і белы нос: яна здымала сонечныя акуляры толькі ў пасцелі і нос залеплівала нямецкай, з сабой прыхопленай, мяккай наклейкай. Ведаючы яе круты нораў і сапсаваны зранку настрой, я стараўся з ёй не надта выходзіць на кантакты і трымацца далей. Мая сяброўка крочыла наперадзе, а я ззаду, з незалежным выглядам, тыцкаўся і бязмэтна прыпыняўся каля шапікаў. Ну што зробіш, калі тая ўначы, ад дзікага смылення перапаленай скуры, ледзь не выла і лезла на сцяну. Вось і зараз на кірмашы адчувала нясцерпны боль нават ад дотыку лёгкай сукенкі і праклінала ўсё на свеце, а ў першую чаргу, мяне, хто выцягнуў яе «не бузець у Мінску», а паехаць на мілае Адрыятычнае мора. Быццам учора я па-садысцку прывязаў яе тоўстымі вяроўкамі да лежака, не даючы варухнуцца, і трымаў цэлы дзень пад адкрытым небам. А там жа адбылося наадварот: яна не слухалася, і я ніяк не мог выгнаць яе ў цянёк з дзікага санцапёку.

Але за тры гады нашага сяброўства да ейных выбрыкаў я ўжо прывык і не надта звяртаў увагу. Мая Света зараз праводзіла аглядкі гарадскога кірмашу, крайне заваражаная вялізнымі вазамі, цуда-звяркамі і каляровымі рыбкамі з дзівоснага муранскага шкла. Яна моршчылася ад болю і прыпынялася каля кожнай маленькай крамы і доўга жмурылася, узіраючыся ў цэтлікі з коштамі, і пераходзіла далей, тупацела каля вітрын, вышукваючы таннейшы сувенірчык на памяць. Я адарваўся далёка наперад і прытармазіў каля вялізных вынасных паліц з мілымі бела-жоўта-чырвона-чорнымі ружамі. У пластмасавых ярка-сініх, пад колер мора, вёдрах (каб паболей залезла) тут стаяла безліч чароўных кветак з пульхнымі распушчанымі бутонамі, напаўняўшымі гарачае паветра мяккім водарам.

— Колькі ж яны ў іх каштуюць? — ціха запытаў я сам у сябе.

Гандляр, мужчына гадоў пяцідзесяці, у пакамечаных заношаных джынсах (тут так амаль усе ходзяць) і яркай кашулі — чорнай, з размаляванымі на грудзях чырвонымі ружамі, напэўна, італьянскай, упіўся ў мяне позіркам. Кінуўшы

сваё звыклае месца за прылаўкам, выскачыў адтуль і, разгарачыўшыся, схапіў мяне за руку: — Прасціця, вы не з Беларусі?

— Ага, — насцярожыўся я, чакаючы нейкай наколкі і хітрай раскруткі, на што падобныя гандляры майстры.

— А я адразу пазнаў! — аж падскочыў усхваляваны кветачнік, і твар ягоны ажыў, быццам раптам спаткаў сапраўднае дзіва. — Во як мне павязло! Увідзіў сваяво чалавека, эта тут бывае надта рэдка! Вы ведаеце, скажу сэнсацыю, я такжэ адтуліка!

Сапраўды, у яго гаворка была беларуская, поўная бочка адной трасянкі, вымаўленне толькі наша, не чужое, а вось лексіка...Ды чаго дзівіцца і хапацца за галаву, калі нават у родным Мінску значная частка жыхароў шчыра прызнаецца, што гаварыць на роднай мове ні ў зуб нагой. Ягоны стомлены высахшы твар, разгублены вінаваты позірк, пачырванеўшыя бліскучыя вочы, быццам толькі што спешна спаласнутыя салёнай марской вадой, доля залішняй мітуслівасці ў рухах — да падобных мужчынскіх экзэмпляраў я прывык, бо іх, няшчасных, густа напладзілася на нашай зямлі. У Мінску яны з шасці гадзін ранку туляюцца каля прадуктовых крамаў, займаючы чэргі, а пасля ледзь не ламаючы дзверы, з шалёным імпэтам пруцца наперагонкі ў віна-гарэлачны аддзел. Затым яны, амаль усе размаўляючы «на мешанцы-трасянцы», сваёй дружнай кодлай п'юць «чарніла» з гарлякоў у парках, скверах і каля пад'ездаў жылых дамоў, нават прама на вуліцах, прыхаваўшыся ў заценях дрэў.

— Мне так прыемна, што тут, на далёкай Адрыятыцы, спаткал свайго чалавека! Вы адкуліка? Із Мінска?

— Адтуль. Прыляцеў сюды трошкі перадыхнуць, — адказаў я, разглядаючы спачатку ягоныя пераношаныя джынсы з дзіркамі на каленях а пасля яркую выквітнелую кашулю.

— А я, ведаеце, сам з Маладэчна! — пачакаўшы, пакуль я ацаню ягонае ўбранства, прадставіўся ён, пасля трошкі падумаў і неяк тужліва дабавіў: — Але во куда забраўся, гары яно пропадам!

— Сюды даў цягу дваццаць гадоў назад разам з італьяначкай, о-о, якая была жанчына! Казачны цымус! Ды жыццё не пайшло, усё перакруцілася! — са смуткам спавядаўся ён.

— Зараз не шкадуеце? — задаў я звыклае пытанне, а для сябе адзначыў некалі даволі прыгожыя і акуратныя рысы ягонага твару і падумаў: яркая італьянка абы ў каго не закахаецца. І бачыў, што ён проста надта хоча працягнуць наш дыялог.

— А што я згубіў у Беларусі, асобенна зараз, пры гіперінфляцыі, зачэм туды вяртацца? Гары яно пропадам! Таму тут занімаюся чэм папала і так акалачваюся. Я ціхі адзінокі гастарбайтар на чужой зямле... Адвыкаю ад Бацькаўчыны, хоць па начах часта мучаюся... Да гэтага часу мая галовушка думает па-беларуску, вы хоць заўважылі? У снах прыходзяць да мяне тата і мама, сястра Люба, і ўсе яны размаўляюць толькі на беларускай мове... Мы з сябрамі купаемся

ў Вушы, ныраем, а пасля ловім рыбу. А вудзільны нашы з доўгіх ляшчын, жылка старая і рвецца, а плотачак цэлае вядро... І маё дзяцінства прыходзіць да мяне ў снах пастаянна, часцей за ўсе, вы не паверыце!.. Прачынаюся сярод ночы, сэрца маё сціскаецца ад нуднай маркоты і хочацца горка плакаць...

Ягоныя шчокі ярка заірдзеліся ад хвалявання, а на змэнчаным шурпатым твары загарэліся агніста-чорныя вочы, і тады я зноў зразумеў, што ў маладосці ён быў зайздросны беларускі кавалер.

— Родная зямля заўсёды цягне, куды б чалавека лёс не закінуў, — падтрымаў я яго звычайнай сухой фразай, цікаўна назіраючы за немцамі (вызначыў па гутарцы), што прыпыніліся побач. Тыя пастаянна размаўлялі на сваёй роднай мове, крыху абрывістай і нечым задзірыстай, трымаліся спакойна і ўпэўнена, безумоўна, маючы ў кішэнях вялікія грошы, тыя ж самыя еўра. Калі шчыра — не тое, што я, вечна бедны беларус, які эканоміць кожны рубель, каб з вялікай цяжкасцю сабрацца і з'ездзіць у замежны адпачынак. Група з Германіі ўважліва падбірала сабе букеты з вялікіх руж і з нямецкай скрупулёзнасцю прымярала па даўжыні сцяблінкі, без дрыготкі ў руках і мінтрэгі ў вачах за кожны патрачаны еўрык...

Кідаючы адным вокам на гасцей з ружамі, беларускі эмігрант спяшаўся са мной падзяліцца сваімі думкамі. Аказваецца, каб не скіснуць ад тугі і немачы ў чужой старонцы і не спіцца ў адзінокай журбе, бо справа ішла й да гэтага, злавіў на вуліцы і прынёс дахаты маленькага чорнага коціка са светленькай пыскай і такімі ж беленькімі кончыкамі лапак каля кіпцюрыкаў, і назваў яго Янка. Бо такі самы экзэмпляр Пушок жыў у яго любай матулі, калі хлопчык быў зусім маленькім і пайшоў у першы клас. Са сваім жывым скарбам з белымі ножкамі вёў дыялогі на «маладэчанскай гаворцы» і прывучыў да таго, што мілы мурлыка «ператварыўся з італьянца ў беларуса», выдатна разумеў беларускую мову, а італьянскія словы слухаў насцярожана і няўцямна, лашчыўся і слухаўся толькі тады, калі далёкі эмігрант размаўляў на роднай мове. Спачатку гаспадыня, схуднелая ад пражытых гадоў і вечнай непрыяззі да ўсіх на свеце, якая хадзіла толькі з недаверлівым позіркам, заўсёды маўклівая старая дзева, злосна вытрашчыла свае вочы, як чорт на ладан, і стала на дыбкі. Маўляў, у маёй фазэндзе блудныя каты не патрэбны, пакой выдзелены пад цябе, а не пад бруднага вулічнага бадзягу... Але давялося пайсці на крайнасць і нагарадзіць дурной бабе ўсялякай фігні, маўляў, Янка тайком дастаўлены сябрам з далёкай радзімы, з еўрапейскай Беларусі, і коцік прайшоў неабходныя санэпідэмічныя працэдуры на мытні і ніякіх вірусаў сюды не прывёз. Нават, маецца дакумент, калі гаспадыня моцна захоча, — можна адшукаць... Гаспадыня суцішылася, і ейны гнеў завяў, толькі загадала назапасіцца на свае грошы пластмасавымі саўкамі і цэлафанавымі кулькамі, каб аператыўна выносіць каціныя спаражненні.

Згустак эмоцый земляка выплёскваўся проста праз край, як тая марская вада на ўзбярэжжа ў час бурнага прыліву. Напэўна, зараз супыніць яго было

немагчыма — тут у Італіі яму надта карцела спаткацца з земляком і выгаварыцца, перакінуцца жывым беларускім словам. Цяпер на яго кветачным кірмашы існаваў толькі я, лепшага і цікавейшага пакупніка ён даўно не сустракаў і не бачыў. Яму ўжо было напляваць на свой жывы тавар, ён за ім, нават, не сачыў і нікога голасна не зазываў набыць свае дзівосныя ружы. Беларус з Маладэчна не звяртаў увагі на некалькіх турыстаў каля шырокіх паліц, застыўшых каля ягоных ружаў, уважліва тыя разглядаючы, штораз нагінаючыся і ўдыхаючы дзівосны водар.

Ён не любіць сваю гаспадыню, бо тая надта ваяўнічая, строгая і дурная, гары яна пропадам, але што зробіш і куды дзенешся. Абыходзіць бокам і іншых маладзіц, бо даўно ў іх расчараваўся, а некалі не стамляўся іх перабіраць, каб знайсці нарачоную.

— Я даўно зразумеў, што пагалоўна ўсё баб'ё дрэнь! — ён на вачах ажываў, стомленая вялasць знікала з ягонага позірку, і вочы загарэліся нечаканай жорсткасцю, асабліва, калі побач спыніліся дзве маладзенькія пляжніцы ў спакуслівых купальніках... — Ты са мной яшчэ можыш пагаварыць? О-о, выдатна! Тагда я проста шчаслівы і раскажу яшчэ...

У эмоцыях ён мне даводзіў, што нельга верыць жанчынам гарачым і жарсным, бо загарацца неўтаймаваным полымем і цябе імгненна спаляць, быццам тонкую саломіну на адкрытым агні. Да таго ж, кожны ўчынак яны сувымяраюць толькі з выгадай і стараюцца знайсці тую ва ўсім.

— Ды ты, разумны сучасны Дон Жуан, навучаны жыццём, а не проста звычайны аматар чаркі! — падумаў я, але ўголас нічога не сказаў.

Глянуўшы на пакупнікоў каля кветак, якія хмурыліся і вачыма ўпарта клікалі прадаўца, беларус на італьянскай зямлі схамянуўся і неяк вінавата апусціў вільготныя вочы, пасля працёр іх далонню, як стары рыбак, пільна ўзіраючыся ў марскія далі: — Цяпер, відзіця, кветкамі таргую. Дзевяноста процэнтаў заробленага ідзе ў кішэню гаспадыні, а дзесяць сабе, — ён працягнуў мне руку, быццам старому знаёмаму, і нечакана выпаліў. — Прабачце, можа, падкінеце на куфаль піўца? А-а? Я так міласціну ні ў кога не прашу, толькі ў вас, у земляка...

Выцер рукавом кашулі перагарэлы на сонцы цёмна-карычневы высыхлы твар, і я яму паверыў. Тут, сапраўды, прасіць не станеш, гэта не тое, што на радзіме, калі нікога не баішся і ўсіх лічыш сваімі людзьмі, у Італіі ты — не тутэйшы, а чужынец, і гэта вызначаецца здалёк, таму — дулю табе дапамогуць.

Прызнаюся, я зусім не заможны беларус і ніколі б не выкінуў на вецер ніводнага еўрыка, гэта стопрацэнтна. Але ж ён наш, задрыпаны чалавек на італьянскай зямлі, і папрасіў па-беларуску, і, нават, выразна прамовіў «куфаль». Таму я не змог адмовіць. Глянуўшы на сваю спадарожніцу, якая трэці дзень насядала на мяне і марыла правесці вечар у кітайскім рэстаране Suchi house, а я адбіваўся і цвердзіў, што гэта надта накладна і мне пасля не хопіць фінансаў на дарогу дадому, а тая зараз ледзь не носам прыціснулася да шапіка і

засяроджана разглядала дзівоснае муранскае шкло найвышэйшай якасці, я зразумеў, што можна не асцерагацца. Хуценька дастаў з кішэні дзесяць еўра і сунуў яму пад цёмна-блакітнае вядро.

Я б ніколі не аддаў нават аднаго еўра вандроўнаму амерыканцу (няхай уміляецца перад сваімі мільярдэрамі з-за акіяна і лісліва папрашайнічае ў іх, якіх тут не так і мала, яны за беларусаў багацейшыя), смугляваму густавалосаму азіяту (можа «выбіць» грошы ў сваіх суайчыннікаў, тых самых японцаў, паўднёвакарэйцаў, яны нашмат лепей жывуць за нас), чорнаму здаравяку афрыканцу ( «Калі блага — гані назад у густыя джунглі і нямкай бясплатныя бананы!»), але ж гэты, падкошаны і замучаны жыццём гандляр — беларус! Маладэчанскі беларус! Чалавек з маёй зямлі, не патрэбны дома і адзінокі на чужыне, хто не адшукаў шчасця і на беразе цёплага Адрыятычнага мора.

Ягоныя вочы ў здзіўленні пакруглелі і нават сталі больш выразнымі, набыўшы ранейшую вабнасць: — Можа, замнога?

— Столькі за тое, што не забыў сваю мову. Толькі запіхні глыбей у кішэню і не размахвай у паветры, бо заўважыць мая сяброўка...

З радасцю схапіўшы купюру і адразу засунуўшы яе ў нагрудную кішэню стракатай кашулі, ён усхвалявана прамовіў: — Спасіба. Не так сказаў — вялікі дзякуй! Хай Бог падорыць вам толькі радасць! — нахіліўся бліжэй, ледзь не да самага вуха, каб ніхто не пачуў, і, азірнуўшыся на кучку немцаў, яўна са спалахам, ціха заўважыў: — А вы, братка, часам не нацыяналіст! За дваццаць лет страчаю першага чалавека ў Італіі, які тут шпарыць на роднай мове.

Ого-го, нават псіхалагічна гэта быў чысты беларус і выходзец з маёй роднай зямлі, бо не першы год жывучы ў Італіі, дзе ніхто нічога не асцерагаецца і па-беларуску не разумее, баяўся ўголас вымавіць «нацыяналіст». Ён абыходзіў бокам падобныя словы і баяўся іх вымаўляць нават на беразе Адрыятычнага мора, быццам тыя, як стратэгічныя ракеты, знішчаюць усё навокал, прыносячы акружаючым адныя беды і расчараванні. Такіх баязлівых, асцярожных і няўпэўненых людзей, як нашы беларусы, мне падаецца, больш у Еўропе не засталося.

— Дык вы...гэты самы...нацыяналіст? — з жывой цікавасцю ў вачах запытаў ён, нарэшце вярнуўшыся да ганлёвых справаў, пільна паглядзеўшы на пакупнікоў. — А вы там, на Беларусі, прасціце, нікаво не вешаеце і не страляеце? Га-а? У Мінску турму на Валадарцы не завалілі рускімі. — Перахапіўшы мой яўна гнеўны позірк, зразумеў, што ляпнуў языком лішняе і можа, чаго добрага, страціць ахвяраваныя дзесяць еўра, якія я магу запатрабаваць назад. — Не-не, вы толькі не абяжайцеся, я не пра вас. І пачаў хуценька тлумачыць: — Помню, я трапіў на сходку ў Маладэчанскім доме культуры, і там нас так напалохалі! — ён уважліва глядзеў на мяне, і ў вачах яго быў прытоены страх. Той звыклы беларускі страх, які хаваўся недзе там, унутры, некалі завезены з роднай зямлі ў Італію, і да гэтага часу так і застаўся жыць, хоць нібыта не меў ніякай падпіткі, але ж пакуль так і не прапаў...

— Чым?

— Важныя дзядзькі з трыбуны ў касцюмах, па-мойму, з гаркама парціі, крычалі, што все нацыяналісты бандзіты і срадні сепарацістам. В ніх рукі па локаць в краві і таму рвуцца к власці, каб всіх інародцаў перасадзіць іль выгнаць за граніцу.

— Зараз ты ў гэта верыш? — спахмурнела запытаў я.

— Не... Беларускі нацыяналіст — залаты чэлавек, во што я паняў! — паспяшаўся ён з адказам. — Іх, нацыяналістаў, трэба панімаць і любіць, я аб гэтым січас буду гаварыць усім.

Мой зямляк з далёкай італьянскай зямлі раптам схамянуўся, кінуў мне: «Стоп-стоп!», падскочыў да купкі немцаў і з мілым тварам нешта сказаў, я зразумеў: папрасіў іх пачакаць. Строгія позіркі германцаў запытальна ўтаропіліся ў мяне, бо яны не маглі зразумець, што за такі салідны кадр раптам з'явіўся на кірмашы, каму кветачнік удзяляе так шмат увагі. Мо, нават, прыхаваны мільярдэр, які дазволіў сабе прагуляцца без асабістай аховы, хоць нешта не падобна. Спрытна падскочыўшы да вялізнага вядра, якое стаяла на стале бліжэй да нас, зямляк трошкі пакапаўся, падабраў і выцягнуў адтуль дарагую чорную ружу на высокай сцябліне.

— За дабрыню і ўважэнне да мяне, няшчаснага беларуса, — настойліва сунуў мне яркую кветку, застаўляючы ўзяць, хоць я асцярожнічаў і баяўся параніць рукі аб калючкі. — Каб успаміналі доўга-доўга добрым слаўцом. А пра вас, чалавечнага беларускага нацыяналіста, што так міла гаворыт толька на роднай мове, раскажу дажэ сваёй злой гаспадыні!

Зрабіўшы жэст абазнанага парфюмера, абнюхаўшага за сваё жыццё мора кветак, я нахіліў галаву і асцярожна прыклаўся носам да цнатлівых пялёсткаў. Мне падалося, быццам яны ўвабралі ў сябе яркае асляпляючае сонца, марскія далі і нарачанскія берагі. Сапраўды, так улетку пяшчотным ласкавым сонцам, жывой свежасцю чыстых блакітных тоняў разам з водарам густой прыазёрнай руты пахне Нарочча, калыска майго дзяцінства.

— Бясплатна? — я не разумеў ягоны самаахвярны ўчынак, бо за такую вольнасць яго чакала добрая ўзбучка ад злой гаспадыні.

— Мая сквапнюга старая каждый вечар асобенна правярает белыя ружы, а вось за чорнымі кантроль меншы. Скажу, узяў надламаную, саўсім завяла і давялося выбрасіць. А вы падарыце сваёй сяброўцы, гэта ад беларуса на італьянскай зямлі...

— Дзе ты выкапаў такую чорную ружу? — запытала ў мяне Светка, усё яшчэ прыкаваўшы свой позірк да набытай з каляровага шкла нейкай незямной пачварыны...

— Мог бы да чорнай ружы дабавіць адну, не, дзве белыя... Фу-у, дзе твой густ? — яна чаплялася да ўсяго, і сёння ёй анічога не падабалася.

Тут яна перахапіла радасны позірк майго земляка з Маладэчна, які, прадаўшы немцам вялізны букет, чамусьці трымаў у руках еўра і ў захапленні не

зводзіў з яе вачэй. Уражанне такое, што не я яму сунуў «на піўцо» дзесяць еўра, а гэта яго ашчасλівіла Светка. Альбо спаткаў не маю спадарожніцу, хоць, калі шчыра, глядзіцца яна даволі ніштавата, а нейкі цуд, што абрынуўся з неба на зямлю. Упіўся вачыма ў яе, як у нейкага нябёснага анёла ў чорных акулярах з заклееным белай паперай носам, у кароткіх шортах і пляжных тапках. Але такая павышаная ўвага да ейнай персоны Светцы яўна імпанавала. — Ну нічога, — падабрэўшым, мяккім голасам заўважыла яна, павярнулася бокам да гандляра і адразу надала роўнядзі свайму стану, каб не так горбіцца і выглядаць маладзейшай, затым пачала харахорыцца, папраўляючы пад летнім капялюшыкам густыя белыя валасы, быццам трапіла на танцпляцоўку і завалодала ўвагай маладых хлопцаў, вышукваючых сабе пару для танга.

— Ну не бурчы. Я ж не скуголю, што ты набыла такую фігню са шкла, хоць і муранскага, і не падумала пра грошы на дарогу? Белую ружу табе дакуплю сам, дарагую, але тады ў кітайскі рэстаран вечарам не пойдзем, згода? — узяў яе за руку і, на вялікую радасць, адчуў ейны лёгкі поціск.

Ласкава абняў за плечы, ведаючы, што праз пяць-дзесяць хвілін яна адыдзе, непаразуменне паміж намі скончыцца, і благое забудзецца.

Пасля чаго адчуў на душы незвычайную лёгкасць і нейкую ўзнёсласць. За што? Не, ні ад радасці за перамены ў настроі сваёй прыгажуні-спадарожніцы. Задавальненне ад таго, што за тысячы кіламетраў ад Беларусі нечакана спаткаў свайго земляка, які яшчэ не забыўся на мову, хай сабе і «трасянку», і сумуе па роднай зямлі, і прынёс яму хоць невялікую жыццёвую радасць...



# Оляна Рута

украінская паэтка, перакладчыца, літаратурны рэдактар, мастачка. Аўтарка паэтычных кніг: «Ружовыя птахі», «Мне пара. Час саджаць кветкі», «Сцежка праз жыта», «На арэлях імгненняў», «Ангелы ў выгнанні», а таксама казачных апавяданняў «Браты Кацігарошкі». Нарадзілася ў 1977 годзе ў Кіеве. Жыве ў Кіеве.

# Прайсці праз волю...

## Спраўджаны сон

Аніякай няма недарэчнасці,
сэрца ж просіць маё — цябе.
Тут няма ўжо і звыклай свечнасці,
Час не даў свой гадзіннік журбе.
Небыццё ўжо не ловіць загубленых,
безгалоссе ў дзівосы плыве...
І дарога жальбой не прыгублена,
з вольнакрыласцю зорнай плыве.

## Учора

Ну а сёння тут — паражнеча.
Сум на кроплі збіў сноў размах.
Сны разложыстыя... Дарэчы —
Я цябе пазычала ў тых снах.
Сны ырцуюць па той бок Леты.
Утрапёная, я пайду —
Бо — не знаючы — знаю, дзе Ты,
Мо на шчасце, а мо на бяду.
Павярніся. На ўскрайку ночы
Закалыхвае мару страх.
Адхілі яго, як захочаш —
Разамлею ў тваіх руках.
А растаяўшы, і не клікнеш,
Я ж не з тых, хто ўзапраўду ёсць.
Да такога ты не прывыкнеш:
Недасяжнасць мой смелы госць.

## Знакапіс

Прамоўлена. Сэнс — раскуты
в ы з в а л е н н е  а д  п а к у т ы
пагасла сузор'е болю
і ты ажываеш паволі
Ты быў там, каб ведаць болей
т р ы м а й ц е с я  ў п о р у ч к і
з  д о л я й

ты быў там, каб ведаць, што будзе
І нават калі што забудзеш
с в і т а н а к
цябе разбудзіць
С л о в ы ў з я л і с я з а р у к і
і
нас
узнялі
на рукі
ўваскрэсну
сябе я здам
у дотык тваім пярстам.

## Вялікдзень

Барвова барвамі плыве цыкута
па мармуры аблiччаў.
                    Яўна гасне сон.
Да іканастаса цень яшчэ прыкуты.
З амбона галасы даходзяць да ікон.
Знікае нелюбоў, ашчэпы — пад нагамі —
і скалкі гучных слоў
                    крывавяць вусны. Бог,
знікала ў беспрысутнасць я кругамі,
а Ты вярнуць прытомнасць дапамог.
                    І чысты дождж — паказ...
                    І чысты дождж — наказ...

***

Заўтра сонца
маё
знікне
для мяне
назаўсёды
бо пад вечар
бяздумна
прапала
ці ж не той
не не той
тут закон

пашаноты істоты
што хавае
без жальбы
цябе
ад мяне
за шклом
заўтра цемра
глухая
назаўжды
абжывецца
за спіной
ну а сёння
як мара
табой не суцешана
я не маю
не маю
натхнення
мудрае
шахерэзады
прыручаць
атручанае
маўчанне
словам

***

калі не трымае
цябе
час пазначае мяне
горкаю нарасцю слёз
калі не трымае
цябе
дождж абдымае
мяне
вельмі колкімі
пацалункамі суму
калі не трымае
цябе
ціша
топае ў маіх скронях
кульцяшкамі
абцяпаных крылаў

***

Гэты прасёлак высокі, як сон.
Ба, весніц замкнёныя думы.
Палуднавасці знік азон —
Паслядзяцінства з гумы.
Доўжыцца песня, як хмель.
Крыгаю стаў і мой кокан —
І з трыдзясятых зямель
Рушу кульгавым я крокам,
Бо не дадому іду.
Д а д о м у пакуль не прыгодна.
А тут яшчэ як на бяду
Бяссонаму
Богу
Маркотна.

## Дыялогія

Згублю я цябе з небакраю
і жыць буду абы-як
маю квіток да раю
я знаю пра ўсё
аднак...
Патрэба застацца дома
агонь мой там снег замяце
ачнецца смяротная стома
адчую цябе
нідзе...
Цябе пакахаць дазволю,
каб сэрцайкам быць у цяпле,
магу я прайсці праз волю
магу я
магу
але...
Верш колеру індзіга
Словы здымаюць абярэжныя строі,
саваны забяспекі;
словы — звычайнасці і адчайнасці —
распранаюць душу,
як лістапад асенні.
і аголеная каралева спасцігне,

што новая сукня — з калючага дроту,
дзе пятля не так пранікнёна даводзіць,
як чалавек, заблытаны ў сподняе словаў.
ізноў жа яна думае пра русалку
і чуе чыесьці словы:
як важна мець голас і ўмець прызнавацца ў каханні.
няўжо й сапраўды ўсё так?
голас пачуць не цяжка,
цяжэй апавесціць сэрца,
прымоўклае пад крыкамі болю.
Нібы і варта прыцішыць голас,
каб не бубніць пра каханне.
але ж і сам тады ў безгалоссі
станеш Яго
непачутым
голасам.

## Сон пра маму

Я іду па валошкавым полі,
Бачу маму з паўнюткім кошыкам.
Усміхайлікі — кветачкі волі
Васілёчкі, мае валошыкі!..
Аж дзіўлюся, што мама з мятлікам
Кветку кожную цалавала.
Мост вясёлкавы стаў чубасікам —
Мама коціка падкідала.
Мама пяты ласкоча коціку,
Кветкі з поля бярэ ў букецік.
На зачосы травы, на вецце
Папаўзлі мурашы-ахвоцікі...
Успамін: у сугуччы чмяліным
Калыханка матулі-маліны
Так прытулена ўскалыхне
Сонца, неба, ката і ... мяне.
Засынала зямля прытоена,
І вясёлка хавалася ў кошык...
Вось цяпер я ўжо ведаю, хто яна,
Каралева Блакітных Валошак!

**Пераклаў з украінскай мовы Сяргей Панізьнік.**



# Сяргей Панізьнік

паэт, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг паэзіі: «Кастры купалля» (1967 г.), «Крона надзеі» ( 1975 г.), «Чало і век» ( 1979 г.), «Мацярык» (1985 г.), «Стырно» ( 1989 г.), «На падкове Дзвіны» (2019 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Бабышкі Міёрскага раёна на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

# На ўсе вякі Зямлі — Радзіме песень жыць!

*120-годдзю з Дня нараджэння*
*Салаўя беларускага мацерыка*
*Міхалу Іванавічу Забэйду-Суміцкаму*
*(14.06.1900 — 21.12.1981)*
*прысвячаецца.*

У 1970-х гадах быў напісаны мною верш «На ўсе вякі», дзе вылятталі салаўі са слоў Забэйды і выяўлялася Радзіма з-пад крыла ашчадных і цярплівых сноў Забэйды. Я радаваўся, узгадваючы славутага спевака, што «Яшчэ адна вясна яго знайшла!» Але 6 студзеня 1978 года я змаркоціўся, калі атрымаў ад Міхала Іванавіча ліст з такімі словамі: «Моцна хварэю і не ведаю, ці яшчэ адна вясна мяне знойдзе». Знайшла! І знайшоўся гэты верш у перакладзе на англійскую мову Алены Таболіч. Потым змешчаны ён быў у зборніку вершаў на беларускай мове і ў перакладах на англійскую і французскую мовы пад назвай «На ўсе вякі...» (2011).

Пазней з верша ўзнікла песня «Салаўіная страла», створаная кампазітарам Алегам Чыркуном, і ў 2006 годзе змешчана на старонках спеўніка «Дабравест» (Песні на словы Сяргея Панізьніка). Я па-дабравестаўску цяпер гукаю так:

— На ўсе вякі Зямлі — Радзіме песень жыць! І будзем, будзем нашу памяць варушыць, Забэйдавымі салаўямі даражыць, Запевамі вясны з палёў Забэйды...

А першыя запевы з палёў Забэйды я, курсант факультэта журналістыкі Львоўскага ваенна-палітычнага вучылішча, знайшоў у архівах Львоўскай нацыянальнай навуковай бібліятэкі АН Украіны імя Васіля Стэфаніка. Сярод іншых неверагодных знаходак для беларуса са школьнай адукацыяй, мяне асабліва ўзрушыў архіў польскага часопіса «Sygnaly». З гэтым дэмакратычным выданнем зналіся беларусы Вільні, рыхтуючы артыкулы для публікацый. І вось ілюстрацыі да іх: выявы Галубка, Чарота, Машары, Максіма Танка, Маракова, Ясакара, Гушчы, Знаёмага, паштоўка правадыра паўстання Каліноўскага... З дзясяткаў выяваў трапіла на вочы і такая: «Міхась Забэйда-Суміцкі, саліста оперы». Чытаю на адвароце фотакарткі надпіс: «Вельмі паважанай пані Марысі Шутовічанцы на памятку аб канцэрце 5 мая 1938 года ў Вільні. М. Забэйда. 5-V-1938».

Пра Забэйду мне яшчэ ў Мінску цікава распавёў наведнік Прагі пісьменнік Язэп Семяжон. Прайшоў некаторы час, і калі на канцэрце ў філармоніі выступаў акампаніятарам піяніст Альфрэд Голечэк з Прагі, я асмеліўся ў перапынку запытацца ў яго пра Забэйду. Чэх з радасцю адказаў, што ён часта выступае са спеваком на канцэртах, і даў няпэўны яго адрас. 18.XI.1966 года я напісаў далікатны ліст паважанаму прафесару, і праз некаторы час арымаў адказ ад паўсюль знанага ў Празе жыхара.

Перапіска з дзядзькам Міхалам доўжылася некалькі гадоў. Вось, 13 лютага 1974 года, атрымаў з Прагі ліст. Прывяду толькі адну цытату: «Твой верш «І застануся песняй» мне вельмі спадабаўся. Спадабаўся ён і Янку Шпаку, які сказаў: «Малайчына Панізьнік». Узяў твой адрас. Будзе табе пісаць.» З Янкам Шпаком — навукоўцам, перакладчыкам трымаю сувязь да гэтага часу.

Творчы і жыццёвы шлях Спевака я пранікнёна вывучаў, і таму мог дазволіць прамаўляць у вершы нібыта ад яго імя:

*«...бо цэлы свет я пераліў у песні,*
*а песні ў жылы ураслі мае,*
*каб азываць шчаслівыя прадвесні*
*і пазнаваць радзінныя кругі...*
*І хай я застануся толькі песняй,*
*якую не стрымалі берагі.*
(З верша «І застануся песняй» Міхалу Забэйду-Суміцкаму).

А берагі жыцця нашага суайчынніка былі, ого, якія высокія і разлеглыя! Накручаны яны на планету вось як: ад Маладзечна (1914—1915) да Смаленска (1918), ад Усць-Калманскага каля Барнаула да Харбіна (1929—1932). А яшчэ былі такія прыстані: Шанхай, Ганконг, Сінгапур, Бамбей, Каломба, Порт-Саід, Венецыя і Мілан. Аднаго разу Міхал Іванавіч пахваліўся падарункам міланскага прафесара Фернандо Карпі з аўтографам італьянца ў перакладзе: «Майму даражэйшаму вучню сеньёру Міхалу Забэйду на добры ўспамін і з найлепшымі пажаданнямі. Фернандо Карпі».

Пасля Італіі першае выступленне ў 1935 годзе было на Бацькаўшчыне — у Ружанах. Потым Забэйду сустракалі Баранавічы, Брэст, Беласток, Вільня, Варшава. У 1940 годзе з пакутаў Варшавы яго ўратавала Прага. Пісаў Міхал Іванавіч: «Удалася мне песня Б. Сметаны «Кдо в златэ струны заграт зна...» З яе зместа вынікае: «Той народ не загіне, пакуль яму вяшчун спявае; бо песня ў небе народжана — і ў смерць жыццё ўлівае». Слухачы акупаванай немцамі Прагі зразумелі сэнс песні і дамагаліся паўтору... А потым мяне клікалі ў гестапа».

М. І. Забэйда-Суміцкі выступаў у Рызе ў 1937—1938 гадах. А ў верасні 1943 года беларускія актывісты Латвіі зладзілі выступленні спевака ў Рызе, Даўгаўпілсе, Краславе, Індры, Лудзэ, Зілупэ, Пасіене. Акампаніятарам на гастролях была настаўніца спеваў у І-ай Рыжскай беларускай школе Вольга Васільеўна Бароўская, жонка Уладзіміра Пігулеўскага. А 28 верасня латышы запрасілі пражскага госця выступіць з канцэртам ва ўніверсітэцкай зале Рыгі. Прагучала 15 твораў у яго выкананні.

Дзівосы, але праз 20 гадоў Міхал Іванавіч зноў правёў вялікае творчае турнэ. У 1963 годзе па запрашэнні Міністэрства культуры БССР ён здзяйсняў гастрольную паездку па Беларусі. На дзесяці мовах свету гучалі песні на яго канцэртах у Мінску, Гродне, Ваўкавыску, Слоніме, Лідзе, Баранавічах, Віцебску, Магілёве, Гомелі. Архіў нагадаў надпіс на адвароце гастрольнага фотаздымка, дзе разам Максім Танк, Янка Брыль, Ларыса Александроўская, Язэп



*Міхась Забэйда-Суміцкі*

Семяжон, Міхась Забэйда-Суміцкі, Пімен Панчанка, Янка Скрыган, Рыгор Цішчанка: «Дарагі і паважаны Міхась Іванавіч! Мы, студэнты БДУ імя У.І. Леніна і ўся моладзь зямлі беларускай, выказваем Вам сардэчнае дзякуй за тыя незабыўныя дні, калі мы чулі Ваш цудоўны голас, бачылі Вас на сваёй роднай Бацькаўшчыне!!! Гэтыя хвалюючыя хвіліны сустрэчы мы захаваем у сваім сэрцы на ўсё жыццё і будзем расказваць аб іх сваім дзецям, як аб найдаражэйшым падарунку. Ад душы жадаем Вам доўгіх год жыцця і вялікага шчасця!

Мінск, 15 мая, першы канцэрт. Мікола Пашкевіч, Вячаслаў Рагойша, Леанід Акаловіч.»

Узрушыла мяне такое выказванне самога спевака, вычытанае ў кнізе «Мастацтвам за мір» (1962 г.): «Паводле таго, што я чытаў пра сябе ў друку, павінен быў нарадзіцца, прынамсі, у трох, ці нават чатырох месцах: гэта — Шэйпічы, Несцяровічы і проста на лузе — на сенакосе!»

Гэты мой верш быў напісаны з маркотнымі думкамі, але створаны ён быццам ад імя несцяровіцкага гаспадара...

### Несцяровіцкі сенакос

*Я — у выраю, сумным выраю...*
*Толькі песня і можа вырвацца,*
*легчы крыламі на пакос —*
*несцяровіцкі, дзе я ўзрос.*
*Тут на ростані, пражскай ростані*
*толькі песня адчуе вёрстамі*
*шлях да роднай маёй зямлі,*
*дзе гняздуюцца жураўлі,*
*сена косіцца... Песня просіцца*

*з-пад сіроцкага ў Празе просінца**
*на курган-гару пераплыць.*
*Сенакос ідзе. Мне там быць!*
*Песня родная — міраносіцца:*
*шлях мой здолее азарыць.*
*(Просінец (чэшс.),снежань).*

У 1990 годзе пры Нацыянальным культурна-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны дзякуючы старанням Адама Мальдзіса ўслед за «Аб'яднаннем сяброў польскай культуры» было створана «Аб'яднанне сяброў чэшскай і славацкай культур імя М. І. Забэйды-Суміцкага». Яго спадкаемцамі ў Празе выказалі быць Вацлаў Жыдліцкі, Міласлаў Зіма, Надзея Кастэцкая. Адным з першым мерапрыемстваў Аб'яднання быў вечар, прысвечаны Забэйду, у Беларускім дзяржаўным універсітэце. Яго праводзіла доктар Ірына Шаблоўская, выступалі Ганна Сурмач, Іван Шпак, Надзея Батурыцкая, Янка Саламевіч. Пазней мне пры Доме дружбы даверылі выконваць абавязкі старшыні таварыства «Беларусь — Чэхія».

І яшчэ адно вяртанне Забэйды-Суміцкага. У Львове я пачаў супрацоўнічаць з рэдакцыяй газеты «Голас Радзімы». І вось аднаго разу перадаў для публікацыі матэрыял, атрыманы з рук дзядзькі Міхася ў Празе. Гэта была манаграфія Міколы Шчаглова «Беларускі салавей. (Міхась Забэйда-Суміцкі)». Даследаванне апублікавалі ў нумарах 5 — 10 за 1994 год. Быў змешчаны мой уступны артыкул «Яшчэ адно вяртанне Забэйды-Суміцкага», а ў тэкстах Мікалая Мікалаевіча Шчаглова-Куліковіча (4.04.1893—31.03.1969) — паэта, этнографа, кампазітара, педагога, дырыжора, аўтара операў, сімфоній, вакальных твораў — чытач знайшоў цікавыя дадаткі: вершы Алеся Салаўя, Янкі Сіпакова, Сяргея Грахоўскага, Максіма Танка, Віктара Шведа, Рыгора Барадуліна... Сам жа Шчаглоў закончыў сваё даследаванне такімі словамі: «Беларусь ніколі не забудзе свайго салаўя». У такім спадзеве я прачытаў і радкі паэта Віктара Шведа:

*Дык хай далей чулліва так*
*Старонку родную ўслаўляе*
*Заўсёды малады мастак*
*І яго песня маладая.*

А наступны, 1995 год, зафіксаваны на скрыжалях гісторыі такімі радкамі. 29 мая 1995 года «Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі» правяло вечарыну, прысвечаную 95-годдзю беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. На запрашальніку быў надрукаваны верш Наталлі Арсенневай «Салавей», які пачынаўся такімі радкамі:

*З выраем звонкім, што з ветрам плыве,*
*Зноў ты да нас прыляцеў, салавей,*
*Роднаю песняй нас песціць...*

Мною былі прадстаўлены архіўныя матэрыялы, якія падарыў мне ў Празе знакаміты Салавей. А на выступленні Адам Мальдзіс прапанаваў адкрыць мемарыяльную дошку ў Празе на доме, дзе жыў Забэйда-Суміцкі, і выдаць пра яго кнігу ўспамінаў.

Успаміны не міны... Любоўю былі напоўнены хвіліны выступленняў і на вечары, прысвечаным 100-годдзю з Дня нараджэння Спевака. У Доме дружбы выступалі Віктар Скарабагатаў з «Беларускай капэлай», Алесь Бажко, якому Забэйда дапамог калісьці паступіць на вучобу ў Варшаўскую кансерваторыю. Лагодна размаўлялі Надзея Батурыцкая, Ганна Запартыка, Адам Мальдзіс. Сяргей Грахоўскі і я чыталі вершы-прысвячэнні Забэйду-Суміцкаму. Мне пашчасціла быць яго госцем у Празе, слухаць жывы голас і даўнія кружэлкі, перапісваць яго вялізны архіў. Мы блукалі па Празе, сустракаючы ўдзячных вучняў славутага педагога. Над Влтавай лунала рэха Скарыны, каля Рэгравага саду нібыта чулі крокі Купалы. А ў 1973 годзе на развітанне дзядзька Міхал падарыў мне на памяць аб нашым супрацоўніцтве чэшскі погар-келіх. Ва ўдзячнасць за гэты звонка-светлы дарунак і напісаны быў верш. Бо сам Забэйда-Суміцкі незабыўны. Яго песенная душа, кружляючы па розных землях, гасцюючы сярод розных народаў, сваёю існасцю атуляе Беларусь. Голас нашага славутага земляка яшчэ будзе служыць і Радзіме.

**Келіх Забэйды**

*Сыходзілі дні з маладога запасу.*
*Крутымі шляхамі планіда вяла.*
*І маміна кварта сіроцкага квасу*
*паўнюткай ніколі ў руках не была.*
*У вырай узнёсся ўзнадзеены голас,*
*ў сумоўе народаў як свой узляцеў,—*
*каб родную песню выводзіць у колас...*
*І срэбраны келіх яго не пусцеў.*
*Высокая слава скубла адзіноту.*
*Спазнаў Салавей: дзе бяда, дзе віна...*
*Не чула Радзіма апошнюю ноту.*
*Быў срэбраны келіх дапіта да дна.*
*Ад нас не затулена пражскае сонца,—*
*на келіхі-вежы паважна глядзіць.*
*А золатам промніка ў срэбнае донца*
*пастукае Памяць — імя загудзіць.*
*Яшчэ запяе нам Забэйда-Суміцкі!*
*Над матчынай квартай абсыпецца гром.*
*Збярэцца раса ля самотнай сунічкі.*
*Напоўніцца келіх жывым серабром.*

Пра вечарыну ў Доме дружбы, прысвечаную 100-годдзю спевака, Святлана Берасцень ( у газеце «ЛіМ» 7.07.2000 г.) пісала: «Застаецца спадзявацца, што 110-я ці 120-я гадавіна будзе адзначана з большым размахам, ва ўрачыстай абстаноўцы, з адкрыццём помніка Забэйду на яго роднай Пружаншчыне». Магу дадаць: хто будзе блукаць па Пружаншчыне, то каля Шэйпічаў напаткае вялізны валун з памятнай мемарыяльнай дошкаю ў гонар земляка.

А Келіх духоўнай існасці Забэйды напаўняецца жывым серабром. 25 красавіка 2018 года ў Маладзечне прайшла Навукова-краязнаўчая канферэнцыя «Міхась Забэйда-Суміцкі і беларуская песня». У бібліятэку імя Максіма Багдановіча запрасіў на сустрэчу цікавых асобаў супрацоўнік бібліятэкі, краязнавец, літаратар, выдавец Міхась Міхасевіч Казлоўскі. Да выступоўцаў Вячаслава Чамярыцкага, Алеся Горбача (аўтар даследавання «Песняй даваў людзям радасць». «Тэхналогія», 2007 г.), Сяргея Чыгрына, Віктара Шніпа, Уладзіміра Мароза далучыўся і я сваім вершам «Скіба спатолі», прысвечаным навучэнцу Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, дзе ёсць такія радкі:

*Вы госць адвечны для Маладзечны, для Шэйпіч — глыба.*
*Уявім: песня плыве з прадвесня — спатолі скіба з выявай німба.*

А скібу спатолі сусветнавядомага тэнара падтрымлівалі Канстанцін Галкоўскі, Людамір Рагоўскі, Рыгор Шырма, Мікола Шчаглоў, пражская суседка Надзея Кастэцкая, Максім Танк, Сяргей Грахоўскі... Пра творчыя ўздымы нашага героя і паэт Сяргей Крывец калісьці выказаўся: «Так, мы горды і рады за сваю песню. Мы горды і рады за свайго спевака». «Сваім» лічыў Забэйду і чэх Владзіслаў Марцінец: «І тую пераможную красу і зачараванне Вашымі песнямі магу вытлумачыць толькі так: цудоўныя музычныя паэмы перажывае, адчувае і творыць шляхотнай адухоўленасцю, гарачым сэрцам мастак, чала каторага дакрануўся геній».

*«Забэйда — Су — мі — і — цкі! Гэй-й, да —*
*лёкае рэха коціцца»...*

Так вось нагадваў нам, як песня матчына да душы лашчыцца — Рыгор Барадулін, яшчэ адзін геній нашай вякоўнай зямлі.



# Артур Камароўскі

паэт, перформер. Скончыў філфак Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Аўтар кнігі «Вада пачынае жыць» (2020 г.). Друкаваўся ў часопісах «Верасень», «Дзеяслоў», «Маладосць». Вершы перакладаліся на ўкраінскую, польскую, англійскую, эстонскую і рускую мовы. Лаўрэат прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча (2021 г.). Нарадзіўся ў 1991 годзе ў мястэчку Мір на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

# У пошуках Слова...

***Што ёсць паэзія? З чаго нараджаюцца вершы? Ці абавязкова таленавітаму творцу быць папулярным? Што важней — працэс ці вынік? Што цяжэй — пісаць ці выдаваць? Што мацней — Каханне ці Вера? На гэтыя і іншыя пытанні шукайце адказы ў гутарцы з маладым паэтам, перформерам, удзельнікам ВІА «Красный борщевик», сёлетнім Лаўрэатам літаратурнай прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча — Артурам Камароўскім.***

**Эдуард Акулін:** — *Для кагосьці паэзія — уменне жангліраваць словамі, для некага — сцэнічнае паяцтва, камусьці — уменне хадзіць па вадзе... Што ёсць паэзія для вас?*

**Артур Камароўскі:** — Самы час цытаваць сябе: «...паэзія ёсць кампрамісам душы і цела». А яшчэ: «...паэзія — гэта ён...» То бок, каханне, канешне. Дарэчы, усё з кнігі. Так што, можна сказаць, я прадбачыў гэтае пытанне і загадзя падрыхтаваўся.

**Э.А.** — *Аднойчы вы сказалі, што «важнейшым для вас з'яўляецца працэс напісання вершаў...» Чаму менавіта працэс, а не вынік?*

**А.К.** — Гэта як з падарожжамі. Калі падарожжа недзе наперадзе, і ты жывеш чаканнем сустрэчы з нечым новым і неверагодным — гэта заўсёды прыемней і цікавей, за ўсё тое, чым ты пачынаеш жыць пасля таго, як твой цягнік, самалёт ці аўто спыняецца ў новым месцы. Бо пасля ты пачынаеш адлічваць час да ад'езду. Шлях да верша цікавейшы за сам верш. Бо ніхто не ведае, колькі ён будзе доўжыцца, праз якія словы ты будзеш прадзірацца, каб пасля пабачыць нешта новае, куды ты ўвогуле дойдзеш. Можа быць, вынік табе не спадабаецца. Але шлях да яго ты запомніш. Вынік — гэта кропка, а працэс — працяжнік.

**Э.А.** — *Калі і чаму вы пачалі пісаць вершы? Хто або што натхніла вас на гэта? Ці памятаеце вы свой першы выступ перад слухачамі?*

**А.К.** — На першы верш мяне натхніла наша котка. Мне тады было 6 ці 7 год. Я ляжаў у бальніцы. І вось мяне прыйшлі наведаць і расказалі, што ў нашай коткі нарадзіліся кацяняты.» Добрая нагода для верша», — падумаў я. І напісаў. Верш быў на рускай мове. Там было так: «У нас дома пять котят. Два рыженьких, два беленьких. Только знают — есть и спят. Особенно черно-беленький». Пасля неяк усё закруцілася, і вось ужо гады праз тры, я тады навучаўся ў Зэльвенскай санаторнай школе-інтэрнаце, у Зэльвенскай жа раёнцы надрукавалі мой верш пра снежнага дзеда. У мяне тады былі вельмі цудоўныя настаўніцы беларускай мовы.

Першы выступ, на жаль, не памятаю. Напэўна, недзе ў школьныя гады. Відаць, сітуацыя была стрэсавая, калі не запомніў.

**Э.А.** — *Дзесяць гадоў вашага жыцця прайшлі ў Гародні... Затым вы пераехалі ў Менск. Вам стала сумна жыць у адным з найпрыгажэйшых беларускіх гарадоў, ці на гэта былі нейкія іншыя прычыны? Што вам падабаецца ў сталічным жыцці? А што не?*

**А.К.** — Я вельмі люблю Гародню. Можа быць, больш за ўсе іншыя мае гарады. Яна напраўду прыгожая, асабліва ўвесну. Але так: у пэўны момант я зразумеў, што мне там сумна. Да таго ж, неяк не склалася з працай. Я не ведаў, што мне патрэбна, што я магу. Карацей, нейкі такі крызіс. У выніку, я звольніўся з працы і паехаў у Мір. Як сталася, гэта было найлепшае рашэнне ў маім жыцці. Месяцы два я адпачываў, пасля з'ездзіў у рэзідэнцыю літаратара ў Вільні, прыехаў і адчуў — нешта змянілася, як бы патасна гэта ні гучала. Пачаў больш пісаць. Нешта з напісанага мне нават падабалася. Стаў наведвацца ў Менск. Нейкія фестывалі, выступы, квір арт-майстэрня. Пасля закахаўся і перабраўся ў сталіцу. А што наконт Менска...

Ведаеце, гэты горад цяжка зразумець. Бывае, я зусім не адчуваю тут сябе ўтульна, бяспечна, на сваім месцы. Часам падаецца, што я, як і раней, проста прыехаў на пэўны час і хутка з'еду. Але ёсць і моманты, калі я пачуваюся абсалютна шчаслівым — летам, калі іду на-паўпустымі праспектамі, адкрываю для сябе Грушаўку, езджу на ровары па незнаёмых вуліцах; увесну, калі ўсё квітнее і робіцца нібы празрыстым, няўлоўным. Вось такім гэты горад я люблю.

**Э.А** — *У адным са сваіх вершаў вы напісалі: «Не магу адшукаць тое слова, што адмыкае горад...» Як вам здаецца, у вашай новай кнізе «Вада пачынае жыць» такое слова ёсць?*

**А.К.** — Не, там яго дакладна няма. Я пакуль у пошуку, што мне страшна падабаецца. Насамрэч, я баюся адшукаць гэтае слова. Але і не магу не шукаць. Думаю, яно знойдзецца само, калі для гэтага прыйдзе час. Калі — не ведаю...

**Э.А.** — *А калі, на вашу думку, пачынае жыць паэзія? Што для гэтага неабходна?*

**А.К.** — Думаю, калі ты дазваляеш ёй жыць. Калі адпускаеш мінулае і проста насалоджваешся «цяпер». Калі робіш тое, ад чаго па скуры бягуць мурашы ці паўзуць смаўжы. Людзі вельмі любяць заганяць сябе ў нейкія рамкі, намагаюцца адпавядаць нейкім «нормам», падабацца камусьці. Карацей, глядзець на іншых і не чуць сябе. Паэзія, у шырокім сэнсе гэтага слова, пачынае жыць, калі пачынаеш жыць ты.

**Э.А.** — *Ваша першая кніга выйшла дзякуючы краўфандынгавай кампаніі, абвешчанай у інтэрнэце... Гэта — як будаваць дом талакой... Цяжка было прыняць рашэнне на гэты конт? Не ўзнікала нейкіх сумневаў? Чаму вы не спяшаліся з выданнем першага паэтычнага зборніка?*

**А.К.** — Я не стаў вынаходзіць ровар і проста зрабіў так, як да гэтага зрабіла рэдактарка маёй кнігі — Крысціна Бандурына. Па-першае, мне падаецца, гэта і рызыка, і шанец. Рызыка — таму што вось ты такі распачаў кампанію — амаль нікому невядомы паэт — і не знаеш, будзе твая кніга цікавая людзям ці не, дапа-

могуць яны ці не. Скажу шчыра, панерваваўся я моцна. Шанец — таму што гэта харошы варыянт пошуку новых чытачоў і чытачак. Канешне, я сумняваўся, але ведаў, што кампанія скончыцца паспяхова. Але гэта ўжо крыху асабістае.

Наконт — не спяшаўся. Мне падаецца, што выдаць першую кнігу ў 29 год — гэта як бы ўжо бліжэй да «спазніўся». Але, калі ўлічыць, што больш-менш нешта прыстойнае, на маю думку, я пачаў пісаць недзе ў 25, то можа, яно і так — не спяшаўся. Часам прыходзілі такія нядобрыя думкі — ці не зарана я выдаю кнігу. Але пасля адпусціла. Ці я адпусціў гэтыя вершы. Карацей, я паставіў гэтай кнігай «коску» і рушыў далей.

*ВІА «Красный борщевик»*



**Э.А.** — *У рэйтынгу лепшых кніг 2020 года кніга «Вада пачынае жыць» заняла пашанотнае трэцяе месца, апярэдзіўшы кнігі такіх майстроў слова як Алесь Разанаў і Анатоль Сыс... Як асабіста вы ставіцеся да такога роду паблісіці і, наогул, да ўсялякіх літаратурных конкурсаў і прэмій? Ці патрэбныя яны? Ці не занадта суб'ектыўныя часам іхнія вынікі? Што найбольш прываблівае — маральны ці матэрыяльны бок?*

**А.К.** — Не бачу ў паблісіці нічога дрэннага. Калі паэт ці паэтка харызматычныя, ведаюць, у што загарнуць сваю творчасць, то чаму б ім не быць вядомымі? Мне падаецца, што ў нас многія прывыклі думаць, што паэты і паэткі — гэта такія сарамлівыя істоты, якія сядзяць недзе ў вежы ці бункеры і з'яўляюцца на свет толькі тады, калі іх вельмі папросяць. Вядома, камусьці падабаецца і такі варыянт. Але ўсе мы розныя. Я — за разнастайнасць.

Прэміі, конкурсы, рэйтынгі і таму падобнае заўсёды суб'ектыўныя. Калі б замест людзей рашэнні прымалі машыны, чаго б не хацелася і, на шчасце, пакуль не адбываецца, можна было б казаць пра нейкую аб'ектыўнасць. Хаця датычна паэзіі — і тут цяжка нешта такое казаць. Бо як яе ўвогуле можна ацаніць? Па якасці рыфмаў? Рытму? Тут або нешта цябе чапляе, або нешта ты такое знаходзіш у ёй, бачыш сябе, або не. І ідзеш шукаць далей. Справа нават не ў словах, а ў тым, што паміж іх і за імі.

Наконт таго, што прываблівае, цяжка сказаць — у маім жыцці пакуль што здарылася толькі адна прэмія. Напэўна, абодва бакі...

**Э.А.** — *Вы працуеце капірайтарам... Штодзённая руцінная праца са словам не стамляе? Гэта не замінае творчаму працэсу? Вы хацелі б займацца выключна творчасцю? Што для гэтага неабходна?*

**А.К.** — Ну, капірайтынг — гэта не заўсёды пра руціну. Тут і крэатыву ёсць месца. Гэта цікава. Але бывае, канешне, прыходзіш з працы (а зараз, калі працуеш дыстанцыйна, нават і не прыходзіш — дастаткова выключыць ноўтбук), хочацца проста ляжаць, глядзець, не міргаючы, у столь, і не бачыць ніякіх літар. Толькі нешта сваё пісаць. Вядома, я б хацеў займацца толькі творчасцю. Але, па-першае, мне яшчэ трэба шмат чаму навучыцца, каб мая творчасць мяне ж і падтрымлівала. Па-другое, якое вынікае з першага, творчасцю трэба ўмець зарабляць. А, па-трэцяе, мы жывем у часы капіталізму, таму ўсё мае свой кошт і з гэтым трэба неяк мірыцца. То бок, вось зараз я не магу проста звольніцца і пісаць вершы — а хацелася б.

**Э.А.** — *Я ведаю, што ў вас шырокія творчыя берагі... Акрамя напісання вершаў вы займаецеся перформансам, удзельнічаеце ў паэтычных слэмах, уваходзіце ў склад ВІА «Красный борщевик»... Дзеля чаго вы гэтым усім займаецеся? Вам проста цікава? Ці гэта — ад жадання набыць як мага большую папулярнасць? Для чаго, на вашу думку, сучаснаму творцу патрэбна папулярнасць?*

**А.К.** — Перформанс і «Красный борщевик» — гэта адно. І гэта ніякім бокам не пра папулярнасць. Наш калектыў узнік выпадкова і з прычыны цікаўнасці

мастацтвам. Мы робім тое, што нам баліць. Мы працуем з тэмамі дыскрымінацыі, гендара, сэксуальнасці, гвалту і многімі іншымі. Гэта ўжо неад'емная частка майго жыцця. За больш чым два гады існавання калектыву мы зрабілі шмат класных перформансаў і акцый, прынялі ўдзел у шматлікіх фестывалях, у тым ліку міжнародных. Але самае галоўнае — водгукі. Калі ты разумееш, што іншым цікава і патрэбна тое, чым ты займаешся — гэта самая лепшая «папулярнасць».

Але і звычайная папулярнасць творцу не зашкодзіць. Як я ўжо казаў раней, таленавітага чалавека павінны ведаць. У тым ліку таму, што прадукт яго дзейнасці кагосьці лекуе і ратуе.

**Э.А.** — *Распавядзіце крыху пра ВІА «Красный борщевик»... Калі ўзнік гэты гурт? Адкуль такая назва? Хто ўдзельнічае? Вашая роля ў гурце? На што скіраваная ягоная дзейнасць?*

**А.К.** — Трэба ўсё ж такі патлумачыць гэтыя цудоўныя тры літары. ВІА мы найперш таму, што наш галоўны інструмент — цела (як і для любога, хто займаецца перформансам). Мы не граем на нейкіх музычных інструментах і не спяваем. Мы робім перформансы, акцыі, інсталяцыі, некаторыя з нас робяць вышыўку, займаюцца скульптурай, ствараюць калажы. Як відаць, мы працуем з рознымі медыямі.

У нас няма нейкага пэўнага складу — у гэтым плане мы даволі адкрыты калектыў. Да таго ж, у нас унутры гарызантальная структура: кожны і кожная тут галоўныя.

Назва ўзнікла, як і сам калектыў, выпадкова. Мы думалі над адной акцыяй, якую пасля зрабілі ў Піцеры — кармілі людзей на вуліцы баршчом. Адсюль чырвоны. А «борщевик» — ад боршч і «Красный пищевик». А сама расліна нас зацікавіла тым, што вельмі трывушчая і небяспечная. У прынцыпе, мы асацыюем яе з сабой, маючы на ўвазе нейкую такую нашу выратавальную місію, выбачаюся за патас.

**Э.А.** — *І усё ж такі, прачытаўшы вашу дэбютную кнігу, я найперш бачу вас як паэта... Неяк вы прызналіся, што быць беларускім паэтам вельмі складана... Чаму?*

**А.К.** — Я не памятаю ўжо, чаму я так сказаў. Зараз я б адказаў так: «...быць паэтам вельмі складана. Дзе б ты ні жыў, на якой бы мове не пісаў...»

**Э.А.** — *А што значыць для вас быць самадастатковым паэтам? Каго з сучасных творцаў вы да іх адносіце? Ці лічыце сябе такім? Калі не лічыце, то чаму? Чаго для гэтага пакуль нестае?*

**А.К.** — Самадастатковасць — гэта ж пра сябе. Гэта можаш вызначыць толькі ты сам ці сама. Збоку мы можам толькі казаць пра нейкую адметнасць і самабытнасць. У нас такіх паэтаў і паэтак шмат... Амаль усе. Я баюся каго-небудзь не назваць (а яно так і будзе), таму лепш не буду. Увогуле, калі так моцна прызадумацца, то кожны і кожная ўжо ад пачатку самабытныя. І я, безумоўна.

**Э.А.** — *Якую падзею ў сваім жыцці вы лічыце знакавай, лёсавызначальнай? Што яна вам дала?*

**А.К.** — Такіх падзей некалькі. Ад'езд з Гародні, першая сустрэча з морам, каханне. Кожная з іх дала мне мяне — такога, якім я ёсць у дадзены момант. Але зноў жа, ці не кожны наш рух, нават самы маленькі, вызначае наш лёс?




**Э.А.** — *У вашай кнізе, пачынаючы ад назвы, вялікая ўвага належыць метафары Вады... Нават горад для вас — вада, «варта толькі адштурхнуцца» і можна плыць туды, дзе «дэльфіны спяваюць блюз...» Што натхніла вас «акунуцца» ў марскую метафорыку?*

**А.К.** — Яно неяк так само атрымалася. Я напісаў верш, радок з якога даў назву кнізе. Тады я ўпершыню ляжаў на беразе сапраўднага мора, хоць і халоднага, глядзеў на чаек, на ракавак на ўзбярэжжы, на хвалі. І пасля ўжо не мог не пісаць пра ваду. Для мяне менавіта вада — сімвал жыцця. Бо і нараджаемся мы з вады.

**Э.А.** — *У вашай першай кнізе даволі шмат верлібраў... Якая паэзія вам бліжэй — рыфмаваная ці вольная?*

**А.К.** — Я б не сказаў, што шмат. Усё ж такі, у кнізе болей рыфмаваных вершаў. Прынамсі, хацелася б так думаць. Зараз мне бліжэй вольны верш. Але не магу сказаць, што так будзе і далей. Мне падабаецца, як напісаў мой сябар Максім Сямёнаў, паэт з Масквы:

*«В лёгкости есть ненадёжность.*
*В каждом стихе — легковесность,*
*в свободном стихе есть неточность,*
*ведь известно:*
*только рифмы*
*требуют выбора*
*слов и слогов».*

Вольны верш мне і падабаецца тым, што ты спрабуеш неяк адолець гэтую «недакладнасць». Таму і напісаць вольны верш, на маю думку, больш складана.

**Э.А.** — *Мне падалося, што ў вашай дэбютнай кнізе, як і ў першай кнізе Анатоля Сыса, амаль няма вершаў пра каханне... Вы не верыце ў каханне? Чаму для вас гэта табуіраваная тэма?*

**А.К.** — Я не ведаю, чаму так магло падацца. Бо ў кнізе хапае вершаў пра каханне. Прынамсі, іх столькі, колькі на той момант мне хацелася, каб іх было. І ў іх я сказаў усё, што хацеў сказаць. У тым ліку я сказаў самае галоўнае: «... паэзія — гэта ён»...

**Э.А.** — *Якое месца займае вера ў вашым жыцці і творчасці? Наогул, ці магчыма тварыць без веры? У што вы верыце?*

**А.К.** — Я веру, што ёсць хтосьці ці штосьці — не важна, хто ці што менавіта. Веру, што мы аднекуль прыйшлі і кудысьці ідзём, што нашае жыццё — Цуд. Што ніводная з рэлігій не дасць нам адказы на нашыя пытанні. Але ў нас ёсць мы і пошук — і гэта самае важнае. Мне ўсё роўна, ёсць нешта пасля ці не. Я веру ў жыццё. І што бабка Марыя зрывае для мяне каштаны. І гэтай веры мне дастаткова.

**Э.А.** — *Дзеля чаго паэту неабходна смеласць? Каб «прышыць гузік да цела»? Ці для таго, каб гаварыць праўду?*

**А.К.** — Прышыць гузік да цела — гэта і ёсць праўда. Найперш, гэта пра тое, каб сказаць праўду самому сабе. Галоўнае, наважыцца прышыць першы гузік. А далей — з вопытам — прышыюцца і астатнія. Колькі патрэбна.

**Э.А.** — *Каго з беларускіх творцаў вы лічыце ўвасабленнем непахіснасці беларускага Духу?*

**А.К.** — На гэтае пытанне мне цяжка адказаць. Тым больш, што «непахіснасць» — панятак вельмі суб'ектыўны. Колькі ні назавеш — будзе мала і недакладна. Я проста рады, што такія творцы былі і, што немалаважна, ёсць.

**Э.А.** — *Калісьці ў 2013 годзе вы дэбютавалі на старонках «Верасня» паэтычнай нізкай «Пацалунак ветру»... Што б вы пажадалі сённяшнім, пачынаючым аўтарам часопіса?*

**А.К.** — Напэўна, слухаць сябе, давяраць сабе, любіць сябе. Не абмяжоўвацца дастатковым. Заўсёды імкнуцца выходзіць за рамкі і межы. Прымаць жыццё ва ўсіх яго праявах. І, вядома ж, пісаць і пісаць...

**Здымкі Дар'і Барышнікавай.**



# Кацярына Шчасная

паэтка, празаік, мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Верасень», альманаху «Тэксты»... Нарадзілася ў 1984 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.

# Сваім ходам па Беларусі...

***Мінулы год закрыў знешнія межы і змусіў нас адкрываць сваё — сваю прыроду, свае гарады і мястэчкі, свае забавы. Але дзякуючы гэтаму ўдалося ўбачыць, што ў нашых гарадках ёсць свае адметнасці, а да некаторых цудоўных месцаў можна спакойна даехаць на грамадскім транспарце, і не патраціўшы шмат грошай. Пра тое, як праходзілі мае сямейныя вандроўкі, я хачу падзяліцца ў сваіх нататках з чытачамі часопіса «Верасень».***

## «Французскі след» у Шчучыне і праменад па бульвары Гедыміна...

Наведаць Шчучын нас з мужам натхніла навуковая дзейнасць. Кірыл дапамагаў у выданні кнігі даследчыку з Францыі — Морысу Панцье, які імкнецца папулярызаваць факт знаходжання ў палоне на тэрыторыі Шчучына падчас Першай сусветнай вайны французскіх вайскоўцаў, сярод якіх быў і малады Шарль дэ Голь — будучы прэзідэнт. У СМІ анансавалася, што ў Шчучыне будзе зроблены помнік дэ Голю каля будынка кабельнага завода (былой лесапільні), дзе 100 гадоў таму быў той самы лагер. Верагодна, скульптура будзе стаяць на зялёнай зоне каля бетоннага плота прадпрыемства. У сваіх лістах з палону французскія афіцэры характарызавалі гэты будынак так: 31 крок у даўжыню, 16 — у шырыню, 13 вокнаў з жалезнымі кратамі. А вось апісанне ўмоў ілюструе ўсю роспач чалавека «з вышэйшага грамадства» ў зняволенні: холад (у ліпені было каля +8), адсутнасць пасцельнай бялізны, кепская ежа, блыхі і пастаянныя «розыгрышы» з боку немцаў. Не ведаю, як спраўляліся без туалетнай паперы ў пачатку XX ст. палонныя з Расійскай імперыі, але для французаў яе адсутнасць была пакутай (як і забарона на любімыя звычкі — цыгары і чытанне газет). Абсурдным было і тое, што немцы выставілі ім за знаходжанне ў шчучынскім лагеры рахунак, як за пражыванне ў гатэлі.

У Шчучыне нам пашчасціла пагутарыць з цікавым чалавекам — Аляксандрам Амшэем, супрацоўнікам выканкама, які адказвае за турызм і інвестыцыі, жыве сваёй справай і рады кожнаму падарожніку. Дарэчы, пасля нас мусіла прыехаць невялікая турыстычная група. Нагадваем, што хіта «Шчучыншчына» яшчэ тады не было, але казачная царква ў в. Мураванка, месца нараджэння спевака Чэслава Нэмена былі вядомыя.

Самыя прыгожыя краявіды горада адкрываюцца за плячыма скульптуры Цёткі, таксама ўраджэнкі сучаснага Шчучынскага раёна. У кадр трапляюць невялікае вадасховішча (каля якога маецца нават пляж і зона для спартыўных гульняў) і дзівосныя пышныя расліны (дарэчы, пісалі, што сярод іх ёсць і экзатычныя, напрыклад, маньчжурскі арэх). Помнік даволі масіўны, хоць Цёткай



*Шчучын*

Алаіза Пашкевіч стала зусім не з-за фігуры, а таму што з юнацтва вельмі любіла ўсіх павучаць, нават сваіх пагодкаў.

Па дарозе зайшлі ў кавярню на плошчы. Прыемна ўразіла кава з ружовым сіропам у кубачку з выявай усмешлівага коціка. На супы, салату, каву і марожанае пайшло каля 14 рублёў.

Па прычыне каранціну нас не пусцілі ў палац Друцкіх-Любецкіх (кажуць, што ўнутры — там сапраўдны Версаль). Але фота на фоне мы зрабілі. А яшчэ ў Шчучыне можна паглядзець на гадзіннікавую вежу, самалёты, скверык з прыгожымі фантанамі, царкву св. Архангела Міхаіла, касцёл Святой Тэрэзы і калегіум манахаў-піяраў, дзе вучыўся І. Дамейка і іншыя слаўныя асобы. Назва ордэна піяраў, зразумела, не звязаныя з шоу-бізнэсам, а таму, што з лацінскага *Scholae piae* — «набожныя школы». Выязджалі мы з горада на звычайным рэйсавым аўтобусе, але давялося пахваляваацца, бо білеты на яго купляюцца па прыбыцці і па наяўнасці месцаў. У гэтай латарэі нам пашанцавала.

Наш шлях у Шчучын з Мінска ішоў праз чыгунку і станцыю Ліда, і паміж перасадкамі на аўтобус у нас агулам было 3 гадзіны наведаць горад. Суботнім ранкам у скверыку каля вакзала адчувалася, што ўчора была пятніца. Вароны і галкі латашылі папяровыя пакеты ад хот-догаў і іншае «харчовае смецце», каля адной лавачкі нават былі ўпакоўкі з-пад селядцоў. Што датычыцца замка, то тут турысту прапануюцца розныя «пакеты паслуг». За сімвалічныя 3 рублі можа зайсці ў дворык, пагуляць па пераходах, зазірнуць у байніцы, паглядзець фотаэкспазіцыю і нават сфатаграфавацца ў рыцарскіх даспехах. За большы кошт — унутраныя экспазіцыі, за яшчэ дадатковы — камерцыйныя выставы. Дарэчы, у той дзень каля замка праходзіў канцэрт з удзелам дзіцячых калектываў і аніматараў, і большае задавальненне гэты «варушняк» прыносіў самім маленькім удзельнікам, якія былі радыя гэтай свабодзе — некуды выехаць і ўвабрацца ў сцэнічнае.

Вельмі добрым словам можна прыгадаць сувенірную краму ў замку. Пры нашым паяўленні прадавец падкрэслена скончыла размову па тэлефоне і падышла прапаноўваць тавары. У нас апынуўся драўляны магніт з Гедымінам і карціна з янотам усяго за 25 рублёў ад «невядомага мастака». Такія карціны з «мімішнымі» звяркамі, аказваецца, малююць пачаткоўцы па прыватнай замове, таму і подпіс не ставяць. Таксама каля самога замка багата майстроў гандлявала лялькамі, драўляным посудам, магнітамі і іншымі вырабамі.




*Помнік Гедыміну ў Лідзе*

Была і цікавая сітуацыя. У Лідзе ў нас запыталіся, дзе знаходзіцца бульвар Гедыміна. Ведаеце, мне гэта нагадала, як у Адэсе ў мяне запыталіся, дзе Дэрыбасаўская (кшталту, усе мясцовыя гэта павінны ведаць). Бульвар ідзе ад вакзала да замка, гэта было няцяжка запомніць па дарозе. А сам Гедымін, вельмі свежанькі, 2019 года ўсталявання, стаіць насупраць замка, заснавальнікам якога з'яўляецца.

Садзячыся на цягнік да Мінска, аказалася, што не мы адны скарысталіся такой магчымасцю з'ездзіць на Гродзеншчыну на дзянёк. Тыя, хто выязджаў рані-

цай, — зноў вярталіся. Асобна скажу, што рассадка праз адзін, якая дзейнічала летам, мела некаторыя плюсы, калі на дваіх атрымліваеш цэлы «адсек».

## Капрызныя хвалі Браслава

Калі стала ясна, што пра адпачынак на моры «без ПЛР і каранціну» застаецца толькі марыць, мы вырашылі накіравацца ў Браслаў. Тут адным днём ці гадзінкай экскурсійнага маршруту не абыдзешся. На сайце вядомага тураператара па санаторыях мы забраніравалі нумар на турыстычнай базе і атрымалі невялікі падарунак у выглядзе сняданкаў (сама база прапаноўвала за той жа кошт — але без харчавання). У Браславе ёсць і гасцявыя домікі, але скажам, быў не лёс, а яшчэ не хацелася цягнуць нейкія запасы і самім гатаваць ежу.

Да курортнага горада можна даехаць маршруткамі, аўтобусаў, лічы, няма. Тое, што маршрутка забірае са ст. м. «Усход» і заязджае на базу — гэта, канечне ж, цудоўна. Але калі ў яе зайшлі ўсе 22 чалавекі, сярод якіх былі турысты нібы з карыкатуры — з вялікімі заплечнікамі, у капелюшах і з гітарай, дзяўчаты з пластыкавымі авіячамаданамі, здавалася, вольнага месца няма і міліметра. Праўда, настрой ва ўсіх быў цудоўны — некаторыя нават пачалі хваліцца па тэлефоне «А я тут еду на отдых в Браслав».

*Возера Дрывяты*



Мы прыехалі амаль у абед, і адразу можна было засяляцца. Хто падарожнічаў на мора на аўтобусе, ведае, што такое са світання боўтацца да засялення, калі твае рэчы кіснуць у нейкім склепе. Мы прыехалі ўтраіх, разам з маёй сястрой, таму нумар мы ўзялі двухпакаёвы (280 рублёў на два дні). Але кошт быў цалкам апраўданы: нумар быў прасторны, з дабротнай мэбляй, кухонным посудам.

У першы дзень нам вельмі пашанцавала з надвор'ем. Было даволі горача. Пляж быў «у крокавай даступнасці», даволі просты, нешырокі, травяністы. У дажджлівы дзень выявілася яго перавага: трава хутка высыхае, а пясчаны пляж у цэнтры горада проста размыла вадой. Мінусам раслiннасці было тое, што з кустоў выляталі авадні, ад якіх не ратаваў спрэй: мае ногі хутка пакрыліся вялізнымі ружовымі «бобкамі». Вада ў возеры Дрывяты вельмі празрыстая, разам з купальшчыкамі актыўна сноўдаюць рыбы, нават даволі вялікія.

На наступны дзень схаладала, пайшоў дождж, і яшчэ быў моцны вецер, але возера падчас заходу сонца выглядала вельмі чароўным і падобным на мора. На трэці дзень з-за ветру да вады было ўвогуле цяжка падысці. І ў гэтым Браслаўскія азёры вельмі блізкія з Прыбалтыкай, з якой мяжуюць.

Акрамя пляжа цікава прагуляцца па самім горадзе. Большасць забудоў — звычайныя вясковыя дамы, якія маюць сваю адметнасць: тут многія не ставяць плот. Шмат коцікаў, бо Браслаў жа рыбнае месца. Мясцовасць узгорыстая, найбольш прыгожы пейзаж адкрываецца з замкавай гары, калі азёры падступаюць з абодвух бакоў. Тут, каля касцёла, яшчэ прыгожая адкрытая пляцоўка, якая нагадвае і карабель, і кітайскую пагаду. Верагодна, гэта адсылка да спецыфічных загнутых дахаў браслаўскіх дамоў пачатку XX ст. у закапанскім стылі. Такая канструкцыя даху была ўведзена польскімі архітэктарамі, каб лепш працістаяць снегу і дажджу. На гары ёсць помнік-маяк лекару Станіславу Нарбуту, які ў пачатку XX ст. лячыў людзей у Браславе і пабудаваў бальніцу (зараз тут дзейнічае жаночы манастыр). Дарэчы, з Браслаўшчынай звязаная яшчэ і жыццё паўстанкі 1830 — 1831 гг. Эміліі Плятэр, рамантычны вобраз якой зараз папулярызуецца: тут нарадзілася яе маці. Пра гэта мы даведаліся ў краязнаўчым музеі, які размяшчаецца ў будынку пачатку XX ст.

У жніўні 2009 года, працуючы журналістам, я пісала пра свята каранацыі абраза Маці Божай Валадаркі азёраў, куды з'ехаліся вернікі з усёй Беларусі і замежжа. Пра ўрачыстасць мне тады расказваў нясвіжскі ксёндз Пётр Шарко, і здавалася, што гэта праходзіла на нейкай далёкай зямлі. Падчас вандроўкі ў Браслаў у касцёле нараджэння Найсвяцейшай Пані Марыі я ўбачыла тую самую ікону.

Асобна раскажу пра харчаванне. Мы сілкаваліся на турбазе, і тут выявіўся недахоп салатаў і гародніны. Ды і крамкі тут маленькія, і асноўны асартымент — пячэнне і алкаголь. Мы для сябе выявілі дзве прычыны — большасць горада жыве ў прыватных дамах і мае свой агарод, тут прахалодна і, мусіць, не так хутка выспявае, як у паўднёвых частках Беларусі. У «топавай» краме

«Виталич» — асартымент на ўзроўні сталічных супермаркетаў. Тут мы закупіліся мясцовай сушанай рыбкай, а таксама сувенірамі. Затое на базе можна было заказаць на абед ці вячэру дзічыну і рачную ды марскую рыбку па вельмі сімвалічных коштах (ад 3 да 10 рублёў). А яшчэ на базе была крама, дзе прадавалася мяса лясных жывёл (лася, кабана), варэнікі з ягад, наліўкі. Мы вельмі хацелі купіць сабе што-небудзь ці проста вокам зірнуць, але крама працавала з серады. У сераду каля 11.00 яна мусіла адкрыцца, і ўжо выстраілася добрая чарга. Але тавары не прывезлі ні а 12-ай, ні а 13-ай. Як жартавалі няўдалыя пікнікоўцы «Яшчэ не настралялі». А нас ужо чакала адваротная дарога.

## Рэтра-шарм Лепеля

Апошнія выходныя лета абяцалі быць спякотнымі. Дзякуючы інтэрнэт-фотаздымкам з фэсту «У госці да лепельскага цмока» ў галаве даўно сядзеў вобраз гэтага чароўнага горада. Дарога туды на маршрутцы (кірунак — Віцебск — Гарадок) складае 2 гадзіны. Кошт праз касу вакзала — 9,26 р., на адваротнай дарозе ў кіроўцы — 8 рублёў (дарэчы, з выдачай квітка).

Сам Лепель пачынаецца непрывабным старым аўтавакзалам і акуратным, але пустым новым — чыгуначным (цягнікі ў бок Оршы і назад ездзяць па 2 разы на дзень). Да самога возера таксама, як аказалася, даволі доўга ісці і лепш мець пры сабе карту. Лепель — маленькі гарадок, падобны да вёскі. Дарога да возера ідзе праз цэнтральную плошчу (шырокую, з невялікім скверыкам). Далей бачым помнік Льву Сапегу, які ўстаноўлены побач з касцёлам святога Казіміра. Канцлер, ваявода ВКЛ Леў Сапега (дарэчы, ураджэнец суседняга Бешанковіцкага раёна) у свой час перамясціў эканамічнае жыццё паселішча Лепель з аднаго берага возера на іншае, на месца паселішча Белае, якое стала Новым Лепелем.

Помнік цмоку знаходзіцца ў вельмі выгадным месцы — за яго спінай адкрываецца найпрыгажэйшая панарама вялікага возера. Тут атрымліваюцца ўдалыя фотаздымкі. А сам фантастычны звер досыць мілы, з вочкамі Бэмбі, бо зроблены так, як яго апісваў У. Караткевіч: галава **«падобная і на галаву змяі, і на галаву лані».**

Для таго, каб пакупацца, трэба ісці крыху далей, праз мост да пляжа. На мосце шмат рыбакоў, а каля іх труцца каты. Дарэчы, яшчэ адну добрую частку мужчынскага насельніцтва Лепеля мы бачылі каля лазні з венікамі. Але трэба паўтарыцца, што надвор'е на Віцебшчыне зусім няпростае. Калі ў Мінску ў той дзень было каля +25, а ў маіх родных Баранавічах і ўвогуле каля +30, то раніца ў Лепелі сустрэла дажджом і +17. Таму мы зрабілі невялікі пікнік пад парасонам. Пляж Лепеля невялікі, пясчаны, добраўпарадкаваны (ёсць спартыўная пляцоўка, прыбіральні). Але самае ўражвальнае тут — вада, бо яна мае чырванаваты колер. Возера, як і Браслаўскія, неглыбокае. Абедаем мы ў адзінай адкрытай кавярні ў цэнтры, дзе нам ветліва прапаноўваюць адзіную страву — дранікі ў гаршчочках. Пасля абеду распагоджваецца і мы прымаем «сонеч-



*З Лепельскім Цмокам*

ныя ванны» на лаўцы. Да возера прыходзяць жанчына з дочкамі-падлеткамі, пазней жанчына з унукам. Пад раскідзістым дрэвам яшчэ сядзіць гурток кабет, мяркуючы «па высокіх словах» і пастаўленых галасах, яны праводзяць нейкія «псіхалагічна-эстэтычныя практыкі».

Добрымі словамі трэба ўзгадаць музей. Выглядае ён даволі сціпла: месціцца ў драўлянай хаце, але бачна адкрытасць да наведвальнікаў. У гэты дзень тут быў бясплатны ўваход. Звычайна тады не вядзецца экскурсійнага суправаджэння. А тут былі заняткі для малечы: маладыя работніцы з дзецьмі вывучалі назвы птушак. Супрацоўнік музея, пабачыўшы нашу зацікаўленасць, распавёў нам пра гісторыю будынкаў горада, пра Уладзіміра Лабанка, які тут актыўна партызаніў, пра знойдзеныя парэшкі ваеннага самалёта і пра тое, што ўраджэнцам Лепельшчыны з'яўляецца заснавальнік вядомай сеткі прыватных лякарняў. Факт: заўважылася розніца (у мове, у адзенні людзей на фота, у газетных навінах) у экспазіцыях Лепеля і Браслава за 1920 — 1930-я гг., калі гарады былі адзін аднаму замежнымі. Невялікую капейку музею ўсё ж мы пакінулі, заплаціўшы за магчымасць фатаграфавання.

Зайшлі ў Храм Пераўтварэння Гасподня. Вельмі цікава, што тут можна ўзяць (мусіць, на час службы, але мы папрасілі забраць з сабой за ахвяраван-

не) маленькія іконкі, наклееныя на кардонкі. Мы ўзялі іконку Прадвесце («Знамение»), якая, лічыцца, абараняе ад канфліктаў, войнаў і эпідэміі. Дарэчы, у храме ёсць абраз Матроны Маскоўскай, якая шануецца паломнікамі. Побач з царквой знаходзіцца ўнівермаг, які вярнуў у 1990-я гг. — у тым ліку і шыльдамі па-беларуску са шрыфтам «наўскос». Тут мы знайшлі «Ленінградскую» туш»плявалку» і яшчэ некаторыя вырабы з дальніх расійскіх гарадоў. Спадабаліся цацкі-звяркі з натуральнымі мызачкамі, плюшавыя і з «той самай» калючай штушнай поўсцю.

## Нацыянальны лоск Сулы

Парк гісторыі Сулы, што ў Стаўбцоўскім раёне, можна знайсці ў турыстычных праграмах фірм, якія зараз, як кажуць, «перакінуліся на ўнутраны рынак». Калі вы не маеце аўтамабіля, то можна скарыстацца аўтобусам 287/287а, які ходзіць ад ст. м. Малінаўка пару разоў на дзень. Ідзе аўтобус 1,5 гадзіны праз Дзяржынск (і праз вельмі маляўнічыя пагоркі). Да заваротнага рэйса на Мінск у вас ёсць каля 3 гадзін, што пры добрым надвор'і для наведвання ўсіх аб'ектаў малавата. Дарэчы, у нядзельны восеньскі дзень тут было вельмі шмат турыстычных аўтобусаў і аўтамабіляў.

*Водныя прагулкі на дракары ў Суле*



Сула — гэта мінуўшчына, у якую зрабілі ўнёсак, фінансавы і духоўны. Тут усё вядзецца па-беларуску. Пры ўваходзе работнікі комплексу раздаюць мапы парку і скіроўваюць да тых актыўнасцей, якія ідуць у дадзены момант, напрыклад, майстар-клас па старажытных танцах. Комплекс даволі вялікі, і да патрэбных аб'ектаў вядуць гукі або пахі. Так мы трапляем на шляхетны танец. Танчыць трэба ў карагодзе, узяўшыся за рукі (дарэчы, мала хто быў у пальчатках). Тэмп музыкі паскараецца, і хутка становіцца ясным, хто «марозіць» і раскідаў карагод. Далей нас чакае алкагольнае частаванне (ніхто не адмаўляецца) і комплекс вытворчых пабудоў. Калі збіраецца невялікая група людзей, то распачынаецца экскурсія. Напрыклад, мы даведаліся пра працу млына. А яшчэ пра тое, што на месцы, дзе пачынаецца экспазіцыя Сулы ў часы ВКЛ была мытня. Даследчыкі-гісторыкі падказалі, што такія мытні звычайна стаялі на рэках.

Цікавая размова з разгляданнем рушнікоў з усіх рэгіёнаў выдалася і з гаспадыняй хаты-майстэрні ткацтва. Таксама мы закупіліся мілымі паробкамі. Яшчэ завіталі да варажбіткі ў хатку «на курыных ножках» — высокіх караністых пнях. Але прадказанне на паперцы, якое выцягнуў муж, не парадавала: «Будзеш усё рабіць, лежачы на канапе», — значыць, на самаізаляцыі? (Забягаючы наперад, на жаль, збылося).

Байка «Ганарысты парсюк», расказаная ў батлейцы, аказалася казкай для дарослых, бо тыя атрымалі сапраўднае задавальненне ад лялечнай пастаноўкі. А вось маленькія дзеткі пачалі румзаць пры выключэнні святла, большасць — «нічога не разумелі», таму на першых хвілінах дзеяння частка аўдыторыі была выведзена бацькамі з залы.

У сядзібе Ленскіх даведаліся пра гісторыю гэтай сям'і, якая валодала Сулай з 18 ст. Праўда, панскі дом зусім невялікі — некалькі пакояў. Гэта рэстаўраваны будынак, бо ў 1939 годзе ён быў узарваны прадстаўнікамі савецкай улады. Адзін з Ленскіх, вайсковец Канстанцін, быў арыштаваны і знік без вестак, а яго сястру Альжбэту абаранілі сяляне і пакінулі жыць у сябе. Многія дакументы і рэчы ўладальнікаў сядзібы захаваліся дзякуючы служанцы Ленскіх.

Частка парку Сулы прысвечана яшчэ эпосе вікінгаў. Мы, напрыклад, паспрабавалі сябе ў такой забаве як кіданне сякерак. А па хвалях вадасховішча лодка вікінгаў дракар катае ўсіх ахвотных.

Як бачым, у апошнія гады ў Беларусі з'яўляецца ўсё больш турыстычных цікавостак. Падарожжа нават у невялікі горад можа быць удалым на грамадскім транспарце і з невялікім бюджэтам, калі прадумаць маршрут і мясціны, якія будзеш наведваць, а таксама быць адкрытым да нечаканых сустрэч.



# Генадзь Лапацін

паэт, фальклярыст. Аўтар кніг паэзіі: «Без чисел и дат» (1997 г., 2003 г.), «Лепить из снега» (2002 г.), «Луны преобладанье» (2003 г.), «Увидеть дерево» (2008 г.), «Около облака» (2012 г.) а таксама шматлікіх публікацый у альманахах і часопісах. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# «У «Стрялу» з каждага двара ішлі людзі...»

Абрад «Ваджэння і пахавання стралы» прадугледжвае агульнае «ваджэнне стралы» — шэсце жанчын са спевамі і карагодамі і яе пахаванне, калі ў жытнім полі закопваюць самыя розныя ўвасабленні «стралы»: металічныя прадметы, манеты, упрыгожванні. Мэта абрада — паўплываць на свае стасункі з сіламі прыроды. Разам з неглюбскімі рушнікамі, Веткаўскім музеем стараабрадніцтва і беларускіх традыцый «Страла» — адзін з брэндаў Веткаўшчыны. «Страла» заўсёды прыцягвала на Веткаўскія землі фалькларыстаў, этнографаў і проста прыхільнікаў народных традыцый. Так напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзяў тут працаваў адзін з самых вядомых даследчыкаў беларускай культуры Еўдакім Раманаў. Некаторыя запісы Раманава прадстаўлены ў яго знакамітым «Беларусском сборнике». З сярэдзіны XX стагоддзя тут працавалі фальклорныя і этнаграфічныя экспедыцыі Маскоўскай кансерваторыі, Пушкінскага Дома, Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора АН БССР, Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пачынаючы з 1980-х гадоў вывучэннем стаўбунскай культуры займаюцца супрацоўнікі Веткаўскага музея. Да вывучэння нашай «Стралы» спрычыніліся самыя вядомыя як беларускія, так і расійскія фалькларысты, музыказнаўцы: Г.А. Барташэвіч, В.Д. Ліцвінка, Р.С. Гамзовіч, В. Гусеў, Ю.І. Марчанка. Варта адзначыць, што апісанне «Стралы» на прыкладзе Стаўбуна, якое прыводзіцца ў публікацыі М. Каршукова «Пахаванне стралы» ў часопісе «Наш край» (1926, №1), з'яўляецца адной з самых першых, калі ўвогуле не першае, адмысловых «стрэльных» публікацый.

Веткаўская «Страла» мае і сваю фанаграфію. У 1989 годзе выйшаў камплект з дзвюх кружэлак «Традиционные песни Полесья. Календарные, хороводные, жатвенные, лирические песни в исполнении певиц деревни Столбун [и др.] Из собрания фонограмма архива Пушкинского дома». На кружэлках прадстаўлены песні ў выкананні жанчын з нашых вёсак Стаўбун і Янова. Зразумела, што без «Стралы» ўкладальнікі не абышліся. Не абышлі сваёй увагай «Стралу» і кіношнікі. Рэжысёры Р. Гамзовіч у 1996 годзе і Ю. Выдронак у 2014 годзе знялі два фільмы з аднолькавай назвай «Як пушчу стралу...» Першы фільм прысвечаны Фёдараўцы і Казацкім Баўсунам, другі — вёскам Стаўбун і Янова.

Увага да сябе, да сваёй вёскі, да свайго свята — заўсёды прыемная. Але разам з гэтым існуе і сваё, часам і падсвядомае. Як вынікае з аповедаў звычайных вясковых жанчын, «Страла» — гэта своеаблівае вымярэнне Прасторы і Часу, вымярэнне Прыгажосці і магчымасць аддаць Богу благадаць.

* * *

*Паводле аповедаў жанчын, ствараецца ўражанне, што «Страла» для жыхароў нашых заўсёды была падзеяй, якая яб'ядноўвала ўсіх жыхароў пасёлка ў адзіны калектыў. І ў гэтым плане яна паставіла Ушэсце нават вышэй за Вялікдзень і Троіцу. Як распавядала Варвара Аляксандраўна Грэцкая з Амяльнога:*

«...на Паску проста «сядзелі гуртом.. У адной хаце гурт, у другом черяз пяць двароў.. «, а «на Троіцу ж ні хадзілі, на Троіцу кумілісь», то у «Стрялу» з каждага двара ішлі людзі.. У нас пабагату хадзіла. Вуліцы ні хватала.. Двары пустыя! Усі людзі ідуць.. А тады параз'ізжаліся.. У нас дружныя былі.. .. Пасёлак ряве.. Рёў ідзець.. Кажды ж на ўсю глотку... Усі пяюць.. Шэрэнгі у дзве рэдзібцыца ж на ўсю вуліцу.. І ззадзі яшчэ такая..» *Гэта было сапраўднае свята, якому людзі імкнуліся адпавядаць*: «Стрялу» ету шануяць, штоб ужо чыста іцціць надзеўшы.. На «Стрялу» старыя бабы дажы і смярцёная надзявалі, штоб ўжо прыбрацца красіва. Прыбіраліся ўсе людзі. А еслі етыя, дак надзяюць смярцёная. Плойма, тыя ўжо на празнік жа ё тож наряжаяцца, ішчэ і ленту прыколяць іззаду. «Малыя ўжо ждом, калі Ўшэсце — Стряла». Мам, прыкалі мне ленту!» Штоб красівей ужо было. Штоб кажды красівей усіх быў».

* * *

*Удзелу ў «Страле» дзяцей надавалася асаблівая роля*: «Без малых — ета не Стряла. «Амерыканчыха заводзіла. «Мы, — гаворя, — памрём, і ўсё наша ў магілу пойдзя. І не будуць пець. Мы падохнім і песні нашы падохнуць. Давайця вучыцісь. І вы будзіця пець». І баба.. Наша баба ўсі знала.. І што пелі ў Стряле, я навучылась... Пяюць у Стряле спакваля, ні то шта скорынька.. Паважна пяюць.. Дак я навучылась..» «Вот калісяшнія, калісь прабабы пелі, тады аны адно за адным, маладыя вучылі. Маладыя ідуць дзяўчаты ў Стряле і шчэмяцца паміж матак».

* * *

*Не менш прыгожа, паводле аповеду Валянціны Аляксандраўны Халюковай, «Страла» выглядала і ў Неглюбцы:* «Ад Паскі да Ўшэсця — Стряла. Уліца ўгінаецца. Ідзець народ. Цвіце, цвіце, як бы малако цячэ, надзетыя усі, прыбратыя ўсі. Сарочкі вышытыя, паўсёмістыя, карсеты, паясы, андаракі пабшыватая — вой, красата! — хусткі на галаве, крывулі і цвет вышыты. А тут старец уперядзі ідзець, скача. І Стрялу вядуць, і пяюць усякія песні...»

* * *

*Вера Васільеўна Прыходзька з неглюбскага пасёлка Свабода ўдзел у «Страле» параўноўвае з наведваннем Храма.*

*<На Ушэсце як апраналіся?>*

Адзяваліся так... Самая красівейшая, што ё ў каго, такоя новая адзенне... Жэншчыны прыбіралісь так, як прыказка ё, як у цэркву. І занізкі, і ленты. У цэркву ідзеш, надзяесся, штоб красівей жа, чыстая ўсё... У будзен жа дзень ходзіш на работу... А тады харошае надзяеш, новая... І січас ідуць каторыя, дак прыдзяюцца. І я ж надзяюся красіва... Мая дачка работая ў бальніцы, і там, каторыя ў бальніцы работавюць жэншчыны, дак яны кажуць: «Ой, Валя!. Твая матка ходзя разнацветная... — А ў нас жа ўсё цвітноя... — Уся разнацветная ходзя... Як цацка!. Стаіць, цвіце... Уся чыста цвіце...» Харошо хадзілі...

* * *

*У пэўным плане Страла была своеасаблівым вымярэннем Часу... Яны жылі ад Стралы да Стралы. Зноў Варвара Аляксандраўна Грэцкая:*

Па-калісяшнаму, па-божэскі. Стрялу правесць — ета бальшое дзела. І баба гаворя: «Дай, Госпадзі, што б я і на лета правяла Стрялу. Штоб я дажыла і да тога года.» Бабы будуць казаць: «А, можа, Бог дасць, баба Алёнка, і правядзеш.» Наша баба пачотная была. Яна век нікому зла ня здзелала. Усё харашэнічка. Ні пакляла нікога. Наша баба была атлічная. Яна ўсяму харошаму вучыла. <...> Ета і калісь было. Я ў бабы калісь пытала: «Баба, ета і калісь-калісь?» — «Да. І калісь. І прабаба мая казала, што вадзілі «Стрялу». Я для празніка спела.. Да і ўсё.. Празнік... Сваю благадаць мы аддалі Госпаду Богу... Устрэлі і правялі Стрялу.

* * *

*Звычайна, паводле тлумачэнняў удзельніц абрада, «водзяць Стрялу», «штоб лён рос», «штоб пажара не было», «штоб урадзіла», «еслі дажжу німа», «штоб дожч не мясіў, бываюць жа заліўныя дажчы». Але разам з тым, з дапамогай стрэльнай атрыбутыкі спрабавалі зазірнуць у будучае сямейнае жыццё:*

У нас на Ўшэсця гуляюць, карагоды водзяць.. Стралу называіцца. Хадзілі бабы, браліся і карагоды вадзілі. А дзеці, нам была гадоў па дзесяць, па дзвінаццаць, па пітнаццаць... хадзілі разам, бралі за рукі, вадзілі Стралу і песні пелі, а дзеці маленькія ў кругу сядзелі. Водзяць Стралу, два-тры кругі палучалася. Стралу паводзяць, ідуць у поле... качаюцца. А дзеўкі варажылі сабе, жыта вырывалі: парная — ніпарная — глядзелі. Вочы заплюшчыла, сарвала, каласкі счытая. «Пара!» — «А ў міне лішка». <На Ушэсце каласкі вырывалі?> Да, вырывалі. Ета дзеўка варажыла сабе: парная ці ніпарная, у пары будзя іці ні ў пары будзя. А праўдзіла. Адной, яна ці соракавога ці сорак першага году, сколькі яна ні вырывала, прыходжылася, яна расказывала.. Мы вырвалі, яна сабе пасчытая, як і я, а тады ўжо гаварыла.. як асталася адна, гаворя: «А я ні верыла. Думала: «Ні праўда. Я вырву: лішка там. Нада дзесяць, а я адзінаццаць вырву. Нада дзвінаццаць, а я трынаццаць вырву. Лішка, лішка — ніпарная. Нікаму ні гаварыла, дзеўкам. «Што ў цібе? Пара!» — «Пара!» А

калі асталася адна, дак адна ўжо жэншчынам гаварыла: «Я ні верыла. А, вот, паверыла, што асталась адна. Лішка — пары нет».

Паводле аповеда Марыі Васільеўны Кананавай , 1947г. н., з в. Шалухоўка.

Паводле аповеда Грамыка Аляксандры Фёдараўны, 1896 г. н., Новыя Грамыкі: «На Стралу дзеўкі ідуць у Гарадок. Дзелаюць вянок, вешаюць на бярозу: «Як пайду замуж, пусць вянок вісіць, а не — хай сохне».



*«Страла», в. Янова, 1991 г.*

* * *

*Кожная абрадавая песня мае сваю жорсткую і трывалую календарную прымеркаванасць. Як гэта вызначыла ўжо ў далёкім ад нас 1989 годзе жыхарка Фёдараўкі Вулляна Пятроўна Пархоменка:* «Нам якоя ўрэмя, такія мы і песьні пяём. Вясной вясняныя. На Ўшэсце пасследні дзень вясны. Больш вясны ніхто не пяе. Ад Вялікадня і да Ўшэсця эта пяём. На Благавешчання трохі папяюць і да Вялікадня зноў не пяюць. Калі якая пара, такія ў нас і песні. Песні цераз мяжу не ідуць».

*Пра тое самае казала і Марыя Цімафееўна Арцямкова з в. Прысно:* «Стрэчанне канчаіцца, і вясна пачынаіцца. А на Ўшэсце праводзілі. Ўшэсце — празнік такі.. Колік вілі.. Карагод вадзілі.. Песні пелі.. Тады няслі этат колік у рэчку тапіць.. Колік, цвятамі ўбіраім эты колік.. Усякімі цвятамі.. Ставім у вядро.. І пяём песні.. Карагодам такім... Вясняныя песні...

*Як пушчу стралу, да і ўздоўж сяла.*
*— Ты ляці, страла, да і ўздоўж сяла.*
*Ты ўбі, страла, шэра селязня.*
*Не ўбіла страла шэра селязня,*
*А ўбіла страла добра молайца.*
*Па тым молайцу плакаць некаму.*
*Мамка старынька, сястра малінька.*

Вясну правялі — і ўсё. Эта праважаты дзень вясны. Пачыналі жніўнявыя песні.

Як зажыналі жыта, і пачыналі песні пець...»

*Але ж для Стралы рабілася выключэнне. Паводле ўспамінаў Костачкі Феклы Іванаўны, 1930 г. н., з п. Падкаменне:*

«Дажчу не было, дак Стрялу вадзілі. На тую Стрялу сабіраліся. Прымерна, Стряла эта на Ўшэсця, а як дажчу німа, дак сабіралісь бабы да і пелі такія песні, па пасёлку хадзілі. Тады і пойдзя дожч. Пробывалі. Былі такія гады».

*«Страла» далучае да беларускай культуры памежныя бранскія вёскі. Пра гэта сведчыць тое, што падобны звычай, вадзіць стралу па-за межамі календарнага прадпісання, існаваў ў в. Верхлічы Краснагорскага раёна. Як узгадавала Параскева Антонаўна Грыбанава, 1920 г. н.:*

«Кагда даждзя не была, значыць, нада сабірацца ўдавам і Стрялу павадзіць. А Стряла ж — да Ўшэсця, толькі на Ўшэсця пабудзіш, і большэ не пелі. А еслі даждзя німа, значыць сабіраяцца ўдовы, і пяюць «Стрялу». І тады падходзяць к рэчцы і барану прыносяць і тры разы туды-адтуль, прымер тый здзелаюць бараной. І тады дождзь начынаецца. Пры мне было ета. Як Стрялу правядуць, па рачцы барану правядуць — і дождзь пойдзя. Даждя нет — пелі Стрялу. Толькі ўдовы. У нас абряд быў такой. У чужых сёлах, бог іх зная, но ў нас даўжны ўдовы прайціць і папець... Бывая, такія леты, што сільная граза найдзе. І шкода была. Бабы сабіралісь, удовы, спяюць карагод. І, уродзе, граза ўнімалась».

*Але дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ў Казацкіх Баўсунах такое выключэнне рабілі для шчодраў:*

<*Ці можна ў Каляды пець веснавыя, а вясной жніўныя?*>

«Не-не. У нас не пяюць. У нас ні раз у Каляды ня пелі веснавых. Спробалі ўлетку.. Даждзю німа.. Старыя бабы, удовы, у каторых мужыкоў німа.. Кажаць: «Сабірайціся.. Пойдзім у шчодры..» І па вуліцы ідуць у шчодры.. Серядзі лета..

Ці вясной.. Сабіраяцца, ходзяць па шчадрах.. Штоб, мол, дожч прайшоў. Тады кажаць: «Во пахадзілі бабы па шчадрах, і слава Богу, тучка наехала і памачыла.. Дрожчык памачыў.

Эта ад старых людзей я знаю.. І ў маём возрасці колькі раз бывала, як толькі.. Сабіраяцца.. Шчодры пяюць.. Эта ж гаманілі на рабоце, што няма дажчу, дак пойдзяць удовы ў шчодры...

Паводле аповеда Гарбузовай Ганны Барысаўны, 1932 г. н.

* * *

*Па стрэльных песнях можна вывучаць старадаўнюю тапаніміку некаторых вёсак. Фрагмент такой песні ўзгадала жыхарка вёскі Данілавічы Чуяшкова Любоў Кузьмінішна.*

Па вуліцах паходзюць і прайдуць у край, і там палюць. Ета штоб граза ні біла па дзярэўні. Занясуць за дзярэўню «Стралу» — і ўсё. Ета на Ўшэсце, на Вазнясенія Господня.

*Песню не ўзгадаем?*

«Павядом Стралу да па ўсём сялу,
Па загуменню,
Із Халецкія на Савецкаю..»

*На жаль, узнавіць цалкам тэкст песні не атрымалася. Тым больш, што гэта песня асэнсоўваецца яе выканаўцамі не проста як песня, а як нейкае магічнае дзеянне:*

«Ета ні песня, а проста так выражалі і «Стралу» адводзілі ад дзярэўні, Ета ні то шта песня, а ета такая была традзіцыя адводзіць Стралу, штоб не біла па дзярэўні. Вот ета і вадзілі Стралу за етага. Жэншчыны пажылыя. Здзелаюць і там іе спаляць за дзярэўняй. Вот і ўсё. Казалі, што атвялі няшчасце ад дзярэўні. Ета ні то шта песня, ета проста сабіраліся, хаділі кругом дзярэўні, абходзілі».

* * *

*Ушэсце — гэта не толькі «страла», а і «лялька», і «елка», і «колік», і «старац»... І хавалі не толькі «стралу», а і «вясну»... І вадзілі не толькі «стралу», а і «старца».*

«На Ўшэсце «колік» вілі. Бралі вядро, сыпалі зямлю, ставілі колік, палку такую.. Убіралі цвятамі іе.. Крапівы туды, сірэні, якія цвяты ё. І хадзілі кругом коліка.. Кругаля, то ў той бок, то назад. Штоб, мол, капуста завівалася. У рэчку насілі тапіць.»

Паводле аповеда Лідзіі Васільеўны Зайцавай, 1938 г. п., з в. Прысно.

«Ляльку хавалі, закапавалі, з нітак скруціш, а тада трапачку чысцінькаю пакласць, ямку выкапаім і пяём. І плакалі. Як вясну хавалі. Называлась «Вясну хаваць».

Паводле аповеда Пралкінай Ульяны Мікалаеўны 1917 г. н., з в. Верабёўка.




*Казацкія Баўсуны, 2007 г*

«На Ўшэсце ляльку рабілі з трапачак. Дзелаем гробік з каробкі з-пад пячэння. Туды падушачку, адзяяльца, пакрывальца — з гардзін. Нясем у жыта, хаваем. Крыжык ставім. Галосім. Калі вясна была халодная: « Ты была халодная. Мы не нагуляліся, не нагрэліся. Больш такая не прыходзь!» Калі была цёплая: « Ты сёлета была цёплая. Мы і босыя нахадзіліся і голыя. І на той год такая будзь!»

Паводле аповеда Матроны Цітаўны Еціпнёвай, 1919 г. н., з в. Барталамееўка.

«У нас ціпер усё адпала. А вілі ёлку — «хрэн». Считаўся, ні толькі з ёлкі — з любога дзерава. І тады нарэжым цвятоў на тую ёлку, а вечарам, перад заходам сонца, жэншчыны сабіраюцца, ету ёлку мы звалі «хрэн», і нясуць яго ў жыта. Туда ідуць вясну пяюць, адтуль ужэ такія песні пяюць. Ужэ вясна кончылась — усё ўжэ! Вясняных песень ужэ не пелі, а ўжэ такія пелі. Гэтую ёлку паставяць у жыці, і яна стаіць там ужэ, колькі ёй улезя.

<*Не казалі: для чаго?*> У жыта ставілі, мол, штоб жыта была харошая. А для чаго болей я ні знаю. Стаіць, пакуль жыта жнуць. Там ужэ хто выкіня».

Паводле аповеда Ганны Данілаўны Чуяшковай, 1927 г. н., з в. Шарсцін.

«У Неглюбцы Ушэсце... У цэркву мы пашлі... «Ну, што, дзеўкі, пойдам... Там жа «старца» вадзіць...» У нас тожэ вадзілі «старца» па пасёлках...<*Не казалі, для чаго «старца водзяць»?*> Штоб ураджай быў... Во жыта ж... Пасеяць жа ўсё... Дак штоб быў харошы ўраджай быў... А еслі вот ужэ старца не... «Ой!. Ня будзя... Жара... Прапалі... Нічога ня будзя... Ня будзя ўраджаю ніякага...»

Такая прыказа: Давайця, дзеўкі, «вадзіць старца», сабірайцеся ж «вадзіць старца», а то пагарыць усё, ня будзя дажча, давайця «вадзіць старца», а то пагарыць усё. Ета із прыдвеку... Ішчэ і мая баба, і прабаба... І спрыдвеку вякоў «старэц» еты... Вадзілі...

Паводле аповеда Веры Васільеўны Прыходзька з пасёлка Свабода.

*Ва ўсіх варыянтах абрада гучыць песня «Як ішла Стряла да уздоуж сяла...», «Пушчу Стрялу да па ўсём сялу...», «Павядом Стрялу да па ўсём сялу...» Варыянтаў шмат...*

* * *

*Як любой з'яве народнай культуры «Страле» давялося пераадольваць самыя розныя супрацівы і з боку прадстаўнікоў афіцыйнай улады, і з боку прадстаўнікоў афіцыйнай царквы. Пра гэта сведчыць Марыя Лаўрэнцьеўна Марозава, 1927 г. н., з в. Стаўбун:*

«Закапыяць «Стралу», як ужэ канчаім, паводзім у жыці карагоды, вытапчым жыта страх як! Дырэктар прыязжая: «Ну што ты тут шкоду надзелалі!» — «Іванавіч, ніякой шкоды. Прыедзь заўтра. Паглядзіш і ні ўгадаіш, ідзе мы вадзілі, ідзе не». Ён усё-такі прыехаў, паглядзеў і кажа: «Ай-яй! Такі гурт прайшоў кругом, такоя стаптання, і паднялося тоя жыта!». Я гавару: «Гасподзь дае тую мінуту, і такоя Гасподзь дае жыта, ішчэ лучшэ тога. Што Гасподзь прыняў нашу малітву і песні. І падняў жыта. Паклаў і падняў!»

«А ціперака во: у нас Ўшэсця, наш бацюшка ні залюбіў, што ета Ўшэсця. Мы вядом «Стралу», а ён да «Стралы» ішчэ пашоў у жыта пасвячаць жыта. А ета ж — грэшна! Ета — гряшно! У нас жыта пасвячаць — толькі на Юр'я, шостага. Вот ета пасвецяць жыта: «Расці, — кажаць, — Госпадзі, для ўсіх: для маладых, для старых!» <Чаму гряшно?> Ета бацюшку, што ён пашоў чэраз нашу волю. Я гавару: «Бацюшка, вот, вы ні правільна дзелаіця. На Юр'я ходзяць жыта пасвячаць, усі людзі ідуць. А Ўшэсця — ета саўсем другоя. Ета Господняя планета, Господні дар і сіла Господняя. На Ўшэсця ўсі вісяляцца». Я яму давай паясняць, які ета грэх?» Ён: «Гряшно». — «У нас нікакога грэху німа. Патаму шта Гасподзь саздаў, ні мы саздалі, а ета ўжэ, можа, мільёны, тысячы гадоў. Адтуль мы дзяржым старынушку. Мы пяём песенкі. Песенкі пяём для Госпада Бога. Усякія песні ё. Бажэствінныя». Стала я яму расказываць, сагласіўсь са мной».

* * *

*Аповеды пра «Стралу» красамоўна сведчаць аб тым, што любая вёска жывая, пакуль жывая яе «Страла». Менавіта гэта вынікае з успамінаў аб падзеях 1991 года амяльчанкі Варвары Аляксандраўны Грэцкай:*

«Ўшэсце прышло. Наш Ягор к нам прыязжаў, Івонька Тарасаў... Прышлі к нам.. Я ім наліла па сто грам.. Мы іх правялі з Ляксаніхай... На Марозаўку...

Да бугра... Чуць да шляху... Амяльноя, тады поля, тады Марозаўка, тады шлях на Закружжа, на Ветку... Мы іх давялі да шляху, кажам: «Ну, ідзіця..» Яны сабраліся, пашлі.. А мы ўдзвёх із ёй як рэванулі песню.. Ляксаніха кажа: «Давай на ўсю глотку пець..» І мы з ёй: «А-а-а!.. Як ішла Стряла, да ўздоўж сяла!..»Дак Ягор наш кажа: «Мы з Івонькам сталі, да слухалі і плакалі, як вы пашлі... І плачыма.. Я калісь з гармонню хадзіў, а ціперыка во паплакаў, да і пашлі. Прышлі ў Марозаўку к аўтобусу, дак марозаўцы пытаяць: «Ета ў вас ішчэ людзі жывуць, што Стряла чутна?» А я гавару: «Ета да шляху нас правялі удзвёх, да і пашлі назад і пелі. Шлі да Амяльнога і пелі ўсё». Яна гаворя: «Во і прайшлі». Каля іх пасядзелі, да мяне дайшлі. Яна гаворя: «Давай пройдзім і туда». І большэ ўжэ не пелі. Падавалі нам хаты. Яны ў Рэчыцу паехалі. А мяне, прыехала міліцыя, сказалі: «Убірайся!.» Усё.. Старынушка прапала...»

* * *

*Сапраўды, пераадоліць Чарнобыль «Страла» не змагла. Абрад знік разам з вёскамі, жыхароў якіх адсялілі ў розныя населеньня пункты Беларусі, у тым ліку і ў Ветку. Аднойчы я расказаў Варвары Аляксандраўне Грэцкай пра тое, як жанчыны з Барталамееўкі паспрабавалі правесці абрад у Ветцы, але веткаўчане іх абразілі і абсмяялі:*

«Ну, дурныя.. Дурныя, што яны абсмяялі. Яны свой абряд дзелалі, што ў дзярэўнях дзелалі на Ўшэсце. Стрялу вялі. А яны іх абругалі. Вот і запей, дак калі хочыш аштрахуяць, скажаць: «Нарушаіш пакой».

<*Калі б Амяльное было, Стрялу б вадзілі?*>

«Канешна б вадзілі. Еслі б нашы бабы ўсі. Яны ўжо папамёрлі. Еслі б тыя людзі ўсі былі. Канешна б, вадзілі Стрялу. Кажды б год. У нас кажды год вадзілі. І ў Закружжы, і ў нас. А тут у етай дурной Ветцы. Гаворяць: «Ветка!.» Я думала: «І, праўда, тут горад. Захалусцце. У нас вечар, садзяцца, сыходзяцца, ідуць усі. Садзяцца на сярёдку, із краёў ідуць. Бацька кажа: «Я план вазьму там.» Матка: «Бяры на самам краю, карова прыдзя.» Ён: «Я не для кароў сялюся, а для дзяцей. Мае дзеці выдуць, із тога краю ідуць людзі на сярёдак, і з тога.» І ў нас вешна тут людзі! То новасці, то што-нібудзь, пасмяёмся. І чось не сварыліся, ні брэхняў не было, ні зводаў ні было. А ціперыка адзін аднаго ненавідзяць. А тады садзяцца і начынаяць пець. І мужчыны рявуць, ні знаю як! І бабы будуць сядзець. Жаваранка: «Будзя казаць: «Да якога хрэна вы сядзіцё? Давайце-ка!.» І начыная пець, песню заводзя, усі пяюць. І мы. Нам места ж німа. Плойме. Пасадзімся. А у адніх поставачках. Матка: «Плацце ідзі, раздзень, а то парвеш.» Сядзіш на кортачках. Каленцы. І пяёма мы. Каторыя бабы: «Ідзіця, сабе кудлычця! А нам не мяшайця.» А другія, як наша баба, тая не прагоня, скажа: «Ніхай вучацца дзеці.» А як баба Іванюшкава, Куліна: «Ідзіця вы адсюль!»

<*Пераехалі сюды.. Вас тут багата.. Чаму не сталі «вадзіць Стрялу»?*>

«Ну, ня сталі!. Горад... Хоць сраны, да горад... Вядзі «Стрялу», міліцыя астановіць.. Скажаць: «Машыны.. Вас чорт хватая, «Стрялу вясцё». А там, еслі ўжо машына едзя, не прапусцяць.. Еслі толькі дальняя машына, дак атойдуць, да праезд дадуць. А то ж ідуць сцяной людзі..»

*Разам з тым, Варвара Грэцкая добра разумее, што амяленская «Страла»дажывае сваё апошняе:*

«Калісь старыя усі ўмелі пець. Цяпер ня хочуць. Ета такоя пакалення, як я, вымря, і ўсё. Послі нас ніхто рота не разяве.. Я ручаніе даю». Яна добра разумее, што яе пакаленню бракуе на пераемнікаў: <Вару (унучка) не вучылі «Стрялу»спяваць?> «А дзе яна будзя пець іх?.. Я ёй пачала, гаварю: «Варь, навучысь песню ету..» Яна гаворя: «А дзе я буду песню тую пець? І з кім?»

*Паступова знікае «Страла» і там, дзе быццам бы яшчэ жывуць людзі:*

«А січас ужэ нічога німа старыннага... Маладзёж, яны па гарадах параз'язжалісь, а ў дзярэўні хоць і ё якая баба, дак такая, як я... Ужэ маладзейшых німа... У нас вот — Канавалава толькі мужык і жонка старыя, па восімсят гадоў, адзін дом і ўсё, нікога німа. У Лядах пяць чылавек... Ва ўсіх так... У Перядаўцы пяць, такі пасёлак бальшы. У Перывессі тожэ пяць. Так во... Нікога ўжэ німа... Толькі ў Свабодзі чылавек адзінаццаць... А то ж нідзе нічога німа, ні прыхаметаў... Старых нету, зміраюць людзі старыя, а маладыя нічога не знаюць... Вот сёліта «Стряла» не была ў Неглюбцы... І ня будзя... Патаму шта ўжо пазміралі... Самыя былі пявухі... Ужо пазміралі... На Хутары там... Ульяна была, Насця Фёдарава была, Прося, сын папаў пад аўтобус... Вуля Крывая тож пея харашо... Вот етыя ўсі былі пявухі...»

*Усялякі раз, калі мне шчасціць пачуць у нашых вёсках незнаёмую песню, прыкмету, паданне, мяне заўсёды ахоплівае пачуццё найвышэйшай радасці... Але адразу ахоплівае і горкі адчай: «Божачка, што мы згубілі!..»*

«Справеку, — баба наша казала, — і прабабы нашы «вадзілі ету Стрялу». Усё баба казала: «Колькі свет — столькі і песні еты».

(Паводле аповеда Варвары Аляксандраўны Грэцкай з Амяльнога).

«Гасподзь саздаў, ні мы саздалі, а ета ўжэ, можа, мільёны, тысячы гадоў. Адтуль мы дзяржым старынушку», — *вызначае Марыя Лаўрэнцьеўна Марозава са Стаўбуна. — І, разам з тым, яна вызначае, што іхняе пакаленне апошняе, якое «дзяржыць старынушку»*: Ужэ, як я памру, тады ўжэ усё! Тады ўжэ нікога ніякога. А я ішчэ пака жыва, так рада: прыедуць людзі, мне тэй дзень гарыць сэрца, як цяплом».

*Тым не менш, стаўбунская «Страла» яшчэ чапляецца за жыццё... Чапляецца дзякуючы фальклорнаму гурту «Стаўбунскія вячоркі» і асабліва яго кіраўніку Святлане Парашчанка. Але тут пра масавасць казаць не прыходзіцца... не тыя цяпер часы, калі ў «Стралу» з каждага двара ішлі людзі.*

*І апошняе:*

*Казацкабаўсунскі варыянт абрада занесены ў Спіс нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. Але ж вялікае пытанне: ці зможа захаваць дзяржава тое, што не могуць захаваць людзі. Ці не прыйдзецца нам праз год-другі складаць Спіс нематэрыяльных гісторыка-культурных помнікаў...*



# Сяргей Чыгрын

паэт, гісторык, краязнавец, журналіст. Напісаў і выдаў дзясяткі гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг. У тым ліку: «Слонімскія падмуркі», «Такі іх лёс», «Па слядах Купалы і Коласа», «Беларуская Беласточчына», «Хочацца дахаты», «Іншых шляхоў не было», «На радзіме Ігната Дварчаніна» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

# Асобы заходняй Беларусі

## Як пераносіў пана Міхась Васілёк

Сёння ў Беларусі рэдка прыгадваюць Міхася Васілька (Міхася Касцевіча, 1905-1960) — заходнебеларускага паэта, публіцыста і журналіста. Ён быў родам з вёскі Баброўня Гродзенскага павета. У 1920-х-1930-х гадах прымаў актыўны ўдзел у грамадска-культурным і палітычным жыцці Заходняй Беларусі. Быў сябрам Беларускай сялянска-рабочай грамады, ТБШ, арганізоўваў гурткі ТБШ, вёў культурна-масавую работу, працаваў сакратаром часопіса «Маланка».

Друкавацца Міхась Васілёк пачаў у 1926 годзе ў віленскіх беларускіх газетах «Народная справа», «Наша праўда», часопісе «Маланка», сябраваў з Валянцінам Таўлаем, Анатолем Іверсам, Максімам Танкам. У Вільні ў 1929 годзе выдаў зборнік вершаў «Шум баравы», які быў канфіскаваны польскімі ўладамі. А ў 1937 годзе выйшаў яго другі паэтычны зборнік «З сялянскіх ніў».

Вельмі папулярнымі ў 1920-х -1950-х гадах былі сатырычныя вершы паэта «Эх, каб грошы...», «Гарэліца» і «Як я пана перанёс». Асабліва беларусы любілі слухаць, як чытаў са сцэны сам Міхась Васілёк свой верш «Як я пана перанёс». Прыгадваецца ўспамін пісьменніка Аляксея Карпюка, як у 1960-м годзе прыехалі яны выступаць у Скідзельскі РДК. У зале было шмат людзей. Старшыня выканкама аб'явіў, што першым выступіць пісьменнік Аляксей Карпюк. У гэты час наступіла мёртвая цішыня. Не паспеў Карпюк дайсці да трыбуны, як з залы нехта крыкнуў: «А мы прыехалі не яго слухаць, а Васілька. Васілька нам давай!». А потым уся зала закрычала: «Васілька давай! Мы яго хочам паслухаць! Няхай нам прачытае «Як я пана перанёс»! І Карпюк пакінуў сцэну, а да людзей выйшаў Міхась Васілёк і пачаў чытаць і «Эх, каб грошы...», і «Гарэліцу» і «Як я пана перанёс». І зала ад задавальнення гудзела, як вулей.

Верш «Як я пана перанёс» Міхася Васілька ў Заходняй Беларусі быў самым папулярным сярод простага люду, асабліва на вёсцы. Вяскоўцы гатовы былі яго слухаць штодзень, слухаць і смяяцца бясконца. Ды і самі людзі гэты верш завучвалі на памяць. Ён — сапраўдны ўзор палітычнай лірыкі. Як лічыў Уладзімір Калеснік, у першапачатковай рэдакцыі верш называўся «Як я трапіў у камуністы». Рускі паэт са Смаленшчыны Міхаіл Ісакоўскі пачуў гэты верш ад жыхароў Заходняй Беларусі ў верасні 1939 года і пераклаў яго на рускую мову як народны твор.

На думку таго ж Уладзіміра Калесніка, аўтар заслужыў гонару і пахвалы менавіта ўдала знойдзенымі характарамі вобразаў-антаганістаў, селяніна і паліцыянта (паліцмана), а таксама востраю сатырычнай сітуацыяй, у якой трапна раскрылася праблема ўзаемаадносін паміж прыгнечанымі і прыгнятальнікамі ў глухой, забітай правінцыі.

На пытанне паліцмана, як перайсці на другі бераг рэчкі, касец адказвае ветліва:



*Міхась ВАСІЛЁК*

*— Порткі скінь, — кажу, — панок,*
*І брыдзі паволі,*
*Тут вады, мой галубок,*
*Па трыбух, не болей!*

Для панскага вуха сялянская гаворка здалася грубаю кпінай. І ён сеў яму на карак і сказаў: «Нясі на другі бераг». У першапачатковай рэдакцыі верша было напісана, што селянін пакорна нёс паліцэйскага, пакуль не адчуў каля вуха рэвальвера:

*Гэткай штукі, далібог,*
*Я не бачыў зроду:*
*Сеў ад страху, а панок —*
*Ды булдых у воду...*

(Уладзімір Калеснік. Лёсам пазнанае. Мн., 1982.С.53).

У першай рэдакцыі верша паліцыянт арыштаваў селяніна за наўмысны замах на яго асобу. Верш выкрываў паліцэйскі гвалт над чалавечай годнасцю. Але паэт-сатырык міжвольна прыніжаў і селяніна, трактуючы яго як бедалагу-пакутніка. Селянін з верша Міхася Васілька скардзіцца на здзек, распавядае пра гвалт і прыніжэнне, а значыць — ён востра адчувае няволю, значыць — стаіць на парозе духоўнага абнаўлення. Таму гэты верш тады і стаў народным творам. Менавіта ён зацікавіў і Міхаіла Ісакоўскага. Але Міхась Васілёк палічыў неабходным яго перапісаць па-новаму, зрабіць іншы варыянт верша. І гэта яму ўдалося ажыццявіць даволі паспяхова. У новым варыянце верша селянін з напалоханага небаракі стаў дасціпным і смелым чалавекам. Нават патрыётам, які знарок шабулдыхнуў паліцмана ў ваду. Менавіта гэты смелы ўчынак селяніна і радаваў увесь просты люд, які слухаў паэтаў верш. Людзі атрымлівалі задавальненне не так ад самога верша ў цэлым, як ад таго факта, як смелы селянін скінуў паліцэйскага ў ваду. Людзі ўяўлялі гэты малюнак і ад задавальнення радаваліся і смяяліся.

## Гісторык Аляксандра Бергман

У 1990-х гадах, у пошуках слядоў пра дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Максіма Бурсевіча, я пазнаёміўся з беларускім гісторыкам з Варшавы Аляксандрай Рыгораўнай Бергман. Максім Бурсевіч — мой зямляк са Слонімшчыны, якога 9 кастрычніка 1937 года тройкай НКУС асудзілі да вышэйшай меры пакарання. А гісторык Аляксандра Бергман усё сваё жыц-

цё даследавала дзейнасць дзеячаў КПЗБ і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, у тым ліку Максіма Бурсевіча, Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Ігната Дварчаніна, Веры Харужай, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Паўла Валошына, Леапольда Родзевіча і іншых асобаў. Таму я звярнуўся да Аляксандры Бергман дапамагчы мне ў пошуках звестах пра майго земляка Максіма Бурсевіча. Яна не любіла пісаць вялікіх лістоў, як, напрыклад, Зоська Верас ці Ларыса Геніюш. Аляксандра Рыгораўна пісала мала, але канкрэтна і ясна. Ды й аўтографы на яе кнігах складаліся з некалькіх слоў. Кнігу «Ігнат Дварчанін — беларускі палітык і вучоны», якую напісалі сумесна Аляксандр Баршчэўскі, Ежы Тамашэўскі і Аляксандра Бергман, і якую яна мне даслала з Варшавы, гісторык падпісала проста: «Сяргею Чыгрыну — А. Бергман. Warszawa, 24.09.1992». А яе асабістую кнігу на польскай мове «Справы беларускія ў II Рэчы Паспалітай» (Варшава, 1984) мне ў 1992 годзе падаравала гродзенская паэтка Данута Бічэль. «Я табе, Сяргей, хачу падараваць адну добрую кнігу. У цябе такой няма. Ды і гэта твая тэма...», — сказала Данута Янаўна і ўручыла мне кнігу Аляксандры Бергман.



*Аляксандра Бергман (справа) з Янінай Юзэфовіч — роднай сястрой Леапольда Родзевіча, 1977 г..*

А цяпер некалькі біяграфічных звестак пра Аляксандру Бергман (дзявочае прозвішча Кучкоўская). Нарадзілася яна 1 мая 1906 года ў Гародні ў сям'і мяшчан. Вучылася ў Гродзенскай прыватнай гімназіі Вальдмана, дзе далучылася да камуністычнага руху. У 1923 годзе пачала працу ў кравецкай майстэрні. У 1924 годзе была абрана ў Гродзенскі акружны камітэт камуністычнага саюзу моладзі. Але за тое, што не здолела справіцца з раскольніцкімі плынямі «Сэцэсіі» ў мясцовай камсамольскай арганізацыі, была знята

з пасады сакратара загадам ЦК КСМ Заходняй Беларусі. У 1925 годзе, як інструктар камсамола Заходняй Беларусі, выязджала з Гародні ў Вільню, затым у Брэст, Баранавічы.

У 1927 годзе будучы гісторык вучылася ў партшколе КПЗБ у Мінску. У 1928 годзе была ўдзельніцай першага з'езда КПЗБ. У 1929-1931 гадах у Маскве працавала на электразаводзе і вучылася ў Міжнароднай «ленінскай» школе, потым у партшколе КПЗБ у Мінску.

У канцы 1935 года Аляксандра Бергман была рэпрэсіравана савецкімі ўладамі. Знаходзілася ў канцлагерах у Кіраве, Комі АССР, Кемераўскай вобласці. Беларуска-польскі гісторык Алена Глагоўская на гэты конт выказвае сваю думку: «Яўрэем у мінулым стагоддзі прыйшлося перажыць халакост — амаль татальнае знішчэнне нацыі. Аляксандры і Стэфану Бергманам ды іхняй дачушцы Зосі шчаслівы, можна сказаць, лёс падараваў жыццё, хаця не ў райскім шчасці, толькі ў разлуцы. Калі сёння чытаю пра кашмар лагернага жыцця сталінскіх часоў і генацыд яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны, міжволі думаю: дзе тады лепш было быць яўрэю? Аляксандра Бергман у той час была ў сібірскіх лагерах. Яўрэйка ды камуністка была арыштавана ў Гомелі ў снежні 1935 года. Раней, напярэдадні ўгодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі, быў арыштаваны яе муж — Стэфан, таксама камуніст. Ніхто на зважаў на тое, што ў іх было маленькае дзіця — Зося, якой у ліпені гэтага ж года споўніўся ўсяго годзік жыцця. З верай у камуністычныя ідэалы абое трапілі ў «рай». Іхнія біяграфіі — доказ таго, што і яўрэі камуністычных поглядаў не пазбеглі сталінскіх лагераў. Гэта так. Вызвалілі Аляксандру Бергман у 1943 годзе, а ў 1945 годзе яна выехала ў Польшчу.

У 1945-1948 гадах мужная жанчына працавала на паліграфічным камбінаце ў Лодзі, а потым пераехала ў Варшаву. Там пэўны час працавала рэферэнткай, потым — кіраўніком аддзела просьбаў, прашэнняў, памілаванняў і датэрміновых вызваленняў у выканаўчым бюро Спецыяльнай камісіі змагання са злоўжываннямі і завочна закончыла Партыйную школу пры ЦК ПАРП.

У 1956-1957 гадах Аляксандра Бергман працавала ў рэдакцыі часопіса «Zycie partyi». А калі пайшла на пенсію, то пачала самастойна займацца навукова-даследчыцкай дзейнасцю. Пражыла Аляксандра Рыгораўна Бергман амаль сто гадоў, яна памерла ў 2005 годзе, пакінуўшы нам у спадчыну звыш 40 артыкулаў і дзве фундаментальныя манаграфіі — пра беларускія справы Рэчы Паспалітай і пра Браніслава Тарашкевіча. Усё, што ёй напісана пра Беларусь і яе славутых сыноў, даўно просіцца пад адну вокладку самастойнага выдання.

## Лісты Паўла Крынчыка да Веры Тарашкевіч

Гэтыя лісты зберагаліся ў асабістым архіве былой жонкі вядомага беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча, філолага, літаратара, акадэміка

Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі (1928) Браніслава Тарашкевіча Веры Ніжанкоўскай-Тарашкевіч (1901-1998) — беларускай асветніцы, мемуарысткі, дачкі гісторыка Андрэя Сніткі.

Вера Тарашкевіч нарадзілася ў фальварку Кальзберг на Маладзечаншчыне. Скончыла Інстытут высакародных дзяўчат у Петраградзе. Гэта быў апошні выпуск у 1918 годзе. Потым вучылася ў Віленскім універсітэце, належала да Беларускага студэнцкага саюзу. У 1923 годзе выйшла замуж за Браніслава Тарашкевіча. Жыла ў Вільні, а пасля да канца сваіх дзён у Радашковічах пад Мінскам.



*Павел КРЫНЧЫК*

Вера Тарашкевіч напісала і пакінула цікавыя ўспаміны пра Браніслава Тарашкевіча, Аляксандра Уласава, Радашковіцкую беларускую гімназію імя Ф. Скарыны і іншыя.

Жанчына пражыла доўгае жыццё і з многімі заходнебеларускімі дзеячамі падтрымлівала сувязі, перапісвалася, запрашала ў госці. Была яна знаёма і з Паўлам Крынчыкам (1898-1975) — дзеячам вызвольнага руху ў былой Заходняй Беларусі.

У 1928 годзе Павел Крынчык быў абраны дэпутатам польскага сейма па спісе беларускіх арганізацый. З'яўляўся адным з арганізатараў і сябрам Галоўнага сакратарыята клуба «Змаганне», уваходзіў у заходнебеларускі аргкамітэт па падрыхтоўцы Еўрапейскага сялянскага кангрэса ў Берліне.

У 1930 годзе беларускі дзеяч быў арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 10 гадоў турмы. Праз два гады адбыўся абмен палітвязнямі, і Павел Крынчык трапіў у Мінск. Але радавацца не было чаму, яго арыштавалі ў 1935 годзе і асудзілі «тройкай» НКУС на пяць гадоў за «сувязь з разведкай буржуазнай Польшчы». Адбыўшы тэрмін, Павел Крынчык вярнуўся ў родны Слонім. А ў 1956 годзе яго рэабілітавалі.

Жонкай Паўла Крынчыка была Алена Лябецкая (1903-1982) — беларуская палітычная і грамадская дзеячка. У 1929 годзе яе абралі дэлегаткай першага антыфашысцкага кангрэса ў Берліне, дэлегатам Еўрапейскага сялянскага кангрэса. У 1930 годзе беларуску палякі арыштавалі і асудзілі на 6 гадоў зня-

воленння. З 1933 года, у выніку абмену палітзняволенымі, жыла ў БССР. Працавала ў міжнароднай арганізацыі дапамогі барацьбітам рэвалюцыі Беларусі.

14 кастрычніка 1937 года яе арыштавалі органы НКУС і выслалі ў сталінскі ГУЛаг. Пасля вяртання жанчына жыла на Слонімшчыне. У Паўла Крынчыка і Алены Лябецкай нарадзілася дачка Алена. Але пасля лагераў іх сямейнае жыццё не заладзілася. Пра гэта Павел Крынчык і піша Веры Тарашкевіч. Грамадска-палітычная дзейнасць маладых беларусаў, польскія турмы і сталінскія лагеры пакінулі свой цяжкі адбітак на сямейных адносінах гэтых людзей. У няпросты час жылі яны, змагаліся за беларускія справы і Беларусь, а добрай сям'і так і не стварылі.

Прапаную чытачам «Верасня» два лісты Паўла Крынчыка да Веры Тарашкевіч.



*Алена ЛЯБЕЦКАЯ — жонка Паўла КРЫНЧЫКА*

*Паважаная Вера Андрэеўна!*

*Атрымаўшы Вашу прывітальную паштоўку, я спяшаюся хоць каратка адказаць на Вашы пытанні. Перш за ўсё пачну з таго, што Вам вядома. Гэта значыць з апошняга арышту ў 1930 годзе 30 жніўня. Аб турэмным жыцці нашага брата Вы напэўна чулі ад Тараса[1]. Дык апісваць яго я не буду. Скажу адно аб тым, што ў астрозе ў нашым «Змаганні»[2], як і ў «Грамадзе»[3], чуць не дайшло да распаду. Аднак, апынуўшыся ў Мінску, клуба не стала — пайшлі, як кажуць, «хто ў лес, хто па дровы». Як Вам напэўна вядома, напачатку лета 1933 года Гаўрылік[4] з жонкай, Валынец[5], Дварчанін[6],*

---

[1] Тарасам называлі сябры Браніслава Тарашкевіча.

[2] «Змаганне» — беларуская дэпутацкая фракцыя польскага сейма, створаная ў 1928-1930-х гадах.

[3] Грамада — масавая легальная рэвалюцыйна-дэмакратычная нацыянальна-вызваленчая арганізацыя працоўных у Заходняй Беларусі ў 1925-1927 гадах.

[4] Язэп Гаўрылік (1893-1937) — дзеяч беларускага руху ў Заходняй Беларусі.

[5] Флягонт Валынец (1879-1937) — заходнебеларускі дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

[6] Ігнат Дварчанін (1895-1937) — заходнебеларускі дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, пісьменнік, педагог.

*Валошын[7], Мятла[8], Рак-Міхайлоўск[9] апынуліся ў ГПУ. У 1935 годзе з 26 на 27 лістапада апынуўся ў ГПУ і я, па «подозрению в шпионаже». Завочна ў Маскве я быў асуджаны на пяць гадоў «испровительных трудовых лагерей». І ў маі 1936 года адправілі на этап. У канцы жніўня давезлі да Уладзівастока. З Уладзівастока параходам давезлі да бухты Нагаева. З Нагаева спачатку аўтамашынай дабраліся да ракі Калымы, па якой на плыту павезлі ўніз па Калыме да «прыстані» Эльген. Ад прыстані пеша па тундры пайшлі далей... І пачалося лагернае жыццё. Не прайшло і трох гадоў, як я стаў дахадзягай. Аднак жаданне вытрымаць усё дапамагло дажыць да дня аб'яднання, і за дзень да канца тэрміну, я стаў ізноў вольным, і ў пачатку 1942 года вярнуўся ва Уладзівасток, а адтуль дабраўся да Уфы. У Уфе я звязаўся з польскай секцыяй Камінтэрна і ЦК Мопра СССР, быў накіраваны на работу ў дарупраўленне пры СМКа Башкірскай АССР. А ў канцы жніўня быў мабілізаваны ў РСЧА[10], дзе працаваў дзясятнікам-прарабам на будоўлях да канца 1943 года. Напачатку 1944 года я захварэў і быў дэмабілізаваны. Мяне знялі з уліку, таму працаваў тэхруком РДО Архангельскага раёна Башкірскай АССР. У канцы 1944 года я вярнуўся на радзіму і пераканаўся, што бацька, два родных браты з жонкамі і чатыры пляменнікі загінулі. А я апынуўся ў апале і быў пазбаўлены права на працу. Толькі ў 1956 годзе быў рэабілітаваны, а напачатку 1960 года адноўлены ў члены КПСС з 1922 года. З 1957 года стаў персанальным пенсіянерам рэспубліканскага значэння з пенсіяй у суме 70 рублёў пажыццёва. У 1947 годзе я дапамог Лябецкай, якую вырваў з польскае турмы як жонку, вярнуцца з Калымы, бо спадзяваўся на тое, што яна моцна кахае нашу дачушку. Аднак яна, угледзеўшы маё жыццё-быццё, забрала дачку і жыла ў Слоніме, пакуль не патраціла прывезеныя грошы. У 1948 годзе яна прыехала да мяне на хутар Вострава і пачала дамагацца супольнага жыцця. Шкадуючы дачкі — я пагадзіўся. Але хутка пачаліся спрэчкі, і ў 1956-57 гадах прыйшлося парваць з ёй і да гэтае пары жыву таксама, як Вы, адзін. Хочацца спаткацца з Вамі і пагутарыць. Калі Вы можаце, дык запрашаю прыехаць у Слонім, я жыву ў доме , які застаўся ад бацькі — уваход ад вуліцы. Гэта вуліца Савецкая, 23, яна цягнецца ад вакзала. Хата з правага боку, абсаджана дрэвамі. Хатні тэлефон: 4-34.*

*P.S. А. Ліс[11] напісаў пра Тараса вельмі каштоўную кніжку «Браніслаў Тарашкевіч». Пра гэту кніжку я напісаў водгук і паслаў у «Полымя», але пакуль што адказу не атрымаў. Чакаю прыезду. Моцна цісну Вашу руку.*

*Павел Крынчык — Слонім, 12.05.67 г.*

---

7 Павел Валошын (1891-1937) — заходнебеларускі дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

8 Пятро Мятла (1890-1936) — заходнебеларускі дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

9 Сымон Рак-Міхайлоўскі (1885-1938) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, педагог, публіцыст.

10 РСЧА — рабоча-сялянская Чырвоная армія.

11 Арсень Ліс (1934-2018) — беларускі пісьменнік, доктар філалагічных навук.

*Паважаная Вера Андрэеўна!*

*Шчыра дзякую, за атрыманы Ваш ліст ад 16.01. г.г. Вы пытаеце, ці застаўся яшчэ хто-небудзь у жывых са «змаганцаў» і «грамадаўцаў»? Дык я мушу сказаць, што я сам даўно цікаўлюся гэтым пытаннем. Але, на вялікі жаль, ніхто дакладна мне не адказаў на гэтае пытанне. Больш года таму назад да мяне звярнулася жонка Верамея — Аня Урбановіч, каб я ёй даў пацвярджэнне аб яе працы ў нашым цэнтральным сакратарыяце. Я выслаў гэтае пацвярджэнне і з пісьмаў даведаўся, што яна не ведае нічога не толькі пра лёс іншых, але і пра свайго мужа. У 1933 годзе яна была вывезена ў Вельск Архангельскай вобласці, а яе дачка выйшла замуж і жыве ў Смаленску. Але цяпер развялася са сваім мужам. У кастрычніку 1967 года Аня прыехала да дачкі і запрасіла мяне прыехаць да іх. Я збіраўся, але захварэў унук, таму я затрымаўся, бо ён у мяне адзін. А пасля захварэў і я. Таму спатканне не адбылося. Што датычыць мае дачкі, дык яна нарадзілася 22 сакавіка 1935 года ў Мінску. А ноччу з 26 на 27 кастрычніка мяне запрасілі ў ГПУ і толькі ў 1945 годзе напачатку студзеня я вярнуўся на радзіму. Вярнуўшыся, я даведаўся, што ў 1937 годзе была арыштавана Лябецкая, а дачка трапіла ў дзіцячы дом у Трасцянцы. Мой меншы брат забраў дачку і прывёз яе да маіх бацькоў. Але хутка пасля пачатку вайны загінула мая сям'я, выратавалася толькі дачушка. Перажыўшы акупацыю сярод дзікунства фашыстаў без бацькоў і родных у чужых людзей, яна настолькі адзічала, што, калі я прыехаў, дык проста быў у шоку... Скончыўшы Гродзенскі педінстытут, яна выйшла замуж за малазнаёмага работніка абкама камсамола, хаця сама была членам ЦК камсамола. Але хутка гэты прайдзісвет заявіў, што давай аформім развод... І ў гэтай гісторыі разводу непрыглядную ролю сыграла Лябецкая, якая, не жывучы са мной, і цяпер жыве ў доме, які я падчас звароту з Калымы, пайшоўшы ў апалу, і быў змушаны перавесці дом з хутароў у Слонім. Склаў яго, зрабіў падлогу, печы, пачаў трымаць коз, здаваў пакой афіцэрам, каб толькі мець грошы на жыццё аж да 1956 года, пакуль не быў рэабілітаваны і не атрымаў у 1957 годзе персанальнай пенсіі. Вось і цяпер на кожным кроку яна нахабна, не маючы ніякага сумлення, стараецца зняважыць, як толькі з'явіцца якая-небудзь магчымасць. Як бачна, яна, Лябецкая, будучы дачкой царскага жандарма, прыкідвалася тады беларускай, а цяпер раптам стала зацятай бальшавічкай-падпольшчыцай. І нагла нават піша ў кнізе «Вильнюсское подполье»[12], што ёй (маецца на ўвазе Алене Лябецкай. — С.Ч.) «часто приходилось участвовать в заседаниях клуба «Змаганне», выполнять различные его поручения», хоць гэтага зусім не было. Падчас злосці яна мяне кляне за тое, што я яе вырваў з польскай турмы, патрабуючы яе абмену, што гэтым яе загубіў, бо, не абмен, дык яна была б міністрам. Невядома толькі дзе. Лябецкая забылася, што да абмену, яна мела толькі*

[12] Кніга выйшла на рускай мове ў Вільнюсе ў 1966 годзе.

*тры класы гімназіі, і то ў гады рэвалюцыіі, што я дапамог папасці ў камвуз і БДУ, дзе яна правучылася да 1937 года. Вось як бывае. Жыццё — вельмі складаная рэч, а людзі — гэта жывыя сфінксы, якія ў сабе хаваюць шмат нечаканасцей. І, выходзіць, што Вы памятаеце Лябецкую, прыгожай дзяўчынкай, толькі вонкава. Але не ўсё золата, што блішчыць...*

*А пакуль што — бывайце! Пішыце мне заказным. Бо часта пісьмы не даходзяць да мяне.*

*З пашанай — П. Крынчык.*

*(Ліст без даты).*



# Алесь Аркуш

паэт, празаік, выдавец. Стваральнік Таварыства Вольных Літаратараў. Заснавальнік альманаха «Ксэракс Беларускі» і часопіса «Калосьсе». Каардынатар літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес». Аўтар словаў гімна горада Полацка, а таксама чатырох раманаў і шэрагу кніг паэзіі і эсэістыкі. На Беларускім Радыё Рацыя вядзе перадачу «Жыццё з літаратурай». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Полацку і Беластоку.

# Літагляд

***Павел Севярынец. «Беларусалім. Сэрца сьвятла». Середняк. Т. К., 2020 г.***

Гэта другая кніга трылогіі «Беларусалім». У ёй працягваюцца падзеі, якія апісаныя ў першай кнізе «Золак», дзейнічаюць тыя ж героі, напрыклад, Белазор.

Калі-нікалі можна прачытаць у фэйсбуку, што Севярынец піша агітацыйна-хрысціянскія кнігі, у якіх аўтар дакучліва прапагандуе хрысціянства і рэлігію. Але, насамрэч, «Беларусалім» — гэта прыгодніцкі, вострасюжэтны твор, напісаны з выкарыстаннем хрысціянскага матэрыялу — міфаў, біблейскіх сюжэтаў і цытатаў. Мне ён нават нечым нагадвае раманы сучаснага вядомага пісьменніка Джэймса Ролінса, аўтара шматлікіх прыгодніцкіх трылераў, напісаных з выкарыстаннем хрысціянскіх легендаў і герояў.

У новай кнізе «Беларусаліма» працягваецца змаганне з тыранам Цімурам, які падпарадкаваў сабе краіну і ўсталяваў у ёй жорсткую дыктатуру. Больш таго, ён збіраецца ўвесці адмысловы рэжым кантролю за грамадзянамі, які канчаткова ператворыць іх у бяспраўных рабоў. Супраць гэтага злачыннага праекта пачалі змагацца хрысціяне. Яны спрабуюць узняць на барацьбу ўсё насельніцтва краіны. У эпіцэнтры гэтага змагання галоўны герой кнігі Белазор і яго сябры.

«Сэрца сьвятла» — гэта не толькі змаганне і вострасюжэтнасць, гэта яшчэ і адмысловая энцыклапедыя Беларушчыны. Дзе б ні адбываліся падзеі, ці то ў Полацку, ці то ў Гародні, ці то ў Віцебску, аўтар падрабязна апісвае, што такое Каложская царква, або якімі ўчынкамі нацыянальнага супраціву знакаміты Віцебск. Прычым падобныя аповеды часам сягаюць у глыбіні вякоў.

У нейкім сэнсе Севярынец у кнізе прадказаў многія падзеі, якія адбыліся ў Беларусі ў 2020 годзе. І шматтысячныя акцыі пратэсту, і жорсткае іх падаўленне, і тысячныя арышты. А пісаць кнігу Павел пачаў яшчэ ў 2005 годзе. Ну і тут варта згадаць, дзе гэтая кніга пісалася — у Малым Сітным, дзе ён адбываў хімію, у Амерыканцы, дзе сядзеў пяць месяцаў, у Купліне, дзе адбываў другую хімію.

Кніга заканчваецца словамі «Працяг будзе». Гэта значыць, што Павел і зараз не губляе час. Працяг будзе абавязкова.

***Алесь Чобат. «Планета». ЮрСаПрынт. 2016 г.***

Вершы Алеся Чобата мне нагадваюць прозу іншага прадстаўніка Гарадзеншчыны — Віктара Шалкевіча. Адчуваецца, што гэта напісана на памежжы Беларусі і Польшчы, на памежжы дзвюх культур і цывілізацый. А ў кнізе Чобата «Планета» гэта адчуваецца надзвычай, бо тут і пераствварэнні з Чэсла-

ва Мілаша, і розныя іншыя рэмінісцэнцыі з польскіх творцаў, і нават вершы хрысціянскай, дакладней, каталіцкай тэматыкі. Што сведчыць пра тое, што паэт Алесь Чобат развіваўся ў некалькіх літаратурных традыцыях. Увогуле, усе гэтыя спасылкі, цытаванні, перастварэнні розных творцаў паказваюць на шырокую абазнанасць, начытанасць і адукаванасць паэта. Што сёння досыць рэдкая з'ява.

Ну і яшчэ варта адзначыць, што Чобат, хоць працяглы час жыў у Гародні, усё ж паэт правінцыі, мястэчка, вёскі. Местачковае жыццё і яго людзі яму больш блізкія, больш родныя:

*Царква. Тры крамы. Белая авечка.*
*Ці дажывае, ці то спіць мястэчка,*
*бялізну звесіўшы, як мах апошні крыл.*

А па аголенасці паэтычнага нерва Алесь Чобат блізкі да іншага паэта яго пакалення — Анатоля Сыса:

*Прабачце нам, хто за намі,*
*не біце ў нас перунамі,*
*мы — спаленыя ў маразы.*

І яшчэ адна асаблівасць паэзіі Алеся Чобата — яе палітычная заангажаванасць. Паэт з кнігі ў кнігу асэнсоўвае лёс роднай Беларусі, апавядае пра падзеі мінулага, піша пра страчаныя магчымасці і нацыянальную спадчыну, якую няўхільна губляем. Праўда, апошнім часам падзеі ў Беларусі набралі такую хуткасць, што кніга Чобата, якая выйшла 4 гады таму, у нечым ужо істотна састарэла. Сёння інакш ужо выглядаюць і беларускі народ, і змаганне за волю. Яшчэ зусім нядаўна паэт з горыччу наракаў:

*Праўды і той нашым людзям не трэба,*
*што ж без канца аб красе гаварыць —*
*хлеб у іх будзе і будзе да хлеба,*
*толькі краса без астатку згарыць.*

А тут аказалася, што беларусам патрэбны не толькі хлеб, але і воля, і краса. І многія сёння за гэта гатовыя ахвяраваць і сваім дабрабытам, і нават жыццём.

Некалі я пісаў, што ў Беларусі ёсць немалая кагорта выдатных паэтаў, да якіх так і не прыйшла не тое што слава, але нават шырокая вядомасць. Якраз Алесь Чобат з гэтай кагорты. Яго мала згадваюць, мала цытуюць, мала шануюць. Але я ўпэўнены, што аднойчы ягоныя вершы будуць вывучаць у школе, а ў Смаргоні і Гародні будуць вісець шыльды ў ягоную памяць.

***Эдуард Акулін. «Плашчаніца». Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў. 2020 г.***

Гэтая кніга з'явілася вынікам міжнароднага літаратурна-мастацкага праекта, які меў назву «Плашчаніца». Для 12 сербскіх мастакоў вершы беларускага паэта Эдуарда Акуліна сталі крыніцай натхнення, і яны сваімі творамі праілюстравалі, а хутчэй зрабілі мастацкае прачытанне вершаў. А гэта і жывапіс,

і графіка, і скульптура, і нават арт-аб'екты. Атрымалася такое творчае сумоўе паэта і мастакоў.

Ідэя праекта належыць сербскаму літаратару і мастаку Міколу Шындзіку. Вершы Эдуарда Акуліна на сербскую мову пераклаў Міадраг Сібіновіч. Сама выстава гэтага праекта адбылася ў 2016 годзе ў Белградзе.

Летась Эдуард Акулін вырашыў пазнаёміць з праектам і беларускага чытача і выдаў у выдавецтве Уладзіміра Сіўчыкава зборнік «Плашчаніца». У кнізе побач з дванаццаццю беларускамоўнымі вершамі змешчаны іх пераклады на сербскую мову, а таксама мастацкія творы, якія выкананы паводле вершаў.

Нізка хрысціянскіх вершаў, якая зацікавіла сербскіх мастакоў, добра вядомая аматарам беларускай паэзіі. Яна ўключаная ў кнігу паэта «Святая ноч».

Зборнік «Плашчаніца» пачынаецца вершам «Каін»:

*Між грахом і віной блукаеш,*
*след дыміцца твой ад крыві,*
*пакаяннем праклятьі Каін,*
*акаянны анёл Любві.*

Верш як бы задае танальнасць усёй кнізе. Трагедыйную, ахвярную, міфалагічную. Пра здрады, грэх, духоўную моц і духоўны подзвіг.

У вершы «Марыя Магдалена» аўтар пытаецца, хто яе збярог ад грахоў. І чуе адказ:

*Хто прымусіў устаць з каленяў,*
*хто цябе ад грахоў збярог?*
*Хто імя тваё, Магдалена,*
*прыгубіў, як прычасце?*
*— Бог!*

У вершы «Ной» паэт пераказаў легенду пра Ноя, які выратаваў жыццё на Зямлі, перамогшы патоп:

*Перамогшы ў вайне з Патопам,*
*здзейсніў Госпадаў запавет...*
*І ужо не з нуля, а з Ноя*
*нарадзіўся нанова свет!*

Ну і не мог Эдуард Акулін у гэтай нізцы вершаў абмінуць тэму Калядаў. Як сімвал надзеі і веры ў лепшы час, у тым ліку і для роднай Беларусі:

**Святая ноч**

*Сляпіла ноч*
*улоннаю цямрэчай*
*Марыі,*
*што збіралася радзіць...*
*Бог, не суроч*
*не сам сябе,*

*не Вечнасць,*
*якой твой лёс належыць,*
*запалі*
*над Бэтлеемам*
*зорную лампаду.*
*Цябе чакае ясельны каўчэг...*
*Святая ноч.*
*Валоў рахманых статак*
*тры пастушкі*
*збіраюць на начлег.*

***Юры Гумянюк. «Захлынуцца апантанасьцю жыцьця». Полацкае ляда. 2019 г.***

Валянцін Акудовіч, калі піша пра свой любімы літаратурны рух Бум-Бам-Літ, як станоўчую яго рысу заўсёды называе апалітычнасць творчасці бум-бамлітаўцаў. Маўляў, маладыя творцы дзеялі выключна ў плашчыні эстэтыкі і мастацкага эксперымента. Маўляў, гэтым і павінен займацца сапраўдны творца.

Не ведаю, ці лічыць сп. Акудовіч сапраўднымі творцамі сяброў Таварыства Вольных Літаратараў, але якраз палітыкай і ў творчасці, і ў жыцці яны займаліся ў 90-х вельмі актыўна. Пра што сведчыць кніга публіцыстыкі Юрыя Гуменюка «Захлынуцца апантанасьцю жыцьця», якая пабачыла свет, дзякуючы выдавецкай ініцыятыве «Полацкае ляда», напярэдадні 50-годдзя з Дня нарадзінаў гарадзенскага паэта-дэкадэнта.

Увогуле, азначэнне, якое ўжо стала агульным, Юры Гумянюк — паэт-дэкадэнт, насамрэч гучыць як аксюмаран. Бо ці можа дэкадэнт настолькі быць заангажаваным у палітычнае жыццё роднай краіны, як гэта было з Гуменюком. Ён пісаў такія вострыя палітычныя вершы, што хіба толькі Славамір Адамовіч мог з ім тут пацягацца. І ўсё ж ягонае палітычнае змаганне перадусім адбывалася публіцыстычным словам. У 90-х гадах у Гародні выходзіла некалькі газет, але менавіта апазіцыйная «Пагоня» стала для Гуменюка асноўнай пляцоўкай для выказвання сваіх поглядаў, думак і мрояў.

Гэтая кніга Гуменюка якраз і аб'яднала рэпартажы, інтэрв'ю, артыкулы, карэспандэнцыі пераважна з «Пагоні». Не ведаю, як так сталася, але Гумянюк пісаў толькі пра тое, што любіў, што лічыў важным, пра тых, каго паважаў. Нібыта не хацеў хлусіць, перадусім самому сабе, крывадушнічаць і не быць шчырым. Яго хвалявала пытанне роднай мовы, і ён перыядычна пісаў пра татальную русіфікацыю Гародні. Здзекаваўся з расейскамоўнай ФМ станцыі «Гродна», артыкул пра яе назваў «Радыё не майго горада». Заклікаў моладзь удзельнічаць у палітычным жыцці краіны («Новы Робін Гуд ня прыйдзе, таму зрабі СВОЙ выбар!») Пісаў пра ветэранаў беларускага руху, пра нацыянальную культуру, пра беларусаў Падляшша, пра найноўшую беларускую літара-

туру, пра гарадзенскі клуб паэтаў. Але перадусім шмат пісаў пра дзейнасць роднага Таварыства Вольных Літаратараў і пра кніжныя выданні, і пра імпрэзы, і пра канферэнцыіі, і пра часопіс «Калосьсе».

У гэтых матэрыялах сапраўды выразна адлюстроўваецца і той вірлівы час, і тагачаснае літаратурнае і мастацкае жыццё Беларусі, і сам аўтар.

***Міхал Анемпадыстаў. «Глыбока-глыбока на дне філіжанкі кавы». Логвінаў. 2014 г.***

Калі чытаў гэты паэтычны зборнік, заўважыў, што ў ім досыць шмат вершаў пра Каляды. Відавочна, Каляды былі адным з любімых святаў Міхала Анемпадыстава. Але пры гэтым ніякіх цудаў на Каляды ў ягоных вершах не адбываецца:

*Прыйдзе зіма і Сьнежань*
*Лісьце заваліць сьнегам*
*Мы адсьвяткум разам*
*Божае Нараджэньне*
*(...)*
*Цёмна-зялёны водар*
*Будзе ад елкі ў доме*
*Раніцай прыйдзе Студзень*
*І зменіцца нумар году...*

Вось і ўвесь калядна-навагодні цуд — «зменіцца нумар году». Гэта радкі з тэкста песні, якая з «Народага альбому». З тэкста іншай песні, якую выконваў гурт «Новае неба», цудаў чакаюць, але яны таксама не прыходзяць:

*Мы чакалі Калядаў з маленства,*
*Ды ніяк не маглі дачакацца.*
*Тату трэба было на работу,*
*Маці трэба было на працу.*
*(...)*
*Нам даводзілі, хто мы і што мы,*
*Нас вучылі выконваць загады.*
*Нам казалі, ды мы ня чулі —*
*Мы ўпотай чакалі Калядаў.*

Ды і ва ўсім зборніку ніякіх адметных, незвычайных падзеяў практычна не адбываецца. Хіба што выключэннем з'яўлюцца тэксты песень да «Народнага альбому». Але і там ці не галоўная падзея — бойка на лузе паміж Казікам і Юзікам, у выніку якой Юзік згубіў гузік...

Нават дзіву даешся, як аўтар са звычайнага, паўсядзённага, буднічнага жыцця ствараў паэзію. Пра шафу, шуфляды, хатнія рэчы, зімовы вечар, першы снег, пра п'яніцаў на вуліцы, пра электарат, які выбірае, пра простыя рэчы. Аднак уся гэтая ціхая будзённасць падзяляецца на дзве часткі: любімая — з

уласнага, прыватнага жыцця, і нелюбімая — з таталітарнага, паднявольнага жыцця. Пра шэрае, сумнае жыццё апавядаецца ў такіх вершах як «Радыё Сталін» або «Над горадам шэрая хмара...»

*Ну а што любіць аўтар?*
*Я люблю, калі сьвеціць сонца*
*Рана ранкам праз фіранкі.*
*Я люблю пах свежае кавы,*
*Я люблю смак смажанай бульбы.*
*Мне падабаецца водар парфумы,*
*Мне падабаецца дым цыгарэтаў,*
*Я люблю халодныя блюзы.*
*Я люблю свае джынсы старыя.*

Вось такія ўпадабанні, без ніякай экзотыкі, усё гэта можна адшукаць ва ўласнай кватэры.

Ну і яшчэ варта адзначыць, што значная частка гэтых вершаў з'яўляюцца тэкстамі песень ужо згаданага «Народнага альбому» і гурта «Новае неба», а таксама гуртоў «N.R.M.» і «IQ48». Таму, калі чытаеш зборнік, увесь час у тваіх вушах гучыць музыка.

***Юры Станкевіч. «Брамнік заўжды самотны». Галіяфы. 2014 г.***

Юры Станкевіч сёння як той волат-дуб сярод пасечанага лесу. Ён не ўваходзіць ні ў якія тусоўкі, суполкі і хаўрусы. Ён сам па сабе. Вярнуўся ў свой родны Барысаў і нястомна піша кнігу за кнігай. Сярод апошніх — «Брамнік заўжды самотны». Як і шэраг ранейшых кніг, «Брамнік» выйшаў у выдавецтве «Галіяфы».

Кніга ўтрымлівае аднайменную аповесць і 11 апавяданняў. Аповесць «Брамнік заўжды самотны» як бы выпадае з усяго, што пісьменнік напісаў раней. Гэта аптымістычная аповесць пра хлопчыка з беларускай глыбінкі, мара якога здзейснілася — ён стаў знакамітым брамнікам. І з каханай дзяўчынай у яго ўсё наладзілася. Аповесць заканчваецца хэпіэндам.

Што не скажаш пра апавяданні. Яны напісаны ў традыцыйным творчым і ідэйным рэчышчы Юрыя Станкевіча. Героі твораў трапляюць у канфлікт з цёмнымі чалавечымі сіламі, і большасць з іх гіне. Але амаль усе яго героі — гэта моцныя духам людзі, якія маюць гонар. Яны лепш абіраюць смерць і супрацію, чым бязвольна падпарадкоўвацца гвалту, амаральнасці і хлусні.

Бадай, найлепшае апавяданне ў кнізе — «Лаўцы верхаводак». У шараговага беларускага інжынера жонка едзе ў адпачынак у арабскую краіну і там застаецца, знайшоўшы сабе багатага каханка. Інжынер бярэ адпачынак і штодзень ездзіць на рыбалку, каб неяк утаймаваць свае нервы. Тут ён пазнаёміўся і пасябраваў з дзікім катом, які жыве каля вадасховішча і налаўчыўся лавіць верхаводак. Аднойчы да берага, дзе лавілі рыбу інжынер і кот, прычаліў кара-

бель-рэстаран, які абслугоўваў гандляроў з рынку — чужынцаў у гэтай краіне. Яны паводзілі сябе нахабна і дзёрзка, а за тое, што інжынер зрабіў ім заўвагу — збілі яго. Інжынер едзе на ровары дахаты, бярэ схаваны дзедаў драбавік, вяртаецца і знаходзіць свайго сябра-ката забітым. Карабель ужо адплыў ад берага. І інжынер пачынае па ім страляць, ведаючы, што шротам нікога не заб'е, але каб запомнілася чужынцам гэтае катанне на караблі па-беларускім вадасховішчы на ўсё жыццё...

Праўда, ёсць у кнізе яшчэ адзін твор з шчаслівым канцом — апавяданне «Кармушка для сініц». Гераіня твора дзяўчынка, якая вырашыла правучыць нахабнага гандляра, які падманваў і абвешваў пакупнікаў, і ўся яго сям'я паводзіла сябе так, нібыта яны былі гаспадарамі гэтага невялічкага горада. Дзяўчынка напісала ліст гандляру, у якім паведаміла, што гандляр павінен вярнуць на сваю сядзібу сабаку, якога выкінуў на вуліцу, а за тое, што яго дзеці забілі папугайчыка, зрабіць кармушку для сініц і штодзень іх карміць. Гандляр палічыў гэты ліст жартам. Дзяўчынка пачала змаганне і перамагла — гандляр выканаў яе ўмовы.

Такое зацятае напісанне твораў у адным рэчышчы, асабліва ў наш сённяшні трывожны час, успрымаецца як выкананне пэўнай місіі. Місіі беларускага пісьменніка, які адказны за лёс сваёй краіны.

***Франц Сіўко. «Штрыхкоды». Галіяфы. 2017 г.***

Кніга незвычайная, хаця б таму, што яна ўпершыню пад адну вокладку аб'яднала эсэ празаіка, напісаныя ў розныя гады. У ранейшых ягоных кнігах друкавалася пераважна мастацкая проза. А, як вядома, эсэ такі літаратурны жанр, дзе наратар непасрэдна атаясамляецца з аўтарам, то бок, галоўным героем эсэ з'яўляецца ўласна сам пісьменнік, і ў гэтых тэкстах ён дзеліцца развагамі, назіраннямі, адкрыццямі, высновамі і г.д. Дык вось, усе свае галоўныя развагі, назіранні, адкрыцці, высновы за ўсе мінулыя гады, пісьменнік і выклаў у гэтых эсэ.

У кнізе закранаюцца найбалючыя пытанні, з якімі аўтар сутыкаўся ў сваім жыцці — ад развагаў пра жыццё і смерць, да праблемаў беларускай мовы; ад уласнага разумення місіі літаратуры, да асэнсавання паняцця даравання; ад дзіцячых успамінаў, да апісання ўражанняў ад знамёства з іншымі краінамі — Італіяй і Швецыяй.

У пераважнай большасці твораў аўтар настолькі шчыры, што нават дзівішся такой шчырасці. Напрыклад, у эсэ «Прымхі і прыхамаці» пісьменнік падрабязна апісвае свае забабоны. Некаторыя з іх падаюцца амаль дзіцячымі, пра некаторыя, здаецца, ніхто б публічна не прызнаўся, напрыклад, аўтар вельмі баіцца замкнёнай прасторы і для яго вялікае выпрабаванне — ехаць цягніком у купэ ноччу.

У іншым эсэ «Я пешкі, мама!» Франц Сіўко балюча апісвае смерць маці, якая заўчасна пайшла з жыцця ад раку ў 56 гадоў, і настолькі шчыра, што пры-

знаецца, калі дазнаўся пра хваробу маці, практычна перастаў есці стравы ёю прыгатаваныя.

Мяне асабіста ўразілі яшчэ два эсэ — «Выспа Смерць» і «Сволач паводле Брэма». У першым аўтар апісвае ўсе свае дачыненні са смерцю і пра тое, як разумелі смерць яго дзяды. У другім апавядае пра асаблівасці, прыкметы, формы дзейнасці і множнасці мярзоцця.

Большасць тэкстаў з гэтай кнігі я б назваў філасофскімі эсэ, яны, як па мне, вельмі блізкія да эсэ Валянціна Акудовіча. Прынамсі, Валянцін Акудовіч, які вельмі патрабавальна ставіцца да вызначэння гэтага жанру, дакладна пагодзіцца, што гэта сапраўды эсэ.

***Андрэй Пяткевіч. «Шчаслівым сканаць». ЮрСаПрынт. 2017 г.***

Беларускім паэтам звыкла вяртацца з мінулага. Часам — з далёкага мінулага. Як, напрыклад, вяртаўся Францішак Багушэвіч. Як вяртаўся Алесь Гарун. Або Уладзімір Жылка. Як сёння вяртаецца расстраляны ў 37-ым паэт Алесь Дудар.

Андрэй Пяткевіч вяртаецца з пачатку 90-х. Бо ў 95-ым яго ўжо нястала на гэтым свеце.

Чаму Пяткевіч не мог вярнуцца раней? Адказаць вельмі проста. Пяткевіч кантраверсійны паэт. Шмат у яго вершаў, якія не ўкладаліся ў звыклыя мінулыя рамкі дазволенага.

Менавіта Пяткевіч напісаў напрыканцы 80-х — пачатку 90-х больш за ўсіх беларускіх паэтаў антысавецкіх вершаў. Прычым вельмі радыкальных і нават брутальных. Няпростыя ў яго былі адносіны з Богам, грамадствам і ўвогуле людзьмі, якія, на думку Пяткевіча, не жывуць на гэтай Зямлі так, як павінны жыць:

*На каленях перад грамадзтвам стаяць,*
*Пакланяцца абсурдным канонам.*
*Вобзем грымну пакоры карону,*
*Каб шчасьлівым сканаць.*
*Або вось такія балючыя радкі:*
*Людзі, пачуйце! Яны не пачуюць.*
*Людзі, убачце! Вось позірк адводзяць.*
*Нейкія здані кудысь адыходзяць.*
*Нелюдзі-людзі сябе не ўратуюць.*

Учынкаў, здзейсненых Пяткевічам, было шмат. Ён выкрываў стукачоў і несумленных людзей, бесхрыбетнікаў і нігілістаў. Пра дамаганні гарадзенскага КДБ расказаў у артыкуле «Паэт і камітэт», надрукаваным у гарадзенскай «Пагоні».

Маленькага росту, худзенькі, сухенькі, Андрэй Пяткевіч нагадваў фальклёрнага дзядка-дамавічка, які мусіць сачыць за парадкам у хаце, а яго мала хто слухаецца. Таму ўвесь час трэба ўшчуваць і сарамаціць жыхароў дому.

Паэт у 20 гадоў піша пра сваю безнадзейную восень, пра вогнішча, на якім палілі «нашы вольныя размовы і няскораныя крылы». І толькі родная прырода, краявіды Бацькаўшчыны для паэта з'яўляюцца адхланнем і месцам, дзе яго душа адчувае суладдзе і супакой:

*Ну й няхай паўдуркі ходзяць па сьвеце,*
*Мне яны не перашкодзяць нюхаць суквецьці.*

Гэты невялічкі зборнік паэт уклаў сам, перапісаў у сшытак вершы і перадаў на захаванне свайму сябру паэту Юрасю Пацюпу, пазначаўшы ў сшытку, што пры выданні зборніка нельга ўносіць праўкі, змяняць правапіс, ламаць радкі і парушаць інтэрвалы паміж строфамі. Выдаўцы выканалі патрабаванні паэта. Цяпер Юрась Пацюпа працуе над выбраным Андрэя Пяткевіча, у якое паспрабуе сабраць усё, што атрымаецца знайсці — нават эпісталярную спадчыну.



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт.
Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку.
Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы.
Жыве ў Мінску.

# Вада. Жыццё. І шмат лета...

***Камароўскі А. Вада пачынае жыць. Мінск: Галіяфы, 2020. 72 с.***

*Остановись, мгновенье! Ты не столь*
*прекрасно, сколько ты неповторимо.*
Іосіф Бродскі

Атрымаўшы прапанову адгукнуцца на дэбютную кнігу вядомага па ранейшых часопісных публікацыях Артура Камароўскага, адразу падумалася, што можна было б назваць рэцэнзію «Aqua vitae» — «Вада жыцця» (выраз мае таксама іншыя значэнні). Да гэтага схіляла назва выдання. Пасля прачытання караценькай анатацыі (яшчэ да разгортвання самога зборніка), дзе сказана, што ў кнізе «вершы пра ваду, гарады і людзей», узнікла новая фармулёўка загалоўка — «Гарадам і людзям» (можна і ў лацінскай абгортцы). У апошнім выпадку, аднак, вада не адлюстроўвалася. Але, разгарнуўшы першыя старонкі выявіў, што інтуіцыя не падвяла: сам аўтар адкрывае сваё выданне прысвячэннем: «табе і ўсім маім гарадам». Першая частка, як падаецца, адносіцца да аб'екта кахання. Другая — датычыцца якраз гарадоў. Паводле знойдзенай у сеціве біяграфіі аўтара, роднымі гарадамі для яго з'яўляюцца Мір, Гродна, Мінск. Так што мы былі блізкімі да таго, каб адгадаць адпаведнасць назвы для рэцэнзіі. Тым не менш было вырашана пайсці не за аўтарскім прысвячэннем, а шляхам прасцейшым — праз адлюстраванне сутнасці, квінтэсенцыі сэнсаў мастацкага выдання.

Змест яго вершаў можна характарызаваць як быццам бы традыцыйным. Але толькі па сённяшнім часе і для маладзейшага пакалення.

Творы ў зборніку А. Камароўскага напісаны ў асноўным без:

— вялікіх літар (акрамя імён уласных),

— рытму (ідавочнага, прывычнага),

— рыфм (бо верлібры, але колькі рыфмаваных вершаў знойдзецца),

— строф і г. д.

Шчыра кажучы, добра, што знакі прыпынку прысутнічаюць (хоць і не ўсюды). І нават — збольшага назвы. Прычым адна з іх так і гучыць: «кропка працяжнік кропка працяжнік» (паводле азбукі Морзе — гэта дзве літары «а»). Сінтаксіс, безумоўна, дапамагае ўспрыманню. Перафразуючы Льва Талстога, хочацца многіх так званых авангардыстаў папрасіць: можаш расставіць знакі прыпынку — расстаў.

Зрэшты, усё вышэй сказанае — гэта фармалістыка. Хаця і яна важная ў эстэтыцы. Для паэзіі, лірыкі на першае месца выходзіць вобразнасць. Яна таксама адносіцца да фармальнага боку мастацтва. Разам з тым уключае ў сябе змест у выглядзе пэўных думак і адлюстравання пачуццяў. Тут у паэзіі А. Камароўскага ў асноўным парадак:

*паэзія ёсць кампрамісам*
*душы і цела.*
(«прыспешваю лета», с. 7)

Але чым жа напаўняецца гэты кампраміс? Трохі далей знаходзім наступнае тлумачэнне:

*паэзія ёсць пуць*
*акіянскага пылу да неба.*
<...>
*паэзія —*
*гэта ён.*
(«таму», с. 19)

Сам жа паэт, паводле яго слоў з папярэдняга ж верша, таксама паўстае з вады:

*вада, што цячэ*
*на ўсход*
*і робіцца мною.* (с. 7)

Такім чынам, праз увасабленне ў аўтара гэтых радкоў, «вада пачынае жыць» («мора», с. 17) — словы, якія далі назву кнізе.

Канечне, гэта вобраз. Нечаканы. Прыгожы. Усходні. Гэты бок свету, як вектар, указаны ў напрамку руху вады (і ў далейшым узмацняе сваю прысутнасць у вершах кнігі).

Толькі што азначае такі вобраз? Тут кожны чытач будзе разгадваць індывідуальна (з прычыны «неверагоднай колькасці культурных кодаў» у паэзіі А. Камароўскага яе рэцэпцыя ўскладанена нават для прафесійнай крытыкі, у чым і прызнаецца адзін з аналітыкаў[1]).

Між тым час ад часу ў літаратуразнаўчай класіцы можна напаткаць наступныя думкі: «Конечно, никто не запрещает поэту делиться с публикою своими чувствами или фантазиями; это даже прямая обязанность поэта; но во всяком случае публика имеет право желать, чтобы с нею говорили удобопонятным языком, чтобы все слова и образы, употребленные поэтом, имели какой-нибудь ясный и определенный смысл, чтобы поэт не задавал ей неразрешимых загадок и не превращал своих произведений в длинную утомительную мистификацию»[2]. Аўтар сярэдзіны XIX ст. сучаснай паэзіі чытаць па зразумелых прычынах не мог. Затое ён прадчуваў, што праблемы яго часу застануцца праз вякі.

Са свайго боку дадамо, што не так і страшна затуманенасць у паэзіі (мастацтва так ці інакш нават павінна мець такую рысу). Але кожны паэт у падобных выпадках тады няхай разумее, што кола аматараў яго вершаў будзе прама прапарцыянальна іх яснасці. Натуральна, мінімізацыя вобразнасці або

[1] Лысенка Д. Адштурхніся, дыхай // ЛіМ. 2020. 22 мая. С. 7.

[2] Писарев Д. И. Сочинения в 4-х т. Т. 4: Статьи, 1865?1868. М.: Государственное издательство художественной литературы, 1956. С. 208.

яе спрашчэнне (што зрабіла б даступным той ці іншы верш вельмі шырокай публіцы) таксама нясе небяспеку — пераўтварэння ў так званую папсу. Таму тут хіба на ўсё воля паэта. Ці таго, хто дыктуе паэтычныя радкі:

*мора бачыць наскрозь,*
*рэнтгеніць тваю руку:*
*«без асаблівасцей, толькі давай пішы».*
(«мора», с. 17)

Прынамсі для сябе А. Камароўскі патрэбны баланс, відавочна, адшукаў. Вышэй цытаваныя радкі гучаць як творчае крэда аўтара, дзе назва — як гуманістычны дэвіз: «прыспешваю лета».

Закладзеныя ў першым творы матывы паўтараюцца і надалей, не нашмат пашыраючы свае кола. Такім чынам ствараецца свайго роду медытатыўнасць. Так, наступны верш «адчуваю» пачынаецца нават не сваім радком — цытатай маладой расійскай паэткі Галіны Рымбы (хоць аўтар адмыслова пра гэта і не паведамляе):

*лето кончится в полкостра, а пакуль*
*стой і глядзі,*
*бо рака*
*на тваім шляху паўстае святой,*
*вечар паветраным мышам глядзіць уніз*
*галавой,*
*неба колеру гліны і малака.*

Сёння дзякуючы тэхналогіям, як правіла, знайсці крыніцу той ці іншай цытаты не ўяўляе праблемы. Не стала складаным і гэтая інтэртэкстуальнасць. Цытата аказалася фразай з верша, які пры павярхоўным параўнанні зусім не стасуецца з верлібрам беларускага аўтара. Вось пачатак:

*В светлой арке дети бегут за щенком,*
*И у них в крови не гудит совнарком.*
*Над стоглавым собором висит гроза,*
*Дождь, что мамкино молоко.*
*Непасрэдна фраза вырвана з наступнага кантэксту:*
*Не беги. Лето кончится в полкостра.*
*Вот улитка сталинского двора,*
*Там где новый Пушкин скачет верхом*
*На парижской ноте...*[3]

Аднак тоеснасць усё ж у наяўнасці. Яна адчуваецца праз імпрэсіяністычнасць абодвух твораў, знешне, фармальна вельмі розных. Да таго ж у абодвух вершах — тэма лета, урбаністычныя матывы, людзі як бэкграунд і нават крыху ўсходу. Асабліва сканцэнтравана тая пераклічка ўвідавочніваецца пад канец твора беларускага аўтара:

[3] Рымбу Г. Всегда неправильное чудо // На середине мира [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://seredina-mira.narod.ru/rymbu.html. Дата доступа: 30.04.2021.

*запішы:*
*вецер,*
*некранутае павуцінне,*
*ранішняя раса,*
*дрэвы, тварам павернутыя на ўсход,*
*маленькія людзі пераходзяць*
*вялікія рэкі ўброд,*
*і лялечны горад, дзе ты*
*застаешся сам.* (с. 8)

Мэтанакіраванай інтэртэкстуальнасці ў А. Камароўскага не так і шмат (у параўнанні, канечне). Але ў наступным вершы («калі») спатыкаем яе арыгінальны выпадак. Аўтар працягвае мусіраваць тэму лета і нібыта адсылае ў сувязі з ёю да нейкага паэта, пры гэтым апошняга не называючы, затое цытуючы, тым больш настолькі шырока, што фактычна гэтым самым і ствараецца верш. Пасля дачытання твора не застаецца сумненняў, што належыць ён пяру самога А. Камароўскага. Такая сабе спроба мініміcтыфікацыі. Аднак чытаць, бясспрэчна, было прыемна. Таму спрыяла вышэй згаданая вобразнасць, гэтым разам, аднак, чытэльная, хаця і вытанчаная:

*лета, калі радзімкі —*
*доказ*
*і ўзор*
*геніяльнасці цела.* (с. 10-11)

Некалі мастак Клод Манэ, вядомы імпрэсіяніст, гэтаксама любіў лета (што праўда, ім не абмяжоўваўся). Такая паралель напрошваецца ўжо з самых першых вершаў разгляданай кнігі. Чаму менавіта гэта пара года? Не толькі і, магчыма, не столькі таму, што яна характарызуецца буяннем фарбаў, татальнай квеценню. Лета — росквіт жыцця. Любога. У тым ліку будучага:

*аднойчы і ты перародзішся*
*дрэвам*
*з бездакорнай карой,*
*будзеш шаптацца*
*з ветрам дзікаю альчой.* («ключ», с. 13)

Так, А. Камароўскі малюе словамі. Па прызнанні апошняга, яму ўсё ж не ўсё ўдаецца ў выкарыстанні, так бы мовіць, вербальнай палітры:

*далібог,*
*я і сам не магу адшукаць тое слова,*
*што адмыкае горад.*
(«ключ», с. 13)

Тое прызнанне не варта расцэньваць як разуменне нямогласці аўтара. Гэта хутчэй канстатацыя наяўнасці таямнічай сферы ў сусвеце, якая недаступна для спазнання чалавекам. Класік філасофіі Імануіл Кант яе назваў трансцэндэнтнасцю. З дапамогаю мастацкіх сродкаў наш паэт спрабуе выйсці за рамкі

так званай іманентнасці і зазірнуць або хаця б максімальна наблізіцца да таямнічасці жыцця, а магчыма, праз вобразнасць перадаць гарадам і людзям судакрананні з той таямнічасцю лірычнага героя. Як сам аўтар тлумачыць, прычына хаваецца не ў пустой цікаўнасці:

*таму што мне так баліць —*
*ні казаць, ні пісаць немагчыма.*
(«таму», с. 19)

Паэзія А. Камароўскага, такім чынам, становіцца наглядным прыкладам вядомага афарызма Арыстоцеля: «Мастацтва завяршае тое, што не ў стане завяршыць прырода. Мастак дае нам магчымасць спазнаць неажыццёўленыя мэты прыроды». Адна з іх — дасягненне неўміручасці, прынамсі, імкненне да яе. У гэтым дыялектычным свеце, дзе *ўсё цячэ, немагчыма ўвайсці ў адну раку двойчы* (Геракліт). Тым не менш менавіта мастацтва дазваляе пераадолець такі матэрыялістычны бар'ер, а таксама дазваляе ўбачыць шляхі для пераадолення. З ніцшэанскай праблемай вечнага вяртання А. Камароўскі не толькі не змагаецца (як яго любімы Борхес), але і вырашае яе ў станоўчым для сябе і свету ключы. Пры гэтым паэт па дапамогу звяртаецца да індуізму (верш «Сарасваці» (с. 20) — яскравейшае таму пацверджанне) і пантэізму: «там, дзе зоры не спяць, — ціха яблыкам Божанька ўпаў» («Маркава», с. 30). Але і не без хрысціянскіх матываў:

*Ойча, які ёсць на небе! свяціся імя тваё, прыйдзі*
*валадарства тваё.*
*памірай*
*і заставайся жывым.* («хата», с. 23)

Адбываецца свайго роду палучэнне, кантамінацыя, зліццё.

Яшчэ адным шляхам пераадолення канчатковасці жыцця ў А. Камароўскага з'яўляецца каханне (часам з налётам эротыкі — успомнім цытату пра радзімкі). Яго матывы, недзе больш відавочныя, недзе менш, праходзяць праз усю кнігу, суправаджаючыся ізноў-такі даволі арыгінальнай вобразнасцю:

*...птушка спявае пра шчасце, любоў,*
*якой не прасіў, але маю.*
*больш нічога не трэба.*
*я праклінаю словы, што ходзяць паўсюль,*
*дзе ты,*
*а я — толькі гукам, паўгукам*
*кранаю вусны.*
*аднойчы і мы ператворымся ў зорны пыл,*
*будзем лунаць між планет*
*і адзін аднаго не адпусцім.* («не адпусцім», с. 50)

Па вышэйзгаданай інтэртэкстуальнасці зразумела, што А. Камароўскі любіць паэзію аўтараў не зусім, мякка кажучы, аптымістычную (Барыс Рыжы, Іосіф Бродскі, Арцюр Рэмбо і інш.). Па прачытанні паэтычнай кнігі самога

А. Камароўскага таксама застаецца сум. Але не гэтакі глыбока тужлівы, як у згаданых паэтаў, хутчэй такі, які называюць у падобных выпадках светлым, у нашым — яго можна назваць вітальным. Такое ў добрай паэзіі бывае не так і часта. А. Камароўскі якраз дае чытачу магчымасць асвятлення, няхай сабе і затуманеную суб'ектыўнай імпрэсіяністычнасцю. У ваду, якая пачынае жыць, варта пагружацца не столькі галавою, колькі сэрцам, — тады і адчуецца яе цеплыня, шырокая палітра летніх фарбаў, унікальнасць кожнага моманту існавання і жаданне пры ўсіх нашых нягодах, каб жыццё доўжылася ў часе і прасторы.

